

**І. Аляшкевіч.** Групавы партрэт. 1813 г.

# 5.91 СПАДЧЫНА

**ЧАСОПІС БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ**

## У НУМАРЫ



**На першай старонцы вокладкі: І. Хруцкі. Партрэт хлопчыка ў саламяным капелюшы.**



**ЧАСОПІС ВЫДАЕЦЦА КОШТАМ ТВЦ «ПАЛІФАКТ» БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ**

**Мастацкі рэдактар У. КРУКОЎСКІ.**

**Тэхнічны рэдактар З. МІКІШЧАНКА.**

Адрас рэдакцыі: 220029, Менск, Старажоўская, 5. Тэл. 34-24-54, 34-26-50.

Здадзена ў набор 28.08.91. Падпісана да друку 03.10.91. Фармат $70 \times 100^1/_{16}$. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,15. Ум. фарб. адб. 22,4. Ул.-выд. арк. 12,41. Тыраж 7969 экз. Зак. 491. Цана 1 руб.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, Менск, Ленінскі праспект, 79.

Выходзіць 6 разоў на год.
Выдавецтва «Полымя»
Менск

# ЭПОХА АДРАДЖЭННЯ?

Нам выпала жыць у дзіўную эпоху. Яна па ўсіх сваіх вымярэннях — эканамічных, палітычных, маральных, псіхалагічных — не паддаецца аніякай логіцы. Словаў жа для вызначэння яе дамінанты трацім настолькі багата, што, не паспеўшы з'явіцца з чыёйсьці лёгкай рукі, яны нам ўжо ўяўляюцца зашмальцаванымі і выклікаюць, бадай што, толькі адну эмоцыю — прыкрасць ад іх недарэчнасці і паспешлівасці ў адшуканні новага зместу, дзе ён яшчэ і не збіраўся нарадзіцца. Пажаданае выдаем за рэальнае, забываючы, што паміж гэтымі паняццямі дыстанцыя ў гады, дзесяцігоддзі і ў непамерным напружанні духу, фізічных сіл.

Наша пакаленне беларускай інтэлігенцыі ледзь не адразу, як на даляглядзе з'явіліся новыя магчымасці, паставіла перад сабою велічную задачу азначыць эпоху нацыянальнага Адраджэння. Найпершым бачылася (дый бачыцца) згуртаванне людзей вакол нацыянальнай ідэі. Праблема ставілася ў атмасферы эйфарыі ўжо ад самой магчымасці прамовіць яе ўголас, а не шэптам, абмяркоўваць, распрацоўваць аж на старонках друку. Думаецца, і тады дый цяпер многім, хто ўзваліў на сябе гэты цяжкі крыж, не бачылася і не бачыцца ўся складанасць вырашэння гэтага пытання. Авалодаць нацыянальнай ідэяй, а гэта значыць, што яна ўвойдзе ў свядомасць кожнага чалавека, грамадства, дзяржавы, — значыць авалодаць вышэйшай свядомасцю, дзякуючы якой людзі стануць народам, асэнсуюць сваё месца ў свеце, сваё высокае прызначэнне ў ім. Набыццё дзяржаўнасці, незалежнасці, магчымасць будаваць сваё жыццё на новы лад, уваходжанне ў сусветную супольнасць на роўных, з гонарам — вось тыя арыенціры, якія на пэўных этапах развіцця абавязкова ставіць перад сабой кожная нацыя.

Менавіта гэтыя задачы ўсё выразней і мацней гучаць у заявах, пастановах, публічных выступленнях ад мітынгаў, газетных старонак аж да трыбуны Вярхоўнага Савета. Бяда толькі ў тым, што кола людзей, якія асэнсоўваюць ідэю нацыянальнага вызвалення, пакуль што занадта абмежаванае. Дый сярод іх усё часцей і часцей гучаць ноткі песімізму — шырокі люд Беларусі ў большасці сваёй абыякавы да ідэяў, якія для многіх інтэлігентаў з'яўляюцца казырнай картай іх жыцця. Як жа радаваліся многія з нас у тыя два-тры красавіцкія дні, калі рабочыя выйшлі на плошчы, і здавалася, што страйкуючы народ асэнсаваў палітычныя патрабаванні, сярод якіх найважнейшае — надаць канстытуцыйны ста-

тус Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. Не, не трэба тых жа рабочых вінаваціць, што для іх сённяшняя надбаўка да зарплаты аказалася больш важнай, чым нейкая пакуль што абстрактная, завоблачна далёкая ідэя пабудовы дэмакратычнай, незалежнай Беларусі, у якой яны былі б не жабракамі, а ўладарамі лёсу і свайго, і дзяржавы. Чалавек, якога свядома пазбаўлялі гістарычных і філасофскіх ведаў аж да поўнай страты генетычнай памяці, нацыянальнай свядомасці, толькі і можа такім быць, якім ёсць — істотай, прыстасаванай да заведзенага жыцця, у якім, акрамя кавалка хлеба, ён яшчэ атрымоўвае штодзённыя пайкі догмаў.

Нельга чакаць імгненнай змены духу нават ад самай палкай прамовы. Гісторыя чалавецтва сведчыць, што яно ўдасканальвалася, набывала вопыт, асэнсоўвала сябе паступова, крок за крокам набліжалася да ісціны і заваёўвала права на радыкальныя змены быцця, адмаўляючыся ад установак, што давала самаўладдзе меншасці. Асабліва гэта характэрна для народаў, нацый, якія стагоддзямі (гвалтоўна і казуістычным, ціхім падманам) пазбаўляліся не толькі дэмакратычных правоў для кожнай асобы, але і права на ўласную дзяржаўнасць для ўсёй нацыі.

Паўтаруся: шлях да незалежнасці доўгі і цяжкі, ён магчымы толькі пры асэнсаванні нацыянальна-дзяржаўнай ідэі ўсім народам і асэнсаванні не пад гвалтоўным ціскам, а дзякуючы роздуму — спачатку асобных людзей, а затым і ўсяго насельніцтва.

Сёння ў вырашэнні гэтай стратэгічнай задачы адказны перыяд: напружаная крытычная дзейнасць, якая павінна завяршыцца ўсеагульным адмаўленнем дагматычнай ці нават экстрэмісцкай у дачыненні да народу палітычнай сістэмы, разуменнем, што Беларусь нязменна знаходзіцца ў каланіяльнай залежнасці ад імперскіх памкненняў. Сёння гэтая крытычная дзейнасць мусіць спалучацца і з працай культурнай, адукацыйнай. Найперш маю на ўвазе адукацыю гістарычную. Людзі, атрымаўшы ў нашых вучэльнях вельмі прыблізныя, а па некаторых момантах і зусім скажоныя, урокі з нашай гісторыі, літаратуры, культуры ў цэлым, у большасці сваёй далей гэтымі навукамі не цікавяцца. Ведаць гісторыю — значыць разумець свой шлях, сваю перспектыву, адчуваць, хто ты, дзе ты і кім хочаш стаць, мець прыклады, як пазбаўляцца ад прымхаў ды ідалаў. Быць адчувальным да новых ідэяў, думаць не адно толькі пра маментальныя ўласныя інтарэсы.

Старая сістэма проста так не аддае сваіх правоў распараджацца лёсамі цэлых народаў. Тыя ж, што стаяць на самым яе версе, ці то канчаткова пазбаўлены адукаванасці, ці то, добра разумеючы моц гістарызму, па-ранейшаму распаўсюджваюць догмы, вычытаныя ў пакрытых цвіллю фаліянтах, карыстаюцца імі як аргументамі. Так нараджаюцца новыя і новыя догмы. Вось адзін з кіраўнікоў рэспублікі выступае на сходзе, прысвечаным гадавіне абвяшчэння Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. У двух абзацах ён «прасачыў» гістарычны шлях беларусаў да набыцця «права на свабоду і нацыянальную незалежнасць нашага народа»: «Ішлі мы да жаданага дня цяжка і доўга. Пасля зневажальнай для Беларусі уніі наш народ больш як 200 гадоў знаходзіўся пад кабалой польскіх феадалаў і выйшаў з-пад прыніжэння і ўціску толькі ў канцы XVIII стагоддзя, калі адбылося ўз'яднанне беларускіх зямель з рускімі.

Разам з народамі Расіі наш народ працягваў жорсткую барацьбу за сваё вызваленне, змагаўся супраць прыгнёту царызму, ваяваў з іншаземнымі захопнікамі». І ўсё...

Што гэта, гістарычнае невуцтва ці свядома перапісаныя фразы пра

Беларусь як «былую адсталую ўскраіну царскай Расіі» і да т. п.? Магу дапусціць, што гэты шаноўны кіраўнік не чытае даследаванняў гісторыкаў, не гартае перыёдыкі, дзе з дапамогай фактаў, лічбаў даўно выкрыты міф «уз'яднання Беларусі з Расіяй». Што ж, скажуць некаторыя нашы апаненты,— гэта ўсё выдумкі «сепаратыстаў». Але ж на тое, што адбылося з нашымі землямі ў канцы XVIII ст., аналагічны погляд маюць і класікі марксізму-ленінізму, ідэалогію якіх спавядае гэты кіраўнік. А менавіта — гэта быў гвалтоўны, рабаўнічы падзел федэратыўнай Рэчы Паспалітай. Захоп, анексія, акупацыя — вось словы, у якіх крыецца сапраўдны гістарызм той падзеі. І не супраць эксплуататараў змагаўся Каліноўскі, і не разам з рускім народам, а за нацыянальнае вызваленне з-пад акупацыі нашых зямель Расійскай імперыяй.

Вось так пацвярджаецца кімсьці вельмі слушна сказанае: догмы нараджаюць комплексы, а комплексы — рэфлексіі. Адсюль бярэ вытокі і закамплексаваная палітыка падлашчвання да Масквы, калі выказваецца жаданне падпісаць Саюзны дагавор яшчэ да таго, як ён быў той жа Масквой разасланы ў рэспублікі для абмеркавання, непрыняцце цэлага шэрагу законапраектаў, якія б напаўнялі Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце рэальным зместам і адкрывалі б шляхі да палітычнай і эканамічнай незалежнасці. Прыкладаў можна прыводзіць шмат. Скажам, як выліваўся бруд на нацыянальную сімволіку. Здаецца, рабілася і робіцца ўсё, каб людзей не напаўняў гонар за сваю мінуўшчыну, а каб інтэрпрэтацыі роднай гісторыі выклікалі пагарду да яе.

Гістарычнае невуцтва ці свядомая падтасоўка фактаў, замена іх замшэлымі догмамі надзвычай небяспечныя для нацыянальнага Адраджэння. Апроч бачных вынікаў (у палітыцы, эканоміцы, культуры) яны яшчэ аказваюць і моцны псіхалагічны ўплыў. Цемната народу выгодная тым, хто праводзіць палітыку нацыянальнага нігілізму, і з «акопаў», і выходзячы з іх, змагаецца з першымі парасткамі дэмакратыі. Народ, які не можа (па прычыне адсутнасці ведаў) ганарыцца сваёй гісторыяй, якому ўвесь час навязваецца перакананне, што ён усяго толькі і быў што чыімсьці «малодшым братам», а таму, не маючы вопыту, загіне, як толькі зробіць самастойны крок,— гэта народ закамплексаваны на сваёй нібыта непаўнацэннасці. Нам убівалі ў галовы пра нашу непаўнацэнную гісторыю, культуру, нарэшце, мову. Выкарыстоўваючы блізкасць паходжання і геаграфічнага становішча з рускім народам, каланіяльную залежнасць прыкрылі словам «уз'яднанне», родную мову вынішчылі, утварыўшы сурагат з беларускай і рускай моў, што слушна цяпер называем «трасянкай», знішчылі помнікі архітэктуры, каб і напамінку не было пра палёт думкі продкаў, адабралі рэлігію. Да Адраджэння яшчэ далёка, бо дажыліся мы аж да прыняцця законаў, якія сусветная цывілізацыя не занатоўвае на паперы, а нясе ў сваім лагічным развіцці як норму, як найвышэйшы парадак — аб мовах і аб культуры. І таму гэтыя законы — дэкларацыі. Першы амаль не працуе, другі — калі ўчытацца, дык па сутнасці цяпер ужо замацоўвае тое, што і так рабілася — дзяржаўнае кіраўніцтва культурай.

Прыкра, калі школьнік хоць два словы можа сказаць пра Барадзіно, але ўвогуле не чуў пра Грунвальд.

Няёмка робіцца, калі нават дзеяч тэатра або кіно, які можа гадзінамі разважаць пра Чэхава, «Новую зямлю» прыпісвае Купалу, а «Тутэйшых» — Коласу.

Крыўдна і балюча — ад насмешак з матчынага слова з боку тых, хто яшчэ некалькі гадоў назад пераехаў у Менск з вёскі.

**Жудасна — ад невуцтва і дагматызму тых, хто намі кіруе і гаворыць ад імя народа.**

**І зусім страшна, што і па сёння гісторыю фальсіфікуюць нават самі гісторыкі, хоць па прызначэнні навукоўцаў абавязаны пісаць яе праўдзіва.**

**Як разабрацца, дзе, у чым і чыя віна, што мы ў большасці сваёй, як і раней, пасіўна застаемся «сляпымі, глухімі»! Напэўна, ужо апошнія з народаў Еўропы... Паспяшаліся мы назваць наш час эпохай Адраджэння. Шлях да яго доўгі і няпросты. Шлях праз аваладанне культурай, гістарычнымі ведамі, маральнымі каштоўнасцямі продкаў.**

**Вячаслаў РАКІЦКІ**

**АД РЭДАКЦЫІ. Гэты матэрыял быў падрыхтаваны да друку за некалькі дзён да гістарычнай падзеі — надзвычайнай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі 24—25 жніўня. Ніхто не мог уявіць нават, што яна завершыцца абвяшчэннем дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, пра якую аўтар гаворыць як пра мару, аддаленую перспектыву. Тым не менш, мы вырашылі артыкул Вячаслава Ракіцкага пакінуць у нумары, бо яго слушныя разважанні пра важнасць згуртавання народа вакол нацыянальнай ідэі, пра ролю культуры ў адраджэнні Бацькаўшчыны і ў прынцыпова новай палітычнай сітуацыі гучаць надзённа. Магчыма, нават яшчэ з большай вастрынёй яны даюць і дадуць пра сябе знаць. Яно так: цяжка ўзводзіць будынак новага грамадства, калі не сцэментаваны моцны культурны падмурак.**

# БЕЛАРУСКІ ВЫЗВАЛЕНЧЫ РУХ

## Спроба агляду

З храналагічнага боку ў гісторыі беларускага вызваленчага руху зазначаюцца дзве крайнія даты: 1794 год — паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі супраць гвалтоўнага падзелу федэратыўнае Рэчы Паспалітай манархіямі Расіі, Аўстрыі, Прусіі, супраць далучэння да Расійскай імперыі земляў Беларусі, усяго былога Вялікага княства Літоўскага; і 25 сакавіка 1918 года — нацыянальна-дзяржаўнае самавызваленне Беларусі праз абвешчанне Беларускай Народнай Рэспублікі.

Паводле самаўсведамлення, арганізаванасці, якаснай эвалюцыі вызваленчага руху ў ім умоўна вылучаюцца два галоўныя этапы (перыядызацыя ў межах кожнага з іх — асобнае пытанне): пачаткова-падсвядомы рух «у сабе» пераважна ў межах польскага нацыянальна-вызваленчага працэсу (1794—1863 гг.), і рух «для сябе», сведамы ўласна беларускіх нацыянальных задачаў і канчатковае мэты — адраджэння беларускае дзяржаўнасці (1863—1918 гг.).

На першым этапе пераважаюць спарадычныя разрозненыя праявы літаратурнае, навуковае, культурна-асветніцкае дзейнасці ў асяроддзі дробнапамеснае, па большасці спольшчанае, так званае краёвае шляхты, уніяцкага і часткова праваслаўнага духавенства, студэнтаў і выклад-

чыкаў Віленскага універсітэта. Вывучаецца мова, культура, звычаі, гістарычная мінуўшчына беларусаў; паступова ўсведамляецца ўласная этнакультурная індывідуальнасць, падабенства і адрознасці беларусаў адносна іншых славянскіх народаў. Пазней чыняцца спробы ўзнавіць абарваныя традыцыі кнігадрукавання на беларускай мове. Дзейнасць гэтая азначала па сутнасці стыхійны пратэст супраць афіцыйнае палітыкі расейска-царскіх уладаў, супраць настрою польскай арыстакратыі ў адносінах да Беларусі. Пратэст выклікала ігнараванне гістарычнае самастойнасці беларускага этнасу, мовы, культуры, асіміляцыя беларускага насельніцтва на русіфікатарскі або паланізатарскі лад.

Да зараджэння, першых праяваў беларускага руху прама ці ўскосна спрычыніліся таварыствы філаматаў і філарэтаў, дэмакратычнае таварыства ў Віленскай медыцынскай акадэміі, Братні саюз літоўскае моладзі, Таварыства земляў літоўскіх і рускіх (на эміграцыі), многія навукоўцы, даследчыкі — І. Анацэвіч, М. Баброўскі, І. Даніловіч, І. Лабойка, З. Далэнга-Хадакоўскі, І. Грыгаровіч, Т. Нарбут, К. і Я. Тышкевічы, А. Кіркор ды інш.

Найбольш відавочна і паслядоўна культурна-нацыянальныя, адраджэнчыя імкненні народа праявіліся ў новай беларускай літаратуры, асабліва ў творчасці Я. Баршчэўскага, Я. Чачота, П. Багрыма, В. Равінскага, К. Вераніцына (два апошнія, паводле пераканаўчых доказаў Г. Кісялёва,— найбольш верагодныя аўтары паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»), А. Вярыгі-Дарэўскага, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча, В. Каратынскага, П. Шпілеўскага. Іхнія творы, асветніцкія пачынанні сведчылі пра абуджэнне нацыянальнае самасвядомасці ў народзе, пра фармаванне беларускае народнае інтэлігенцыі, яны сталі фактычным доказам здольнасці айчыннага пісьменства да выпрацоўкі ўласнага нацыянальнага стылю, да пераадолення часовае «пагранічнае» беларуска-польскае або беларуска-расейскае раздвоенасці на шляху да нацыянальнага творчага сінтэзу. Пасля паўстання 1830—1831 гг. у вызваленчым руху зараджаецца рэвалюцыйна-дэмакратычная плынь, характэрная спалучэннем літаратурнага асветніцтва і палітычнае барацьбы ў дзейнасці Ф. Савіча, А. Незабітоўскага і інш.

Этапную ролю ў далейшым развіцці рэвалюцыйна-дэмакратычнае традыцыі, усяго вызваленчага руху адыграла паўстанне 1863—1864 гг. на чале з К. Каліноўскім — мысляром, паэтам, публіцыстам, першым беларускім палітычным дзеячом новага часу. Дзейнасць Каліноўскага кладзе пачатак спалучэнню сацыяльна-эканамічных (найперш аграрных), палітычных, культурна-духоўных, у тым ліку рэлігійных праблемаў у вызваленчым змаганні беларусаў. К. Каліноўскі ставіць, хай напачатку недастаткова выразна і паслядоўна, уласна беларускія («літоўскія») патрабаванні ў агульнапольскім нацыянальным руху, уключна з ідэяй самастойнасці Літвы-Беларусі ў дэмакратычным саюзе з Польшчаю і Расеяю. Легендарны паўстанец першы звярнуў увагу на сялянства як галоўную дзеятворную сілу беларускае нацыі, прысвяціў яму нелегальны перыёдык «Мужыцкая праўда».

У асобе Каліноўскага беларусы займелі сцяганосную постаць народнага, нацыянальнага падзвіжніка-змагара, самаахвярнага патрыёта Бацькаўшчыны, які ў новых гістарычных умовах панавіў, развіў далей патрыятычную ідэю Ф. Скарыны. Дзейнасць Каліноўскага надала дынаміку выспяванню беларускае нацыянальнае думкі, замаруджанаму ў выніку паразы паўстання, узмоцненае русіфікацыі паводле праграмы М. Мураўёва-вешальніка, а таксама асімілятарскае канцэпцыі «западно-руссизма».

Новую ідэйна-тэарэтычную і палітычную якасць беларускі рух асягае на схіле XIX ст. у дзейнасці сацыяльна-рэвалюцыйнае народніцкае групы «Гомон», яе нелегальнага аднайменнага часопіса. Гоманаўцы асэнсавалі заканамерны характар развіцця і цяжкасці нацыянальнае кансалідацыі беларускага этнасу, падкрэслілі яго гістарычную трывучасць пры векавечным асіміляцыйным націску, пры сталай небяспецы растварэння «ў вялікарасейскім або польскім моры». Яны асудзілі абрусіцельны «идеал казарменного единообразия», абгрунтавалі, у якасці альтэрнатывы імперскаму абсалютызму, ідэю «федэратыўнае самастойнасці Беларусі» на падставе «свабоднага пагаднення» з іншымі народамі дэмакратызаванае Расіі. Беларускія нарадавольцы выступілі ў лучнасці з рэвалюцыйна-дэмакратычнымі рухамі Расіі, Украіны, Польшчы, падтрымалі федэратыўныя ідэі М. Бакуніна, М. Драгаманава, засцераглі адначасна кіраўнікоў партыі «Народная воля» (П. Лаўроў, Л. Ціхаміраў) ад спакушэння цэнтралісцкаю рэвалюцыйнасцю, ад незразумення і вузка інструментальнае трактоўкі нацыянальнага пытання, у прыватнасці беларускага.

Далейшае паглыбленне беларускае вызваленчае думкі звязана з дзейнасцю Ф. Багушэвіча. У сваёй «Прадмове», іншых творах ён выказаў канцэптуальны погляд на гісторыю беларусаў, зазначыў пераемнасць палітычна-дзяржаўных, культурных традыцыяў Вялікага княства Літоўскага з сучаснымі намаганнямі народа выбавіць сваю «зямліцу-Беларусь» з-пад сацыяльнага, палітычнага, рэлігійнага прыгнёту, культурнага заняпаду, а найперш адрадзіць, забяспечыць належны грамадскі прэстыж роднай мове — асноватворнаму чынніку нацыі. Багушэвіч з'яднаў беларускае пытанне з вызваленчымі імкненнямі славянскіх ды іншых уціскаfamous народаў. Яркая будзіцельская асоба Багушэвіча, «духоўнага бацькі беларускага адраджэння» (М. Гарэцкі), а таксама літаратурна-грамадская дзейнасць ягоных сучаснікаў А. Гурыновіча, А. Абуховіча, Я. Лучыны, К. Каганца, іншых паскорылі ідэйна-нацыянальнае ўзмужненне літаратуры, усяе беларускае думкі, станаўленне й гартаванне наступных генерацый адраджэнцаў.

На пераломе XIX — XX стст. ажыўляецца, пераважна ў студэнцкім асяроддзі, культурна-асветніцкая плынь беларускага руху (Гурток моладзі польска-літоўска-беларускае, Круг беларускае народнае прасветы і культуры, іншыя студэнцкія аб'яднанні ў Пецярбургу, Маскве, Кракаве). Чыняцца спробы друкаваць нелегальную палітычную газету «Свабода», заснаваць Сацыялістычную партыю Белай Русі і г. д. У гэтым жа асяроддзі выспявае думка, не без уплыву польскіх сацыялістаў, аб дзяржаўнай незалежнасці, суверэнітэце Беларусі, неабходнасці партыйна-палітычнае самаарганізацыі нацыянальнага руху. Паўстае Беларуская рэвалюцыйная партыя (1902), неўзабаве перайменаваная ў Беларускую Рэвалюцыйную, затым — Беларускую Сацыялістычную Грамаду (1903 г.). Спрыяюць беларускай справе развіццё навуковага беларусазнаўства (публікацыі П. Бяссонава, І, Насовіча, М. Доўнар-Запольскага, Е. Раманава, П. Шэйна, А. Багдановіча, Я. Карскага, А. Сапунова, Я. Карловіча, А. Ельскага, Г. Татура, М. Нікіфароўскага, М. Федароўскага, А. Сержпутоўскага, М. Янчука і інш.), рускі дэмакратычны друк на Беларусі (газеты «Минский листок», «Северо-Западный край», выпускі «Северо-Западного календаря»), асабліва краязнаўча-збіральніцкая, нацыянальна-асветніцкая праца Б. Эпімаха-Шыпілы, аднаго з заснавальнікаў першае беларускае выдавецкае суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца».

Глыбокія якасныя змены ў беларускім руху адбываюцца ў выніку рэвалюцыі 1905—1907 гг. і адваёвы некаторых дэмакратычных свабо-

даў, разам з правам на легальны беларускі друк. Мацнее ўзаемасувязь асветніцкіх і палітычных, легальных і нелегальных напрамкаў і формаў вызваленчага руху дзякуючы газетам «Наша Доля», «Наша Ніва», «Беларус», часопісам «Лучынка», «Раніца», у дзейнасці палітычных, прафесійных, грамадска-культурных аб'яднанняў (Беларускі настаўніцкі хаўрус, Гродзенскі гурток Беларускае моладзі, Беларускі музычна-драматычны гурток, Беларуская кнігарня ў Вільні, Полацку, Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў у Пецярбургу, выдавецкія, кааператыўна-гаспадарчыя суполкі і г. д.).

Прынцыповае значэнне дзеля ідэйнае кансалідацыі беларускага руху мела дзейнасць БСГ. Яе бліжэйшымі задачамі абвяшчаліся звяржэнне царскага абсалютызму, аўтаномія Беларусі з мясцовым соймам у Вільні, 8-гадзінны рабочы дзень, перадача «усяе зямлі ў грамадскую ўласнасць» (Праграма БСГ, прынятая ІІ з'ездам партыі ў 1906 г.). Сябры БСГ дзеілі ў сялянскіх, рабочых нізах (мітынгі, праклaмацыі, адозвы), знаёмілі ўсерасейскую, міжнародную грамадскасць з характарам беларускага пытання (выступы на Усерасейскім сялянскім з'ездзе ў 1906 г., на міжнароднай канферэнцыі сацыялістычных партыяў — Фінляндыя, 1905 г.; публікацыі ў рускім, польскім, украінскім, літоўскім, чэшскім, нямецкім друку).

З гэтага ж, кансалідацыйнага гледзішча надзвычай істотнаю была дзейнасць «Нашае Нівы» — па сутнасці легальнага асяродка сталення і гуртавання літаратурных, наогул культурна-асветніцкіх адраджэнчых сілаў. «Наша Ніва» стала незаменным духоўна-культурным, гістарычным універсітэтам беларусаў. Пры спрыянні яе дзеячоў зараджаецца, напачатку ў каталіцкім, праўніяцкім асяроддзі, беларускі нацыянальна-рэлігійны рух (газета «Беларус», аб'яднанне «Хрысціянская злучнасць», дзейнасць святароў А. Бычкоўскага, В. Гадлеўскага, А. Пачопкі, А. Астрамовіча, пазней — Ад. Станкевіча ды інш.) з мэтаю самавызначэння беларускае царквы, паяднання рэлігійных патрэбаў народа з ягонымі агульнымі вызваленчымі інтарэсамі.

Значная заслуга газеты ў справе інтэрнацыяналізацыі беларускае культуры, усяго руху ў пашырэнні ды ўзмацненні яго міжнацыянальнага і міжнароднага кантэксту, а таксама ў процідзеянні шавіністычным наскокам з боку расейскае, польскае рэакцыйнае прэсы, мясцовых рэнегатаў («Белорусское общество», «Крестьянин», І. Саланевіч, П. Каранкевіч ды інш.).

Дзесяцігоддзе «Нашае Нівы» азначала ў гісторыі Беларусі сапраўдную «нашаніўскую» эпоху. Еймымі намаганнямі ўзгадаваная й далучаная да актыўнае вызваленчае працы пляяда пісьменнікаў-класікаў, буйных грамадска-палітычных і культурных дзеячоў, нацыянальных ідэолагаў — Янка Купала, Якуб Колас, Цётка, М. Багдановіч, Ядвігін Ш., А. Гарун, М. Гарэцкі, З. Бядуля, Ц. Гартны, І. і А. Луцкевічы, А. Уласаў, В. Ластоўскі, В. Іваноўскі, І. Буйніцкі, У. Галубок, А. Смоліч, Б. Тарашкевіч, Я. Драздовіч, Я. Лёсік, Ф. Шантыр, Л. Сівіцкая, Л. Гмырак, Р. Зямкевіч, Я. Хлябцэвіч, многія іншыя.

Глыбокі ўсеагульны крызіс, за ім распад царскай імперыі ў выніку першае сусветнае вайны, лютаўскай і кастрычніцкай рэвалюцый прыкметна дынамізуюць беларускі рух, паскараюць ягоную эвалюцыю ад агульнай ідэі свабоднае Беларусі да яе канкрэтызацыі ў напрамку дзяржаўна-незалежнага самавызначэння. Нацыянальна-вызваленчая ідэя ўзварушвае, актывізуе свядомасць многіх беларусаў — вайсковых, рабочых, уцекачоў, лёсам вайны параскіданых за межамі Бацькаўшчыны, часткова аб'яднаных у розных беларускіх асяродках Петраграда, Масквы, Адэсы,

Кіева, Тамбова, Саратава. Падзел тэрыторыі Беларусі на дзве зоны вайсковага процістаяння Расіі і Германіі вымусіў вызваленчы рух часова арганізацыйна раз'яднацца, ладзіць працу з улікам акупацыйна-франтавых абставінаў.

Сярод беларускага актыву акупаванай немцамі Вільні ідэя беларускае дзяржаўнасці пэўны час лучыцца з ідэяй магчымага ўзнаўлення дзяржаўнай уніі Беларусі і Літвы (зварот «Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага» ад 15 снежня 1915 г., сумесная дэкларацыя сацыялістычных і дэмакратычных партыяў Вільні ў снежні 1917 г.). Тут жа, у Вільні, паўстае Беларускі нацыянальны камітэт — каардынацыйны цэнтр мясцовых беларускіх арганізацый. Камітэт ладзіць сувязі з літоўскім, польскім, яўрэйскім нацыянальнымі рухамі дзеля тэрытарыяльнае цэласнасці й непадзельнасці этнічна беларускіх земляў, імкнецца бараніць інтарэсы беларускага насельніцтва перад акупацыйнымі ўладамі, закладвае падваліны нацыянальнае сістэмы асветы (першыя беларускія школы, настаўніцкія курсы, гімназіі ў Вільні, Свіслачы, іншых мясцінах Віленшчыны, Гродзеншчыны, Беласточчыны), выдае газету «Гоман». З віленскага асяродка беларускае пытанне выносіцца на меркаванне III Канферэнцыі нацый (Лазана, Швейцарыя, чэрвень 1916 г.). Мемарыял беларускіх дэлегатаў (І. Луцкевіч, В. Ластоўскі) да ўдзельнікаў міжнароднае сустрэчы ўвасобіў гістарычна-культурнае, палітычнае абгрунтаванне права беларускага народу «стацца гаспадаром на ўласнай зямлі».

Пасля лютаўскай рэвалюцыі прыкметна актывізуюцца беларускія палітычныя структуры ў Менску, франтавой зоне расейскіх войскаў. Тут паўстае беларускі нацыянальны камітэт (сакавік 1917 г.), а неўзабаве на яго месцы — Рада беларускіх партыяў і арганізацыяў, ператвораная затым у Вялікую Беларускую Раду; ідэяй нацыянальнага войска паклікана да жыцця Цэнтральная Беларуская вайсковая Рада.

Сацыяльная база руху, дасюль пераважна сялянская і дробнашляхецкая, прыкметна пашыраецца коштам часткі рабочых, нізавога афіцэрства, разначыннай інтэлігенцыі, асобных прадстаўнікоў мясцовай арыстакратыі, звычайна абыякавай або непрыхільнай да беларускага пытання. У сваю чаргу паглыбляецца палітычная неаднароднасць руху, увідавочваюцца спробы буйнаўласніцкіх элементаў (Р. Скірмунт і інш.) узначаліць яго, абвастраюцца ўнутраныя супярэчнасці, выкліканыя, з аднаго боку, рэзкім узмацненнем сацыяльна-эканамічнага радыкалізму, рэвалюцыйнасці ў працоўных, асабліва сялянскіх, салдацкіх нізах, з другога — ліберальна-дэмакратычным, эвалюцыйным курсам кіраўніцтва нацыянальнага руху. Справа ўскладнялася ўсё яшчэ нізкім, у пэўным сэнсе хімерычным станам нацыянальнай самасвядомасці бальшыні беларускага насельніцтва, ігнараваннем беларускага пытання з боку Расіі — Часовага ўраду і рэвалюцыйнае апазіцыі ў асобе бальшавіцкае партыі.

Нутраныя супярэчнасці, уздзеянне вонкавых чыннікаў, паглыбленне бальшавізацыі грамадскіх працэсаў напярэдадні й пасля кастрычніцкае рэвалюцыі паскараюць падзел беларускага руху на дзве галоўныя плыні — класава-рэвалюцыйную і нацыянальна-дэмакратычную. Найбольш выразна гэты падзел вызначыўся на III з'ездзе БСГ (кастрычнік 1917 г.), калі прадстаўнікі першае, левае плыні пакіравалі ў камуністычным напрамку, а прадстаўнікі другое, пераважнае часткі ўзялі курс на неадкладнае здзяйсненне дзяржаўна-самавызначальнай ідэі.

Паваротнаю гістарычнаю вяхой на гэтым шляху стаў I Усебеларускі кангрэс (снежань 1917 г.), скліканы Вялікаю Беларускаю Радаю і эсэраўскім Беларускім абласным камітэтам. З'езд прайшоў пад знакам кансалідацыі розных палітычна-ідэйных плыняў, партыяў дзеля агульнае нацыя-

нальнае мэты — свабоднае незалежнае Беларусі: «Нацыянальная ідэя, расцьвіўшая да апогэю к моманту адбываньня зьезду, прэваліруе над усім іншым і прыдае нечувальнаму да таго ў беларускай гісторыі кангрэсу адпаведны адбітак» (Зм. Жылуновіч). Насуперак гвалтоўнаму разгону Кангрэсу па рашэнні старшыні Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці дэлегаты прымаюць рэзалюцыю аб утварэнні на беларускім этнаграфічным абшары краёвае ўлады ў асобе Усебеларускага Савета сялянскіх і рабочых дэпутатаў і наладжванні афіцыйных зносінаў з савецкаю ўладаю «Цэнтру», усіх рэспублік Расійскае федэрацыі.

Разгон кангрэса ўвідавочніў істотныя супярэчнасці бальшавізму ў нацыянальным пытанні: паміж дэкляраваннем права нацыяў на самавызначэнне і фактычным патаптаннем гэтага права адносна канкрэтнага народа, паміж натуральнымі жыццёвымі інтарэсамі беларусаў і сілком накінутым ім рэвалюцыйным «ашчасліўліваннем», паміж, нарэшце, камуністамі-патрыётамі, удзельнікамі Кангрэсу (Зм. Жылуновіч, А. Чарвякоў, інш.) і камуністамі-«территориалистами» (В. Кнорын, А. Мяснікоў, К. Ландэр і інш.), насланымі ў Беларусь дзеля прыспешвання сусветнае рэвалюцыі, «не считаясь с тем, какого роду и племени» (Кнорын).

Тым не менш, праца на абраным шляху да самавызначэння не спыняецца: 21 лютага 1918 г. Выканаўчы Камітэт, пакліканы Кангрэсам, звяртаецца з Першаю Устаўною Граматаю «Да народаў Беларусі» і ўтварае часовы ўрад — Народны Сакратарыят Беларусі. Другою Устаўною Граматаю (9 сакавіка 1918 г.) Беларусь абвяшчаецца Народнаю Рэспублікаю з будучым заканадаўчым зацверджаннем яе Устаноўчым Соймам Беларусі. Часовае замірэнне паміж Германіяй і Савецкай Расіяю (Брэсцкі мір 1918 г.) коштам падзелу тэрыторыі Беларусі, германская акупацыя яе ўсходняе часткі ўключна з горадам Менскам давяршае дасяванне й самавыяўленне ідэі суверэннае Беларускае дзяржавы.

У ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 года аб'яднанымі намаганнямі палітычных дзеячоў з Вільні (Віленская Беларуская Рада) і Народнага Сакратарыяту ў Менску Рада БНР прымае рэзалюцыю аб суверэннай незалежнасці Беларусі і Трэцюю Устаўную Грамату. У дакуменце сцвярджалася: «Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязках Беларусі. На падставе гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязкі, якія далі магчымасць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае насьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі». У Грамаце агульным сцверджаннем зазначаны дзяржаўныя межы Рэспублікі — «усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ», выказана гатоўнасць да раўнапраўнага супрацоўніцтва з усімі вольналюбівымі народамі.

Гістарычны факт абвяшчэння БНР азначаў падагульненне, прынцыповы практычны крок на векавечным вызваленчым шляху беларускага народа, рэальны пачатак яго нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Палітычнае паражэнне БНР ў выніку наступлення бальшавіцкае рэвалюцыі, утварэнне Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі не толькі не абвергла гэтага факту, але, наадварот, як пасведчылі й сведчаць наступныя дзесяцігоддзі, узмацніла парадаксальна-драматычным чынам гістарычную пераемнасць і незнішчальнасць нацыянальна-дзяржаўнай ідэі няскоранага ў сваіх вызваленчых імкненнях народа. Н а р о д а, здатнага выступаць на гістарычнай арэне сапраўдным гаспадаром уласнага лёсу, паўнапраўным удзельнікам міжнароднае садружнасці.

**Аляксей КАЎКА**

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ПАСЛЯ ЛЮБЛІНА,

## або магнацка-шляхецкая «беларусізацыя»

XVII — XVIII стагоддзі практычна выпалі з пісанай гісторыі беларускага народу. Усё звялося да адыёзных, пастулатных штампаў: «апалячванне», «акаталічванне», «эканамічны заняпад» і г. д. Але жывая, сапраўдная гісторыя гаворыць і пра іншае. І такая важная падзея, як утварэнне новай дзяржавы — Рэчы Паспалітай — мела неадназначныя, падчас зусім процілеглыя задумам вынікі. У тым ліку і для грамадства Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага.

Адна з самых важных прычын уніі 1569 г.— супярэчнасці ў пануючым шляхецкім саслоўі Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага. Сапраўды, элітарнае магнацтва, што трымала ў княстве ўладу, не стала б яе з кімсьці дзяліць без прымусу з боку шматлікай дробнай і сярэдняй шляхты. А ўлада тая ў вялікакняскай магнатэрыі была амаль неабмежаваная. На сойме ў Вялікім княстве паны-рада праводзілі толькі свае рашэнні, маніпулюючы большасцю шляхты, якая не мела ніякай рэальнай улады. Радны гаспадарскай Рады Альбрэхт Гаштольд параўноўваў соймы польскага і «літоўскага» ўзораў: «...соймы нашы (у Вялікім княстве — П. Л.) праходзяць зусім інакш: што вырашае гаспадар і паны-рада, тое шляхта абавязкова прымае да выканання: мы ж запрашаем шляхту на нашыя соймы як бы для гонару, дзеля таго, каб усе ведалі, што мы вырашаем». І на павятовых соймах, органах шляхецкага самакіравання, якія былі створаны паводле рэформы 1565—1566 гг., таксама рэй вялі буйныя землеўласнікі. Пераконваюць у гэтым сведчанні сучаснікаў. Вось адно з іх: «Там (у Вялікім княстве Літоўскім — П. Л.) шляхта не прымае ўдзелу ні ў якіх нарадах, там паны робяць, што захочуць... Там прыязджаюць на соймік толькі ваявода, стараста ды харужы, напішуць, што ім уздумаецца, і адправяць да зямяніна дахаты, каб падпісаў. Калі ж ён не падпіша, то яны аддубасяць яго палкамі...»

Такога не здаралася ў суседняй Польшчы, дзе шляхта рашуча ўплывала на ўнутраную і знешнюю палітыку ўраду. Польскія шляхецкія вольнасці, відавочна, падабаліся шляхце Княства. Падтрымліваючы ідэю уніі, яна меркавала заняць такое ж вызначальнае становішча ў сваёй дзяржаве, як польская шляхта ў сваёй.

Унутрыпалітычны крызіс у Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім найбольш абвастрыўся ў 60-я гады XVI ст. Супрацьстаянне магнацтва і шляхты стала адкрытым. Асабліва яскрава яно выявілася ў часе сойму, які адбыўся ўвосень 1562 г. пад Віцебскам. Яго ўдзельнікі звярталіся да Жыгімонта Аўгуста з прашэннем «учыніць супольны сойм з палякамі, каб разам караля выбіралі, мелі агульную абарону, супольна саймікавалі і права аднолькавае ўжывалі».

Каб неяк кансалідаваць грамадства, збіць прапольскія настроі шляхты, магнацкая апазіцыя на чале з Радзівілам пайшла на значную мадэрнізацыю ўнутранай палітыкі. Так, паводле пастановы 1563 г. праваслаўная і каталіцкая шляхта поўнасцю ўраўноўвалася ў правах, а паводле судовай рэформы 1564 г. уводзіліся мясцовыя суды, дзе галоўную ролю адыгрывала шляхта.

Гэтыя захады велікакняскага ўраду, можа б, мелі поспех, калі б не драматычнае знешнепалітычнае становішча краіны. На пачатку 60-х гадоў баявыя дзеянні ў Лівонскай вайне, што пачалася паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім у 1558 г.,

перанесліся на тэрыторыю Княства, на беларускія землі. У 1562 г. маскоўскія войскі стаялі ля Віцебска, Дуброўны, Оршы, Копысі, Шклова. 15 лютага 1563 г. быў захоплены Полацк. Да сталіцы — Вільні — заставалася напрасткі каля двухсот кіламетраў. Сілы дзяржавы былі на мяжы магчымага. Вайна выцягнула ўсе сродкі, амаль штогадовая сярэбшчына не наталяла патрэбы ў грошах. Неадкладна патрабаваўся саюзнік.

Пытанне заключэння уніі з Польшчай было прадвырашана, і як ні адцягвалі фінал магнаты Вялікага княства, ён наступіў у 1569 г. Безумоўна, яго наблізіла Лівонская вайна. Па словах віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла, які прыбыў на перамовы ў Люблін, «на нашым хрыбце быў вораг, калі мы ехалі сюды, жадаючы пастанавіць з вамі унію, якая б аб'яднала нас узаемнаю любоўю, і, калі казаць праўду, мы пачалі імкнуцца да яе амаль бегам, тады як продкі нашыя ішлі да яе вельмі паціху».

10 студзеня 1569 г. пачаўся Люблінскі сойм, які доўжыўся амаль 6 драматычных месяцаў. Кожны бок ставіў свае ўмовы, якія не прымаліся супрацьлеглым. Ніхто не саступаў. Больш таго, калі паслы Вялікага княства ўбачылі пагрозу гвалтоўнага заключэння уніі на непрымальных для іх умовах, яны 1 сакавіка 1569 г. пакінулі Люблін.

І тут польскі бок пайшоў на дэманстрацыю сілы. Скарыстаўшы цяжкае знешнепалітычнае становішча Вялікага княства, польскія феадалы вымусілі Жыгімонта Аўгуста выдаць указы аб далучэнні да Каралеўства Польскага Падляшша, Валыні, Падоліі ды Кіеўшчыны. На працягу сакавіка — чэрвеня 1569 г. гэтыя велізарныя і багатыя абшары Вялікага княства былі ўключаны ў склад Польшчы, што, вядома, аслабіла і без таго падарваную Лівонскай вайною эканоміку Княства. Хоць гэтыя акты і былі супрацьпраўныя, бо кароль іх выдаў асабіста, без згоды сойму Вялікага княства, але ў той сітуацыі вялікакняскі ўрад не мог ісці на ваенны канфлікт з Польшчай.

Тэрыторыя Княства звузілася ў асноўным да літоўскіх і беларускіх земляў. Прычым на значнай частцы апошніх гаспадарыла маскоўскае войска. І гаспадарыла грунтоўна. У 1566—1569 гг. дзеля ўмацавання на заваяванай тэрыторыі былі пабудаваныя ў наваколлі Полацка крэпасці Туроўля, Суша, Сокал, Сітна, Чырвоная, Казьяны, Ула, Усвят. У такім становішчы для вялікакняскага ўраду шлях быў адзіны — за стол перамовінаў з Польшчай. Супольны сойм зноў распачаў працу, і 1 ліпеня 1569 г. быў падпісаны акт Люблінскай уніі. «З гэтага часу абедзве дзяржавы ўяўляюць сабою непадзельнае цела, а таксама адну агульную Рэч Паспалітую, у якой абодва гаспадары і абодва народы з'ядналіся ў адзін народ і адзіную дзяржаву»,— абвяшчаў акт.

Наколькі шчыльна зліліся дзве часткі толькі ўтворанай дзяржавы? Вышэйшым органам улады станавіўся агульны сойм, які мог збірацца толькі на тэрыторыі Польшчы. Асобных соймаў як для Кароны, так і для Вялікага княства не прадугледжвалася. Манарх меўся быць агульны: «...Новы гаспадар пры выбранні і каранацыі павінен аб'яўляцца каралём Польскім, вялікім князем Літоўскім, Рускім, Прускім, Мазавецкім, Жмудскім, Кіеўскім, Валынскім, Падляшскім і Інфлянцкім... Выбранне і ўзвядзенне князя на пасад Вялікага княства Літоўскага, якое да гэтага часу праводзілася асобна, павінна спыніцца». Выключна да кампетэнцыі Рэчы Паспалітай адыходзіла знешняя палітыка. Усе ранейшыя законы і дагаворы, накіраваныя супраць інтарэсаў адной з частак новай федэрацыі, падлягалі скасаванню. І тут акт засяроджваў увагу на прынцыповым для польскага боку пытанні: «Статуты і ўсе якія б ні было пастановы, ухваленыя ў Літве супраць польскага народа па пытаннях аб набыцці і валоданні маёнткамі ў Літве, надалей не павінны дзей-

нічаць. Дазваляецца набываць маёнткі і валодаць імі паляку ў Літве, а ліцвіну ў Польшчы». Разам з тым, Вялікаму княству не адводзілася роля нейкай польскай каланіяльнай ускраіны. Тут захоўваліся даўнітарны адміністрацыйны апарат, асобнае ад Польшчы заканадаўства і судовая арганізацыя, тытул і пячатка, а таксама войска.

Такім чынам, нельга трактаваць Люблінскую унію як паглынанне Польшчай Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага. Рэч Паспалітая была федэрацыяй дзвюх дзяржаваў. У складзе федэрацыі Княства існавала да канца XVIII ст., калі Рэч Паспалітую падзялілі Расійская імперыя, Аўстрыя і Прусія. Іншая справа, што Польшча на той час была ў лепшым палітычным і эканамічным становішчы і таму валодала ўнутрыпалітычнай ініцыятывай у Рэчы Паспалітай. Яна магла ажыццяўляць вялікадзяржаўную палітыку ў дачыненні да ўсходнеславянскага насельніцтва Вялікага княства.

Першае ўражанне ў Княстве ад вынікаў Люблінскай уніі было шокавым. Прычым як для магнацтва, так і для шляхты, якая ў свой час дамагалася злучэння з Польшчай. Для вышэйшай уплывовай знаці Люблінская унія пагражала поўнай згубай былога палітычнага вяршэнства. У Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім сойм, дзе магнацтва праводзіла свае рашэнні, юрыдычна перастаў існаваць. У агульны ж сенат Рэчы Паспалітай шмат былых радных проста не трапілі. Ды і тыя нешматлікія галасы сенатараў з Вялікага княства заглушаліся моцным рокатам больш мнагалюднага польскага прадстаўніцтва ў сенаце Рэчы Паспалітай. Тое ж самае адбывалася і ў сойме, дзе з 180 выбраных на сойміках па ўсёй Рэчы Паспалітай паслоў толькі 46 прыходзілася на Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае (з іх 34 з беларускіх паветаў).

Палітычная дыскрымінацыя дапаўнялася эканамічнай. Цяпер прадстаўнікі шляхецкага саслоўя Вялікага княства не маглі атрымліваць землі ў раёнах, гвалтоўна адарваных Польшчай у 1565 г. Ды і дазвол польскай шляхце атрымліваць зямельныя ўладанні ў межах Княства стварыў небяспечнага канкурэнта для шляхты мясцовай. Безумоўна, гэткае становішча нараджала ў большай часткі пануючага класа Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага «сепаратысцкія», антыпольскія настроі.

І буйная, і дробная шляхта катэгарычна не прымала уніі ды наогул палітыкі каралёў. Так, аршанскі стараста Ф. Кміта-Чарнобыльскі піша кашталяну троцкаму А. Валовічу ў жніўні 1574 г.: «Не дай бог ляху быть (каралём — П. Л.) — вырежет Литву, а Русь поготову», бо палякі «давно резать почали литвина». Яшчэ больш рэзка супраць прапольскай палітыкі апошняга Ягайлавіча, пры якім склалася унія, беларуская шляхта выказалася ў «Прамове Мялешкі», што датуецца 1589 г.: «Проч Жикгимонта короля! Того нечего и в люди личити, бо Подляше и Волынь наш вытратив, ляхом менечися».

Што ж тады прываблівала шляхту Вялікага княства Літоўскага, да чаго яна імкнулася? Ды да «старыны», да тых, з яе пункту гледжання, «залатых» часоў, калі князі, «которые королевали и которие воеводами бывали... правым сердцем просто говорили, политыки не знали», калі незалежнае Вялікае княства самастойна вызначала і праводзіла ўнутраную і знешнюю палітыку: «Але Жикгимонта первого,— солодкая памет его... Ляхов з их хитростю велми не любил, а Литву и Русь нашу любително миловал». З прыведзеных словаў вынікае, што пануючы клас Вялікага княства меў на мэце адраджэнне яго поўнай дзяржаўнасці, а значыць адраджэнне той «беларушчыны», якая была базай гэтай дзяржавы.

Незалежніцкія настроі не разыходзіліся са справамі, «вялікакняскае

адраджэнне» ішло як у палітыка-эканамічнай, так і ў духоўнай сферы. Насуперак люблінскаму акту аб уніі, на працягу 70—80-х гадоў у Вялікім княстве рэгулярна збіраліся агульнадзяржаўныя соймы. Прычым у час бескаралеўя (1574—1576 гг.) на Віленскім сойме дэбатавалася пытанне аб выбранні караля, на сойме 1580 г. прысутнічаў нават кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторы. Больш таго, у 1581 г. ствараецца, а ў 1582 г. пачынае дзейнічаць Галоўны трыбунал Вялікага княства.

Але найлепшым сведчаннем дзяржаўнай незалежнасці Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага было прыняцце Статута 1588 г., які па сутнасці скасоўваў многія пастановы Люблінскай уніі. Паказальна ўжо тое, што ў Статуце ніводнага разу не памінаецца акт уніі. Паводле гэтага заканадаўчага помніка, які дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі аж да 1840 г., Вялікае княства заставалася самастойнай дзяржавай не толькі з асобным заканадаўствам, але і са сваёй тэрыторыяй, апаратам, войскам, фінансамі. Артыкул 12 раздзела III Статута 1588 г. адмяняў звышпрынцыповы для палякаў пункт пастановы Люблінскага сойму 1569 г. аб набыцці зямельнай уласнасці у межах Княства. Пасля ўвядзення Статута 1588 г. у дзеянне шляхта Польскага каралеўства не мела юрыдычнага права набываць землі і займаць дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім, заўважым, другой складовай частцы федэратыўнай Рэчы Паспалітай: «...В том паньстве Великом князстве литовском и во всих землях ему прислухаючих достойностей духовных и светских, городов, дворов, кгрунтов, староств, держав, врядов (пасадаў — П. Л.) земских и дворных... жадных (ніякіх — П. Л.) чюжоземцом и загграничником, а ни суседом (г. зн.— палякам — П. Л.) того паньства давати не маем, але то все мы и потомки наши великие князи литовские давати будем повинни только литве, руси, жомойти, родичом старожитным и уроженцом Великого князства...»

Барацьбой за «старыну», за незалежнасць Вялікага княства было імкненне захаваць дзяржаўнасць беларускай мовы ў Княстве, адстаяць адвечныя на гэтай зямлі духоўныя каштоўнасці. Палымяным прапагандыстам такой ідэі быў дробны полацкі шляхціц Васіль Цяпінскі. У прадмове да выдадзенага ім на беларускай мове «Евангелля» (каля 1580 г.) В. Цяпінскі адзначае, што «зацный, славный, довстипный» народ беларускі мае даўнія і багатыя гістарычныя і культурныя традыцыі. Цяпінскага непакоіла «езыка своего славного занедбане», і ён заклікаў «великих княжат», паноў, духавенства да развіцця нацыянальнай культуры, адукацыі на роднай мове. Гэты голас беларускага шляхціца знаходзіў рэзананс ва ўсім шляхецкім саслоўі Вялікага княства. Яго падтрымаў магнат, вялікакняскі канцлер Леў Сапега, адзін са складальнікаў Статута 1588 г. У прадмове да гэтага выдатнага помніка еўрапейскай юрыдычнай думкі ён з годнасцю адзначае: «... Не обчым (чужым — П. Л.) яким языком, але своим власным права списаные маем...». Больш таго, артыкул I раздзела IV Статута зацвярджаў дзяржаўнасць старабеларускай («рускай») мовы: «А писар земский маеть порускu литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншим езыком и словы». Гэта радыкальна розніла Княства ад Польшчы, дзе моваю праўных дакументаў была лаціна.

Пры падтрымцы прадстаўнікоў шляхецкага саслоўя шырокае распаўсюджанне ў Вялікім княстве ў канцы XVI — на пачатку XVII ст. атрымала дзейнасць брацтваў — нацыянальна-рэлігійных арганізацыяў праваслаўнага насельніцтва, што ўзніклі ў адказ на выкарыстанне каталіцтва для прапольскай палітыкі ўраду Рэчы Паспалітай. Буйныя беларускія брацтвы існавалі ў Вільні, Магілёве, Барысаве, Оршы, Полацку, Мсціславе,

іншых гарадах. Яны сталі інтэграваць тагачаснае беларускае грамадства на грунце нацыянальнай ідэі. У Віленскім брацтве, што дзейнічала з 1592 г. пры праваслаўным манастыры, налічвалася 370 братчыкаў, сярод іх былі «их милости княжата, панята, рыцарство, шляхта, мещане». Вялікую ролю адыгрывалі брацтвы ў прапагандзе беларускай мовы, пашырэнні асветы і кнігадрукавання на Беларусі. Пачатковыя і сярэднія брацкія школы былі адкрыты ў Вільні, Берасці, Пінску, Слуцку, Менску, Магілёве ды іншых шматлікіх гарадах і мястэчках. Брацкія друкарні дзейнічалі ў Вільні, Еўі (цяпер Вевіс Літоўскай рэспублікі), Магілёве. З-пад якіх варштатаў выйшла 127 выданняў, сярод якіх буквары, палемічна-публіцыстычныя творы. Большасць з гэтых кніг напісана на царкоўна-славянскай і беларускай мовах.

Нездарма пачатак XVII ст. спарадзіў на свет словы беларускага паэта Яна Казіміра Пашкевіча: «Польска квітнет лаціною, Літва квітнет русчызною». Радкі гэтыя напісаны ў 1621 г., але ўжо ў 1696 г. пастанова ўсеагульнай канфедэрацыі саслоўяў Рэчы Паспалітай адзначыла, што ў справаводстве Вялікага княства «ўсе рашэнні павінны складацца на польскай мове». Што ж здарылася за гэтыя 75 гадоў, якія працэсы прывялі да таго, што «квітнеючая» культура і грамадства прыйшлі ў поўнае занядбанне? Першую ролю адыграла тут, вядома, фізічнае вынішчэнне беларускага этнасу ў войнах другой паловы XVII ст., якое працягвалася і на пачатку стагоддзя XVIII — у час Паўночнай вайны. Сваё значэнне таксама мела дэзінтэграцыя грамадства Вялікага княства па сацыяльна-рэлігійнай прыналежнасці.

Пачатак такога падзелу беларускага грамадства быў закладзены яшчэ ў часы Ягайлы і Вітаўта. Але пасля XIV ст. крывая гэтага працэсу, хоць і вагаючыся, імкнулася да адзнакі «кансалідацыя». У XVII ст. адбыўся раскол беларускага грамадства. Прычынамі яго сталі, па-першае, далейшая «шляхецізацыя» Вялікага княства, якая паскаралася польскім уплывам, і, па-другое, як ні дзіўна, барацьба за захаванне эканамічнай і палітычнай незалежнасці Вялікага княства ў складзе Рэчы Паспалітай. Паўвека, што прайшло пасля Любліна, пераканала вялікакняскую шляхту ў тым, што і надалей яна будзе займаць вядучыя пазіцыі ў сваёй дзяржаве. Новыя статутовыя нормы, зацверджаныя каралём Жыгімонтам III Вазам у 1588 г., пэўным чынам супакоілі шляхту Вялікага княства. А практыка прымянення заканадаўства ў жыцці наогул надала ёй упэўненасці ў сваім трывалым становішчы ў краіне. Варта згадаць хаця б два выпадкі з гэтай практыкі за розныя стагоддзі. На пачатку 90-х гадоў XVI ст. Жыгімонт III хацеў пасадзіць на віленскае біскупства паляка Бэрнарда Мацееўскага (ён меў заняць месца Юрыя Радзівіла, што стаў кракаўскім біскупам). Але канцлер Вялікага княства Леў Сапега не прыклаў пячаткі, а значыць, не зацвердзіў гэтага прызначэння. Пасля доўгай зацятай барацьбы (1591—1600 гг.) віленскае біскупства было пакінута за «ліцвінам» Бенядыктам Войнам. Наколькі прынцыпова стаяла гэтае пытанне, сведчыць вытрымка з ліста канцлера Сапегі: «... тады паддайцеся ва ўсім палякам, адмоўцеся ад літоўскай пячаткі, маршальскага жазла і гетманскай булавы, і няхай будуць польскія жазлы, пячаткі і булава, ды і агульны скарб...» Ці загінуць, ці дабіцца таго, каб ліцвін быў віленскім біскупам. І ў 1752 г., калі віленскім канонікам спрабавалі прызначыць паляка Вадзінскага, то віленскі капітул звярнуўся да павятовага сойміка з заклікам не ісці супраць статутовых нормаў. Як і 150 гадоў таму, гэтае прызначэнне не адбылося.

Упэўненасць у непарушнасці свайго вядучага статусу ў дзяржаве не патрабавала ад магнацка-шляхецкага асяродку Вялікага княства

барацьбы за былыя сімвалы незалежнасці: за беларускую дзяржаўную мову, асобнае выбранне вялікага князя, асобныя соймы. Праўда, водгаласам таго сепаратызму, які быў моцна адчувальны ў канцы XVI ст., былі спробы стварэння ў часы цяжкіх знешнепалітычных сітуацый у Рэчы Паспалітай «незалежнага» Вялікага княства. У 1655 г. Багуслаў Радзівіл двойчы спрабаваў аддзяліцца ад Кароны: спачатку ён прапанаваў курфюрсту Брандэнбурга пратэктарат над Вялікім княствам, а потым з каралём Густавам падпісаў унію са Швецыяй, якая, праўда, не займела сілы. У другой палове 80-х — 90-х гг. XVII ст. супраць Рэчы Паспалітай Яна Сабескага выступілі Сапегі, якія мелі намер стаць на чале самастойнага Вялікага княства. Пасля такіх выступаў урад Рэчы Паспалітай ішоў на ўступкі шляхце Вялікага княства. На сойме 1673 г. было прынята рашэнне, паводле якога кожны трэці сойм павінен збірацца ў «Вялікім княстве Літоўскім у горадзе Гродне» і маршалкам на ім выбіраецца адзін з мясцовых дэпутатаў. З 1696 г. вялікакняская шляхта канчаткова ўраўноўвалася з польскай у праве кантролю над дзейнасцю вышэйшых службовых асобаў.

Беларуская шляхта, якая дамагалася ад караля ўсё большых прывілеяў, бачыла, што калі і надалей будзе існці разам са шляхтаю польскай, то набудзе на гэтым шляху вялікія прыбыткі. Так яно і адбывалася. Вядомыя «генрыкавы» артыкулы, якія канчаткова ўзаконьвалі сістэму шляхецкай дэмакратыі, надаваліся народам «усіх... земляў і правінцый, што ўваходзілі ў Рэч Паспалітую». Немагчыма было не спакусіцца на такія вольнасці, якія цалкам абмяжоўвалі ўладу караля і нават надавалі магнатам і шляхце афіцыйныя правы не падпарадкоўвацца яму, калі той адмовіцца ад прызнання і выканання шляхецкіх прывілеяў. Прычым прывілеяў немалых, бо кароль у Рэчы Паспалітай выбіраўся на шляхецкім сойме і падначальваўся рашэнням гэтага вышэйшага заканадаўчага органа.

Далейшая «шляхецізацыя» Рэчы Паспалітай уздымала пануючы клас гэтай краіны на новы ўзровень агульнадзяржаўнай інтэграцыі. Але саслоўная агульнадзяржаўная інтэграцыя прыводзіла да дэзінтэграцыі грамадскай — у прыватнасці, на беларускіх землях. Беларуская шляхта, пераймаючы польскія ўзоры грамадскага ладу, усё больш паварочвалася да «пальшчызны» ўвогуле, да каталіцызму, які далучаў да польскай культуры і мовы.

У Рэчы Паспалітай паступова фармуецца новая не толькі сацыяльная, але, можна сказаць, і этнічная супольнасць — «польскі народ шляхецкі» — якая аб'ядноўваецца не толькі адзінымі правамі і прывілеямі, палітычнай ідэалогіяй, але і адзінай рэлігіяй (каталіцызмам), і адзінаю мовай (польскай). Апалячванне пануючага класа на беларускіх землях прывяло ў другой палове XVII ст. да такой сітуацыі, што беларускаму селяніну ці мешчаніну супрацьстаяў ужо не толькі пан-прыгнятальнік, але ўжо і «папежнік» і «лях» — прадстаўнік іншае веры, а значыць, іншага народу.

Падзел беларускага грамадства па сацыяльна-рэлігійнай прыкмеце, разам са знішчэннем напалову беларускага этнасу ў XVII — на пачатку XVIII ст., прывялі да заняпаду беларускай культуры, дзяржаўнасці, а значыць, і нацыянальнага развіцця.

**Павел ЛОЙКА**

# «УЗБУЙНЕННЕ»

Рыжскі мір 1921 года перарэзаў Беларусь на дзве часткі Савецка-польскай мяжой. З 1919 г. бальшавізаваныя Саветы Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў абвясцілі аб сваім уваходжанні ў склад РСФСР. Як гэта рабілася ў першых дзвюх губернях, мы не прасачылі, але ў апошняй сітуацыя склалася наступным чынам, думаецца, вельмі характэрным для таго часу. У Наркамаце зямельных спраў РСФСР пры эканамічна-прававым аддзеле 25 лютага 1919 г. сабралася міжведамасная нарада, дзе сярод трох пытанняў за нумарам першым стаяла пытанне аб Гомельшчыне. На ім прысутнічалі прадстаўнікі ўраду Украіны Іваноў і Мальцаў, упаўнаважаны СНК (РСФСР — **А. Ц.**) па справах Беларусі і Літвы Гопнер, прадстаўнікі Магілёўскага рэўкама Гіндзін і Кацаф, Магілёўскага губвыканкама — Індэнбаўм, ад Наркамата ўнутраных спраў — Спаскі і ад НКЗС — прафесар Неміроўскі і Круцікаў. Апошні быў сакратаром, а шаноўны прафесар — старшынёй нарады. Зазірнем у пратакол:

«СЛУХАЛІ: Аб вылучэнні Гомельскай губерні.

ПАСТАНАВІЛІ: Нарада аднагалосна прызнала неабходнасць перанесці губернскі цэнтр з Магілёва ў Гомель.

1) Са складу Магілёўскай губерні — паветы Быхаўскі, Магілёўскі, Чавускі, Рагачоўскі, Чэрыкаўскі і часткі Горацкага і Клімавіцкага.

2) Са складу Мінскай губерні — Рэчыцкі.

3) Са складу Чарнігаўскай губерні — Суражскі і Навазыбкаўскі — умоўна Лапінскі і Старадубскі — да высвятлення пытання аб вылучэнні Бранскай губерні (умоўна). Прынята аднагалосна. Гомельская губерня мусіць увайсці ў склад Вялікарасеі»*.

Пэўна, з той жа лёгкасцю былі вырашаны і пытанні аб прыналежнасці да РСФСР Віцебшчыны і Смаленшчыны. Навошта гэта рабілася? Знадворным рухавіком было тое, што польскія войскі паспяхова прасоўваліся па тэрыторыі Беларусі, вымушаючы Чырвоную Армію да адступлення. Пілсудскі, з палітычных меркаванняў, зрабіў у гэты перыяд стаўку на Беларусь, як на край, што калісь уваходзіў у склад Рэчы Паспалітай. (Дарэчы, падобную сітуацыю мы можам назіраць і сёння, калі штучна даводзіцца тоеснасць: Старажытная Русь — Кіеўская Русь — Расея — Расейская імперыя — СССР — Расея.)

Каб зменшыць рэгіён магчымых тэрытарыяльных прэтэнзій Польшчы, тое, што знаходзілася пад кантролем Чырвонай Арміі, было тэрмінова і нават загадзя «аб'яўлена» Расеяй. Прыхаваная прычына — нежаданне ўлічваць звычаі, нацыянальныя інтарэсы ў святле ўяўнага набліжэння перамогі пралетарскай рэвалюцыі і стварэння сусветнага Саюзу Сацыялістычных Рэспублік.

У выніку Рыжскага міру за Савецкай Беларуссю была пакінута тэрыторыя ў складзе шасці паветаў былой Мінскай губерні з агульнай плошчай 52,4 тыс. кв. км і насельніцтвам, паводле дадзеных перапісу 1920 г., 1 353 078 чалавек. Пасля стабілізацыі лініі фронту ў канцы таго ж 1920 года ва Урад ССРБ паступіла заява аб жаданні далучыцца да Беларусі з боку Крупскай воласці.

Тая ж думка была выказана і ў хадайніцтве (7.XII.1920 г.) валаснога з'езду Бобрскай воласці Сенненскага павета. Супраць высту-

* Ілюстрацыя да артыкула на каляровай уклейцы.

піў Сенненскі выканкам, які матываваў свой пратэст тым, што Бобр — самы буйны фабрычна-заводскі цэнтр павета. На пагаджальнай камісіі было вырашана хадайніцтва задаволіць, але некаторыя прадпрыемствы вывезці ў іншыя воласці Віцебскай губерні РСФСР. Быццам бы гэтыя прадпрыемствы не былі створаны працаю мясцовых жыхароў, а былі завезены аднекуль з Расіі. Такая практыка, паміж іншым, назіраецца і ў пазнейшых падзеях.

Толькі ў 1921 г. пачынаецца юрыдычнае прызнанне БССР, калі 16 студзеня, амаль праз паўгода пасля падпісання дагавору з Літвой, быў падпісаны дагавор паміж РСФСР і нашай рэспублікай. З боку Расіі яго падпісаў намеснік народнага камісара па замежных справах Л. Карахан, з боку Беларускай рэспублікі намеснік старшыні ЦВК і СНК Беларусі і народны камісар па ваенных справах Я. Адамовіч. Якія захады рабіў Беларускі ўрад дзеля вяртання сваіх законных тэрыторыяў прасачыць па дакументах не ўдалося. Але яны, бясспрэчна, былі, бо не была вынішчана нацыянальная самасвядомасць большасці членаў першага беларускага бальшавіцкага ўраду.

Яшчэ не былі сцерты з памяці абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў межах этнаграфічнай Беларусі, ды і дэкларацыя бальшавікоў, прынятая імі ў піку нацыянальнаму ўраду, ад 1 студзеня 1919 г. аб стварэнні Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі. Апошняя тады ўключала ў сябе амаль усю тую ж тэрыторыю, што і БНР, за выключэннем Вільні, таму што там быў створаны альтэрнатыўны Ковенскаму буржуазнаму прабальшавіцкі ўрад Міцкявічуса-Капсукаса.

У 1924 годзе урад СССР наважыўся, нарэшце, на дэманстрацыю павагі да нацыянальных правоў беларусаў. Рабілася гэта з розных падстаў: з жадання насаліць замежным апанентам, пад уціскам патрабаванняў народных масаў, а таксама з захаду беларускага ўраду. У лютым і сакавіку былі прынятыя рашэнні аб перадачы частак Гомельскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў Беларусі. Варта адзначыць тут такі аспект: нягледзячы на інструкцыю УЦВК і СНК, якая прадугледжвала перадачу тэрыторыяў у іншыя адміністрацыйныя адзінкі толькі восенню, для Беларускай рэспублікі гэта было зроблена вясной. Дзеля чаго? Дзеля таго, каб вясенняй навіной прымусіць людзей забыцца аб іншай значнай падзеі ў жыцці народа — аб сакавіку 1918 г., аб нараджэнні БНР, звярнуць увагу на «дабрыню» новай улады.

Пастанова была падпісана Старшынёй ЦВК СССР Н. Нарыманавым і сакратаром ЦВК СССР А. Енукідзе аб далучэнні да БССР Віцебскай і часткі Смаленскай губерняў. Аднак з боку «старэйшага брата» і «добрага суседа» адразу ж былі выстаўлены прэтэнзіі на тры паўночна-ўсходнія беларускія паветы Віцебскай губерні — Вяліжскі, Невельскі і Себежскі. Хоць беларускае насельніцтва тут складала большасць, але гэты факт аніяк не браўся пад увагу. Старшыня ЦВК Беларусі А. Р. Чарвякоў засведчыў: «...Што тычыцца далучэння да Беларусі Віцебскай губерні, дык у час II з'езда Саветаў (СССР) беларуская дэлегацыя атрымала паведамленне ад віцебскіх таварышаў аб тым, што пленум Віцебскага губвыканкама на першым сваім пасяджэнні пастанавіў дамагацца перад ЦВК РСФСР уваходжання Віцебскай губерні ў склад Беларускай рэспублікі, абгрунтоўваючы гэта культурным, эканамічным і адміністрацыйным адзінствам усяга раёна. Гэтая заява Віцебскай губерні была падтрымана Беларуссю таму, што апошняя і раней не пярэчыла супраць уключэння гэтых

трох паветаў у склад Беларускай рэспублікі. Адпаведная калектыўная заява за подпісамі ўсіх дэлегатаў была перададзена спачатку для разгляду ў партыйным парадку. Гэтае ж пытанне паступіла на вырашэнне Камісіі Прэзідыума Саюзнага ЦВК. Да гэтага часу яно яшчэ не вырашана, але з прыватных размоў, якія мне давялося весці з таварышамі Калініным і Енукідзе, стала зразумелым, што ці наўрад гэтае пытанне будзе вырашана ў пазітыўным сэнсе, таму што некаторыя члены Саюзнага Прэзідыума і Прэзідыума ЦВК РСФСР ставяцца адмоўна да пытання аб перадачы гэтых трох паветаў Беларусі... Што ж тычыцца перадачы Беларусі часткі Смаленскай губерні, дык першапачаткова таварышы з Смаленска заявілі пратэст на рашэнне камісіі ЦВК, патрабуючы, каб Мсціслаўскі павет быў цалкам пакінуты ў складзе Смаленскай губерні».

Нагадаем, што Мсціслаўскі павет разам з Горацкім быў далучаны да гэтае губерні адпаведна з пастановай НКУС РСФСР ад 11 ліпеня 1919 г., калі Менск — сталіца Савецкай Беларусі — быў акупіраваны польскім войскам. Такім чынам урад РСФСР не пакінуў фактычна ўраду Літбела магчымасці для эвакуацыі органаў улады на сваю тэрыторыю, на ўсход. Смаленск прыняў ЦК КП(б) Літбела, адкуль апошні кіраваў камуністычным падполлем.

Як бачым, за перыяд з 1919 да 1924 г. смаленскія губернскія ўлады вельмі звыкліся з Мсціслаўскім паветам, ігнаруючы тое, што ў час абвяшчэння БССР 1.01.1919 г. уся Смаленская губерня, за выключэннем чатырох усходніх паветаў, лічылася «неад'емнай часткай БССР».

Пасля пастановы Прэзідыума Усерасейскага Цэнтральнага Выканаўчага камітэта і пачалося «перацягванне каната» паміж БССР з аднаго боку і губкамамі Смаленска і Пскова — з другога. Але сілы былі няроўныя — з аднаго боку Беларусь, этнаграфічныя, гістарычныя і эканамічныя абгрунтаванні, з другога — моцная падтрымка ўрадаў РСФСР і СССР. Пратэсты і патрабаванні, адрасаваныя ЦВК СССР аб вяртанні Беларусі Вяліжскага, Невельскага і Себежскага паветаў не задавальняліся. Нягледзячы нават на тое, што на пасяджэнні пагаджальнай камісіі 3 красавіка 1924 г. старшыня Вяліжскага павятова-гарадскога выканаўчага камітэта Селязнёў заявіў, што «ўсе канферэнцыі па Вяліжскаму павету прайшлі пад сцягам неабходнасці далучэння да Беларускай рэспублікі». Цікава адзначыць, што пасля гэтага выступлення прозвішча Селязнёва знікае з наступных пратаколаў пасяджэнняў камісіі.

Пскоўскі губкам матываваў неабходнасць уключэння гэтых трох паветаў у склад РСФСР адміністрацыйна-гаспадарчым адзінствам і нават тым, што гэта «вельмі неабходна з мэтай адзінага кіраўніцтва справай аховы граніцы па ўсёй лініі мяжы з Латвіяй, каб найбольш поўна забяспечыць інтарэсы пагранічнай службы, барацьбы з кантрабандай і г. д.», на што беларускі прадстаўнік адзначыў, што ахова дзяржаўнай мяжы ёсць прэрагатыва СССР, а не губеранскіх уладаў. Але як ні змагаліся прадстаўнікі Беларусі, урад СССР адхіліў іхнія законныя патрабаванні.

Такім чынам, склалася, што з былой Віцебскай губерні тры паветы — Люцынскі, Рэжыцкі і Дзвінскі, населеныя беларусамі, былі перададзены РСФСР у 1921 г. буржуазнай Латвіі за пасрэдніцтва ў заключэнні Рыжскага мірнага дагавору, а яшчэ тры — Вяліжскі, Невельскі і Себежскі — апынуліся ў складзе Пскоўскай губерні РСФСР. Толькі некаторыя паўднёвыя воласці былі вернуты Беларусі. Пратакол

№ 2 пасяджэння пагаджальнай камісіі ад 3 красавіка 1924 года сведчыць аб некаторых дэталях гэтага працэсу. Прадстаўнік Беларусі Шкубер заяўляў: «...этнаграфічны прызнак патрабуе далучэння амаль усяго Вяліжскага павета Беларусі, але гэта не ўваходзіць у кампетэнцыю камісіі, яна можа ўносіць толькі прыватныя накірункі, таму камісія лічыць, што ва ўсялякім выпадку паўднёвыя валасці мусяць адыйсці да Беларусі, а паўночныя — да Пскоўскай губерні, нягледзячы на перавагу ў паўночнай частцы беларускага насельніцтва... Клясціцкая воласць — складаецца на 72 працэнты з беларусаў».

Адпаведна са згаданай Пастановай Прэзідыума Усерасійскага ЦВК ад 3 сакавіка 1924 г. са складу Смаленскай губерні вылучаўся Горацкі і палова Мсціслаўскага паветаў, а з Гомельскай губерні Магілёўскі, Рагачоўскі, Быхаўскі, Клімавіцкі, Чавускі паветы і сем валасцей Рэчыцкага павета поўнасцю і заходнія часткі яшчэ трох валасцей.

Увогуле ад Гомельскай губерні пераходзіла ў склад БССР 53 працэнты тэрыторыяў і 41 працэнт насельніцтва. Паколькі аспрэчваць гэтыя тэрытарыяльныя «страты» з боку Гомельскага губвыканкама не было аніякіх падставаў, апошні ўзброіўся іншай тактыкай. А. Р. Чарвякоў на пасяджэнні Саўнаркама БССР з нагоды стварэння Прыёмнай камісіі гаварыў: «У нас ёсць звесткі... што са Шклоўскай фабрыкі Гомельскі губсаўнаргас вывозіць усю маёмасць... Гомлес абірае ўсе райаддзяленні паветаў, вывозячы адтуль сыравіну і абсталяванне... Гомельскі губеранскі кааператыў абабраў да апошняй магчымасці павятовыя кааператывы; у Магілёве, напрыклад, былі засяроджаны ўсе дзіцячыя дамы Гомельскай губерні і Магілёў, такім чынам, з'яўляецца цэнтрам дзіцячых прытулкаў з моманту пачатку размоў аб перадачы, і губкам не мае сродкаў на іх утрыманне».

Далей Чарвякоў прапануе камісіі: «Палявому Саўнаркаму Беларусі — выдзеліць 25 тыс. рублёў золатам, таму што яна сустрэнецца з незвычайнай галотай». Так і было. Вось, напрыклад, што тэлеграфаваў Старшыня камісіі Я. Адамовіч Чарвякову: «...Грошы патрацілі так: 4 тыс. далі для завода, таму што рабочыя не атрымлівалі заработнай платы тры месяцы... 12 тыс. руб. далі Магілёўскаму УВК, таму што ў іх гэты пераходны момант (рвачэскі з боку Гомельскага Губвыканкама) быў цяжкі».

Стан гаспадаркі быў проста жахлівы. І не толькі ў Гомельскай губерні. У Горацкім павеце, які адыходзіў да БССР, Смаленскім губсельтрэстам у 1923 годзе была так выбрана прадукцыя саўгасаў, што на пасяўную кампанію 1924 г. не хапіла насення. Саўгасы Юльянава, Трылесіна і Сметанка былі зліквідаваныя, уся прадукцыя і лепшы інвентар вывезены ў Смаленскую губерню. Тое ж, хоць, можа, і не ў такой ступені, зведалі іншыя саўгасы. Гэта вымусіла прыпыніць збор сельгаспадаткаў па саўгасах Горацкага павету, тым больш, што некаторыя з іх ужо па тры месяцы не выдавалі рабочым заработную плату. Прыкладна так дзейнічалі і гомельскія ўлады — перапынялі крэдытаванне тых рэгіёнаў, якія мусілі адыйсці да БССР. Увогуле, як засведчана ў даведцы (люты — сакавік 1924 г.) камісіі СНК Беларусі па прыёму частак Смаленскай і Гомельскай губерняў: «Мясцовыя бюджэты далучаных да БССР раёнаў Гомельскай і Смаленскай губерняў «переобременены» і не маюць падтрымкі з губернскіх і дзяржаўных сродкаў. Заработная плата... выплочваецца ў гэтых раёнах у памеры ніжэй ставак, існуючых у БССР: па Гомельскай губ.— 3 руб. 50 кап., па Смаленскай — 4 руб. для І разраду, тады як у БССР яна роўная 7 руб.»

Варта адзначыць, што ў гэты перыяд сярэдняя заработная плата рабочага па Саюзе была 17,17 таварнага (залатога) рубля, па Беларусі 20,43 таварнага рубля, гэта значыць на 19 працэнтаў вышэй. Адзначым, што ў другой палове 20-х гадоў БССР знаходзілася на 3-м месцы ў СССР па росце прадукцыйнасці працы, але на 13-м месцы па росце заработнай платы. Колькасць беспрацоўных у Менску ў 1923—24 гг. складала 7,1 працэнта, у Маскве і Петраградзе — 10—11 працэнтаў.

Беларусь вымушана была аплаціць усе «даўгі». Напрыклад, як акрэслена ў пратаколе ад 26 красавіка 1927 г. аб канчатковых разліках у сувязі з перадачай Вяліжскага, Себежскага і Невельскага паветаў Пскоўскай губерні, ад Віцебскай фармацэўтычнай управы спагнана 915 р. 85 коп., а з былой Віцебскай губернскай зямельнай управы спагнана 6 584 р. 39 кап. Гэта ў той час, калі Віцебская губерня за 1923—1924 гады дала ў агульныя рэсурсы РСФСР чыстага даходу 1 943 685 руб., а была прынята Беларуссю, як аб гэтым сведчыць Акт здачы — прыёму Віцебскай губерні, падпісаны Прышчэпавым і Адамовічам, з дэфіцытам бюджэту ў 477 059 рублёў.

Адразу пасля ўз'яднання намнаркамфіна СССР Любімаў, не зважаючы на тое, што Беларусі вярталі яе тэрыторыю з бюджэтным дэфіцытам, запатрабаваў, каб узбуйненая Беларусь павялічыла ўдвая працэнт удзелу ў выдатковым бюджэце СССР.

Нягледзячы на ўсе гэтыя скваліцкія захады, народ з радасцю ўспрымаў перамены ў сваім жыцці, выяўляў вялікую зацікаўленасць у маючым адбыцца Надзвычайным Усебеларускім XI з'ездзе Саветаў. Беларусы тых зямель, якія засталіся на ўсход ад беларускай мяжы, звярталіся ў ЦВК Беларусі з прашэннямі аб уключэнні іх у склад БССР. Так, сяляне Шышкоўскага раёна Бахоцкай воласці 7 кастрычніка 1924 г. склалі «настоящий приговор... для выражения нашего искреннего желания о присоединении к Белорусской Советской Республике и для исходатайствования удовлетворения нашего желания ввиду того, главным образом, что мы не желаем отстать от своей национальности и своего коренного белорусского языка». Аналагічнае прашэнне складзена і сялянамі вёскі Перасядзенне Аслянскай воласці Мсціслаўскага павету, якое было прынята 73 гаспадаркамі з 95 маючых права голасу.

Прыкладна тыя ж думкі гучаць і ў прыгаворах грамадзян вёсак Вялікі Рай, Малы Рай і Свірыдаўкі Бахоцкай воласці. Яны пісалі: «...Собравшись сего числа (1924 г. марта 30 дня) на общий сход и обсудив вопрос о присоединении нас к Великоруссии, решили: ввиду того, что мы искони принадлежали к нации белоруссов, каковыми были наши прадеды, отцы и дети... Узнав, что наши деревни отходят к Смоленскому уезду, следовательно к Великороссии, в нас пробудились национальные чувства — жажда присоединения к родному краю, в котором мы родились и желаем умереть, защищая национальное право». Падобныя шчырыя лісты-«приговоры» прыйшлі ў ЦВК нашай рэспублікі ад жыхароў вёскі Мілют Мсціслаўскага павета, вёсак Варкавіна, Безюкі Бахоцкай воласці, Бялінішча Хіславіцкай воласці Рослаўскага павета.

У пратаколе ад 24 лютага 1924 г. пагаджальнай камісіі СНК Беларусі і Смаленскага губвыканкама па прыёме — перадачы Горацкага і часткі Мсціслаўскага паветаў згадваюцца Соінская і Надзейкаўская воласці. Супраць уключэння іх у межы БССР пратэстуюць Смаленскія губеранскія ўлады, а прадстаўнікі Беларусі настойваюць

на паўторным разглядзе праблемы. Наступны дакумент, які тычыцца гэтага ж пытання, датуецца 12 сакавіка таго ж года — гэта выпіс з пратаколу пазачарговага з'езду райсаветаў і ўпаўнаважаных вёсак Надзейкаўскай воласці Мсціслаўскага павета. На гэтым з'ездзе абмяркоўвалася пытанне аб уз'яднанні з Беларуссю. У дакладзе Кавалёва з вёскі Ціхіля гаварылася аб тым, што «...БССР есть член СССР, хотя таковая и автономна, но под протекторатом СССР...» Пасля пастанавілі абраць двух прадстаўнікоў — Ц. Шураўко і М. Кузамкіна — у якасці ўпаўнаважаных дзеля ўзбуджэння хадайніцтва перад ЦВК Беларусі аб далучэнні Надзейкаўскай воласці да БССР. Удакладнім, што зараз яна ў Рослаўскім раёне Смаленскай вобласці РСФСР. Тыя ж думкі выказаны і ў пастанове прэзідыума Хіславіцкага валаснога выканкама былога Мсціслаўскага павета: «Зная тяготение населения Хиславичской, Пирятичской и Ослянской волостей о присоединении обратно к Мстиславскому уезду — Белоруссии... ходатайствовать перед ЦИК Белоруссии от имени населения... о присоединении означенных волостей к Белоруссии. Присовокупляем, что крестьяне на своих собраниях поднимают вопрос об обязательном присоединении к Белоруссии и выражают негодование в связи с присоединением их к Великороссии».

Застаецца канстатаваць, што толькі палова былой Аслянскай воласці сёння знаходзіцца ў межах нашай рэспублікі. Астатнія ж вёскі знаходзяцца ў межах Смаленскай вобласці РСФСР. Іхняе імкненне і жаданне не было ўбачана і пачута, як і захады тагачаснага Беларускага ўраду. Наадварот, гэта выклікала занепакоенасць у Маскве. Ды і было чаго непакоіцца — стварыўшы прэцэдэнт з выкананнем прыгавораў беларускіх сялян, можна было прыйсці да непажаданага росту БССР, рэальнага аб'яднання ўсяго беларускага народа пад адзіным дахам. Пры гэтым аб'яднаўчая ініцыятыва зыходзіла ад простага народу, а не ад кіруючай партыі. Відаць, былі зроблены адпаведныя захады, каб прыпыніць стыхійны працэс народнага волевыяўлення, бо 11 красавіка 1924 г. на пасяджэнні ЦВК БССР, на якім прысутнічалі Чарвякоў, Асаткін, Багуцкі, Адамовіч, Гетнер, Сташэўскі і Нодэль, а таксама запрошаныя члены камісіі па прыёме тэрыторыяў Чарнушэвіч і Шкубер, было прынята рашэнне: «Всякого рода ходатайства сельсоветов, волисполкомов и др. учреждений и организаций о присоединении к Белоруссии, не рассматривая, направлять в ЦИК СССР». Такое спрэчнае рашэнне і непаслядоўнасць дзеянняў ураду БССР можна растлумачыць незадаволенасцю і занепакоенасцю Масквы рухам, які выходзіў з-пад кантролю.

Канчатковае фармаванне паўднёва-ўсходняй мяжы нашай рэспублікі адбылося пасля пастановы Прэзідыума ЦВК РСФСР ад 6 снежня 1926 г. аб зліквідаванні Гомельскай губерні і перадачы ў склад БССР Гомельскага і Рэчыцкага паветаў. Адпаведна 8 снежня таго ж года была прынята пастанова ЦВК БССР аб далучэнні да Беларусі названых раёнаў. Зноў не абышлося без рабаўніцтва. На час перадачы Гомельскага павету (IV квартал 1926 г.) толькі папяровая фабрыка ў Добрушы мела непакрыты касавы дэфіцыт у 300 тыс. рублёў, запалкавыя фабрыкі далучанай тэрыторыі мелі дэфіцыт у 820 тыс. рублёў, а Палесдрук, дзе працавала 400 чалавек, з-за недахопу сродкаў быў вымушаны звольніць 142 чалавекі.

Вывозіліся не толькі матэрыяльныя сродкі, фінансы, але і культурныя каштоўнасці. Адпаведна з пратаколам пагаджальнай камісіі ад 28 студзеня 1927 г. «Гомельскі педагагічны музей вырашана зберагчы

без драблення і... цалкам перадаць яго новаўтворанай Бранскай губерні». Увогуле прадстаўнікі РСФСР на пасяджэнні парытэтнай камісіі (17 студзеня 1927 г.) запатрабавалі правесці мяжу паміж Бранскай губерняй і нашай рэспублікай па рацэ Сож. Праўда, гэтая ідэя пасля пратэсту БССР была адхілена. Чаму ўзнікла пытанне аб мяжы па рацэ Сож? Таму што на левабярэжжы знаходзіцца Добрушскі папяровы камбінат, на які пэквапіліся прадстаўнікі новаўтворанай Бранскай губерні. На пасяджэнні парытэтнай падкамісіі яшчэ 26 снежня 1926 г. прадстаўнік РСФСР Гадзееў заявіў: «Мы маем даручэнне паставіць на абмеркаванне... пытанне аб Добрушскім раёне; да нас паступіла хадайніцтва Бранскага выканкома аб адпаведнай змене межаў БССР». (Заўважым, што хадайнічала не насельніцтва Добрушскага раёна, а кіраўніцтва Бранскага выканкама! — **А. Ц.**). Бранскія ўлады ўдала выкарысталі момант заяўлення прэтэнзіі. Справа ў тым, што днём раней прадстаўнікі Беларусі зрабілі карту размежавання адпаведна з Пастановай УЦВК аб далучэнні Гомельскага і Рэчыцкага паветаў да Беларусі. Пераканаўшыся, што беларусы дакладна выконваюць прадпісанні Масквы і не прэтэндуюць на «залішнія» тэрыторыі, аб чым сведчыла прадстаўленая расейскаму боку парытэтнай камісіяй карта, Бранскі выканкам пайшоў у наступ.

Прадстаўнік Беларусі Калінін, каб паменшыць бранскія апетыты, выказаўся канкрэтна: «Калі дэлегацыя (РСФСР — **А. Ц.**) будзе ставіць пытанне такім чынам, мы са свайго боку паставім шэраг пытанняў аб змене межаў у адносінах далучэння да БССР раёнаў з беларускім насельніцтвам, якое знаходзіцца ў межах РСФСР. Але мы лічымся з пастановай вышэйшых савецкіх органаў і не вылучаем зараз гэтых пытанняў, але толькі калі дэлегацыя РСФСР у сваю чаргу зноў не вылучыць пытанне аб Добрушскім раёне». Прадстаўнік Расіі Райхман пачаў «замазваць» узніклую спрэчку: «Стоит ли сейчас спорить, какое преимущественно население в Добрушском районе, белорусское или русское... Заявление о Добруше мы сделали только для того, чтобы вы знали, что с этим вопросом вы можете столкнуться и в будущем, с другой — нам надо было выполнить данное нам поручение».

Кропку ў гэтых дэбатах паставіў Хацкевіч, які заявіў, што калі расейская частка падкамісіі пры подпісу акта зробіць агаворку аб тым, што яна будзе ўздымаць пытанне ў Маскве аб далучэнні Добрушскага раёна да РСФСР, дык беларускі бок вылучыць контрпрэтэнзію на частку тэрыторыі РСФСР — па нацыянальных і эканамічных матывах.

На ўздым гаспадаркі і кампенсаванне страт на ўз'яднаных тэрыторыях па просьбе ўраду Беларусі Наркамфін СССР вылучыў з рэзервнага фонду 500 тыс. руб. Крыху пазней ён жа звінаваціў Наркамфін БССР у нерацыянальнай траце грошай, і толькі пасля таго, як Старшыня Саўнаркама БССР Карклін прадставіў рахункі, якія сведчылі, што на фінансаванне народнай гаспадаркі Гомельшчыны было выдаткавана 1 480 тыс. рублёў, абвінавачанні былі зняты.

Узбуйненне 1927 года было апошняю зменай усходніх межаў БССР.

**Анатоль ЦІТОЎ**

* Артыкул грунтуецца на дакументах, якія захоўваюцца ў Цэнтральным Дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва. Фонды: 6, 7, 31, 30, 34, 48, 93, 677. Спасылкі захоўваюцца ў рэдакцыі.




*Вершаў Алеся Салаўя я не завучваў у школе на памяць. Зрэшты, як і вы, дарагі чытач. Праўда, я мог пазнаёміцца з ягонай творчасцю, чытаючы «крымінальныя» газеты і часопісы, што меліся ў бацькавай бібліятэцы. Гэткім чынам прачытаў і паэму «На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса», якую дваццаціаднагадовы юнак напісаў у цяжкія гады нямецкай акупацыі ды бальшавіцкай партызаншчыны... У творы маладога паэта вы адчуеце толькі адно: скразны боль за Бацькаўшчыну, за Крыўю, як называе яе аўтар. І ні згадкі, ні слова ліслівай запабежкі перад акупантам, а толькі вера ў вольную прышласць радзімы.*

*Сёння пра некаторыя імёны і прозвішчы беларускіх творцаў у эміграцыі можна даведацца з публікацый у нашай прэсе, а таксама з кнігі Б. Сачанкі «Сняцца сны аб Беларусі», дзе адно з першых месцаў адведзена паэту Алесю Салаўю.*

*Мая задача тут — пазнаёміць чытачоў «Спадчыны» з ягонай паэмай «На хуткіх клыльлях вольнага Пэгаса», якая прасякнута ідэяй Незалежнасці. Чытайма ж.*

**Алесь САЛАВЕЙ**

# НА ХУТКІХ КРЫЛЬЛЯХ ВОЛЬНАГА ПЭГАСА

## Прысьвячэньне

Мінаюць дваццаць першыя угодкі
Майго жыцьця. Пакуль яшчэ ня стар
Усё, што я набыў за час кароткі,
Што маю — пакладу на свой алтар.
Для вас, сябры мае і аднагодкі,
Народзе мой, крывіцкі мой абшар,
Нашчадкі прышлага, былога продкі,
Я прысьвячаю слоў сардэчных дар.

Дармо, што вас ня бачу гэтым часам,
Дармо, што есьць мяне чужыны золь,
Грызе душу цяжкой разлукі моль,—
Зьнясу усё — і зло, і перагасы,
Да вас прымчу слоў гэтых хлеб і соль
На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса.

1

Калі з паўдня павее вецер прыткі,—
Там, на паўдні — мой край, мая зямля,
Здаецца мне, што чую голас блізкі,
Дармо, што ён даносіцца здаля.
Яго страчаю я з паклонам нізкім,
Яму шляхі далей шчэ значу я,—
Гайдае ён майго чуцьця калыскі,
І неспакой сьцішае спакваля.
Калі ж дыхне насуперак калючы
Паўночны вецер — клёк з радзімы ён
Гняце назад; шлю покліч наўздагон —
А голас разьбіваецца аб кручы.
На грудзі камень-жоран цісьне, млён
Сьвідруе сэрца жорстка і балюча.

2

Ня мае боль граніц і берагоў.
Я клічу ўсемагутнага Зэвэса:
О, мой Зэвэс, о слаўны бог багоў,
Зьмяці, скрушы нягодныя злавесы;
Ня дай паўночным скогатам шляхоў,
Захутай іх суцьмежнаю завесай;
Вярні назад паўдзённы ўздых вятроў
І прагані навалу хмараў зьвесых.
Так просіць помачы найвышшай той,
Хто стрэнецца зь няўхільнаю бядою.
Калі яна і цягнець за сабою,
І вязьніць у жахлівы горан свой —
З апошніх сіл ён дужаецца зь ёю,
Нібы плывак, што топіцца — з вадой.

3

О, мой Зэвэс!.. Здаецца, у эфіры
Мяне пачуў ён — шле сваіх бажкоў:
Ляцяць яны, імклівыя Зэфіры,
З усходу й захаду — з усіх бакоў.
Лагодны подых шлюць ва ўлоньне шыры,
Даюць жыцьцю, што мерзьне, цёплы схоў.
І гэткі ласкавы, і гэткі шчыры
Павеў паўдня вяртаецца ізноў.
Хоць я на яве гэтага ня бачыў,
Затое ў мроях пешчу і нашу,
Бо толькі можна ў іх уняць душу

Адзін паэта — больш ніхто, няйначай.
Тады нястрымнасьць болесьцяў глушу
Наплывам новых хваль крыві гарачай.

Тады прыходзіць Муза. Мне яна —
Сяброўка дум узьнёслых і натхненьня.
Ніхто апроч яе — яна адна
Вядзець мяне да спраў і лятуценьняў.
Туды вядзець, дзе творчасьці вясна,
Становіцца на шлях маіх імкненьняў,
Гатовая ў няпомыс адагнаць
Натоўпы чорныя свавольных ценяў.
Я зь ёй заўжды. І нас не разлучыць.
Так над калыскай хворага дзіцяці
Схіляецца і ўдзень і ўночы маці,
Яна глядзіць яго, яна ня сьпіць,
Гатова на'т жыцьцё сваё аддаці,
Каб ейнае змагло дзіцятка жыць.

## 5

У звоне рыфмаў і у іхнай рэі
Сьпявае Муза мне ўвесь час, заўжды,
І кажны раз прытуліць і сагрэе —
Крылатай думка робіцца тады:
Нясецць мяне і ў край, што ў ранах млее,
Нясе мяне і ў прышласьць праз гады,
Дзе новы ўсход пурпураю зарэе,
Дзе вольнага жыцьця цьвітуць сады.
Даруй, чытач мой, мне за гэткі раньні
І без пары, бяз часу сьмелы лёт.
Але-ж, казаў той, думкі ломяць лёд
Замінаў. І ў творчым парываньні
Чаму-ж парой ня ўзьняцца да высот?..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## 6

Нікому дум маіх ня ўзяць на засаў,
Пакуль жывуць — у які змогуць час.
Пакуль жыцьцё у сэрцы не пагасла,
Хачу радзіму ўбачыць шчэ хоць раз.
Маё жыцьцё і я — нястрымна, засаб
Ірвемся ў выш, на родных ніў Парнас...
На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса
Лячу, мой край, сябры мае, да вас.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## 7

Лячу, лячу з далёкае чужыны —
Ля зораў неба торнага мой шлях.

Вітаньне вам, знаёмыя мясьціны,
Табе, зямлі сялянскае прасьцяг!
Я быў і ёсьць і буду вашым сынам,
Бацькамі — вы. Ня спаў я па начах —
Жылі ў маіх вы думках неадхлынна,
А засынаў — былі ў маіх вы снах.
Даўно ня бачыў вас. У дальняй зморы
Мне кажны месяц быў даўгім, як год.
Праз сотні вёрстаў, сотні перашкод,
Праз немарач лясоў, праз стромы гораў
Сягаў да вас, радзіма і народ,
Сягаў да вас, крывіцкія прасторы.

**8**

Вось і яны, мурожныя лугі,
Што харством нязгасным вабяць вока.
Ля іх, у сьценях лозаў — берагі
Ракі — Вусы — дзе плыткай, дзе глыбокай.
Бягуць да берагоў тых праз лугі
Крыніцы, поўныя зямнога клёку.
А зь неба ў люстры водаў, як багі,
Адсьвечваюцца белыя аблокі.
Вуса, Вуса! Ці помніш, як вясной
Тваім я захапляўся ледаходам?
А ўлетку у вабдымкі плынных водаў
Ныраў і дна кранаўся галавой?
Ці помніш, як па коўзкай гладзі лёду
На спрытных коўзьнях бегаў я зімой?

**9**

Ці помніш?.. Ад ракі ідуць прысады
На ўсход. Там бачна Шылава гара.
Туды калісь я бегаў на агляды
Высокіх хвояў, што пасталі ў рад.
Чуў іхны звон. І быў бясконца рады,
Калі ўзабраўшыся на хвою, пазіраў
На шыр палёў, на пышнасьць даляглядаў,
Дзе перад гэтым краскі я зьбіраў.
Тут восеньню, вясной, зімою, летам
Па два-тры тыдні я бываў штогод.
Да дзеда ў госьці прыязджаў. Турбот
Улетку больш за ўсё было — палетак
Карцела кажны абыйсьці; і от —
Мне сталася найлюбым мейсца гэта.

**10**

Тут, трэ' сказаць, я гадаваўся, рос,
Дармо, што змалку строга і няміла
Мяне кідаў па іншых мейсцах лёс.
Бо толькі тут мяне зямля ўспаіла
Жывой вадой; багацьцяў ейных плёс

Уліў у грудзі моцы плынь і сілы,
Маю душу да самых зор узьнёс,
Ёй даў узьлёт і даў Пэгаса крылы.
З маленства сэрца толькі тут маё
Любоў да краю роднага адчула.
За вёскай зь дзедам быў парой; кранула
Мяне — ён ведаў — ніваў тхнень, гаёў,
«Унучку, глянь,— казаў дзядунька чула,—
«Усё, што бачыш — наша, ўсё сваё».

**11**

І я праходзіў праз палі, празь нівы —
Сем год было мне (Хутка годы йшлі!)
Купаўся ў моры збажыны шумлівай
І прыпадаў грудзямі да зямлі.
Прыкладваў вуха да яе — чульліва
Я адчуваў, як сокі там цяклі,
Як выплывалі напаверх імкліва,
Як травы ў гуках, чутных мне, расьлі.
І думаў я аб тым, каб тыя гукі
Сабраць і у вадзін зьвязаць клубок,
Напоўніць імі любы мой куток —
Тады ня бачыў-бы ні зла, ні мукі.
(Такі зь мяне маленькі быў прарок,
Які ня знаў ніякай шчэ навукі).

**12**

Суладнасьць сьвету — бы увесну сад
Была ў маіх вачах у тыя годы.
І ейная прывабная краса
Мяне запаланіла назаўсёды.
І я — драбочак сьвету — скмеціў сам,
Што кажны ейны пэрл — то дар прыроды,
Што кажны ейны чар — жыцьцю пасаг
І лек духовы ў жоўцьныя нягоды.
Мне люба ўсё было: і лес, і луг,
І шапаценьне тхненнае расьцінкі,
І мігаценьне срэбнае расінкі.
Быў велічным сусьвету кажны рух —
І згодныя жывой істоты ўчынкі,
І сонца ўсходзячага зыркі круг.

**13**

Любіў вясной глядзець у сінь нябёсаў,
Раскошай дыхаць іхнаю, калі
Па ціхім моры вышыні дзівоснай
Хмурынкі лёгкія, як пух, плылі;
Калі ў мой край на крыльлях веснаносных
Ляцелі стройным клінам жураўлі...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вясна прайшла. А восень стрэла сумна.
Урэзаліся ў памяць тыя дні:
З тужлівым крыкам птушкі ў вышыні
Ляцелі ў вырай над пустэчай гумнаў.
«Нядобрае прарочаць штось яны»,—
Казалі людзі, глядзя ў выш задумна.

**14**

А потым?.. Пачалося і пайшло...
Зямлю [1] ўшчала разбойніцкая зруха.
Бы град, людзкія галавы далоў
Крывавая сыпнула завіруха.
Нямала ейны меч злажыў галоў.
І чалавек ёй кажны быў — што муха,
Муку жуды сьмяртэльны млын малоў,
Драпежная крышыла косьці скруха.
Нясьцерпным пеклам стаўся белы сьвет,
Яго зямля — суцэльнай дамавінай.
На кажным кроку — гнеў, разбой злачынны
І ўчынцам гэтага — разгульны фэст;
Куды ня ступіш — сьлёзы, кроў нявінных
І сыты чорным груганам абед.

**15**

Тады я страціў бацьку, страціў маці.
Я быў зь дзяцей старэйшым — меў тады
Пятнаццаць год. Са мной — шчэ трое ў хаце —
Сястрыца меньшая і два браты.
Што мелі мы? А шмат што — і няшчасьце,
І холад, голад — дзень не безь бяды,
І недавер вакольны, і праклясьце
Бяз дай прычыны — на усе лады.
Мо, гэта шмат каму не да спадобы,
Але з маленства лгаць я ня прывык —
Абману скрух мой голаў не панік.
Хто стрэў той кон, што я — той знае добра
Што ў век мой зьведаў селянін-мужык
І ўнук дасконны дзеда-земляроба.

**16**

На собскім целе ранаў зьнёс нямала.
Штодня дурманіў розум дымны чад
І злыбяда ў слату, у гразь таптала;
Сягаў нераз і мне крывавы кат
Адсекчы голаў. Мой узрост нясталы
Заменіваў расправу на нагляд.
Так сілаў шмат згубіў. Наканавала
Мне доля жыць, як бачна ўжо, няшмат.

---

[1] Так пададзена ў час. «Новы шлях» за № 24 ад 1943 г. Магчыма, трэба чытаць «вайну» — **С. Адамовіч.**

Пяклі агнём мяне пакутаў шчымы,
З грудзей юнацкую смакталі кроў,
Забралі моц, што я ў жыцьці знайшоў,
Але-ж ні ў летні вар, ні ў холад зімаў
Ім не аддаў нязрадную любоў
Да роднага людзтва і да радзімы.

**17**

Цяпер ні далеч, ні сыры туман
Ні шэрых вечароў, ні мутных раньняў,
Ні хараства чужога хітры зман
Любові той ня ўзяў і ўзяць ня ў стане.
Крывіч — радзімаю назоў мне дан!
Я рад, я ганаруся гэтым званьнем,
Усім сабой людзтву свайму аддан,
Такім я быў і буду да скананьня.
Заўжды — ці я за працаю цяжкой,
Ці між сяброў, пры радасьці удзеле,
Або хваробай кінуты ў пасьцелю —
Успамінаю кут каханы свой.
Заўжды — пакуль пачуцьці не зьнямелі —
Жыву і дыхаю, мой Край, табой.

**18**

Мой дарагі! Тваіх глыбінь крыніцы
Гаілі раны ў сэрцы мне няраз.
Каб ня было цябе, даўно я ніцма
Зваліўся-б долу ў непамысны час.
Калі-б ня ты — калючая кастрыца
Нягодаў выела-б мне вочы ўраз.
І толькі там, дзе ты, я змог напіцца
Жыцьцёвых лекаў, як і кажны з нас.
Цяпер ці мала болесьцяў сьцішае
Мне аб табе на'т добры успамін.
Заўсёды ты са мной — я не адзін.
Які шчасьлівы той, хто адчувае,
Што ён адданы Краю свайго сын —
Яму жыцьцё і сілы прысьвячае!

**19**

Якой-жа бачу я зямлю тваю
Цяпер, мой Край? Яна — уся на ранах.
Паблекла, веліч страціўшы сваю,
І хараство, што так было каханым.
Манголец, акрывавіўшы зямлю,
Нікім сюды ня прошаны, ня званы,
Айчыну найдарожшую маю
Зноў хоча нішчыць гвалтам нястрыманым.
Жадае ён крыві, вязьніцаў, крат,
Ня можа жыць ён без агню, бяз войнаў.
Ён хоча зноў вярнуць закон разбойны.

Чаму-ж, чаму маўчыш, мой родны брат?
Хіба хапае сіл глядзець спакойна
Як рэжа цела Краю твайго кат?

## 20

Рухомы моцных прадзедаў крывёю,
Нядужасьць я адольваю парой.
Яшчэ ў руках магу ўтрымаць я зброю,
Яшчэ жыву, валодаю сабой,
Ня буду больш праймаць сябе тугою,
А з высака узьнятай галавой
Зь нястрымнаю крывіцкаю сям'ёю
Змагарна выйду у вапошні бой.
Сама сабой да нас ня прыйдзе воля,
Сама сабою зь неба не зьляціць.
Калі зьняволеным ня хочаш быць,
А хочаш жыць — выходзь на бітвы поле!
І вольнасьць толькі зможам мы здабыць
Змаганьнем збройным, моцным, як ніколі.

## 21

Ня лёгкім будзе бой. З крыві, з агня
Ня кажны выйдзе цэл. Шмат з нас паляжа.
Магчыма, там складу свой голаў я,
Але ня трусам — войнікам адважным.
Мы зброяй — родам даўняга кап'я —
Перад сусьветам сьцьвердзім і дакажам,
Што слаўная крывіцкая сям'я
Сіл досыць мае на загубу ўражжу.
І не дарма сваю мы кроў пральлём
І не дарма складзем свае ахвяры.
Усё, аб чым з нас кажны сьніў і марыў,
Калі ня нам — нашчадкам прынясём!
І неба Крыўі не зацемраць хмары,
І тор жыцьця не зарасьце быльлём.

## 22

Заціхне бой. За намі — перамога!
І новы дзень усходняя зара
Народзіць. Дзень той абяцае многа...
Цяпер і ў прышласьць зазірнуць пара.
Для Крывіча, а не для трутня злога
Нясець яна і моц і плён дабра,
К сабе і кліча й вабіць маладога
Прарока і паэту-змагара.
Як сымбаль вечнага жыцьця, зазьзяе
Над Крыўяй вольнай сьветланосны зьніч.
Зямля на Пяруна ўладарны кліч
Адкажа спорнай працай і ўраджаем.
І бяз чужое ласкі — сам Крывіч
Гаспадаром здалее быць над Краем.

## 23

Каб чэрпаць веду і навукі дар,
Сваіх дзяцей пашле ў свае ён школы,
А кажны вучань — будучы змагар,
Што не аддасьць мангольскім гордам волі.
Ня зломіць больш яго варожы ўдар.
Абыйдзе ён лясы, абыйдзе долы,
Усё — на'т дзіўных таямніцаў чар —
Ён падпарадкуе сабе наўкола.
Узьняўшы бел-чырвона-белы сьцяг,
Ён з войскам собскім, дружным і адзіным
На варту стане любае айчыны.
І сьціхамірыцца маскаль і лях,
І не кране нас ліхадзей злачынны.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

## 24

І ён, той сьветлай прышласьці усход,
Перад вачмі маймі гарыць нязгасна.
Магуты, славы, вольнасці прыход
Нязломнай Крыўі — сонечны і ясны.
Яго ў баях здабудзе мой народ.
Шлях будзе вольны — і на ўзьлёце часу
Прыймчыцца ён у Край безь перашкод
На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса.
Заўсёды бачыць прышлы дзень найперш
Натхнёны Музаю юнак-паэта.
Хоць ён юнак, а ў Край, вясной сагрэты,
За іншага старога верыць лепш.
І толькі з думкаю і зь верай гэтай
Я сьведама пускаю ў сьвет свой верш.

Рыга, 2.5— 29.10.1943 г.

Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў да друку **Славаміра АДАМОВІЧА.**

Карта-схема суадносін этнаграфічных і



...літычных межаў Беларусі ў 1921—1926 гг.





**М. Сіліановіч.** Салдат з хлопчыкам. 1866 г.

# У ПОШУКАХ НЕПАЎТОРНАСЦІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



*Імя пісьменніка і публіцыста Юркі Віцьбіча добра вядома на эміграцыі. І не толькі беларускай, але і рускай: на працягу многіх гадоў ён стала супрацоўнічаў з самай папулярнай газетай рускамоўнага замежжа «Новое русское слово», што выдаецца ў Нью-Йорку, надрукаваў там пад псеўданімам Ю. Стукаліч больш за 200 артыкулаў, фельетонаў, эсэ, якія так ці інакш датычаць Беларусі, яе гістарычнай мінуўшчыны. Яго імя было вядома ў свой час і ў нашай рэспубліцы: сябра літаратурнага згуртавання «Узвышша», ён выдаў дзве кнігі прозы «Смерць Ірмы Лаймінг» (Мн., 1932) і «Формула супраціўлення касцей» (Мн., 1937), вакол якіх ішлі на старонках друку гарачыя спрэчкі,— у іх прынялі ўдзел М. Лынькоў, М. Клімковіч, А. Александровіч і інш.*

*Нарадзіўся Юрка Віцьбіч (сапраўднае яго імя і прозвішча Георгі Шчарбакоў) 15 чэрвеня 1905 г. у г. Вяліжы ў сям'і праваслаўнага святара. Вучыўся ў гімназіі і педтэхнікуме. У 1922—1933 гг. працаваў у Маскве на хімічных заводах. Першае апавяданне надрукаваў у 1929 г. на старонках «Узвышша».*

*Юрка Віцьбіч пазбег рэпрэсій, якія абрынуліся на беларускую інтэлігенцыю ў пачатку 30-х гадоў, але калі Беларусь акупавалі фашысцкія захопнікі, з'явіўся ў Менску, актыўна ўключыўся ў супрацоўніцтва з новымі ўладамі, быў абраны членам так званага Цэнтральнага ўраду Беларускага культурнага згуртавання, часта выступаў у друку з артыкуламі асветніцкага характару. Ён быў прызначаны рэдактарам «тоўстага» літаратурна-мастацкага часопіса «Узвышша», які меўся выдавацца ў Менску, але, здаецца, так і не выйшаў.*

*Калі пад націскам савецкіх войскаў адступілі з Менску немцы, адступіў разам з імі і ён. Жыў некаторы час у Германіі, потым пераехаў у ЗША.*

*За мяжою змясціў у перыядычным друку («Запісы», «Конадні», «Бацькаўшчына» і інш.) шэраг артыкулаў і апавяданняў: «У пошуках Альгердава шляху», «Над возерам Шпірдынг», «Вышэй галаву, Дубавец», «Так станецца...». Выдаў ён там і дзве кнігі мастацкай публіцыстыкі «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман» (Мюнхен, 1956) і на рускай мове «Мы дойдем» (Нью-Йорк, 1975).*

*Памёр Юрка Віцьбіч у 1975 г., пахаваны на могілках праваслаўнай парафіі св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры, яго імем названа бібліятэка ў Беларуска-амерыканскім грамадскім цэнтры «Белэр-Менск» пад Нью-Йоркам.*

**Барыс САЧАНКА**

Юрка ВІЦЬБІЧ

# ПЛЫВЕ З-ПАД СЬВЯТОЕ ГАРЫ НЁМАН

МАСТАЦКІ НАРЫС *

## II

Калі параўняць паміж сабой мапы Беларусі ад 10 ст. і да сучаснасьці, можна побач з шматлікімі гістарычнымі назовамі, якія захаваліся да нашых дзён, заўважыць і шмат гэткіх, паўз носьбітаў якіх абыякава цяпер праходзіць картограф. Яны або заняпалі, ператварыўшыся з магутных калісьці гарадоў у маленькія вёскі, або зусім зьніклі. Іхні лёс нагадывае часам лёс Ігуменскага возера, што высахла бязь сьледу, а ў 1798 г. у ім ледзь-ледзь не патануў швэдзкі кароль Карл XII, або лёс возера Салаты ў Горадзенскай пушчы, якое ў вадну з рабінавых ночаў 1841 г. пракапала сабе канал даўжынёю ў 15 кілямэтраў ды выцякла дарэшты праз рэчку Ратнічанку ў Нёман. А часам падобныя яны да рэчкі Паніклі ў Вокаўскім лесе, якая ў сваёй хуткай плыні чатыры разы зьнікае пад зямлёй і кажны раз нараджаецца зноў чыстымі крыніцамі і бяжыць да ракі Мяжы, каб, спалучыўшыся зь ёю, трапіць у Дзьвіну. Таму перш чым перайсьці да Туравае Студні і Трапы Траяна, да Магілы Міндаўга і Альгердавага Шляху, мы ня можам амінуць гэтых напоўзабытых сялібаў, атуленых гарадзішчамі, курганамі і славай, тых якраз сялібаў, аб гісторыі якіх трапна зазначыў у часы нашага адраджэньня незабытны Карусь Каганец:

«І на гэтай нашай зямлі спрадвеку нашы дзяды-прадзеды жылі, каторыя ня раз Грэкамі, Немцамі і Рымлянамі трасьлі... А мы?

Мы — ня знаю, хто мы такія...»

У 50 кілямэтрах ніжэй Дзьвінску амывае Дзьвіна ўзвышша Герзак, на якім абы-дзе захаваліся зямляныя наспы. Гэта ўсё, што засталося ад калісьці магутнага Гэрсіка — фарпосту Палачанаў у змаганьні зь мечнікамі. Але й сяньня мы чуем запісаны ў 1206 г. хранікёрам Генрыкам і падобны да лябедзінае песьні плач апошняга тутэйшага князя Ўсевалада:

«О, Гэрсік, любы горад, о спадчына маіх бацькоў! Лепш не нарадзіцца мне зусім на сьвет, чым бачыць пажар майго гораду і зьнішчэньне майго народу» (...)

На Магілёўшчыне загубілася ў лясох ціхае мястэчка Галаўчыно. Гэта колішні горад «Голотечск», дзе ў 1071 г. Усяслаў Вялікі змагаўся з Уладзімера-Валынскім князем Яраполкам. Тамашнія захавалі паданьне, што за даўнія часы іхняе цяперашняе мястэчка налічвала 15 цэркваў і 100 кузьняў.

Паблізу адзін ад аднаго знаходзяцца ў паўночнай Віцебшчыне сяло Емянец і мястэчка Езярышча. Праз горад Емянец праяжджаў у 1245 г. Аляксандр Неўскі. Езярышча, як багаты і вялікі горад, прыгадваецца і ў «Кнізе Вялікі Чарцёж» І. Грознага і запісах Райнгольда Гайдэнштайна, сакратара Сьцяпана Батарага. Калі з прычыны Лівонскіх войнаў Емянец заняпаў, дык на зьмену яму і часткова запазычыўшы ягоны назоў, паўстаў у 15 стаг. горад Невель, празь які цячэ рэчка з цалкам запазычаным назовам Емянка. Ад колішняга Езярышча захавалася, акрамя назову, старажытнае гарадзішча на высьпе аднайменнага возера.

На Сеньненшчыне на паўвысьпе возера Стрэжаў бадай нічога не засталося ад Стрэжава — гораду, які належыў унуку Усяслава Вялікага князю Рагвалоду, што спакінуў па сабе слынны Рагвалодаў камень. Толькі ўзьбярэжная вёска Стрыжва нагадывае сваім назовам далёкае мінулае. На Смаленшчыне былі гарады Жэчыцы, Капсля, Сьвіркалучча і Зарой. І Жэчыцы і вельмі багатая калісьці Капсля, што прыгадваюцца яшчэ ў «Расьціслававае Грамаце» 1150 г., дайшлі да сучаснасьці, як сёлы. Сьвіркалучча таксама ператварылася ў сяло Сьвіркавы Лукі. Зарой, што знаходзіўся на мяжы

* Раздзелы з кнігі друкуюцца паводле выданьня: Юрка Віцьбіч. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман. Мастацкі нарыс. Частка І. Мюнхен: Выдавецтва «Бацькаўшчыны», 1956.

Смаленскага княства, заняпадаючы паступова, як горад, спачатку стаўся сялом Зарытае, а потым тутэйшыя абшарнікі пакінулі яму сваё прозьвішча — Корсіка.

Мястэчка Любань над ракой Арэсай зьяўляецца водгукам вялікага гораду Любашаны, падобна таму, як сяло Кукарава на Ігуменшчыне ёсьць сьлед вялікага гораду з тым-жа назовам. Ад таго гораду засталося мноства паганскіх і хрысьціянскіх магільнікаў, на якіх вялізарныя каменныя крыжы ад часу і вагі напалову правалiліся ў зямлю. І паміж магільнікамі ляжаў пры дарозе камень Пястун. Ён невялікі, але ў народзе існавала паданьне, што ўсе тыя, хто паспрабавалі патурбаваць ягоны супакой, адразу гублялі зрок. На Піншчыне, на вузкай паўвысьпе возера Нобель, зь якога пачынаецца рака Струмень, можна заўважыць сьляды гораду Міндоўга Нобель і дагэтуль існуе на беразе мястэчка з аднайменным назовам.

Паблізу ад цяперашняга Рагачова былі ў старасьвеччыну аж два вялікія гарады — Лучын і Хлепен. Першы дайшоў да нас, як сяло Лучына, у вакалічнасьці якога знаходзіцца больш за 100 курганоў і 2 гарадзішчы. Хлепен ня менш чым раней вядомы, як Жлобін. Яшчэ ў 1189 г. прыгадваецца стары Брагін, калі кіеўскі князь Рурык на вясельлі свайго дзесяцігадовага сына з васьмігадовай Верхаславай, дачкой Суздальскага князя Ўзяслава, даў маладым «дары многи и город Брагин». Пазьней у 17 ст. тут у маёнтку Гарадзішча, у палацы князёў Вішнявецкіх упяршыню абвесьціў аб сваім царскім паходжаньні Зьмітра Самазванец, аб чым сьветчыць уцалелы надпіс на камені каля фантану. У часе казацкіх войнаў Брагін дарэшты зьнішчылі Палякі, помсьцячыся за тое, што ён падтрымаў Нябабу, Напаліча і Хвэську. Гэтае зьнішчэньне, як і наступнае адраджэньне, знайшлі адбітак у творы славутага ўзвышэнца Ўладзімера Дубоўкі:

Няма дзяцюкоў тых, дзяўчыны няма,
а вырас на беразе Брагін.
Навокал мястэчка — істужкай рака,
назвалі Брагінкаю людзі,
ня кіне яна на паноў наракаць,
да помсты і звала і будзе.

Калісьці ў Віцебску на Сёмуху каля бабінцу Чорнае Тройцы, што на Пескавацiку, давялося мне пачуць сьляпога старца-лерніка. Адсунуўшы назад торбу, перабіраючы пальцамі левае рукі клявішы і круцячы правай корбу, ён у такт лерным гукам пяяў:



Невельскі стод.

Падымалісь чорны хмары,
Неба пакрывалі.

І пяяў ён няголосна, і самы голас, падбіты старасьцю, дрыжэў, але гэтулькі пачуцьця ўкладаў музыка ў сваю песьню, што, здавалася, ягоныя нявідушчыя вочы бачаць і хмары, і полымя, і даўную зацятую бітву. І можа ні адзін наш музычны інструмант гэтак не адпавядаў ягонай песьні, як задуменная засмучоная лера.

Прыхадзілі злы Татары,
Пад Крычавам сталі.

Даўно ўжо парасла пустазельлем магіла таго дзеда. Ніхто ня пераняў ягоную забароненую леру. Аднак усёроўна досыць толькі прыгадаць сваю краіну, як загучыць у душы бясконца, зачэпляная ў ёй калісьці лернікам, струна:

Запалілі стары Крычаў,—
Канцы запалілі...

А ён запраўды стары. Паводля навуковых прыпушчэньняў і народных паданьняў, Крычаў заснавалі яшчэ Крывічы — людзі аднае крыві, надаўшы яму сваё імя Крывічаў. Зь цягам часу назоў гэты зьначыўся, але як ужо зазначана ў дачыненьні да гораду Невялю і рэчкі Емянкі ды вёскі Стрыжва і возера Стрэжаў, менш за ўсё падлягаюць зьначаньню назовы рэкаў і вазёраў. Таму рэчка з двума назовамі — Крычаўка або Крывічанка, што, працякаючы праз Крычаў, у ім далучаецца да Сожу, пацьвярджае верагоднасьць і навуковых прыпушчэньняў і народных паданьняў. А ў іншым паданьні, што сьцьвярджае, нібы горад



Тураў.

атрымаў свой назоў ад крыку Татараў, можа акурат адбіваецца той час, калі ён згубіў сваё ранейшае імя. Аб старасьвеччыне гораду сьветчыць яшчэ і царква ў імя прарока Ільлі, пабудаваная на месцы мольбішча Пяруну, і падзямельныя ходы-лёхі, мураваныя з трывалае цэглы, якія ідуць ад колішняга замку пад Сож. Аб Крывічох, акрамя Крычава, нагадвае таксама вялікае сяло Крывічы, што шырака разьляглося ў Наваградчыне паміж лукавінамі Нёману. І нарэшце некаторыя гісторыкі даводзяць, што другі вядомы назоў Ніжняга замку ў Вільні — Крывы, які не адпавядае ні тапаграфіі мясцовасьці, ні пляну ягонае пабудовы, зьяўляецца зьначаньнем першапачаткавага назову — Крывіцкі.

Аб Дрыгвічох, частка якіх зь невядомае прычыны адкалолася ад свайго плямя і, трапіўшы на Балканы, спакінула свой сьлед у назове ракі Драгавіцы, сьветчыць на Беларусі стары Драгічын. Цяпер гэта маленькі горад над Бугам, а калісьці зьяўляўся заходняй сталіцай Дрыгвічоў — людзей, што пасяліліся на балотах, на дрыгвах. Тут у 1238 г. князь Даніла перамог крыжакоў, тут у 1274 г. пасьля зацятага змаганьня ўсё зьнішчыў і спаліў князь Тройдэн. І тут цяпер ціха. Навет рэшткаў не захавалася ад старадаўняе тутэйшае сьвятыні — царквы Божае Маці. Толькі сіні Буг, падмываючы штогод усё больш і больш Замкавую Гару, якая на 45 сажняў уздымаецца над ім, агаляе ейныя лёхі.

Яшчэ «Повесть временных лет» зазначае, што «два браты Радим, а другой Вятко... и пришедша седоста Радим на Сожу». Ня дарма таму глыбокі Сож мянуецца ў тагачасных летапісах, як «Путь на Радимиче». Аднак калі ўсе іншыя плямёны стварылі свае собскія княствы, дык колькасна нешматлікія, у параўнаньні зь імі, Радзімічы,— людзі родныя паміж сабой — свае дзяржавы не займелі. «Пачатны летапіс» сьцьвярджае, што Алег у 885 г. прымусіў іх плаціць, акрамя Хазараў, даніну і яму. У 984 г. іх перамог на берагох рэчкі Пясчанкі, а ў той час ракі «Пішчаны» кіеўскі ваявода Воўчы Хвост. Сяньня толькі маленькае мястэчка Радомля зь вялізным старажытным гарадзішчам сьветчыць сваім назовам аб Радзімічах і, паводля навуковых прыпушчэньняў, зьяўлялася іхняй сталіцай. Аднак беларускі народ у сваім фальклёры перахаваў шмат паданьняў аб сваіх продках — Радзімічах.

Наш навуковец Аркадзь Смоліч першым ужыў у сваёй «Геаграфіі Беларусі» назоў — Радань — у дачыненьні да тае часткі Беларусі, дзе жылі калісьці Радзімічы. Падмурак гэтаму назову паклаў другі наш выдатны навуковец Аўдакім Раманаў, які для сваіх мастацкіх твораў навет абраў адмысловы псэўдонім — Радзіміч. Пазьней гэты назоў прапагавалі Зуэмюль і Пачопка, якія для тых, хто зь імі сустракаўся або чытаў іхнія творы, зусім не зьяўляліся напоўанэкдатычнымі асобамі, а добрымі патрыётамі. І хочацца думаць, што гэты новы геагра-



Вільня. І-я палова XIX ст.

фічны назоў — Радань — у дачыненьні да тае часткі сучаснае этнаграфічнае Беларусі, дзе калісьці змагалася і працавала жменька родных паміж сабой людзей, станецца нарэшце агульнапашыраным і дарагім для ўсіх Беларусаў.

Калі думаеш пра Ноўгарад-Севярскі, які чамусьці на сучасных мапах апынуўся паза межамі этнаграфічнае Беларусі, дык адразу прыгадваецца з «Пачатнага Летапісу» — «Сели на Десне и па Семи и па Суле и назвалися Севера». Гэта тыя Севяране, пра якіх «Повесть временных лет» зазначае: «Радимичи, Вятичи и Север один обычай имяхуть». Потым пад сталым ціскам з боку Полаўцаў і Татараў адбылося некалькі масавых перасяленьняў Севяранаў у зямлю Дрыгвічоў. Пазьней, на бадай што бязьлюдзьдзе, прыйшлі тагачасныя Ўкраінцы. Аднак і цяпер толькі ў самым Ноўгарадзе-Севярскім гавораць паўкраінску, а ў ягонай ваколічнасьці скрозь ужываюць тамтэйшы дыялект нашае мовы, да стварэньня якое прылучыліся калісьці і нашыя продкі — Севяране. Ад Севяранаў таксама паходзяць пашыраныя па ўсёй Беларусі селішчы Сяўрукі, зь якіх найбольшае — мястэчка Сяўрук ляжыць на паўдня ад Гомелю.

Тысячагадовы Тураў па адных дадзеных сталіца Драўлянаў — людзей, што жылі паміж дрэваў, у лясох ды пушчах, па другіх Тураў заснаваў, паводля летапісца Нестара, вараг Тур, які зьявіўся сюды адначасна зь зьяўленьням у Полацку варага Рагвалода. Перш за ўсё трэба зазначыць, што вараскае паходжаньне полацкага Рагвалода сяньня самым грунтоўным чынам аспрэчваецца. Ня менш спрэчна і вараскае паходжаньне тураўскага Тура, калі навет параўняць ягонае імя зь імем больш гістарычна вядомага трубчэўскага князя Буй-Тур-Усевалада. Як прыпушчаюць некаторыя навукоўцы, Тураў займеў сваё імя ад вымерлае цяпер жывёлы тура, зь якіх апошні быў забіты ў 1627 г., і ў параўнаньні зь якім ягоны бліжэйшы сваяк, сучасны «імпэратар пушчаў» — магутны зубар, здаецца за дробным. Ці гэтак ці ня гэтак, ці князь Тур заснаваў Тураў ці ад тура займеў горад свой назоў, але ў цяперашнім Тураве ёсьць і Тур-калодзеж і Турава Гара. Існуе ў народзе паданьне, што Тур-калодзеж, які атрымаў свой назоў ад хрышчэньня ў ім Тура, пазьней Татары, у часе свайго нападу, даверху закідалі груднымі дзяцьмі, і на працягу сямі год пасьля гэтага зь яго, замест вады, крыніцай біла мацярынскае малако. Паводля іншага паданьня Тур-калодзеж мае тры дны: мядзянае, сярэбранае і залатое. Калі прарвецца гэтае залатое дно, дык вада з калодзежу затопіць увесь сьвет. Побач з Туравай Гарой, на месцы даўняга мольбішча Пяруну, знаходзіцца адна з тых 80 цэркваў,



Вільня. Царква св. Параскевы (Пятніцкая).

што былі ў Тураве ў 16 ст. Ільінская, а паблізу ад яе курган Крычаў, назоў якога, як сьцьвярджаюць тураўцы, паходзіць, падобна гораду Крычаву, ад крыку Татараў, і запраўды, паводля археалёгічных дасьледваньняў, ён накапаны за тыя часы. Вакол Турава шмат могільнікаў, курганоў і гарадзішчаў, а паміж імі — Сямірадзец, паблізу якога з Прыпяці выглядаў вялізарны каменны крыж. Існуе паданьне, што яго некалькі разоў спрабавалі выцягнуць з ракі на бераг, але адразу-ж уся Прыпяць пакрывалася крывёю, нібы сьмяротна параненая.

Значны сьлед у геаграфічных назовах нашае Бацькаўшчыны спакінула плямя Велятаў або Люцічаў, якія, паводля дасьледваньняў вядомага навукоўца Шафарыка, мелі за сваю ваяўнічасьць яшчэ мянушку — Ваўкоў. Яны моцна даліся ў знакі і Вікінгам і Франкам, але потым пад цiскам германскіх плямёнаў у цяжкім і няроўным змаганьні зь імі ў сваёй бальшыні анямечыліся, а частка іх пачала пакідаць сваю Заходнюю Прыбалтыку, пасоўваючыся паступова на ўсход. Іхняе імя, як прыпушчаюць, знайшло адбітак ня толькі ў назовах гарадоў, але і ў назове дзяржавы Міндаўга — Літвы.

Існуе цікавае польскае паданьне аб заснаваньні Вільні і паходжаньні ейнага назову. Пасьля паляваньня князь Гедымін лёг адпачываць на маляўнічым узвышшы, пад якім у Вяльлю ўцякае Вялейка. Яму прысьніўся зялезны воўк, што стаяў на гэтым узвышшы, і выцьцё якога, сугучнае выцьцю ста ваўкоў, шырака разьлягалася на ўсе чатыры бакі сьвету. Пад вялікім уражаньнем гэтага сну, Гедымін паклікаў мудрага каплана Ліздэйку, які растлумачыў, што на тым месцы, дзе стаяў зялезны воўк, мае паўстаць магутны горад і слава аб ім, як выцьцё таго ваўка, прагучыць шырака на ўсе бакі сьвету. Пасьля прароцтва Ліздэйкі Гедымін пабудаваў на ўзвышшы замак Вільню, у які й перанёс сваю сталіцу з Трокаў.

Гэтая легэнда знайшла вялікі адбітак у паэзіі, але ня вытрымлівае навуковае крытыкі. Папершае, Вільня вядомая пад гэтым назовам яшчэ задоўга да Гедыміна. Паводля «Летапісу Быхаўца»: «Обяреть собе великий князь Швинторог



Вільня. Касцёл св. Ганны.

местцо на пути, велми хорошо, подле реки Вельи, где река Вильня упадает у Велью, и просил сына свово Скирмонта, абы на тым местцу было жеглище вчинено». Дарэчы, Катэдральная плошча сучаснае Вільні яшчэ ў мінулым стагодзьдзі менавалася далінай Сьвінтарога, дзе яго калісьці пахавалі, а катадральны сабор пабудаваны на месцы мольбішча Пяруну, заснаванага князем Ськірмантам. У сувязі з гэтым некаторыя навукоўцы прыпушчаюць, што Вільня атрымала свой назоў ад Вяльлі і Вялейкі. Падругое, калі прыгадваеш польскае паданьне, адразу дзівіць, што Гедыміну чамусьці прысьніўся польскі «вільк». Між тым, Гедымін, акрамя свае роднае летувіскае мовы, добра валодаў тагачаснай беларускай і ці наўрад ведаў польскую гэтак, каб навет сьніць яе, бо Польшча тады аніякай больш-менш значнай вялічынёй не зьяўлялася.

Нарэшце існуе таксама і больш празаічнае паданьне, што назоў Вільні паходзіць ад звычайных вілаў, якія ў сувязі з рэкамі нагадывае тапаграфія тутэйшае мясцовасьці. Аднак і гэтае не пазбаўленае сэнсу паданьне бледне, калі прыгадваеш, што ў ангельскіх, нямецкіх і скандынаўскіх навуковых крыніцах Веляты-Люцічы мянуюцца, як — Wilzi, Witzi, Wilsi. І больш мэтазгодна прыпушчэньне, што дарагі для нас горад заснавалі крэўныя сваякі Крывічоў — Веляты-Люцічы-Ваўкі.

Паўстаньне Вільні, ейны рост і росквіт не зьяўляліся чымсьці лагодным, аб чым сьветчыць прыказка — Не адразу Вільня станавілася, або навет лаянка — Каб табе хадзіць у Вільню горы капаць. Наш народ будаваў яе з рыдлёўкай у руках і зь мячом за паясом. Таму яна для нас яшчэ больш даражэйшая. І таму мы глыбака верым у прароцтва Уладзімера Жылкі:

«О, Вільня, родная, каханая,
Цябе зальле Крывіцкі рух.»

Пасьля ўспаміну аб Велятах-Люцічах-Ваўкох, зразумела, чаму мае нашая краіна старадаўны Ваўкавыск, пра беларускасьць якога гэтак добра прыгадаў Максім Багдановіч:

«Што «кнігу гэтую раб Божы, дзяк Гапон
Дзеля душы сьпісаў у месьце Ваўкавыску
У рок сем тысяч сто васьмы з пачатку
дзён.»

Адсюль зразумела таксама, чаму на Піншчыне, паблізу ад Струменю ёсьць вялікае і старажытнае сяло Вяляцічы, як ёсьць такое-ж сяло на Барысаўшчыне. Тым навукоўцам, хто бярэ пад сумлеў паходжаньне нашага тэрміну «волат» ад Вялятаў-Люцічаў, трэба прыгадаць, што шматлікія курганы ў барысаўскіх Вяляцічах народ называе валатоўкамі і тут-жа паблізу ад Манастырскага Лесу ёсьць Валатоўкавае поле. Нарэшце нельга ў сувязі зь Вялятамі амінуць Валатоўкі ў Віцебску, дзе, дарэчы, паводля летапісаў, у 1602 г. быў пасаджаны віцяблянамі на кол украінскі казацкі атаман Дубіна, які магчыма вырашыў, што Беларусь надаецца для ўкраінскае экспансіі.

У сувязі з геаграфічнымі назовамі гістарычнага паходжаньня, што маюць дачыненьне да племяў, нельга амінуць трох плямён, зь якіх адной дайшло да сучасьнасьці, як народ. Гэта — Яцьвягі, Дулеба і Лівы.

Ад шматлікага і магутнага калісьці фінскага плямя Ліваў, бязьлітасна перамагаючы якіх, паўстаў Лівонскі ордэн, засталіся толькі некалькі дзесяткаў тысячаў, што жывуць на ўзьбярэжжы Балтыцкага мора паміж Віндавай і Лібавай. Да іхняга заняпаду спрычыніліся Немцы з Расейцамі, і ня дарма дагэтуль Лівы над труной нябожчыка пяюць: «Ідзі з гэтага сьвету ў сьвет вечнае шчаснасьці, дзе цябе ўжо ня ў стане пакрыўдзіць ні Немец, ні Расеяц». Ад Ліваў паходзіць назоў вялікага возера Сьвібла, што ў паўночнай Віцебшчыне паміж Неўлем і Себяжам. Паводля паданьня, пашыранага паміж Беларусамі і Латгальцамі, на беразе возера калісьці жылі ў поўнай згодзе два плямя — Сьвевы і Лівы. Дачка старшыні Сьвеваў пакахала прыгожага юнака Ліва, і бацькі абодвух рыхтаваліся да вясельля. Але зьнекуль зьявіўся багаты Немец і пачаў падарункамі ды пагрозамі дамагацца каханьня прыгожае Сьвявянкі. Бацька яе, каб адчапіцца ад Немца, запрапанаваў яму на працягу аднае ночы пабудаваць праз возера мост. Немец згадзіўся, але калі перад досьвіткам запяяў певень, зьверху зваліўся вялікі двухсажнёвы камень. Мост застаўся недабудаваным, Немец, пад якога шыўся чорт, назаўсёды зьнікнуў, а Сьвявянка пабралася зь Лівам. Дагэтуль возера падзяляе напалам каменная марэнавая града, што мае назоў Чортаў Мост, і ў пачатку якое на беразе ляжыць вялізарны валун. Самое-ж возера раней называлася Сьвеўлівы і толькі зь цягам часу ператварылася ў Сьвібла.

Аб вядомых калісьці Дулебах — суседзях Драўлянаў на поўдні нагады-



Замак у Себежы.

ваюць сваім назовам рака ды сяло Дулеба на Ігуменшчыне. Крыху большы сьлед спакінулі на мапе нашае краіны ваяўнічыя Яцьвягі. Дагэтуль для навукоўцаў паходжаньне і зьнікненьне гэтага вялікага плямя здаецца ня менш цьмяным і незразумелым, чым гісторыя мідзянаў. Розныя навуковыя прыпушчэньні ў гэтай галіне ўсё-ж ня маюць пад сабой належнага падмурку. Дзівіць, што плямя, якое калісьці далося ў знакі ўсім сваім суседзям, бадай не адбілася ў нашым фальклёры. Толькі колішні горад Яцьвяг на Беласточчыне, вёска Яцьвезь паблізу Ляхавічаў на Случчыне, ды возера Яцьвязь на Наваградчыне нагадываюць цяпер аб суворых Яцьвягах.

Прыгадаўшы раней, у сувязі з Драўлянамі, князя Тура, зусім пасьлядоўным зьявіцца пераход да славутых дачкі і ўнука ягонага сябры, а магчыма і сваяка Рагвалода — Рагнеды зь Ізяславам. Яны знайшлі значны водгук ня толькі ў гісторыі, але й у геаграфіі нашае краіны. Падарожжа па гэтых сьвятых для нас месцах лепш за ўсё распачаць зь мястэчка Заслаўя, што на Меншчыне. Гэта ціхае мястэчка на першы пагляд нічым не нагадывае ранейшага гораду Ізяслаў, аб якім прыгадвае яшчэ летапісец Нестар. Аднак, крыху агледзеўшыся, вы адразу пераканаецеся, што ўсё вакол нагадывае Рагнеду ды князя, ад якога яно атрымала свой назоў і які яшчэ васьмігадовым хлапчуком схапіўся за меч, каб абараніць жыцьцё свае маткі. Адначасна вам прыгадаецца, што якраз ад гэтага князя пайшлі з пашанай успаміналыя ў літаратурных і гістарычных помніках — «Ізяславічы» і што аб ім і ягоных спадкаемцах зазначана: «меч изымают Рагваложыя внуки». Месьцячкоўцы пакажуць вам месца, дзе бяз малага 1000 год таму знаходзіўся палац Ізяслава, рэчкі Княгіньку і Чарніцу, а паміж імі гарадзішча княгіні Рагнеды, што чарніцай-манашкай скончыла сваё жыцьцё, Чорную Гару, дзе быў заснаваны ёю манастыр. Яны пакажуць вам на поўнач ад мястэчка лагчыну, што засталася ад высахлага возера Рагнедзь, а на поўдзень раскапаную і зьняважаную Магілу Рагнеды. І нарэшце тут перахоўваўся старадаўны і цудатворны абраз Заслаўскае Божае Маці, што, паводля паданьня, належыў Рагнедзе і перад якім яна малілася.

У Надзьвіньні між маляўнічымі вазёрамі, якіх паблізу амінае рака Дрыса, прытока Дзьвіны, знаходзіцца парослая векавымі дубамі Гара Рагнеды. Паводля народнага паданьня, чэлядзь кіеўскага князя Ўладзімера забіла тут каменным молатам полацкага князя Рагвалода з



Полацак. Відарыс горада з заходняга боку пасля пажару.

сынамі, а потым тут-жа суродзічы пахавалі ягоную дачку Рагнеду-Гарыславу, выконваючы гэтым ейную перадсьмяротную просьбу. Магчыма гэтае паданьне і адпавядае праўдзе, бо калі ў 1866 г. навукоўцы дасьледвалі Магілу Рагнеды ў Заслаўі, дык у знойдзенай і багата звонку аздобленай труне адсутнічаў касьцяк. Затое наступнае паданьне ёсьць усяго толькі прыгожы домысл, у якім аднак адбіліся адвечныя мары народу: скрозь і на Полаччыне і на Віцебшчыне кажуць, што напярэдадні вайны зьяжджае з Гары Рагнеды на белым кані магутны, увесь закуты ў панцыр коньнік. На Дзьвіне-ж, паміж Дрысай і Дзьвінскам, знаходзіцца старажытнае і прыгожае мястэчка Краслаўка. Калісьці гэта адзін з заходніх полацкіх прыгарадаў, які менаваўся Гарыслаўка, у гонар другога імя Рагнеды-Гарыславы, што цалкам адпавядала ейнаму жыцьцю. Паводля паданьня Гарыслава не аднойчы наведвала сваю Гарыслаўку і ў гэтым няма падставаў сумлявацца, бо да прыгранічнага заходняга полацкага прыгараду — гістарычнае Гэрсікі адсюль 70 кілямэтраў, а яшчэ далей, паблізу сучаснага Ашэрадэна, амывала Дзьвіна найбольш заходні з усіх Барысавых камянёў.

На Раслаўшчыне Ізяслаў і Рагнеда знайшлі адбітак у трох геаграфічных назовах — сяло Саслаўль, мястэчка Рагнедзіна і ўрочышча Ляпёхі. Цяперашняе сяло Саслаўль адзначана на мапах 12 ст., як вялікі горад Ізяслаўль. Паблізу ад Саслаўля ў прыгожай мясцовасці на трох рэчках, зь якіх адна Чарняўка сваім назовам нагадывае рэчку Чарніцу ў Заслаўі, разьляглося мястэчка Рагнедзіна. У двох кілямэтрах ад мястэчка знаходзіцца ўрочышча Ляпёхі і адразу-ж прыгадваецца Ляпёха — адзін з прыбліжаных слугаў Рагнеды.

Паміж вялікімі вазёрамі ляжыць горад Браслаў або Братыслаў, які заснаваў полацкі князь Брачыслаў — унук Рагнеды, сын Ізяслава і бацька Ўсяслава Вялікага. Гэта якраз той славуты князь, які спакінуў на гістарычных мапах «Шлях Брачыслава», што йдзе ад Полацку да Ноўгараду, і які перамог кіеўскага князя Яраслава Мудрага.

Паміж нашымі геаграфічнымі назовамі, што прыгадваюцца ў нашым найвыдатным помніку старадаўнага пісьменства 12 ст., «Слове аб палку Ігаравым» і бадай бязь зьменаў дайшлі да сучаснасьці, ёсьць два, якія ўсяляк спрабуюць амінуць або перакруціць нясумленныя навукоўцы. Якраз таму трэба на іх адмыслова затрымацца.



Камень — «пісанік» полацкіх князёў. Дзвіна каля Дзісны.

Некаторыя камэнтатары «Слова» да выразу зь яго «рища в тропу Трояна», або ў перакладзе Янкі Купалы на нашую сучасную мову і больш падрабязна:

«Сьлед Траянавы сочачы, скоры
Цераз полі, даліны на горы!»

прыцягваюць вядомы Траянаў Вал у Бесарабіі, накапаны ў часы рымскага імпэратара Траяна. Паводля новых навуковых дадзеных, гэтая трапа пралягала праз раслаўскія лясы і ў ейным канцы ўзьнікла сучасная Траянава Слабада. Гэта зусім магчыма, бо паза гістарычным Траянам і ягоным валам у нашай старажытнай мове існаваў тэрмін «траян», што ўжываўся ў дачыненьні да здагадлівага, здатнага, выдатнага чалавека, якім зьяўляўся прыгаданы ў сувязі з трапой князь Алег Гарыславіч.

Далей «Слова» ў сувязі з Усяславам Вялікім зазначае:

«І скочыў праз поле і лог
К Нямізе з Дудутак ваўком».

Колішнія Дудуткі захаваліся да нашых дзён, як мястэчка Дудзіч, што на Ігуменшчыне. Беларускасьць сучасных Дудзічаў падкрэсьлівае тое, што яны і бліжэйшая ваколічнасьць далі Беларусі Ўладзімера Хадыку, Сымона Баранавых і Ўладзімера Дудзіцкага. Раздушыла скала савецкага катаржніка Хадыку, пакутуе на Калыме Баранавых, на эміграцыі былы канцлягернік Дудзіцкі, якога псэўдонім паходзіць ад родных Дудзічаў і які ў вадным з сваіх добрых вершаў «Маем сілу і край свой» адбіў нязломнасьць нашага народу ў паэтычным звароце:

«Гляньце, край наш цудоўны —
расьпялі й павесілі
на крыжы апляваным...
Як зьдзек такі вынесьці!?»

Імя полацкага князя Барыса — сына Ўсяслава Вялікага і дзядзькі Еўфрасіньні-Прадславы цалкам данёс ад 1102 г. да сучаснасьці горад Барысаў. Ад гэтага-ж князя часткова дайшлі да нашых дзён вядомыя Барысавы камяні з прачулым надпісам пад крыжам:

«Госпадзі, памазі рабу свайму Барысу».

Акрамя назову горад перахаваў і ўласьцівы нашаму народу супраціў захопнікам. Ягоныя шматлікія работнікі не аднойчы сваімі палітычнымі забастоўкамі змагаліся супраць расейскага царызму і той перабудаваў старадаўны будынак тутэйшага замка ў турму. Двойчы паўставаў Барысаў супраць расейскага бальшавізму, і на Чычагоўскіх Батарэях, што ўзвышаюцца над горадам, ляжыць ў брацкіх магілах пасьля паўстаньня 1919 г. і работніцкага галоднага бунту 1933 г. больш за тысячу расстрэляных, пераважна жанчын і падлеткаў. У ваколічных вядомых барысаўскіх лясох змагаліся дарэшты з адвечным усходнім захопнікам Юрка Моніч і Лукаш Семянюк... Старадаўны, вольналюбны



Мсціслаў.

беларускі Барысаў годны свайго старадаўнага слаўнага імя.

Вялікая дачка нашага народу сьвятая Еўфрасіньня-Прадслава, кроў ад крыві і Рагнеды і Ўсяслава Вялікага, акрамя вялікага духоўнага сьледу ў нашай нацыянальнай душы, спакінула выдатны матар'яльны помнік — Спаса-Еўфрасіньеўскі манастыр. Хто толькі не спрабаваў зьнішчыць царкву Сьвятога Спаса — нашую народную сьвятыню? Ейныя фрэскі зьнішчалі езуіты, ейныя сьцены разбуралі гарматы Івана Грознага, Сьцяпана Баторага, Напалеона, Гітлера, Сталіна, але яна, у часе пабудовы якое дойліду Івану паводля народнага паданьня дапамагалі анёлы, існуе дагэтуль. Зьнікнуў бязь сьледу крыж Еўфрасіньні-Прадславы, цудоўны твор Лазара Богуша, аднак ніхто ня ў стане выкрэсьліць яго з народнае душы, дзе ён гучыць, як покліч:

> «Зь мячом Рагнеды, з крыжом Прадславы
> за Маці-Беларусь!»

Ад полацкіх Ізяславічаў пераходзім да князёў смаленскіх, аб якіх нагадываюць сваймі назовамі два гарады нашае Радані — Мсьціслаў і Раслаў. Паводля летапісу, горад Мсьціслаў атрымаў сваё імя ў 1180 г. ад тутэйшага першага князя Мсьціслава Раманавіча, але разам з тым ён ужо вядомы, як Мсьціслаў у «Расцьціслававае Грамаце» ад 1150 г., паводля якое плаціў даніну лісамі. Ад далёкае старасьвеччыны захаваліся тут рэшткі вайсковых умацаваньняў на ўзвышшах — Замак і Дзявочая Гара. Можа ні адзін з гарадоў Беларусі не зазнаў гэтулькі ліха ад Масквы, колькі Мсьціслаў. Назаўсёды ўвайшла ў гісторыю «Трубяцкая разьня» 1654 г., пасьля якой тыя тутэйшыя жыхары, што выпадкова засталіся ў жывых, атрымалі мянушку «мсьціслаўскія недасекі». Затое цар Аляксей Міхайлавіч прысабечыў дадатковы тытул — «князь Мсьціслаўскі», род якіх распачаў сын Альгерда Вялікага князь Лютвені-Альгерд. Раслаў, як сьветчыць летапіс, атрымаў сваё імя ад Яраслава, брата полацкага князя Ізяслава, Пэўне, якраз у сувязі з гэтым паўсталі на Раслаўшчыне горад Ізяслаў і сяло Рагнедзіна. Пазьней горад Раслаў, дарэшты разбураны, зноў закладае Ўладзімер Манамах. Тут захаваліся дагэтуль два тагачасныя ўмацаваньні — Сотнікава Гарадзішча і Бурцава Гара, што некалі называлася Манамахавай. Магчыма пазьней наш народ адмовіўся ад славы Манамаха, якога шапкай каранаваліся Раманавы, і надаў гары сваё, нікім не накінутае імя.

На Нёмне, дзе Меншчына мяжуе з

Ігуменшчынай, знаходзіцца напоўзабытае гістарычнае мястэчка Магільна. Гэты назоў вельмі характэрны для месца, дзе нарадзіліся Міндоўгавічы, як дынастыя. Тут у 1235 г. адбылася лютая бітва войска сына Лютавара і бацькі Міндаўга князя Рынгольда, які паводля сьветчаньня Уваскрасенскага Летапісу паходзіў з полацкіх князёў. У ўсякім разе не ад Лютавара і не ад Рынгольда пайшлі Міндоўгавічы як дынастыя, але яны абодвы заклалі падмурак пад гэтую дынастыю. Войска Рынгольда, што складалася пераважна зь Беларусаў, перамагло пад Магільнай моцную кааліцыю тагачасных украінскіх князёў. Тут меў месца найбольшы ў параўнаньні з усім ранейшым рэванш і за Рагвалода, і за крыўду Рагнеды, і за радзіміцкую даніну Алегу, і за Нямігу, і за палон Усяслава Вялікага і г. д. Дагэтуль мястэчка Магільна, зямля ў якім перамешана з чалавечымі касьцямі, нагадывае суцэльны магільнік.

Ня Міндаўг заснаваў Наваградак, назоў якога паходзіць ад даўняга вайсковага ўмацаваньня-гарадзішча, што значна раней прыгадваецца ў летапісах, як Наваградак Крывіцкі. Затое за Міндаўга гэты старажытны беларускі горад стаўся другой па часе сталіцай аб'яднанае Літвы і ўжо мянуецца Наваградак Літоўскі. Пазьней назоў Наваградка зьначыўся на Навагрудак, што ня выпадкова. Горад ляжыць у цэнтры ўзгор'я Наваградзкі Горб, якога вышэйшы пункт — Замкавая Гара знаходзіцца ў самым Наваградку. Зь яе, ад велічных крушняў старога замку, маляўнічы далягляд пашыраецца вакол на дзесяткі кілямэтраў. Побач з гэтай гарой узвышаецца другая, вядомая ў народзе як Магіла Міндаўга.

Яшчэ за часы Міндаўга нарадзіўся і дагэтуль захаваўся геаграфічны назоў Шайбак Поле ў дачыненьні да ўрочышча, якое знаходзіцца ў 50 кілямэтрах на паўночны захад ад Ліды. Гэта тут Міндаўг перамог татарскую гарду хана Шайбака. Затое сумны лёс пасягнуў назоў гораду Крутагор'е, што зьяўляецца сьветкай славы Ськірмунта, які перамог тут Татараў у 1241 г., праз восем год Міндаўга, а значыцца і нашае. Зь цягам часу заняпаўшы, Крутагор'е набыло імя параможанага і забітага пад ім хана Койдана, стаўшыся вядомым, як мястэчка Койданава, што на Меншчыне. За савецкія часы імя хана зьмяніла імя (...) шэфа чэкістых, і Койданава сталася Дзяржынскам. Аднак калі Койдан ўсё-ж меў гістарычнае дачыненьне да Койданава, дык Паляк па нацыянальнасьці Фэлікс Дзяржынскі толькі тое, што бальшавікі вырашылі ператварыць прыгранічны з Польшчай беларускі Койданаўскі раён у штучны польскі. А яшчэ, магчыма, да перайменаваньня спрычынілася і (...) паўстаньне, вядомае пад назовам Койданаўскае Незалежнае Рэспублікі, якая... нейкі час праіснавала ў 1920 годзе.

Пры ўспаміне аб годным свайго бацькі Гедыміна славутым Альгердзе Вялікім, што «прислонил своё кап'е да Москвы», перш за ўсё прыгадваецца паміж геаграфічных назоваў Альгердаў Шлях. Схэматычны накід яго пазьней зрабіў Райнгольд Гайдэнштайн. Значна пазьней яго дасьледваў А. Сапуноў, але й сяньня можна спазнаць яго па зарослых, але прыкметных прасеках у лясох, па адхонных спусках да рэчак, па перакопах праз узгоркі, па гацях на балатох, па вугальлю ад спаленых вёсак, па знойдзеных абапал яго шышаках і палашах. Ён ідзе ад Полацку паўз мызы Рудні, праз раку Вушач, паўз Мядзьведжае возера проста на Чортаў Мост і, прайшоўшы каля Бахонкавае Гары, губляецца паблізу сучаснага гораду Глыбокага.

Альгердавай Гарой пачало называцца таксама ўзвышша Ламіха ў Віцебску пасьля таго, як Альгерд умацаваў мурамі Узгорскі замак, што на ёй знаходзіўся. Як вядома, Альгерд быў жанаты з адзінай дачкой апошняга віцебскага князя Яраслава і перабудаваў асабліва дарагую для віцяблянаў царкву Дабравешчаньня, што захавалася дагэтуль. У сярэдзіне мінулага стагодзьдзя губэрнатары, перайменаваўшы Альгердаву Гару ў «Ваксал Гару», скарысталі яе для пагулянак. У сувязі з гэтым добры Беларус Н. Нікіфароўскі ў сваёй кнізе «Старонкі зь мінулага Віцебску» абураецца на тых, чые «ногі гэтак лёгка топчуць касьцякі незабытых абаронцаў віцебскае цьвярдыні». У 1882 г. увогуле палову гары скапалі, каб пабудаваць «Окружной Суд» (...) І ўрэшце рэштаў пасьля вайны яе скапалі, каб пабудаваць на ейным месцы тэатр. Між тым здавалася, калі сьцісьнеш у далонях жменьку зямлі з Альгердавае Гары, дык паміж пальцамі зацурчыць кроў нашых продкаў.

**Працяг будзе.**

# ПІСЬМЕННІК-ПАЛЕМІСТ

Так ужо сталася, што шэраг імёнаў дзеячаў нашай літаратуры нібыта выкрасліла гісторыя. Сярод іх — беларускі пісьменнік XVII ст., царкоўны дзеяч, трэці уніяцкі мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі.

У 1574 г. у Вялікім княстве Літоўскім, у радавым маёнтку Рута, які



Іосіф Вельямін Руцкі.

знаходзіўся непадалёк ад Навагрудка, у сям'і Фелікса Вельяміна Руцкага і Багумілы Корсак нарадзіўся сын. Бацькі — пратэстанты, сына ахрысцілі грэчаскім праваслаўным абрадам. І назвалі яго Янам.

Першапачатковую адукацыю Ян набыў у сваім маёнтку, потым вучыўся ў Віленскай школе кальвіністаў. Пасля смерці бацькі ў 1590 г. насуперак волі маці, ён выправіўся ў Прагу з мэтай паступлення ў Карлаўскі універсітэт. Але пасля кароткага знаходжання ў Празе і прыняцця там каталіцтва, будучы пісьменнік едзе ў Вюрцбург (Баварыя) і паступае ў мясцовы універсітэт. Праз тры гады паспяхова яго заканчвае, атрымаўшы званне доктара філасофіі. Далей Ян збіраецца дасканала вывучыць і тэалогію, але маці, якая была кальвіністкай, даведаўшыся, што перахрысціўся і прыняў каталіцтва, настойвала на яго вяртанні дадому. Ні яна, ні апекуны не пажадалі даць Яну грошы для далейшай адукацыі.

У гэты час з Рыма ў Літву праз Вюрцбург вяртаецца айцец Бокса, пракуратар польскай езуіцкай правінцыі. Ён адразу ж зразумеў, якім набыткам для каталіцкай царквы можа стаць Ян Вельямін Руцкі. Айцец Бокса параіў яму паступіць у Рымскую грэчаскую калегію, куды той і пайшоў з «торбай за плячыма і з посахам у руках».

У Рыме Ян Вельямін Руцкі з'явіўся, як паведамляе яго біёграф Рафаіл Корсак, недзе каля 1600 г. У грэчаскай калегіі, згодна з яе статутам, дазвалялася вучыцца, толькі прыняўшы праваслаўны абрад. Пры дапамозе высокаадукаваных уніяц-

кіх місіянераў, якіх якраз і рыхтавала гэта калегія, рымскі папа імкнуўся пашырыць свае духоўныя ўладанні на праваслаўным Усходзе. Руцкі толькі пасля другога папярэджання папы Клімента VIII перад самым заканчэннем грэчаскай калегіі дае абяцанне захоўваць праваслаўны абрад.

Недзе ў 1603 г. Ян Вельямін Руцкі едзе ў Вільню. Тагачасны уніяцкі мітрапаліт Іпаці Пацей не знаходзіць Яну ніякай справы і прапаноўвае яму разам з сынамі віленскага войта князя Радзівіла ехаць за мяжу. Аднак Руцкі выпраўляецца ў родны маёнтак Руту. Але і там ён не затрымліваецца. Моцнае жаданне маці ажаніць яго прымусіла Яна ў хуткім часе пакінуць бацькаўшчыну. Ён вяртаецца ў Вільню, і па намаганню віленскага каталіцкага епіскапа Бенядыкта Войны назначаецца Іпаціем Пацеем на месца рэктара уніяцкай манаскай школы пры Святатраецкім манастыры.

У гэты час Янам Вельямінам Руцкім напісана вельмі важная для разумення яго жыцця і дзейнасці праца «Discursus...» («Разважанні аднаго рускага аб выпраўленні стану грэчаскага абраду, напісаная ў Вільні ў студзені 1605 г.»).

Тут ён піша, што самавольства і загана хрысціянскай дысцыпліны і навукі пануюць ва ўсёй царкве, а таму шмат у ёй ілжэпастыраў і лжэнастаўнікаў, шмат ерасі і расколаў. Не клапоцяцца аб сваёй пастве нават епіскапы. Такое злачынства ў рускай (беларуска - ўкраінскай — І. В.) царкве, як заўважае аўтар, адбываецца па дзвюх прычынах: па-першае, пастыры не валодаюць дасканала царкоўнай навукай; па-другое, ад недасканалага і недастаткова святога іх жыцця. Калісьці, гаворыць далей Руцкі, у грэчаскай царкве квітнелі і навука, і святасць жыцця, яе пісанні правіламі веры прызнавала і Рымская царква. Зараз гэтага, як у грэчаскай, так і ў рускай царкве, няма. Няма ў ёй ні навукі, ні настаўнікаў. Таму, паводле



Герб роду Руцкіх. Перадрукаваны з кнігі: Piekosiński F. Studya, Rozprawy i Materyaly z dziedziny historýi Polskiej i prawa polskiego. Kraków. 1897.

Руцкага, патрэбна ўзяцца за лепшую адукацыю епіскапаў і пастыраў у духу манаскага жыцця. Па дапамогу ж трэба звярнуцца да рыма-каталіцкай царквы, у якой ёсць і навука, і святасць жыцця.

Далей аўтар ставіць пытанне аб тым, якія настаўнікі лепшыя — свецкія ці духоўныя. Каб адказаць, Руцкі звяртаецца да гісторыі беларуска-ўкраінскай асветы. Аўтар прыходзіць да высновы, што неабходныя школы па тыпу езуіцкіх, ордэна Бенядыкта, ад якіх была б і царкве карысць. Адначасова ён выказвае пажаданне, каб моладзь вучылася толькі ў сябе на радзіме.

Падагульняючы свае разважанні, Руцкі пералічвае будучыя здабыткі ад перабудовы духоўнай адукацыі: 1) у манахаў будзе навука і дасканалае жыццё; 2) будуць добрыя духоўнікі і прапаведнікі; 3) адкрыюцца добра абсталяваныя школы, з якіх будуць выходзіць сапраўдныя царкоўныя пастыры і паважаныя дзяржаўныя дзеячы; 4) на епіскапскіх кафедрах будуць людзі, якія ведаюць абавязкі сваёй службы і добра іх выконваюць; 5) адкрыецца шырокая дарога для

дабрадзеяння людзям грэчаскага абраду. Праз усё гэта, заканчвае Руцкі свой «Discursus», «...праславіцца намі імя Бога і ўпрыгожыцца яго святая царква».

«Discursus» — занатаваныя на паперы мары трыццацігадовага Яна Вельяміна Руцкага. У далейшым жа многія думкі, выказаныя ў гэтым сачыненні, ён ажыццявіў у «сваёй практычнай перабудове уніяцкага манаства ў Базыльянскі ордэн» і заснаваў уніяцкія школы новага тыпу.

У канцы 1605 г. Руцкі разам з манахам ордэна босых Кармелітаў Паўлам Шыманам адпраўляецца ў Маскву, і, як заўважае Рафаіл Корсак, некалькі разоў сустракаецца з маскоўскім царом Ілжэдзімітрыем І. Далей Руцкі хацеў ісці ў Персію як місіянер. Але ў гэты час да яго, магчыма, дайшлі звесткі аб смерці папы Клімента VIII, які прымусіў Яна захоўваць праваслаўны абрад. І ён, заехаўшы на некаторы час у Вільню, едзе ў Рым, каб прасіць новага папу Паўла V зняць з яго гэтае абяцанне. З вялікай цяжкасцю Руцкі дасягае запаветнай мэты. Але ён не пажадаў перайсці і ў каталіцтва, вырашыўшы аддаць сябе справе уніі, яе арганізацыі, згуртаванню.

І, нарэшце, у дзень святога архангела Міхаіла, 6 верасня 1607 г., Ян Вельямін Руцкі прымае манаства Базыльянскага ордэна. А ўжо 1 студзеня 1608 г. набывае новае духоўнае імя — Іосіф, пад якім ён і ўвайшоў у гісторыю беларускай літаратуры.

Малады манах Іосіф, рыхтуючыся да прамовы на публічным дыспуце аб веры 8 студзеня 1608 г., друкуе шэсць кароткіх багаслоўскіх артыкулаў пад загалоўкам «Тэзісы аб таемствах царкоўных» («Theses») паралельна на царкоўнаславянскай і старапольскай мовах. Ён абвяргаў ілжэвучэнні ерэтыкоў, у асноўным пратэстантаў, тым самым выявіў сваё веданне і святаайчыннай літаратуры, і пратэстанцкай. Гэты твор, між іншым, уключыў у сваю «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі Вацлаў Ластоўскі.

Пасля смерці Іпація Пацея, Іосіф Вельямін Руцкі 8 жніўня 1613 г. становіцца трэцім уніяцкім мітрапалітам «Всея Руси». А 18 ліпеня 1614 г. папа Павел V зацвердзіў яго мітрапаліцтва. Складзены Руцкім у 1617 г. статут уніяцкага ордэна Святога Базыля быў падтрыманы на сойме прадстаўнікоў уніяцкіх манастыроў.

У пачатку дваццатых гадоў XVII ст. аднавілася літаратурная палеміка між прыхільнікамі уніяцтва і праваслаўя. Асноўныя спрэчкі вяліся паміж Мялеціем Сматрыцкім з праваслаўнага боку і Іосіфам Вельямінам Руцкім — з уніяцкага.

Берасцейскі царкоўны сабор 1596 г. распаўся на два лагеры — тых, хто прыняў унію, і тых, хто застаўся ў праваслаўі. У выніку гэтага частка царкоўнай грамадскасці Беларусі і Украіны падзялілася на праваслаўе і уніяцтва. Спрэчкі паміж імі ў асноўным вяліся вакол пытання — які з двух сабораў правамоцны. Уніяты трымаліся погляду, што справа уніі належыць да іерархіі падпарадкавання рымскаму папе. Праваслаўныя ж абапіраліся на царкоўныя каноны і сцвярджалі, што нельга вырашаць долю беларускай і ўкраінскай царквы без канстанцінапальскіх патрыярхаў. У сваю чаргу уніяты абвінавачвалі праваслаўных у змовах са схізматыкамі (пратэстантамі) і з турэцкім султанам. Турцыя ў гэты перыяд ваявала з Рэччу Паспалітай, а Канстанцінопаль — духоўны цэнтр праваслаўя — з 1453 года быў ужо пад туркамі.

Традыцыйнымі ў палемічных спрэчках былі пытанні аб першынстве Рымскага папы, аб паходжанні Святога Духа, пра чысцец, праснак і квасны хлеб, форму прычасця, пост, пра хроснае знаменне, выкарыстанне абразоў, новы каляндар і іншыя абрадавыя дагматычныя рознасці.

У дваццатых гадах XVII ст. традыцыйны аспект палемік адыходзіць ужо на другі план. Асноўная ўвага акцэнтуецца на абставінах тагачаснага духоўнага і свецкага жыцця Беларусі і Украіны, а таксама на стылістычных прыёмах вядзення палемікі. Гэта якраз можна ўбачыць у працах Іосіфа Вельяміна Руцкага «Sowita wina» («Падвойная віна») і «Examen obrony» («Экзамен абароны»).

Узнікненне літаратурнай палемікі ў дваццатых гадах XVII ст. мела і сваю прадгісторыю. У гэты час працягвалася вайна паміж Рэччу Паспалітай і Турэцкім султанам. Каб заручыцца шчырасцю з боку воінаў праваслаўнай веры, кароль Жыгімонт III падтрымліваў уніятаў у іх духоўнай спробе не падзяліць хрысціянскую рэлігію на два варожыя лагеры і знаходзіць кампрамісы паміж каталіцтвам і праваслаўем. Уніяты лічылі, што абрад з праваслаўнымі ў іх адзін, і таму вышэйшая царкоўная іерархія, якая з 1596 г. належала уніятам, распаўсюджваецца і на праваслаўных.

Маскоўская дзяржава пасля падзення Канстанцінопаля абвясціла сябе «Трэцім Рымам», цэнтрам усёй Русі і праваслаўя. Яна лічыла, што ўсе ўсходнеславянскія землі, дзе ёсць праваслаўныя прыходы, нават у Кіеўскай мітраполіі, падпадаюць пад яе духоўнае кіраўніцтва, бо ад улады царкоўнай зусім недалёка да ўлады свецкай, чаго так хацелі маскоўскія цары. А згодна з каралеўскімі канстытуцыямі 1607, 1609 і 1618 гг. большыя прывілеі ў Рэчы Паспалітай аддаваліся уніяцкім прыходам. І без згоды караля пасвячаць на вышэйшыя духоўныя пасады было нельга.

У 1620 г. па запрашэнню запарожскага казацкага гетмана Пятра Канашэвіча Сагайдачнага ў Кіеве з'явіўся ўпаўнаважаны Канстанцінопальскага патрыярха, Ерусалімскі патрыярх Тэафан, які вяртаўся з Масквы. Ён аднавіў вышэйшую праваслаўную іерархію, пасвяціўшы на занятыя уніятамі епіскапіі без дазволу караля Рэчы Паспалітай новых іерархаў, сярод якіх быў Мялецій Смятрыцкі, пасвечаны на Полацкую архіепіскапію.

Напружаныя адносіны з Маскоўскай дзяржавай, якая варожа сябе вяла ў час польска-турэцкай вайны, скрытая пагроза ад праваслаўнага казацтва і аднаўленне патрыярхам Тэафанам вышэйшай праваслаўнай іерархіі вымусілі караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III сваімі граматамі абвясціць Тэафана турэцкім шпіёнам (вядома, ён з Ерусаліма ў Маскву праз Турцыю хадзіў), а новых іерархаў прыцягнуць да судовай адказнасці за здрадніцтва.

Але асаблівых вынікаў гэта не прынесла. Тады мітрапаліт Іосіф выклікаў Мялеція Смятрыцкага і пасвячонага патрыярхам Тэафанам на Кіеўскую мітраполію Іёва Барэцкага на адкрыты мітрапаліцкі суд у Вільню. Яны на суд не з'явіліся, і ў адказ на несправядлівыя папрокі і ганебныя знявагі Мялецій Смятрыцкі ад імя Віленскага праваслаўнага брацтва выдае кнігу «Верыфікацыя (апраўданне) нявіннасці», якая вытрымала два выданні.

«Верыфікацыяй» Смятрыцкі абвяргаў абвінавачванні, паказаў, якія беспадстаўныя крыўды церпяць беларускі і украінскі праваслаўныя народы. Вінаватымі ў ганебным стане праваслаўных Смятрыцкі лічыў уніятаў, якіх ён называў «гермафрадытамі», «здрадлівымі стральцамі», «патварлівымі вуснамі». Праваслаўны аўтар рабіў вывад, «што унія, акрамя бясконцых прыніжэнняў, абражанняў і здзекванняў, нічога добрага не прынесла і прынесці не можа ні шляхце, ні мяшчанам, ні простым людзям». У адказ Іосіф Вельямін Руцкі ад імя «сходу грамады Віленскай Святатраецкай царквы пры манастыры Базыльянскага ордэна» выдае працу «Падвойная віна».

Зыходзячы з традыцыі, Вельямін Руцкі адразу ж звяртаецца да чытача са змястоўнай прадмовай, у якой

тлумачыць назву свайго сачынення: «Ліха грашыць, але ў граху быць упартым, абараняць яго, указваць, што ён грахом не з'яўляецца — падвойная віна». Ён скіроўвае гэты твор супраць тых, каго «менаваць трэба здраднікамі Рэчы Паспалітай і шпіёнамі цара турэцкага, у час небяспечнай вайны з паганцам». Каб яшчэ больш пакрыўдзіць сваіх супраціўнікаў, уніяцкі мітрапаліт іранічна заўважае: «Раз яны свайму скрыпту такую назву далі, так мы і аўтараў яго: не будзем зваць адшчапенцамі, альбо налівайкамі, бо зараз на праўду гневаюцца, а Верыфікатарамі».

«Падвойную віну» Іосіф Вельямін Руцкі падзяліў на дванаццаць раздзелаў, але ў прадмове яшчэ звяртае ўвагу чытача на своеасаблівую кампазіцыю «Верыфікацыі», дзе «няма ні падзелаў, ні лістоў» і раіць чытачу адначасова са сваім творам карыстацца «Верыфікацыяй нявіннасці», каб «ведаць змест у самім іхнім пасланні». У кожным раздзеле Руцкі канцэнтруе ўвагу на адной галоўнай думцы, якую выносіць у падзагаловак, і потым у барочных традыцыях нанізвае шэраг разгорнутых палажэнняў. Пісьменнік асэнсоўвае падзеі, звязаныя з духоўным жыццём тагачаснай Беларусі і Украіны, абгрунтоўвае свой погляд на гэтыя падзеі і абвяргае ўсе «абароны» свайго апанента, выкарыстоўваючы новыя метады вядзення спрэчкі. Так, ён цытуе «Верыфікацыю нявіннасці», потым аналізуе цытату, яе выкрывае, акцэнтуючы ўвагу чытача на недарэчнасцях стылю, «што асуджае Верыфікатар», і ўжо сваімі довадамі разбівае праваслаўнага аўтара. Адначасова мітрапаліт падрабязна расказвае, як павінна, згодна з законамі «Яго Велічы Караля» і «як вучаць кананісты», адбывацца пасвячэнне.

Уніяцкі пісьменнік робіць экскурс у гісторыю, спасылаецца на Маскоўскую хроніку і заўважае, што ва ўсіх краінах грэчаскага багаслужэння «людзі духоўныя са званнямі і бенефіцыямі сваймі падпарадкоўваюцца панам сваім». «Сапраўды недаразвіты розум у той галаве, якая дыктавала такое фактычнае меркаванне, што ў рымскім багаслужэнні каралі польскія маюць права вылучаць епіскапскія званні, а ў грэчаскім не маюць»,— гаворыць ён. У такой спрэчцы argumentum ad persona, разлічанай акрамя чытача і на таго, з кім вядзецца палеміка, Руцкі не абмяжоўвае сябе ў эпітэтах. Аўтара «Верыфікацыі нявіннасці» ён абражае нават і на лацінскай мове, называючы «прыстасаванцам свайго розуму» («opportet esse memorem»), выкарыстоўваючы ўстойлівы класічны выраз.

У чацвёртым раздзеле Вельямін Руцкі больш змястоўна распавядае, якая ў «Верыфікатара» «дурная смеласць», каб у друк падаваць прыватныя лісты караля і сенатараў. Уніяцкі пісьменнік выказваецца аб простых законах этыкі, што без дазволу асобы, якой належыць аўтарства, друкаваць гэтыя лісты «хаця і публічныя, хаця і вядомыя ўсім... не адважацца друкары».

У трэцім, чацвёртым і шостым раздзелах размова ідзе ў традыцыйным аспекце рэлігійнай палемічнай публіцыстыкі. Руцкі звяртаецца да гісторыі паходжання праваслаўя на Русі, паказвае духоўнае становішча краін з грэка-праваслаўным абрадам, тлумачыць правы канстанцінопальскіх патрыярхаў на беларускіх і ўкраінскіх землях, спасылаючыся на канстытуцыю і духоўныя каноны, накіроўвае ўвагу чытача на кнігу «Абарона адзінства», выдадзеную уніятамі ў 1617 годзе.

Раздзелы восьмы, дзевяты і дзесяты «Падвойнай віны» сведчаць аб тым, што Іосіф Вельямін Руцкі быў дасканалым стылістам. Там ёсць і едкая насмешка, і імкненне да вострых кантрастаў, і тая свабода, з якой адбываюцца скачкі з «высокага» на «нізкі» планы. З тонкім сарказмам ён параўноўвае аўтара «Верыфікацыі» з тым, «хто рад у печы ляжаць, ды каб іншы апёк-

ся». Пісьменнік бязлітасна прыніжае праваслаўных, паказвае, што ў іх «колькі галовак разумных, столькі і вер». Пэўна, Іосіф Вельямін Руцкі мае на ўвазе наяўнасць розных праваслаўных аўтакефалій, бо ніжэй у гэтых раздзелах заўважае: «кажа Верыфікатар»: «Вы (уніяты — І. В.) не рымскага багаслужэння, паколькі інакш набажэнства ў цэрквах адпраўляеце, і не грэчаскага, бо патрыярху грэчаскаму не падпарадкоўваецеся. Дам спачатку апеляцыю: Масква не падпарадкоўваецца патрыярху грэчаскаму, а свайму, які ў Маскве знаходзіцца, таксама і сербы і балгары маюць свайго, а не падпарадкоўваюцца грэчаскаму, але ж не кажаш, што яны не грэчаскага набажэнства... Так і нам,— працягвае Руцкі,— не абавязкова падпарадкоўвацца патрыярхам грэчаскім, бо... ёсць дагмат веры, у які людзі ўсёй хрысціянскай рэлігіі верыць павінны...»

Ва уніяцтве Іосіф Вельямін Руцкі бачыць тую сілу, якая павінна калінебудзь з'яднаць праваслаўную і каталіцкую абраднасць. Але ён, навучэнец каталіцкіх настаўнікаў, перавагу аддаваў каталіцкай дагматыцы.

На сачыненне Іосіфа Вельяміна Руцкага Мялецій Смятрыцкі ад імя «манахаў брацтва Віленскай царквы Святога Духа» адказвае «Абаронай апраўдання», дзе таксама як і Руцкі, выкарыстоўвае тую ж барочную напышлівую мудрагелістасць слоў з мэтай «выкрыцця» свайго асноўнага апанента. Руцкі адказвае новым сачыненнем «Экзамен абароны». Разбіўшы яго на тры амаль роўныя часткі, мітрапаліт ужо ў прадмове пачынае выкрывальную пропаведзь. «Многа слоў, і слоў з'едлівых у «Абароне апраўдання»,— гаворыць Руцкі,— а калі не маеш рацыі, маеш многа слоў». Каб яе аўтар «сабе мудрым не здаваўся, і на людзях каб за мудрага не лічыўся, а па простаму, каб сябе і людзей не падманваў», «мы выдаем наш экзамен і паказваем, якая слабая іх абарона», бо,— абураецца Вельямін Руцкі,— «абаронец «Верыфікацыі» закрануў тыя пытанні, якія нельга закранаць». Хаця «мы і абяцалі, як і цар Саламон, не адказваць дурному на дурноту яго», уніяцкі пісьменнік зноў выкрывае «нявіннасць» Смятрыцкага і зноў, як у «Падвойнай віне», засяроджвае ўвагу на яго стылі: «У брацкай падобна канцэляryi, такі стыль пісання, і то не кожнага брацтва, адно налівайкаўскага». Іосіф Руцкі здзеклівымі эпітэтамі «ўзаемаветліва» параўноўвае праваслаўнага пісьменніка з карчмаром, які «нехрысціянскі аблайвае уніятаў амаль на кожнай старонцы», абзывае «нікчэмным абаронцам». У другім раздзеле Руцкі перыфразай амаль адкрыта ўказвае на аўтарства «Абароны апраўдання» і іншых «скрыптаў ад манахаў Святадухаўскага манастыра». Ён гаворыць, што ўсе «перакручаныя выдумкі» супраць уніятаў ідуць «ад новага Тэолага, ад даўняга Граматыка», намякаючы на агульнавядомы факт напісання Мялеціем Смятрыцкім «Граматыкі славенскай».

«Экзамен абароны» не застаўся незаўважаным з боку праваслаўных. М. Смятрыцкі на яго адказаў новай працай — «Дадаткам...» Пасля яшчэ некаторых пасланняў палеміка паміж уніятамі і праваслаўнымі, у якой удзельнічалі, акрамя Мялеція Смятрыцкага і Іосіфа Вельяміна Руцкага, Тымас Сімановіч, Касьян Саковіч, Мікалай Трызна, Анастась Сялява і іншыя, была завершана.

Літаратурная палеміка стала прыкметнай ужо тым, што ў яе кожным творы пачыналі прасочвацца выяўленне аўтарскай асобы і яе своеасаблівы індывідуальны стыль, нягледзячы на тое, што пісьменнікі выдавалі свае працы ананімна. Хаця аўтары былі духоўнымі асобамі, біблейскі пачатак і цытаванне свяшчэннага пісання ўжо адыходзіць на другі, а то і на трэці план.

Стыль барока садзейнічаў за-

цвярджэнню ў старабеларускай літаратуры не толькі традыцыйных палемічных жанраў — трактата, дыялога, памфлета, паслання, але і з'яўленню новых — «абароны», «абгрунтавання» і «абвяржэння», адным з галоўных стваральнікаў якіх быў уніяцкі мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі.

Руцкі і далей працягваў сваю літаратурную творчасць. Ён пісаў лісты Рымскаму папе, кардыналам, каралю Рэчы Паспалітай, сябрам, сваім падначаленым і пакінуў пасля сябе вельмі багатую эпісталярную спадчыну на старабеларускай, старапольскай, лацінскай і італьянскай мовах, выдадзеную ў асобным зборніку ў Рыме ў 1956 г. У архівах захоўваюцца недаследаванымі рукапісы яго ных цікавых прамоў, сказаных на розных сеймах і публічных пропаведзях.

У канцы жыцця Іосіф Вельямін Руцкі склаў «Testamentum» («Завяшчанне») на лацінскай мове, які выдаў 28 студзеня 1637 г. у Кракаве, за тыдзень да сваёй смерці. Памёр Іосіф Вельямін Руцкі пятага лютага 1637 г. і пахаваны на могілках Віленскага Святатраецкага манастыра. У геральдычнай кнізе Францішка Пекасінскага апісаны герб роду Вельямінаў Руцкіх: у чырвоным полі звілісты блакітны вуж з залатой каронай на галаве, які трымае ў пашчы зялёны яблык.

**Ігар ВОЙНІЧ**

# БЕЛАРУСКІЯ МАРЫЯНЫ Ў ДРУІ

Заснаваны ў 1923 г. Друйскі кляштар айцоў Марыянаў быў першым у гісторыі беларускім каталіцкім кляштарам — беларускім не толькі ў геаграфічным сэнсе, але і па сваёй ідэйнай накіраванасці. У гэтых адносінах ён быў незвычайным, бо не адпавядаў польскамоўнай традыцыі рыма-каталіцкай царквы ў Беларусі.

Заснаванне любога каталіцкага кляштара звычайна адбывалася з дазволу Апостальскага пасаду, які даваўся на просьбу тэрытарыяльна кампетэнтнага епіскапа. Паколькі Друя знаходзілася на тэрыторыі Віленскай епіскапіі, афармленнем заснавання Марыянскага кляштара займаўся віленскі біскуп Юры Матулевіч.

Юры Матулевіч нарадзіўся ў 1871 г. у вёсцы Лугіне, што каля Марыямпаля б. Сувальскай губерні. Паходзіў з літоўскай сялянскай сям'і. Вышэйшую тэалагічную адукацыю атрымаў у Варшаве, Пецярбургу і Фрыбургу ў Швейцарыі. З 1907 да 1911 г. быў прафесарам сацыялогіі і тэалогіі ў Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі. Тут у 1909 г. ён уступіў у ордэн Марыянаў і з гэтага часу працаваў для яго развіцця. У кастрычніку 1918 г. Апостальскі пасад прызначыў Матулевіча віленскім біскупам і адначасова генералам ордэна Марыянаў.

З рухам беларускага адраджэння Матулевіч пазнаёміўся яшчэ ў Пецярбургскай акадэміі, дзе супрацоўнічаў, між іншым, з вядомым беларускім дзеячам Браніславам Эпімах-Шыпілам. У гэты час у Пецярбургу пад кіраўніцтвам Вацлава Івапоўскага дзейнічала выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца», выраслі першыя кадры беларускай народнай інтэлігенцыі, а ў іх ліку і беларускага каталіцкага духавенства.

Будучы віленскім біскупам, Матулевіч быў вымушаны практычна вырашаць міжнацыянальныя пытанні даверанай яму каталіцкай паствы.

Як літовец, ён добра разумеў, што каталіцызм не з'яўляецца «польскай верай», і паслядоўна дапускаў ужыванне беларускай і літоўскай моваў у касцельным жыцці беларусаў і літоўцаў. Сваю пазіцыю біскуп Матулевіч выказаў у лісце да кардынала Гаспары:

«Калі на мяне націскалі, каб я быў супроць беларусаў, тады я адкрыта заявіў: няхай не патрабуюць ад мяне таго, каб я прыгнятаў і пераследаваў у святароў няпольскай нацыянальнасці тое, што бачу хвалёным і ўзнагароджваным у святароў палякаў. Як пастыр, я павінен быць аднолькава справядлівы для ўсіх».

Задума заснаваць беларускі Марыянскі кляштар была адным з першых пачынанняў Матулевіча на віленскім біскупскім пасадзе. Ужо 27 лютага 1919 г. ён прыняў маладога і энергічнага беларускага святара, дарэчы, гадунца Пецярбургскай акадэміі, айца Андрэя Цікоту, якому прапанаваў арганізаваць кляштар. Пад час гэтай сустрэчы Матулевіч запэўніў Цікоту, што будзе спрыяць адраджэнскаму руху, так матывуючы сваю пазіцыю:

1. Задачай царквы з'яўляецца не навучанне мовы, але закону Божага ў зразумелай для народу мове.



а. Юры Матулевіч.

Беларускі народ найлепш пазнае закон Божы, калі ён будзе навучацца ў роднай мове.

2. Беларускі рух адраджаецца і пашыраецца, і калі Каталіцкая царква не выйдзе яму насустрач, то гэты рух пойдзе супроць царквы і будзе яе вінаваціць за імкненне



Друйскі кляштар. Сучасны выгляд.



а. Андрэй Цікота.

да дэнацыяналізацыі беларускага народа.

3. Трэба мець на ўвазе і беларусаў праваслаўных, і колішніх уніятаў, да якіх можна прыблізіцца, прапаведуючы Божае слова толькі ў беларускай мове.

Айцец Цікота хутка згадзіўся з прапановай і матывацыяй біскупа, аднак, будучы прафесарам беларускай каталіцкай семінарыі ў Менску (1918—1920), не мог неадкладна пакінуць заняткі. Толькі ў верасні 1920 г., пасля ліквідацыі семінарыі савецкімі ўладамі, ён уступіў у ордэн Марыянаў у Марыямпалі. Пасля гадавога навіцыяту, восенню 1921 г., а. Цікота быў высланы ў Амерыку для збору сродкаў на планаваны беларускі кляштар.

Тым часам біскуп Матулевіч афармляў у Рыме справу заснавання кляштара. Прапанавалася Друя — мястэчка «на скраю свету», дзе існаваў прыгожы касцёл, пабудаваны ў 1644 г. Казімірам Сапегам, сынам канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі, а таксама старыя напаўразваленыя кляшторныя будынкі. Сваімі рэскрыптамі ад 23 ліпеня і 10 жніўня 1923 г. папа Пій XI дазволіў заснаваць у Друі кляштар айцоў Марыянаў ды перадаць ім касцёл і парафію. Папскі акт фундацыі пастанаўляў, што мэтай дзейнасці друйскіх Марыянаў павінна быць аднаўленне старога кляшторнага будынку, заснаванне школы і навіцыяту для беларусаў — кандыдатаў на манахаў, між іншым, для працы сярод беларускага праваслаўнага насельніцтва.

Як бачым, ідэя, выказаная біскупам Матулевічам у размове з айцом Цікотам, была ўхвалена Апостальскім пасадам, што дало фармальную падставу для яе ажыццяўлення. У палове 1923 г. а. Цікота прыехаў у Друю і пераняў ад мясцовага параха, а. Антона Зянкевіча, парафію, касцёл і яго зямельную маёмасць. З гэтага часу Друйскі кляштар пад кіраўніцтвам Цікоты паступова развіваўся і папаўняўся: у 1924 г. прыбылі сюды а. Язэп Гэрмановіч і Казімір Смулька, у 1925 г.— а. Язэп Дашута і ў 1926 г.— а. Фабіян Абрантовіч. Да Марыянаў далучыўся ранейшы вікарый друйскага параха, а. Віталіс Хамёнак. Папаўняўся і навіцыят: ужо ў 1924 г. ён налічваў 9 юнакоў-беларусаў, якія рыхтаваліся ўступіць у ордэн Марыянаў.

У першыя гады дзейнасці кляштара была зроблена вялікая работа: адноўлены і разбудаваны стары кляшторны будынак, адрамантаваны касцёл, наладжана гаспадарка, у тым ліку адноўлены 60-гектаровы фальварак непадалёк Друі, які пасля ваеннага ліхалецця быў занядбаны, без гаспадарчых будынкаў. Пры гэтым абслугоўвалася парафія ў 5 тысяч душ.

Важнай сферай друйскіх Марыянаў была адукацыя моладзі. Ужо ў 1923 г. тут была заснавана гімназія, якой цэлае дзесяцігоддзе кіраваў супэрыёр кляштара а. Цікота. І хаця ў гімназіі навучанне адбывалася па-польску, але дзякуючы выхаваўчай працы яе настаўнікаў Абрантовіча, Гэрмановіча, Дашуты

і Хамёнка яна выпусціла нямала беларускіх інтэлігентаў. Прыгадаем прозвішчы хаця б Язэпа Малецкага, Антона Цвячкоўскага, Віктара Ярмалковіча ці пазнейшых святароў — Міколу Баговіча, Фелікса Журню, Юрыя Кашыру, Антона і Тамаша Падзяваў, Часлава Сіповіча.

У палове 30-х гадоў друйскія Марыяны купілі ў Вільні дом пры вуліцы Зыгмунтоўскай, 25, куды кіраваліся тыя выпускнікі гімназіі, якія ўступілі ў ордэн Марыянаў і жадалі вучыцца ў віленскай духоўнай семінарыі. Быў гэта Марыянскі дом студыяў — парастак Друйскага кляштара, якім у 1935—1936 гг. кіраваў а. Кашыра і на працягу двух наступных гадоў — а. Гэрмановіч. Вось што аб ім напісаў Гэрмановіч:

«Была моладзь, кіпела праца. Не раз пабывалі ў тым доме беларускія святары, дзеячы, мастакі і паэты. Помню, адведалі нас ксяндзы Ад. Станкевіч, Ул. Талочка, Навіцкі, Семашкевіч (паэт Быліна) і іншыя. Гасцілі ў нас так жа Антон Луцкевіч, Трэпка, Шутовіч, Дубейкаўскі, Максім Танк, Забэйда-Суміцкі. Віленскі беларускі дом айцоў Марыянаў быў сапраўднай клетачкай беларускага духовага адраджэння. Аднак праіснаваў ён толькі 3 гады».

Усе гэтыя здзяйсненні сведчаць аб добрым фінансавым становішчы Друйскага кляштара, хаця, пэўна пра дэталі гаварыць цяжка. У прыватнасці, невядома, якія сродкі прывёз Цікота з Амерыкі, а таксама ці была папская фундацыя. Затое вядома, што кляшторная гаспадарка давала нядрэнны даход. Гэтыя сродкі папоўніла ахвяраванне княгіні Магдалены Радзівіліхі, вядомай з дабрадзейных адносін да беларусаў. Вось жа ў 1916 г. яна ахвяравала на беларускія рэлігійныя мэты дыяментавы нашыйнік, які ў 1925 г. каштаваў 15 тысяч долараў. Значную частку гэтых грошай прынёс у кляшторную касу а. Абрантовіч як свой манаскі пасаг.

Гэтыя сродкі дазволілі Друйскаму



а. Фабіян Абрантовіч.

кляштару не толькі ажыццяўляць прадугледжаныя ў папскім рэскрыпце мэты, але і па-свойму інтэрпрэтаваць: пацціху, неафіцыйна падтрымліваць заходнебеларускую палітычную партыю — Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю. Асабліва значнай была выдавецкая дзейнасць БХД, якая адбывалася не толькі пад шыльдай гэтай партыі. Вядома, такая дзейнасць патрабавала значных сродкаў, якіх хадэцкія дзеячы не мелі.

Паколькі найбольшай праблемай былі кошты друку кніжак і часопісаў, сярод хадэцкіх дзеячоў узнікла задума арганізаваць сваю друкарню. Паводле сведчання Язэпа Найдзюка — аднаго з арганізатараў і шматгадовага кіраўніка друкарні, у 1925 г. паўстала ў Вільні ціхая суполка, у склад якой увайшлі чатыры асобы: а. Адам Станкевіч, а. Вінцук Гадлеўскі, Фабіян Ярэміч і супэрыёр Друйскага кляштара а. Цікота. Стараннем гэтай суполкі ў 1926 г. пачала сваю дзейнасць віленская беларуская друкарня імя Ф. Скарыны. Вырашальную ролю ў рэалізацыі гэтага праекта адыграў фінансавы ўклад Друйскага кляшта-

ра; матэрыяльныя магчымасці іншых удзельнікаў суполкі былі больш абмежаваныя.

Дзейнасць друйскіх Марыянаў была соллю ў вачах як уладаў, так і мясцовых польскіх шавіністаў. Але абвінаваціць іх у антыдзяржаўнай дзейнасці было па сутнасці немагчыма. Па-першае, дзякуючы адпаведнай абачлівасці не была раскрыта матэрыяльная падтрымка манахаў хадэцкаму руху, пра што сведчылі падазрэнні польскай прэсы, быццам бы кляштар карыстаўся грашовай падтрымкай... СССР. Па-другое, пачатыя Марыянамі ў 1924 г. сістэматычныя казанні на беларускай мове ў Друйскім касцёле і яго філіяльнай капліцы ў Малькоўшчыне ніяк не абмяжоўвалі польскамоўных набажэнстваў.

Аднак само гучанне беларускага слова з касцёльных амбонаў выклікала агрэсіўныя дзеянні мясцовых шавіністаў. Акрамя таго, не задавальняла іх тое, што манахі маліліся і гаварылі паміж сабою і з беларускімі вернікамі па-беларуску, што на гэтай мове яны вучылі дзетак закону Божаму, спавядалі, што ўся кляштарная атмасфера была беларуская. А ўсё гэта, на думку шавіністаў, ставіла пад пагрозу паспяховасць паланізацыйнай палітыкі ўладаў.

Антыбеларуская прапаганда не ўяўляла для друйскіх Марыянаў вялікай небяспекі, пакуль на біскупскай сталіцы заставаўся іх пратэктар Юры Матулевіч. Аднак у 1925 г., у выніку шалёнай кампаніі і націску польскага ўраду на папскага нунцыя ў Варшаве, Матулевіч быў вымушаны пакінуць Вільню. Назначаны на яго месца новы біскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі не працягваў палітыкі свайго папярэдніка і вызначыўся татальнай ліквідацыяй беларускай мовы ў касцёлах Віленшчыны. Найчасцей гэта дасягалася шляхам службовага перамяшчэння беларускіх святароў у польскія парафіі, у якіх яны маглі паслугоўвацца ўжо толькі польскай мовай.

У Друі першай ахвярай гэтай палітыкі стаў а. Абрантовіч, які ў чэрвені 1928 г. быў накіраваны Апостальскім пасадам у Харбін для місійнай дзейнасці сярод расейскай эміграцыі. І хіба толькі канфесійная лаяльнасць а. Часлава Сіповіча прымусіла яго паставіць такое пытанне: «Хто і чаму пастараўся пераканаць папу Пія XI, што а. Фабіян (Абрантовіч — Ю. Т.) ёсьць неабходным для працы сярод расейцаў на Далёкім Усходзе ў Харбіне, а Друя і беларусы могуць абыйсьціся і без яго, дагэтуль нам невядома». Аднак у 1932 г. падобны лёс спаткаў таксама а. Гэрмановіча і ў 1933 г. а. Цікоту, які да 1939 г. быў у Рыме, пасля чаго быў накіраваны ў той жа Харбін.

Гэта быў моцны ўдар па Друйскім кляштары, які такім чынам пазбаўляўся сваіх вядучых святароў. Усё ж кляштар дзейнічаў надалей, хаця і ў паменшаным складзе. Паводле Тадэвуша Гурскага, каля 1929 г. былі спынены беларускія казанні ў Друйскім касцёле, але іншыя крыніцы сведчаць, што а. Хамёнак гаварыў іх па-беларуску аж да яго высялення з Друі летам 1938 г.

На ўздыме хвалі антыбеларускага тэрору, у чэрвені 1938 г., польская паліцыя, выконваючы загад віленскага ваяводы Бацянскага, выселіла з Друі астатніх айцоў Марыянаў: Дашуту, Кашыру, Смульку і Хамёнка, а праз месяц— чатырох марыянскіх клерыкаў: Антона Падзяву, Казіміра Саруля, Баніфаца Саруля і Часлава Сіповіча. Замест іх у Друю былі накіраваны Марыяны палякі, якія ў выніку распаду польскай дзяржавы і далучэння заходняй Беларусі да БССР так і не разгарнулі шырэйшай дзейнасці.

Разгон друйскіх Марыянаў выклікаў абурэнне і пратэсты не толькі беларускай прэсы, але і некаторых дэмакратычных колаў. За дэталёвае прадстаўленне гэтай ганебнай падзеі ў палове чэрвеня 1938 г. быў канфіскаваны часопіс «Шлях моладзі» (№ 14), а таксама польская



Друя. Званіца св. Антонія.

газета «Кур'ер Віленьскі» (ад 12 чэрвеня 1938 г.). Усе іх намаганні вярнуць беларускіх манахаў у Друю былі безвыніковыя. Дарэмнымі былі старанні нават генерала Люцыяна Жэлігоўскага, які ў польскага прэм'ера, прэзідэнта і ў кіраўнікоў парламента дабіваўся адмены загаду віленскага ваяводы. Лёс друйскіх Марыянаў вызначала нацыянальная палітыка польскай дзяржавы, якая патрабавала рашучага змагання з тэндэнцыямі беларусізацыі рымакаталіцкай царквы. Згодна з гэтай палітыкай беларускія каталікі павінны былі стацца палякамі.

Як склаліся далейшыя лёсы беларускіх Марыянаў? Кашыра, які ў чэрвені 1942 г. вярнуўся ў Друю, неўзабаве выехаў у Росіцу на Віцебшчыне і тут 17 лютага 1943 г. загінуў ад рук эсэсаўскіх карнікаў разам з мясцовымі жыхарамі. Абрантовіч улетку 1939 г. вярнуўся з Харбіна на радзіму, быў арыштаваны савецкімі органамі і загінуў. Цікоту і Гэрмановіча кітайцы выдалі ў 1948 г. савецкім органам, і неўзабаве яны апынуліся ў сібірскіх лагерах. Там Цікота ў 1952 г. памёр, а Гэрмановіч у 1955 г. быў вызвалены і праз Польшчу выехаў на Захад. Смулька, Дашута і Хамёнак пасля высялення з Друі ўвесь час жылі ў Польшчы (памерлі ў 1965—1971 гг.).

Хаця дзейнасць беларускага кляштара ў Друі закончылася ў 1938 г., але яго традыцыя жыла яшчэ доўгі час. Вось жа адзін з друйскіх клерыкаў, выгнаных польскай паліцыяй у 1938 г., Часлаў Сіповіч, не застаўся ў Польшчы, але выехаў у Рым, дзе падчас вайны закончыў тэалагічную адукацыю, у 1940 г. стаў святаром, а пасля вайны (у 1948 г.) заснаваў у Лондане беларускі Марыянскі дом і шмат пазней — бібліятэку імя Ф. Скарыны. Тут працавалі і закончылі свой жыццёвы шлях айцы Марыяны: Леў Гарошка, Язэп Гэрмановіч, Тамаш Падзява і Фэлікс Журня, а таксама брат Марыянін Мікола Баговіч.

У ліпені 1960 г. а. Сіповіч быў назначаны біскупам і Апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікаў на чужыне. Біскуп Сіповіч памёр 4 кастрычніка 1981 г., пасля чаго лонданскі парастак Друйскага кляштара закончыў сваю дзейнасць.

**Юры ТУРОНАК**

Літаратура

«Божым шляхам». Парыж, Лондан, 1957—1971.

Цыпрыяновіч С. (Я. Найдзюк). Беларуская друкарня імя Ф. Скарыны ў Вільні. 1926—1941. Успаміны. Нац. б-ка ў Варшаве, Аддз. рукапісаў, № 181.

«Шлях моладзі». Вільня, 1938, 30.VI, 25.VII, 5.X.

Górski T. Stosunek biskupa Matulewicza do spraw Językowych w diecezji wileńskiej 1918—1925. Rzym, 1970.

The Journal of Byelorussian Studies. London 1981, vol. V, № 1.

# ЗНАХОДКІ Ў ЛІДСКІМ ЗАМКУ

Горад Ліда ўпершыню ўпамінаецца праз пісьмовыя крыніцы паміж 1323 і 1328 гадамі. Развіццю паселішча, відавочна, спрыяла ўзвядзенне ў першай палове XIV ст. пры зліцці рэчак Лідзеі і Каменкі магутнага мураванага замка тыпу «кастэль». Лідскі замак уваходзіў у абарончы пояс, створаны на заходніх межах Вялікага княства Літоўскага для абароны ад нападаў крыжакоў. Такое сваё прызначэнне ён неаднойчы апраўдваў на працягу XIV—XV стст. У XVI—XVII стст. збудаванне страціла ваенна-стратэгічнае значэнне, але яго працягвалі выкарыстоўваць. Тут праходзілі сеймікі, суды, захоўваліся архівы Лідскага земскага суда. Моцна разбураны пад час вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай у 1659 і ў 1702 гг. (Паўночная вайна), замак быў занядбаны. Матэрыялаў, якія б распавядалі цікавыя гісторыі пра замак у больш познія перыяды, раскопкі не даюць.

Горад Ліда — тыповы прыклад паселішча, якое стала горадам у познім сярэднявеччы. Асноўная яго тэрыторыя размяшчалася на роўнай пляцоўцы паміж балоцістымі рэчышчамі Лідзеі і Каменкі. З самага пачатку існавання Ліда была неўмацаваным пасяленнем: тут адсутнічаюць рэшткі валоў і равоў, якія зараз аблегчылі б пошукі найстаражытнага ядра.

Відавочна, да збудавання замка Ліда ўяўляла сабой невялікае вясковае паселішча. Самыя раннія матэрыялы, якія адносяцца да XIV ст., знойдзены непадалёк ад замка, прыблізна ў 100 м на паўночны захад ад яго.

У XV—XVII стст. у Лідзе сфарміравалася тыповая для беларускіх гарадоў планіровачная структура з двума цэнтрамі: замак і рынычная плошча з ратушай, злучаныя Замкавай вуліцай.

У 1970 г. невялікія раскопкі на тэрыторыі замкавага двара правёў М. Ткачоў. Ён вызначыў, што замак збудаваны на пясчанай падушцы, а паўночна-ўсходняя вежа ўзведзена пасля 1384 г. або на мяжы XIV—XV стст., гэта значыць пазней за паўднёва-заходнюю. У 1974 г. шурфоўку замкавага двара ажыццявіў Я. Звяруга, але ва ўсіх 12 шурфах выявіў толькі перамешаны культурны слой.

Аўтары гэтага артыкула з 1977 па 1985 гг. правялі на тэрыторыі замка шэраг археалагічных даследаванняў, якія выявілі шмат новага з гісторыі Ліды і замка. Мы выбралі каля 3260 кв. м культурнага слою, а гэта больш паловы плошчы замкавага двара.

Магутнасць культурнага слою на тэрыторыі Лідскага замка вагаецца ад 0,2—0,4 м пасярэдзіне двара, да 1,5—2 м — каля сцен. У паўночнаўсходнім куце развал вежы дасягаў вышыні 5—6 м. У многіх месцах слой перамешаны познімі перакопамі. Да 2-й сусветнай вайны на тэрыторыі замка размяшчаўся склад боепрыпасаў — у мацерыку (мацерыком у гэтым выпадку мы называем штучную падсыпку з пяску, гліны і каменняў) выяўлены ямы з мінамі і снарадамі.

Амаль ва ўсіх раскопах, размешчаных каля замкавых сцен, выяўлены фрагментарныя праслойкі вугалёў, якія залягаюць на мацерыку на слоі будаўніцтва замка. З гэтага можна вывесці, што ўсе, ці амаль усе пабудовы на двары згарэлі пад час моцнага пажару, які здарыўся ў XIV ст. Гэты пажар, верагодна, можна звязаць з першым вядомым нам нападам крыжакоў на замак. У 1384 г. яны захапілі ўмацаванне прыступам пасля папярэдняй аблогі. Тое, што каля ўсходняй і паўднёвай сцен пад праслойкай вугалля амаль няма культурнага слою, тлумачыцца адсутнасцю на гэтым месцы ў XIV ст. жылых пабудоў. Не знойдзены тут і рэшткі печаў,



Замак у Лідзе. Здымак канца XIX — пачатку XX ст.

а кафлі выяўлена намнога менш, чым на ўчастках каля заходняй і паўночнай сцен. Хутчэй за ўсё, каля ўсходняй і паўднёвай сцен у XIV ст. і пазней знаходзіліся гаспадарчыя пабудовы, якія не ацяпляліся.

На глыбіні 0,6—0,8 м ад дзённай паверхні амаль на ўсіх вывучаных участках замкавага двара ёсць праслойка будаўнічага смецця і вугалёў таўшчынёй 0,1—0,3 м. Праз знаходкі (у тым ліку і манетны скарб) яна датуецца прыблізна сярэдзінай XVII ст. Відавочна, гэтая праслойка звязана з разбурэннямі замка, якія адбыліся пад час вайны з Маскоўскай дзяржавай.

Культурны слой Лідскага замка датуецца XIV—XVII стст. Пазнейшых наслаенняў амаль няма. На падворку бліжэй да ўсходняй сцяны знойдзены два калодзежы, якія, мяркуючы па запаўненню, былі засыпаныя ў сярэдзіне — другой палове XVII ст. Каля заходняй і паўночнай сцен, а таксама паўночна-ўсходняга кута знойдзены каменні ад падмуркаў драўляных пабудоў, а ў двух з іх — поды кафляных печаў.

На тэрыторыі гарадскога пасаду культурны слой дасягае таўшчыні да 2,5 м. У верхніх пластах сустракаецца бітая цэгла, вапна. Паводле матэрыялаў бурэнняў «насыпны слой» найбольшай таўшчыні (4,8—5,2 м) знаходзіцца на ўчастках у 300 м на паўночны захад ад замка. Хутчэй за ўсё ён утварыўся пад час засыпкі рэчышча Каменкі ў 70-я гады XX ст.

Участкі каля замка на поўнач, поўдзень і ўсход ад яго раней былі забалочаныя. Шурфы і свідравіны зафіксавалі тут тарфяную глебу. Каля былой гандлёвай плошчы ў слаі 1,6 м таўшчынёй сабраны матэрыялы канца XV — пач. XX стст., а каля былога касцёла піяраў (слой таўшчынёй каля 1 м) знаходкі датуюцца XVIII—XIX стст. У шурфах на пясчаных узвышшах, размешчаных за рэчкамі на паўднёвы ўсход і паўднёвы захад ад замка, сярэднявечны культурны слой не выяўлены.

На характар матэрыяльнай культуры замка наклаў адбітак яго статус дзяржаўнай крэпасці. Тут размяшчалася залога, якая знаходзілася на скарбовым забеспячэнні, раскошай у побыце салдаты не вылучаліся. У адрозненне ад прыватных замкаў, у Лідскім не знойдзена дарагая па-

ліхромная кафля ці венецыянскі шкляны посуд, затое шмат зброі і рыштунку вершніка і каня. Падаўляючая большасць новых знаходак належыць да часу актыўнага выкарыстання замка — XIV—XVII стст.

У калекцыю ўваходзяць прылады працы, бытавыя рэчы, узбраенне, ваенны рыштунак. Самую шматлікую групу складаюць цвікі: будаўнічыя (мацавальныя), дэкаратыўна-шпалерныя і падкоўныя. Храналогія іх бытавання шырокая. Так, абутковыя падкоўкі з'яўляюцца ў канцы XV — пачатку XVI стст.

Нажы знойдзены як чаранковыя, так і з прыкляпанымі драўлянымі ці касцянымі накладкамі. Першыя належаць галоўным чынам да XIV—XV стст., другія бытавалі пачынаючы з XIV ст. і да нашага часу. У познім сярэднявеччы яны складаюць большасць.

У калекцыі акрамя таго ёсць двухзубыя відэльцы XVI—XVII стст., шарнірныя нажніцы, крэсівы XIV—XVI стст., ключы і фрагменты замкоў XIV—XV стст., ключы XVI—XVII стст. круглай і трохвугольнай формы, спражкі. У адзіным экземпляры знойдзены: дрымба XVI ст., сякера XIV—XV стст., скрабніца для чысткі коней XVI—XVII стст., медыцынскі інструмент для пускання крыві XIV—XVII стст., кручок-блясна і просты рыбалоўны кручок, серп, восьці, цуглі, падсвечнік. У наваколлі замка знойдзены рэдкія ўзоры халоднай зброі: кінжал і кароткі меч.

Цікавасць выклікаюць рэчы з узбраення і рыштунку вершніка і каня. Наканечнікі арбалетных стрэлаў датуюцца XIV—XV стст. Наканечнікі стрэлаў ад лука — усе чаранковыя. Шпоры, блізкія да распаўсюджаных у Еўропе тыпаў. Некаторыя з іх маюць дугу ў выглядзе выгнутай літары «V», іншыя — «U» падобныя.

Конскія падковы падзяляюцца на некалькі разнавіднасцей: з выступамі на канцах або ў цэнтры дугі (адгортка), з адтулінамі на канцах дугі ці без выступаў і без адтулін.

Пад час раскопак сабрана некалькі дзесяткаў манет. Каля паўночнай сцяны ў 1978 г. знойдзены скарб з 5 білонавых манет (скарб апрацаваны супрацоўнікам гістфака Белдзяржуніверсітэта А. Плавінскім):

— солід Сігізмунда III Вазы (1587—1632). Рэч Паспалітая (каралеўства), манетны двор Рыгі XXXO (1590, 1600, 1610 г.);

— солід Сігізмунда III Вазы. Рэч Паспалітая, манетны двор Рыгі 1610 г.;

— грош 1536 г. Сігізмунд II Аўгуст (1545—1572). Вялікае княства Літоўскае, манетны двор Крэмніц;

— дынарый 1566 г. Максіміліан II (1564—1576). Венгрыя;

— солід. Стэфан Баторый (1576—1586). Рэч Паспалітая (каралеўства), манетны двор Рыгі. 1582 г.

Адзін жыхар Ліды перадаў дзве рэдкія манеты, знойдзеныя, паводле яго слоў, у вежы замка. Гэта дынарыі Вялікага княства Літоўскага, якія адносяцца да канца XIV — пачатку XX стст.

У 1986 г. у раскопе каля ўсходняй сцяны знойдзены вагі для малых узважванняў са складнымі каромысламі. Яны маюць аналагі сярод знаходак XII—XIII стст., але ў нашым выпадку іх датыроўка звязана з перыядам выкарыстоўвання замка — XIV—XVII стст.

Цікавая дэталь упрыгожвання конскай збруі — срэбраная бляшка з выявай птушкі, знойдзеная ў мацерыковай яме ў раскопе каля паўднёвай сцяны.

Знойдзены і посуд, які па асаблівасцях тэхналогіі вырабу дзеліцца на тры асноўныя групы: непаліваны, паліваны і дымлёны (мораны). Па прызначэнню ён падзяляецца на кухонны і сталовы. Да першага адносяцца гаршкі, накрыўкі, начынні тыпу слоікаў, макотры (цёрлы), патэльні-рынкі. Сталовы посуд — міскі, талеркі, кубкі, стопкі, куфлі, збаны — у асноўным паліваны ці мораны.

Большая частка непаліванай кера-



Рэканструкцыя Лідскага замка. XV ст.

шасць з іх арнаментавана лашчонымі ўзорамі з прамых і хвалістых ліній.

Некаторыя фрагменты керамікі маюць заходне-еўрапейскае паходжанне. Напрыклад, кераміка XVI—XVII стст.— так званы «каменны тавар».

На замкавым падворку знойдзена каля трох дзесяткаў гліняных грузікаў для рыбалоўных сетак. Па форме яны авальныя (часам круглыя), біканічныя або цыліндрычныя.

Шкляны посуд складаецца са шкляніц (асноўны тып посуду для піцця), бутэлек, квартаў, келіхаў, стопак. У адзіным экземпляры знойдзены флакон з жоўтага празрыстага шкла. Большасць посуду, як і ваконнага шкла, зроблена з бясколернай і празрыстай зеленаватай масы. Ёсць шклянцы з малочнага шкла.

Кварты маюць чатырохсценныя тулавы з рабрыстымі або скругленымі вугламі. Келіхі розняцца памерамі стоп, велічынёй і колькасцю «яблыкаў» і дыскаў паміж чашай і стапой. Вопыт раскопак у іншых гарадах і замках паказвае, што распаўсюджванне шклянога посуду адбылося ў XVI—XVII стст. Да XIV—XV стст. з лідскай калекцыі можна аднесці толькі флакон з жоўтага шкла.

На тэрыторыі замка знойдзены і вырабы з каменю — каля 40 ядраў з вапняку і граніту. Дыяметр іх вагаецца ад 4 да 37 см. Ёсць аваль-

мікі неарнаментаваная (гэта адна з асаблівасцей лідскага матэрыялу). На астатняй частцы фрагментаў маецца лінейны, хвалісты і хвалісталінейны арнамент. Ёсць фрагменты з наляпным валікам прамавугольнага сячэння і ў выглядзе зашчыпаў, а таксама з паяском з насечак трохвугольнай формы. Другі від посуду з гэтай групы — начынні з вертыкальным горлам. Іх адметная рыса — абавязковы арнамент на плечуку.

Да непаліванага посуду таксама належаць начынні ў форме слоікаў, прызначаныя для захоўвання ежы (няма слядоў нагару і копаці), макацёры ці цёрлы; патэльні-рынкі з ручкай у выглядзе глінянай утулкі, у якую ўстаўлялася драўляная рукаятка. Знойдзены адзінкавыя фрагменты непаліваных місак і збаноў. Непаліваныя накрыўкі падзяляюцца на два тыпы: звонападобныя і конусападобныя.

Паліваная кераміка ўвайшла ва ўжытак у другой палове — канцы XV ст. У параўнанні з непаліванай яе знойдзена значна менш. Гэта гаршкі з ручкай, міскі, талеркі, збаны, рынкі, стопкі, куфлі з ручкамі і накрыўкамі.

Знойдзены і дымлёны посуд — гаршкі, макотры, міскі, збаны, боль-



Узбраенне і рыштунак вершніка з Лідскага замка. XV ст.

ныя ядры. Акрамя каменекідальных машын ядры невялікіх памераў маглі выкарыстоўвацца для стральбы з гармат. Датуюцца яны XIV—XV стст.

Выяўлены каменныя тачыльныя брускі, прасліцы, фрагмент жорнаў. Каменная сякера з адтулінай для рукаяткі і наканечнік стралы эпохі бронзы, відавочна, былі завезеныя на тэрыторыю замка разам з глебай для падсыпкі будаўнічай пляцоўкі.

У касцяных вырабах маюцца накладкі і пласцінкі з арнаментам і неарнаментаваныя. Двухбаковы грэбень без арнаменту XIV ст., іголка,ігольніца, гузік. Дзве шахматныя фігуры датуюцца XV—XVI стст. Адна з іх — тура, ад якой захавалася толькі ніжняя частка. Магчыма, гэта аснова пешкі, бо дыяметр асновы менш за дыяметр ладдзі. Цікавыя накладкі на рукаяткі нажоў, кольцы з лінейным арнаментам, шашка. Сабраны вялікі астэалагічны матэрыял, у тым ліку косці і рогі тура і зубра.

Археалагічны матэрыял з раскопак пасаду не адрозніваецца ад замкавага. Можна выдзеліць некалькі рэчаў, знойдзеных у горадзе. Гэта формачка XVI—XVII стст. для адліўкі куляў, кафля з міфалагічным арнаментам, зялёна-паліваны спараны посуд для спецый XVIII—XIX стст., парцалянавая люлька.

Сабраная, апрацаваная і часткова адрэстаўраваная калекцыя археалагічных знаходак экспануецца ў Лідскім краязнаўчым музеі.

**Алесь КРАЎЦЭВІЧ,**
**Алег ТРУСАЎ**

З. ЖЫЛУНОВІЧ

# НАЦЫЯНАЛ-ДЭМОКРАТЫ ЗА «ПРАЦАЙ»

## (1920—1928 гг.)

Накіроўваючы свае думкі і намеры на Менск, як на адзіны культурны цэнтр, эмігранцкая радаўшчына пакладалася ня толькі на адну «працу» сваіх пабрацімаў нацыянал-дэмакратаў. Выступленьні старшыні нацыянальнага комітэту і рэдактара пагромных газэт Лёсіка, настойная організацыйная дзейнасьць у наркомасьветаўскіх установах і кіраўніцтва імі з боку былога радаўскага дыплёмата Некрашэвіча, спакайлівая служба па савецкіх установах маршалка Серады і прыехаўшага Смоліча сустракалі сабе падтрыманне не ў адным даверы кіраўнікоў адпаведных установ. На старонках газэт і часопісаў ужо з 1921 году пачалі зьяўляцца нацыянал-опортуністычныя выкладкі ў пытаньнях гісторыі беларускае літаратуры і беларускага рэволюцыйнага руху. Шэраг беларусаў комуністаў, не пасьпеўшых выжыць у сябе нацыяналістычныя настроі і апынуўшыся ў аколеньні нацыянал-дэмократычнага балота, паддаліся яго націску.

Паглыбленьне Кастрычнікавай рэволюцыі шляхам узмацненьня соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі і культуры абвастрала клясавую барацьбу ў горадзе і вёсцы. Кулацтва, нэпманства і рэшткі буржуазіі настойна супраціўляліся цьвёрдаму поступу рабочае клясы, пад кіраўніцтвам яго правадыра — комуністычнае партыі да соцыялізму. Водгук гэтае барацьбы хістаў паасобныя адзінкі меней устойлівых сяброў партыі, стыкаючы іх у іх настраёвасьці з актывізуючыміся нацыянал-дэмократамі. Гэта стыкненьне пачало вылівацца ў формы пераймання нацыянал-дэмократычных поглядаў, галоўным чынам, на культурнае разьвіцьцё і культурнае будаўніцтва, а таксама на гісторыю рэволюцыйнага руху. Ужо ў памянёнай намі часопісі «Вольны Сьцяг», якая па прызнаньню Лёсіка была тэй-жа «Руньню», што выходзіла пры белапольскай акупацыі, мы сустракаем побач з артыкуламі нацыянал-дэмократаў артыкулы, вершы і апавяданні комуністаў. У 1921 годзе Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі выпускае «Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі» У. Ігнатоўскага. Прадмова да нарысу пачынаецца наступнымі словамі: «Прабачай, працоўная Беларусь-маці, што я, можа, ня так добра і ня так грунтоўна зраблю невялічкую працу маю. Прабачайце і вы, сыны Беларусі, працаўнікі яе адраджэньня, што ня ўсю працу вашу ахаплю я тут, у гэтым кароткім нарысе». Уступ канчаецца выняткаю з выразна нацыянал-дэмократычнага вершу Купалы: «Падымайся з нізін, сакаліна сям'я, над крыжамі бацькоў, над курганамі, занімай, Беларусь, маладая мая, свой пачэсны пасад між славянамі». Нарыс

Заканчэнне. Пачатак гл. у «Спадчыне» № 4, 1991 г.

вядзецца ў аспэкце народніцкіх поглядаў, якія часта-густа цесна стыкаюцца з поглядамі выпукла нацыянал-дэмакратычнымі.

З 1922 г. нацыянал-дэмакраты прасоўваюць свае думкі на старонкі газэты «Савецкая Беларусь». Рэдакцыя і комуністы-супрацоўнікі «Савецкае Беларусі» цесна суседзяцца не ў адным толькі тэрыторыяльным сэнсе. Побач з паказанымі ў папярэднім артыкуле выступленьнямі Лёсіка на сьвежай магіле памёршага **шовініста Бурбіса,** мы чуем гэткія зазывы да студэнцтва з боку пралезшага ў адказныя супрацоўнікі газэты ўжо знаёмага нам нацыянал-дэмократа-антысэміта Каравайчыка.

«Вялікія надзеі ўскладае на цябе, беларускае студэнцтва, адраджаючаяся беларуская культура. З моцнай верай у твае сілы і здольнасці пазірае на цябе сёньня наш народ. Дык не абмані-ж яго веры і надзей! Прыступай да працы, якая чакае цябе на беларускай ніве, заросшай дзярном і накрытай крушнямі каменьняў. Расчысьці і ўзары гэту ніву, каб мелі магчымасьць прабіцца ўрэшце на сьвет узросткі нашай, ад прыроды багатай і воляю злых людзей забітай і загнанай, беларускае культуры».

Калі праз нейкі час зьяўляецца ў газэтах заметка аб тым, што адбыўся наладжаны нацыянал-дэмократамі сход беларускіх студэнтаў, якія парашылі заложыць сваю студэнцкую організацыю, той жа, адукуючыся на доктара-антысэміта, Каравайчык у артыкуле «Пачатак зроблены» піша:

«Ворагі нашага адраджэньня з нянавісьцю і злосьцю пазіраюць на новую беларускую організацыю, як на жывы і нязьбіты довад таго, што жыве і пашыраецца ідэя адраджэньня беларускага народу, што слабее грунт, што павялічваецца небясьпека для чужацкіх культур, гвалтам і сілай накінутых беларускаму народу».

У тон гэтай контррэволюцыйнай бравадзе, якая вольна гучыць са старонак савецкае газэты, раздаецца водгук з вуснаў будучага кулацкага поэты Плашчынскага на вядомай «урачыстасьці» выпуску слухачоў менскіх лектарскіх курсаў. Плашчынскі у гэткіх словах вылівае свае запэўненьні Лёсіку пайсьці на яго прызыў: «пільна сачыць за сабою і не забываць падліваць алею ў сьвяцільні вашы, каб было з чым сустрэць яе, сваю Белую Русь, калі яна прыдзе судзіць нас ва ўсёй славе сваёй». «Мы адчуваем,— кажа Плашчынскі,— што, будучы на лектарскіх курсах, мы ўзброіліся аднэй з вамі ідэяй, ідэяй культурна-нацыянальнага адраджэньня нашай дарагой бацькаўшчыны Беларусі. У працягу дзевяцёх месяцаў вашыя навукова-адраджэнцкія словы і думкі знаходзілі жывы водклік у нашых сэрцах — сэрцах сыноў гаротнае Беларусі».

Гэту «гаротнасьць пакрыўджанага рэвалюцыяй кулацкага агента паглыбляе ў сваім артыкуле «Наша выдавецтва за мінулы год» мацёры нацыянал-дэмократ інтэрвэнцыяніст Некрашэвіч. Падлічаючы колькасьць выданьняў, выпушчаных у 1921 г., ён сумна заключае: «Наколькі малая і мізэрная гэта лічба. Параўнуем нашу выдавецкую працу з працай нашых віленскіх землякоў, друкаваўшых кнігі за свае кроўныя грошы». Сьледам ён зграмаджае ў адну кучу ўсе выданьні, якія выпушчала беларуская нацыянал-фашыстаўшчына да бандыта Аляксюка ўключна на белапольскія грошы, і заключае: «З гэтага параўнаньня мы бачым, што нашы віленскія культурнікі надрукавалі кніг у многа раз больш за нас». З павярхоўнага погляду ў гэтых «нявінных» разважаньнях нацыянал-дэмократа як-бы нічога асаблівага няма; між тым, па сутнасьці, ён укладае ў іх той контррэволюцыйны сэнс, які трэба разумець так: савецкая ўлада ня хоча друкаваць беларускіх кніжок, не дае на гэта магчымасьці ў той час, калі «віленскія землякі» на «свае кроўныя грошы» надрукавалі шмат болей. Вывады: польская фашыстаўшчына ляпей спрыяе «беларускай справе», ніж савецкая ўлада. Пагэтаму орыентуйся на польскую фашыстаўшчыну, не забывай браць яе ў прыклад, як апякуна над беларускімі контррэволюцыйнымі нацыянал-дэмократамі, мей яе ў рэзэрве сваіх хаўрусьнікаў.

Гэты моралы зацятага нацыянал-дэмократа цесна ўвязваліся з прызывамі не «гасіць сьвяцільняў» і з завярэньнямі ў «ўзбраеньні ідэямі нацыянальна-культурнага адраджэньня нашай дарагой бацькаўшчыны Беларусі».

У імя гэтага адраджэньня, пад яго выглядам, зьбіралася і гуртавалася нацыянал-дэмократычная зграя на барацьбу з новымі пасеянымі Кастрычнікавай рэволюцыяй, пролетарскімі ўзросткамі соцыялістычнай культуры. На гэту сваю

подлую, контррэволюцыйнаю дзейнасьць нацыянал-дэмократы праз газэту і часопісі клікалі слухачоў лектарскіх курсаў, клікалі і сельскае настаўніцтва.

У артыкуле «Беларускае настаўніцтва» нейкага Н., вельмі напамінаючага нам праслаўутага доктара-антысэміта, мы чытаем: «Беларускі настаўнік павінен быць самым чынным змаганьнікам за нацыянальна-культурнае адраджэньне нашага народу. Адраджаць — вось яго бліжэйшае і галоўнейшае заданьне. А каб адраджаць, трэба тварыць...» І сьледам: «У школе беларускі настаўнік павінен зьяўляцца ня толькі крыніцай чыстага пазнаньня для сваіх вучняў, але павінен быць крыніцай, адкуль беларускія дзеткі маглі-б чэрпаць вялікія і сьвятыя ідэалы нацыянальнага адраджэньня свае бацькаўшчыны, адкуль маглі-б чэрпаць закаханьне свайго народу. Беларуская школа павінна выпускаць ня звычайную граматную моладзь, а сьвядомых змаганьнікаў за ідэі нашага адраджаючагася народу».

Гэта нічым няпрыкрытая пропаганда зьвярынага шовінізму, гэта контррэволюцыйная агітацыя працягвалася ў школы БССР. Пад выглядам адраджанізму беларускае культуры хавалася думка на рэстаўрацыю фэўдальнага ладу, які пладзіў нацыянал-дэмократычных гэрояў у асобах Васілёў Цяпінскіх, Сымонаў Будных, Ф. Скарынаў і інш.

Гэты лад, увабраны нацыянал-дэмократамі ў трогальную назву «залатое пары», падносіўся нашай моладзі ў пору магутнага ўздыму рабочае клясы да творчасьці социялізму. Агітацыя за адраджанізм са старонак савецкае газэты накіроўвалася на зрыў мірнага будаўніцтва, да якога, пасьля зьнішчэньня контррэволюцыйных франтоў, перайшла савецкая ўлада.

Нацыянал-дэмократы вышуквалі сабе хаўрусьнікаў сярод няўстойлівых слаёў настаўніцтва, сярод кулацкага студэнцтва.

Не пакідалі яны намераў залучваць у свае сеткі і вучнёўства. Шляхам чытаньня лекцый, шляхам пісаньня контррэволюцыйных падручнікаў і гуртаваньня колаў моладзі яны імкнуліся падгарнуць яго пад свой уплыў. Аб накіраванасьці ў гэты бок увагі нацыянал-дэмократамі ізноў-жа сьведчаць сабою артыкулы ў газэце «Савецкая Беларусь». Апошняя вольна прадастаўляла свае старонкі для нацыянал-дэмократаўскіх пісак, выконваючы функцыі рупару апошніх. У артыкуле якогасьці Бел. Пяра «Аб вучнёўскай моладзі м. Слуцку» мы сустракаем наступныя нацыянал-дэмократычныя «пэрлы»: «Апошняе наша пажаданьне: няхай уваскросьне беларускі вучнёўскі культурна-асьветны гурток, які пойдзе шукаць шчасьця «папараці-кветкі» дзеля гаротнага мужыка-беларуса, і тагды, калі не аднымі пекна сказанымі ці напісанамі словамі-абяцанкамі, а рэальнаю чорнаю працаю будуць спрыяць забытаму і забітаму беларусу, «вальней уздыхне, весялей зірне наш спрадвеку заплаканы край», і «закрасуе вольны край і народ».

Гэту «вольнасць» нацыянал-дэмократы праглядалі ў той-жа «абяцанай зямлі», пра якую ў сваіх выступленьнях-зазывах дэкляраваў маршалак контррэволюцыйнай рады Лёсік.

За гэту «вольнасьць» пад абсацам пана-окупанта яны змагаліся перш адкрыта ў бандах Балаховіча, у шайках Семянюка, у хэўрах слуцкага кулацтва, а калі былі разьбітыя, пачалі змагацца на фронце культуры і асьветы.

Помеж з зазывамі і воклічамі да студэнтаў, да настаўніцтва і моладзі, нацыянал-дэмократы расхарошвалі перад імі свае капіталістычна-прыгоньніцкія фаланстэры. Яны ажыўлялі цені сярэднявяковых «дзеячоў» і ў выглядзе ікон выносілі іх напаказ сучаснасьці. «Глядзеце, во,— гаўкалі яны,— чым багата беларуская гісторыя і чаго ня трэба забываць. Не Кастрычнік,— кажуць яны,— даў магчымасьць беларускаму рабочаму, беларускаму бедняку-селяніну пісаць сваю гісторыю, а гэту гісторыю пісалі Скарыны, Каліноўскія, Марцінкевічы, Іваноўскія, Радзівілы. Не рабочыя гушчы Беларусі пад кіраўніцтвам свае комуністычнае партыі заваявалі сабе магчымасьць тварыць пролетарскую дзяржаўнасьць,— сьцьвярджаюць гэтыя прадаўцы,— будаваць социялістычную па зьмесьце і нацыянальную па форме культуру, а тварцамі беларускай культуры былі памянёныя прыгоньнікі, узьведзеныя ў нацыянальныя гэроі».

І бессаромна і нахабна распранялі нацыянал-дэмократы гэтыя свае рэакцыйныя тэорыі, займаючы іх популярызацыяй старонкі друку. Былы поп, умела сплёўшы ў сваіх поглядах царкоўнае чорнасотніцтва з нацыянал-дэмократычным

пачуцьцём, цёмная фігура авантурніка, М. Красінскі так разважае на гэту тэму: «Першыя імёны ў гісторыі беларускае культуры знаходзім: Клімент Смалячыц, Аўрам Смаленскі, Кірыла Тураўскі, Ефрасіньня Полацкая — гэта культурныя працаўнікі пісанай літаратуры яшчэ XII ст. Далей, у 1517 г. на Беларусі зьяўляюцца друкаваныя кніжкі на беларускай мове... Далей ідзе цэлы шэраг выдатных беларускіх пісьменнікаў, як, напрыклад, Васіль Цяпінскі, Сымон Будны, Андрэй Рымша, Еўлашэўскі, Кміт Чарнобыльскі».

Выхваляючы гэту эпоху сьвятых, нацыянал-дэмократ з манастыру захлёбваецца ад здавальненьня эпохаю літоўскага статуту і аплаквае «заняпад» «беларускага гаспадарства».

«Але час прамінуў,
І нядоля, як камень, зваліласяі...
Беларуская слава
Аджыла, адцьвіла, закацілася».

У пагоні за гэтай «славай» фэўдальна-прыгоньніцкага ладу, за лаўрамі беларускіх князёў контррэволюцыйныя нацыянал-дэмократы раскідаліся ва ўсе канцы, пралазілі ва ўсе шчыльнікі. Свае шкодныя развагі яны прасувалі ў навуковыя і навучальныя ўстановы, у дасьледчыя інстытуцыі, у тэатр і ў друк.

І вось, пападаючы на старонкі газэт і часопісаў, якія выдаваліся пад рэдакцыяй адпаведных комуністаў і кіраўнікоў устаноў, яны, гэтыя нацыянал-дэмократкія развагі і дэклярацыі, не сустракалі сабе жаднай забароны.

Наадварот, газэта «Савецкая Беларусь», як пазьней часопісі «Полымя», «Узвышша» і нават «Маладняк», прадастаўлялі прасімае месца, часта самае відкае і пачэснае. У «Савецкай Беларусі» заразьлівая казань нацыянал-дэмократаў зьмяшчалася доўгімі фэльетонамі пад кідкімі ў вочы загалоўкамі, як: «Шлях беларускага культурнага адраджэньня», «Да беларускага студэнцтва», «Новыя шляхі адраджэнцка-культурнай працы» і інш.

Пагоджанай, сугалоснай хэўрай разьвівалі нацыянал-дэмократы сваю контррэволюцыйную чыннасьць. Завуаляваная тэрмінам «адраджэньне» гэта чыннасьць знаходзіла сабе памежніка і падтрымальніка ня толькі ў нядбайным папушчэньні друкаваць нацыянал-дэмократам свае зазывы і дэклярацыі, а і ў перайманьні ды пераказаньні іх вуснамі паасобных комуністаў. «Адраджэньне беларускае культуры», як нешта цэлае і непадзельнае, сумяшчаўшае ў сабе буржуазны нацыяналізм і контррэволюцыйную самабытнасьць, складалі і пераскладалі ў сваіх выступленьнях і аўтар гэтых радкоў і цэлы рад іншых партыйцаў. За гэтым нацыянал-дэмократычным выслоўем імі забываліся ўсе вялікія заданьні соцыялістычнага будаўніцтва — клясавае змаганьне, праца над пабудовай пролетарскае культуры. У цеснае кола самабытнасьці і адмежаванасьці заключаліся насьпелыя заданьні рэволюцыйнае сучаснасьці. Усё падцягалася да аднаго пракрустава ложку — да службы буржуазнаму молоху «нацыянальнага адраджэньня». Для гэтага «нацыянальнага адраджэньня» яны выкарыстоўвалі літаратуру, тэатр, навуку. А што цікавей усяго, яны нават ня грэбавалі і... царквой. Са старонак тае-ж «Савецкае Беларусі» гучэлі словы пазьнейшага провокатара Маразоўскага наступнага зьместу: «Мы павінны адзначыць, што ў нас пытаньне царкоўнае, як і ўсякае пытаньне, зараз зачапляецца за пытаньне нацыянальнае, і з гэтага боку мы павінны чакаць ад нашага беларускага духавенства нейкіх крокаў. Нам вядома, што ўжо і зараз «беларусізацыя» царквы мае сваіх прыхільнікаў сярод сьвяшчэньнікаў, галоўным чынам, вёскі». Аўтар артыкулу з сіл пнецца, даказваючы, што вясковае духавенства «ў нас, на Беларусі, галоўным чынам сялянскае», таму можа даць багатыя кадры беларускіх працаўнікоў.

Памянёны артыкул, як перадавы, складаў думку ўсяе рэдакцыі, якая з гэтай прычыны не пярэчыла яго думкам. Наадварот, царкоўнаму пытаньню яна аддавала значную ўвагу, зьмясьціўшы рад іншых артыкулаў на гэту тэму, сярод якіх нельга не адмеціць артыкулу Пічэты: «Новы царкоўны рух і пытаньне аб лёсе царквы ў Савецкай Беларусі».

Пад гэтым артыкулам гасьцінна зьмешчаны «сьпіс болей вядомых беларускіх газэт і журналаў». У сьпісе падрабязгова пералічаны газэты і часопісы, пачынаючы ад «Гоману» і канчаючы эсэраўскім «Змаганьнем». Сьпіс не прапускае ні «Беларускага шляху», ні «Звону», ні «Крывічаніна» — гэтых пагромных органаў белагвардзейскае рады, выдаваных на окупанцкія грошы. Сьпіс ня цураец-

ца падаць одыёзныя імёны рэдактараў газэт і часопісяй — Ластоўскага, Гаруна, Лёсіка, Грыба і інш., намякаючы: «Памятай, чытач, што генэолёгія беларускага друку мае за сабою доўгі ланцуг у мінулым, што ў гэтым ланцугу ўсе зьвяны сточаны ў адно. Калі хто памыкаецца яго парваць — не дапушчай. Праз генэолёгію друку вельмі яскрава выпукляецца залатая ідэя непасрэднасьці і адналітнасьці «беларускага нацыянальнага адраджэньня». Усыпаныя літарамі лісты паперы шчыльна прыкрываюць і раду, і вайсковую комісію, і ўсе сотневыя акты контррэволюцыйных учынкаў беларускае белагвардзейшчыны. На старонках савецкае газэты — залатая пара нацыянал-дэмократычнага бургфрыдэну...»

Але ад «Савецкае Беларусі» ніяк ня думае адступаць заложаны ў канцы 1922 г. часопіс «Полымя». Намеціўшы ўстаноўку на тое, каб даць «шырокую дарогу для выяўленьня к жыцьцю тым беларускім пісьменьнікам і поэтам, якія кінулі старыя мотывы, мотывы нудлівага сантымэнталізму і самавітага кулацкага народніцтва, якія не знаходзяць натхненьня ў ідэях незалежніцтва ды ў нейкай «вялікасьці беларускай старадаўшчыны», аб каторай навявае мэлёдыі муза вызваленьня працоўных грамадаў, муза калектыўнае творчасьці» — «Полымя» ўжо з першых нумароў пападае ў палон нацыянал-опортунізму. У другім нумары «красуецца» артыкул толькі што прыехаўшага з эміграцыі Смоліча аб краязнаўстве. Выказваючы свае «сымпатыі» савецкай уладзе, гэты радавец стараецца абыйсьці ўсе коўзкія пытаньні, завуаляваць іх, але ніяк ня можа ўтаіць свайго нацыянал-дэмократычнага шыла «Матка-Беларусь», «Пакутніца» ў мінулым сьвеціцца ў аспэкце радаўца далёка нешчасьлівай у бягучым. Але тыя сілы, асабліва з беларускага студэнцтва, якім «гардзяцца» профэсары Пятроўскай акадэміі ў Маскве, прыдуць «роднай краіне» на дапамогу.

Гутаркі аб «роднай краіне» шчыльна стыкаюцца з гутаркамі аб «беларускай нацыі». «Гісторычны закон разьвіцьця народаў захапіў беларускую нацыю на аднакавым узроўні яе культурнага і нацыянальнага асьведамленьня. Гэтаму пасабіла шмат тое, што сама беларуская нацыя моцаю розных варункаў на працягу доўгіх вякоў хавала свае сокі ў адным монолітным стане — стане малазямельнага сялянства і часткаю ў стане беднага местачковага рамесьніцтва. Гэтыя дзьве катэгорыі беларускай нацыі выпаўнялі абавязкі нявольнікаў, і ім ня было калі думаць аб тых ці іншых патрэбах душы»,— філёзофствуе аўтар гэтых радкоў (З. Жылуновіч) у сваім эклектычным, прасычаным нацыянал-дэмократызмам шкодным артыкуле «Два бакі беларускага руху» (Полымя, № 3, 1923 г.). Праз нацыянал-опортуністычнае сіта прасеяна ў гэтым артыкуле і дыктатура пролетарыяту, і клясавае змаганьне, і клясавая дыфэрэнцыяцыя ў вёсцы. Як нешта цэлае, монолітнае, выпячваецца адзіны стан сялянства з дадаткам мяшчанства і рамесьніцтва і зусім выпускаецца рабочая кляса. На ўсе лады скланяецца «беларуская нацыя», «беларуская культура», «ідэя адраджэньня беларускага народу». Выносіцца з архіву Бел. соц. грамада, якой прыпісваецца няўсвойная ёй рэволюцыйнасьць. Узводзіцца ў радыкальны орган буржуазна-нацыяналістычная «Наша ніва». На фоне ўсяго гэтага даецца ў аспэкце нацыянал-дэмократычнага асьвятленьня характарыстыка «двух бакоў беларускага руху». На адзін бок становяцца, па думках аўтара, сялянска-рамесьніцкія гушчы з вышаўшай з іх інтэлігенцыяй, па другі — дробнабуржуазная шляхецкая і домаўласьніцкая гарадзкая інтэлігенцыя. Паколькі ўвесь «беларускі нацыянальна-культурны рух», згодна аўтара, «меў уцалку гостра-опозыцыйны і нават радыкальна-соцыялістычны характар», то вывады напрашваюцца такія: у Беларусі ня было буржуазнага руху, таму што ў Беларусі ня было буржуазіі.

Гэта блытаная антымарксысцкая выкладка, мяжуючыся з нацыянал-дэмократычнымі тэорыямі, падпірала іх, пашырала іх базіс... У памянёным-жа артыкуле аўтар гэтых радкоў праводзіць шкодную думку, нібы з боку комуністычнае партыі наглядалася нядбайнасьць да беларускага руху, які «павінен зьяднацца ў адным, адпаведным рэволюцыі напрамку». Зразумела, што гэткія разважаньні з вуснаў комуніста расцэньваліся нацыянал-дэмократамі за блізкія сабе, з якімі ў кожным разе яны маглі мірыцца.

Тым болей гэта замірэньне знаходзіла сабе падставу, што падобныя нацыянал-дэмократычныя разважаньні нацыянал-опортуністаў не абмяжоўваліся адзінкавымі выпадкамі. Яны працягаліся сыстэматычна ў цэлым радзе артыкулаў, уядаючыся ў іх глыбока і моцна і абяртаючыся ў сыстэму. З нумару 5-6 «Полы-

мя» за 1923 г. аўтар гэтых радкоў (З. Жылуновіч) пачаў друкаваць артыкулы «Уступамі да Акцябра». У гэтых артыкулах ён разглядае беларускія падзеі і іх зьмест на працягу двух гадоў — 1917 і 1918, ад Лютаўскае рэволюцыі да абвяшчэньня БССР. Гаворачы, аб настроях беларускіх дробнабуржуазных культурнікаў да рэволюцыі, ён заключае: «перамога над немцамі саюзьнікаў сузнавалася кожным беларускім адраджэнцам». У гэтую катэгорыю ім грамадзяцца ўсе «беларускія адраджэнцы» бяз усякае ідэолёгічнае характарыстыкі, бяз клясавага падзелу. Наогул гэты бок у аўтара артыкулаў у поўным занядбаньні. Марксысцкага аналізу бадай няма, і ён опэруе толькі дапамінамі пра працоўныя гушчы ды голымі ўжываньнямі тэрміну «рабоча сялянскія масы». Нацыянальная ідэя, ідэя адраджэньня беларускай культуры пануе над першай часткаю (уводнай) гэтых артыкулаў. Датыркаючыся соцыялістычнага руху ў Беларусі, аўтар (Жылуновіч) разглядае яго ў ад'яднаньні, бяз сувязі з агульным рухам ва ўсёй Расіі. На чале руху становіць Беларускую соцыял. грамаду. Гэта буржуазная нацыяналістычная партыя набывае ў яго тлумачаньні агромістай ролі, якое яна ў сапраўднасьці ня мела. Гэтым Грамада ідэалізуецца. Побач з ідэалізацыяй ёй прыпісваецца марксысцкі напрамак і арабочаньне. Шляхам сувязі Грамады з комуністычнымі беларускімі сэкцыямі аўтар памянёных артыкулаў у «Полымі» будуе тэорыю непасрэднасьці між Грамадою і комуністычнаю партыяй. Таксама ім замацняецца нявыразнасьць позыцыі БСГ да Кастрычнікавай рэволюцыі падкрэсьліваньнем яе прымірэнцтва. У артыкулах выразна паказана аўтарава тагочасная непрымірымасьць да разгону савецкай уладай вядомага беларускага контррэволюцыйнага конгрэсу.

Гэтыя погляды поўнасьцю спрыялі падтрыманьню нацыянал-дэмократычных тэорый і разваг. Яны давалі апошнім моцную падпору, лілі ваду на млын контррэволюцыйнае дзейнасьці нацыянал-дэмократаў.

Празываючы Бел. соц. грамаду лявейшаю за меншавікоў і эсэраў, марксысцкаю партыяй, надаючы ёй значэньне вялікай уплывовасьці, аўтар гэтага артыкулу пасабляў нацыянал-дэмократам абгрунтоўваць іхнюю тэорыю зьвязанасьці Беларускае рады з шырокімі коламі насельніцтва, дапамагаў паніжаць яе нацыяналістычную контррэволюцыйную буржуазнасьць.

Падтрыманьнем думкі аб сумеснай рэволюцыйнай дзейнасьці БСГ з соцыялдэмократыяй у 1905 г. вызначаецца і артыкул А. Сянкевіча ў № 3-4 «Полымя» за 1923 год «Успаміны з рэволюцыі 1905-1906 гг.» А. Сянкевіч піша: «Для коордынацыі працы на вёсцы ў Менску было організавана міжпартыйнае бюро. У гэта бюро ўвайшлі партыі: соц.-дэмократаў, соц.-рэвол., Бел. соц. грамада і саюз настаўнікаў. Сэкратаром бюро быў абраны я».

Не супярэчачы сьведчаньням А. Сянкевіча, трэба сказаць, што яго сьцьверджаньні аб блёкаваньні Грамады з соц.-дэмократычнымі організацыямі адзіныя і далёкія ад праўды. Гісторыя рэволюцыйнага руху ў 1905—1906 гг. у Беларусі пра гэта нічога ня кажа.

Дзякуючы шчыльнаму сутыкненьню паміж тэорыямі нацыянал-дэмократаў і нацыянал-опортуністаў у галіне гісторыі рэволюцыйнага руху, у гісторыі літаратуры і культурнага будаўніцтва, складалася ўражаньне аб політычна ідэолёгічным замірэньні на гэтых франтох. Опэраваньне нацыяналістычна-буржуазнымі разуменьнямі і поглядамі на адраджанізм і разьвіцьцё беларускае нацыянальнае культуры, бяз усякага клясавага аналізу гэтых разуменьняў, казала за прынятасьць і падзел іх сутнасьці роўна нацыянал-дэмократамі і нацыянал-опортуністамі.

Гэта не магло выкаўзнуць з-пад ўвагі эміграндкае радаўшчыны. Сочачы за процэсам соцыялістычнае стройкі ў Савецкім саюзе і, галоўным чынам, у Савецкай Беларусі, нацыянал-дэмократы прадбачылі надзейнейшыя магчымасьці для прылажэньня сваіх сіл у падрыўнай «працы» на культурным фронце. Іх сябры ў Менску і па-за Менскам адчувалі сябе досыць вольна і разважна. Наркомасьветы надзяліў іх годнасьцю профэсароў і спэцыялістаў у розных галінах навукі. Унівэрсытэт прадастаўляў катэдры для чытаньня лекцый, для організацыі беларускіх студэнцкіх гурткоў і краявядных бюро. Нацыянал-опортуністычнае кіраўніцтва выдавецтва «Савецкая Беларусь» і Дзяржаўнага выдавецтва ахвотна друкавалі іхнія падручнікі, насычаныя непрыхаванай контррэволюцыяй. Часта газэта «Савецкая Беларусь» і часопіс «Полымя», асабліва «Асьвета» і іншыя,

давалі магчымасьць выліваць на сваіх старонках воклічы і зазывы да шуканьня нацыянал-дэмакратамі «абяцанае зямлі», у выглядзе рэстаўрацыі капіталізму і прыгоньніцтва. У сьпісках супрацоўнікаў часопісяй выстаўляліся сынодыкі нацдэмаўскіх прозьвішчаў. Фармаваньне першага складу Інбелкульту, на чале са старшынёй і сэкратаром, было выкарыстана нядаўнімі эсэрамі, радаўцамі, дыплёматамі пры Скарападзкім і пры францускіх окупантах. І, не пакідаючы свае антысавецкае дзейнасьці на грошы літоўскага ўраду і чэскіх фашыстаў, трымаючы нож за пазухаю, нацыянал-дэмократы павялі згавор аб коордынаваным пераезьдзе ў Савецкую Беларусь. Пашла перапіска, і пачаліся разьезды з Коўна ў Прагу, з Прагі ў Рыгу і назад.

Гэта падгатоўка заняла шмат часу. Многа стараньняў ахвяравала беларуская эмігранцкая радаўшчына на тое, каб усебакова абгаварыць становішча і ўмовы перасяленьня ў Менск для працягу свае контррэволюцыйнае чыннасьці. Трэба было ўзважыць усе мотывы і разьлікі, трэба было знайсьці формулы для пераходу ад аднае формы контррэволюцыйнае працы да другое і самы пераход абставіць знадворна нявінным і даверным чынам. К другой палове 1925 г. падгатоўка скончылася, і ў жніўні месяцы ў Бэрліне была склікана нарада ўсіх эмігранцкіх радаўскіх гурткоў і аб'яднаньняў. Пытаньне аб ліквідацыі народнае рэспублікі і прызнаньні савецкае ўлады, вырашыць якое зьехаліся нацыянал-дэмократы, заняло многа часу і выклікала шмат грызьні і сварак. Але і грызьня і сваркі, як цяпер відаць, насілі свой сямейны характар. Яны вярцеліся вакол таго, як і што ляпей і плёньней праводзіць падрыўную, контррэволюцыйную, антысавецкую працу. Заставацца за рубяжом на пярэкарме худых падачак літоўскае, латыскае ды чэскае буржуазіі і здавальняцца пустымі дэкляpацыямі і марным аббіваньнем парогаў міністэрскіх габінэтаў ці ехаць туды, у Савецкую Беларусь, у «адзіны культурны асяродак», і там уключыцца ў адзіную падрыўную банду з тымі, хто ўжо пяць гадоў практыкаваўся на контррэволюцыйнай чыннасьці супроць савецкай улады.

Пытаньне аказалася вырашаным компромісна. Канаводы белагвардзейскай радаўшчыны, міністры і прэзыдэнты, дыплёматы і паслы выказаліся за пераезд у Менск, за знадворнае зьліквідаваньне народнае рэспублікі; драбяза, эсэраўская мялюзга і ачарнелыя водкіды няпрыкрытых бандытаў парашылі астацца за мяжою. Але і тыя, што парашылі ехаць, не пакінулі аголеным свой зарубежны тыл. І Рыга, і Прага, і Коўна з выездам у Менск аціраўшых тротуары іх вуліц беларускіх нацыянал-дэмократаў не парвалі з імі сувязі. Радаўскае прадстаўніцтва для ўсякіх патрэб засталося ў кожным з гэтых гарадоў. І па-за пустагучнымі словамі нарадаўскае дэкляpацыі нацыянал-дэмократаў аб зьліквідаваньні ўраду БНР і прызнаньні савецкага ўраду засталіся непарушнымі контррэволюцыйныя намеры і шкодніцкая чыннасьць. Не парываючы ў думках і настроях з антысавецкімі акцыямі за межамі пролетарскае краіны, ажыцьцяўленьне іх беларускія контррэволюцыянэры павезьлі з сабою ў Савецкую Беларусь.

Характэрна, што, едучы на конфэрэнцыю ў Бэрлін, Заяц, Пракулевіч і Захарка дбайліва запасьліся сяброўскаю змоваю з «старшынёю рады беларускае рэспублікі» Крычэўскім, які даў выгляд, што ён супроць нарады, наступнага зьместу: «Прымаючы пад увагу, што пытаньне ліквідацыі ўраду беларускае народнае рэспублікі можа быць пастаўлена на абвестку дня конфэрэнцыі ў Бэрліне, просім прыняць, гр. старшыня, нашу адстаўку, каб мець свабодныя рукі ў абароне беларускай дзяржаўнасьці на падставе ўсебеларускага конгрэсу 1917 г. Дзяржаўны контролёр Л. Заяц. Выкон. абавязкі міністра фінансаў В. Захарка. Дзяржаўны сэкратар У. Пракулевіч. Прага, 4 кастрычніка 1925 г.» («Замежная Беларусь», кніжка першая, 1926 г.).

Старшыня рады П. Крычэўскі ў гэтай-жа часопісі кажа: «Паводжаньне членаў ураду Зайца і Пракулевіча было нявыразнае (на конфэрэнцыі), ня гледзячы на тое, што пры ад'ездзе з Прагі ім дана была інструкцыя, абгавораная ўсімі разам, з іхняга боку падана заява аб адстаўцы».

Ня гледзячы на дзьмутую непаладнасьць у стане белагвардзейскіх радаўцаў перад гэтай конфэрэнцыяй, па сутнасьці яна, конфэрэнцыя, прадстаўляла сабою замаскаваны манэўр контррэволюцыйных нацыянал-дэмократаў. «Авантурнасьць» Цьвікевіча бралася для адводу вачэй, каб гэтым завуаляваць усё гешэфтмахэрства радаўскіх авантурнікаў. У сваім лісьце ў рэдакцыю часопісі

«Прамень», орган беларускага паступовага студэнцтва ў Чэха-Славаччыне, Заяц і Пракулевіч прызнаюцца: «Мусім адзначыць, што да вядомай нарады ў Бэрліне мы ня толькі з панам Захаркай, але і з панам Крычэўскім былі амаль зусім аднадумны ў позытыўнай працы Радавай Беларусі. Само сабой разумеецца, што і гэта нарада падгатаўлялася пры актыўным іх удзеле, аб чым сведчаць усе захаваўшыяся лісты і тэлеграмы, якія прысылаліся А. Цьвікевічам амаль выключна на імя П. Крычэўскага». «Крычэўскі, як і мы, ведаў абсолютна аб усіх плянах А. Цьвікевіча датычна беларускай палітыкі наогул і склікаНьня народаў у часнасьці. Толькі дзякуючы нашай усіх аднадумнасьці і была ў агульных рысах накідана ў Празе ўрадавая інструкцыя і абгаварвалася магчымасьць ліквідацыі БНР, аб чым і кажуць тыя інструкціі, якія знарок у бюлетэні былі не надрукаваны». Гэткім чынам мы бачым, што бэрлінская нарада нацыянал-дэмократцкіх радаўцаў была абдуманай стратэгіяй у кірунку паяднаньня і коордынацыі свае контррэволюцыйнае працы як за рубяжом, гэтак і ўнутры Савецкае Беларусі. Трымаючы яе на першым пляне, нацыянал-дэмократы старанна накіраваліся ў Менск. Яны білі ў адну кропку, гэта ў тое, са слоў А. Цьвікевіча, што «трэба было ў кароткі тэрмін уплыць на жыцьцё далучаных акруг (пасьля ўзбуйненьня БССР) такім чынам, каб зьвязаць іх з Менскам органічна, каб надаць ім характар уласна беларускай краіны. Па лініі асьветы і культуры гэтыя задачы былі ўскладзены на Наркомат народной асьветы і Інбелкульт». На «дапамогу» гэтым установам і адправіліся эміграНцкія нацыянал-дэмократы ў Савецкую Беларусь.

І вось у 1925 годзе цугам, адзін за другім, пачалі выгружацца на савецкай зямлі яе актыўныя ворагі. За кароткі тэрмін сталіца Савецкае Беларусі мела цэлы букет белагвардзейскіх міністраў і контррэволюцыйных радных, даўшых абяцаньне «чэсна працаваць», але не забываўшых аб абароне беларускай дзяржаўнасьці на падставе ўсебеларускага конгрэсу 1917 г. Перад імі гасьцінна адчыняліся дзверы культурных установ, у якіх эмігранты пападалі на адказныя пасады. «Старшыня міністраў» апошняга складу рады А. Цьвікевіч з гэтае пасады непасрэдна перасеў на пасаду неадменнага сэкратара Інбелкульту, каб надаваць БССР характар уласна беларускай краіны. Памочнік міністра пры Скарападзкім Краскоўскі пралез адразу ў тры месцы — Інбелкульт, Унівэрсытэт і Дзяржплян. У апошняй установе ён плянаваў пытаньні культурна-асьветнага характару. Шэраг міністраў і паслоў паўціраліся ў іншыя ўстановы, абавязкова чапляючыся і за Інбелкульт. У Інбелкульце згрудзілася ўся контррэволюцыйная радаўшчына, дзень-у дзень робячы пасяджэньні, плянуючы сваю «працу» і мяркуючы пра няспынныя экскурсіі. Інбелкульт дапамінаў пакойную раду.

Не забывалі белагвардзейскія «госьці» наведваць і Дзяржаўнае выдавецтва, прапануючы яму сваю атрутлівую продукцыю. Нацыянал-опортуністычнае кіраўніцтва выдавецтва (Жылуновіч, Шыпіла), замест належнага адпору гэтай паскудзе, ахвотліва прымала іхнія пропозыцыі на падачу прац., друкуючы іх у часопісах і паасобнымі зборнікамі, дапамагаючы гэтым распаўсюджаньню іх контррэволюцыйных думак. Але з няменшым посьпехам друкавала гэтыя працы і Інбелкультаўскае выдавецтва, якое цалкам знаходзілася ў руках нацыянал-дэмократаў. Гэтыя абставіны, сьведчачы контррэволюцыйным нацыянал-дэмократам аб гасьціннасьці да іх з боку шэрагу адказных кіраўнікоў установ, апраўдвалі іх надзеі на спрыяльныя ўмовы для разгарненьня іхняе злачыннае працы. Нацыянал-дэмократы вачавідкі пераконваліся, што іхнія контррэволюцыйныя ўстаноўкі працягваюць друкавацца ў паасобных газэтах і часопісах. Яны бачылі, што ні ў галіне мовазнаўства, гісторыі літаратуры, асьветы і выдавецтва ня робяць жадных перашкод для скарыстаньня гэтых галін у пажаданых нацыянал-дэмократам мэтах.

Смоліч і Азбукін нахабна трактавалі аб карце Карскага, выхваляючы «багацьце беларускага народу ў мінулым» і яго беднасьць у сучасным, пераказваючы тыя-ж прызывы Гаруна перад Пілсудзкім — дасягаць імшэлых званіц Смаленску. Скарына і Каліноўскі фігуравалі ў бюстах і ў тэатры на сцэне, у вершах і на юбілейных сьвяткаваньнях. Нацыянал-дэмократычнае паветра атуляла паасобныя вучасткі злачынна давераНага нацыянал-дэмократам радам нацыянал-опортуністаў культурнага фронту. З Інбелкульту, як са штабу, працягаліся да яго агідныя шчупальцы белагвардзейскіх падрыўнікаў. «Мы перш за ўсё стара-

емся браць нормы з мінулага, стараемся прыслухоўвацца да таго, як гаварылі нашы дзяды і прадзеды,— філёзофуе адзін з нацыянал-дэмакратаў А. Харэвіч у сваім артыкуле «Мова, як ідэал» (Полымя, 1925 г.). Гэта, аднак, мае вялікае значэньне. Толькі дзякуючы такой консэрватыўнасьці, магчыма аб'яднаньне ў часе з мінулымі пакаленьнямі і стварэньне адзінай нацыянальнай шматвяковой літаратуры. Але для гэтага будзе мала толькі прыслухоўвацца да таго, як гаварылі раней, трэба яшчэ мець той узорны нацыянальна-культурны асяродак, куды-б накіроўваць свой слых цяпер. Такім асяродкам у расійцаў зьяўляецца Масква, і, у прыватнасьці, сцэны Малога і Мастацкага тэатраў, у французаў — невялічкая плошча сцэны Comedie Francaise, а ў нас, беларусаў, пры сучасных палітычных умовах, такім павінен стаць і ўжо становіцца Менск з яго Інстытутам беларускае культуры... Калі арыентацыя на мінулае, на мову дзядоў і прадзедаў яднае народ у часе, то арыентацыя на нацыянальны асяродак яднае народ тэрыторыяльна».

Гэта тэорыя нацыянал-дэмакратаў аб адзіным нацыянальным асяродку займае і эміграцкую радаўшчыну, і ўнутраных падрыўнікаў. Вакол яе канцэнтруецца галоўная ўвага беларускіх контррэволюцыянэраў. З гэтай мэтай нацыянал-дэмакраты настойна і ўпарта пралазяць у шэраг культурных установаў і адтуль плянуюць свой наступ на заваёвы Кастрычнікавай рэволюцыі, на посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва. Мовазнаўства і літаратура працягаюць аставацца асноўнымі вучасткамі гэтага наступу. Ідэалізуючы мову, як пераважны фактар беларускае князёўскае дзяржаўнасьці ў мінулым, нацыянал-дэмократы прыкладаюць усе стараньні на тое, каб і ў наступным абярнуць мову ў прыладу арганізацыі сваіх контррэволюцыйных сіл. Разам з гэтым мова павінна служыць агароджай ад сувязі рабочае клясы з сялянствам, ад узмацненьня інтэрнацыянальнае злукі паміж працоўнымі гушчамі БССР і СССР. Гэта павінна дасягацца шляхам шчыльнага адмежаваньня беларускае мовы ад суседніх, расійскай і украінскай мовы, шляхам стараннага замыканьня беларускае мовы ў рамкі самабытнасьці. «Было-б зусім непагаспадарску купляць, скажам, нам, беларусінам, лес у суседзяў, калі мы маем свой: таксама зусім неразумна браць чужыя словы, калі ёсьць свае, беларускія»[1],— прапаведвае контррэвалюцыянэр Лёсік. «Наша кніжная мова,— кажа ён далей,— мова школьных падручнікаў, популярных народных кніг і асабліва мова штодзённых газэт, агулам кажучы, мала падобна да сапраўднай жывой беларускай, або крывічанскай, або крывіцкай мовы ды прыпадобнілася да адзежы з чужага пляча».

Барацьба нацыянал-дэмократаў за крывічанскую мову — гэта барацьба за Крывію, за «залатую пару» шаснаццатага стагодзьдзя, прыхарошаную зьлёгку модэрнізаванай назваю «Беларуская народная рэспубліка». Мова і незалежнасьць — гэта сынонімы ў вуснах беларускіх контррэволюцыянэраў. Вось чаму яны так натужліва і заўзята вярцеліся вакол мовазнаўчага фронту. «Шляхі разьвіцьця беларускай культуры зусім асаблівыя, нісколькі не падобныя на шляхі разьвіцьця культур іншых «дзяржаўных» (лапкі ў тэксьце.—З. Ж.) народаў» (разумелі расійцаў.— З. Ж.),— разважае інтэрвэнцыяніст Некрашэвіч. «У гісторычным процэсе культурнага разьвіцьця беларускага народу выдзяляюцца два асноўныя фактары: адзін з іх — гэта страта беларускім народам яго палітычнай незалежнасьці, і другі фактар — атрыманьне гэтай незалежнасьці, абвяшчэньне Беларусі незалежнай рэспублікай». Каб працягнуць ідэю незалежнасьці (зразумела, радаўскай), каб актыўнай працай падводзіць пад яе тэорэтычны базіс, змагаючыся супроць бурлівага росквіту беларускае пролетарскае культуры, трэба, згодна інтэрвэнцыяністу Некрашэвічу, памятаць, што «ў той час, скажам, як у Вялікарасіі ўсякае слова, што там чуваць ад рускага чалавека, можа быць занесена, як рускае, у слоўнік,— у нас так рабіць нельга: у нас да кожнага слова, якое мы чуем на Беларусі і нават ад беларуса, трэба адносіцца крытычна, трэба глядзець, ці няма тут рускага, або польскага ўплыву, ці ня русізм або полёнізм мы чуем». Пазьней некалькімі гадамі, у памятнай мовазнаўчай дыскусіі, гэта тэорыя выявіла сабою ўсю контррэволюцыйнасьць яе творнікаў. Вуснамі гэткіх мацёрых

[1] «Полымя», № 2 за 1924 г. «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы».

нацыянал-дэмакратаў, як Лёсік і Ластоўскі, прагучэла рэакцыйнае сьцверджаньне аб тым, што беларускія рабочыя ня ведаюць беларускае мовы, што яны павінны ёй вучыцца, а гэта знача, што рабочыя — чужыя беларускай пралетарскай культуры, што яны наогул не беларускія рабочыя.

Такім чынам, выходзячы з мовазнаўства, беларускія контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмакраты дакочваліся да цэлага шэрагу палітычных праблем, грунтуючы апошнія на базісе контррэвалюцыйнай радаўшчыны.

Але хутка нацыянал-дэмакраты зьнімаюць з сябе ўсякае навуковае завуаляваньне. Іх нахабнасьць вырастае ў формы прад'яўленьня комуністычнай партыі азначаных патрабаваньняў. У газэце «Савецкая Беларусь» ад 10 кастрычніка 1925 г. зьяўляецца артыкул былога радаўскага пасла пры Скарападзкім Трамповіча «Шляхі беларускае інтэлігенцыі». Выпрабаваны контррэвалюцыянэр даводзіць: «У нас, у Беларусі, мясцовыя ўмовы такія, што яны ў значнай меры адрозьніваюцца ад умоў у іншых частках СССР; становішча і позыцыя беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі такія, што яны падчас ня могуць быць параўнаны з становішчам на Украіне і ў РСФСР. Істота нашае беларускае інтэлігенцыі зусім іншая; умовы, пры якіх яна формавалася, былі часам выняткова,— вось гэта і кладзе асобны адбітак на нашу працу».

А калі «ўмовы БССР інакшыя» і «інакшая» істота беларускае інтэлігенцыі, тады «трэба, каб беларуская інтэлігенцыя на Беларусі мела магчымасьць уявіць сваю ініцыятыву і ўзяць адказнасьць за сваю працу перад будучынай. Гэтага патрабуюць інтарэсы нашае рэспублікі і змаганьне за аб'яднаньне ў яе межах усіх зямель, населеных беларусамі».

І далей у тым-жа напрамку «адзіным шляхам нашае інтэлігенцыі зьяўляецца шлях самага дзейнага ўдзелу ў адбудове нашае гаспадаркі, нашае дзяржаўнасьці. Гэта адбудова магчыма толькі ў выпадку сумеснае працы з дзяржаўнымі і партыйнымі ўстановамі — значыць трэба, каб паміж беларускаю інтэлігенцыяй і партыйнымі коламі была сталая сувязь; тады ня будзе непаразуменьня, неналежнае страты энэргіі і часу». Тут ужо перад намі выступае непрыхаваны ў мовазнаўцы скрыты шкоднік, тут ужо фігуруе распранутая постаць абнаглеўшага контррэвалюцыянэра, які асьмеліўся прэтэндаваць на падзел між партыяй і нацыянал-дэмакратамі кіраўніцтва ўладаю. У гэтым выступленьні яскрава абмалёўваецца выплываючая напаверх клясавая непрымірымасьць беларускай радаўшчыны з існуючым становішчам, з дыктатурай пролетарыяту. Болей таго, пад выглядам нахабных прэтэнзій, яна робіць намер і замахі на савецкую ўладу.

Перамога соцыялістычнага будаўніцтва, шпаркае ўмацаваньне заваёў Кастрычніка рашуча замятаюць сьляды контррэвалюцыйнае дзейнасьці прадажніцкае рады. Гінуць апошнія надзеі на «адраджэньне», і пасьпяховае прасоўваньне краіны саветаў да соцыялізму абяцае нямінучае зьнішчэньне ворагаў рабочае клясы. Трэба ратавацца, трэба зьбіраць усе патугі на тое, каб захаваць як мага надалей сваё існаваньне. І пралічаная ва многіх сваіх намерах, беларуская контррэвалюцыйная нацыянал-дэмакратыя нахабна рашаецца на паданьне сваіх прэтэнзій на ўладу. Становячыся на калені перад Вільгэльмам крывавым, аддаючыся цалкам, з усёй сваёй незалежнасьцю ў рукі Пілсудзкаму, ліжучы боты Скарападзкаму, нацыянал-дэмократы робяць замахі на ўладу саветаў, на кіраўніцтва комуністычнае партыі.

Але па-за гэтай сваёй вылазкаю, паўтаранаю ў выступленьнях на дыспуце аб інтэлігенцыі ў доме працасьветы, яны пакідаюць пра запас іншыя аргумэнты ў барацьбе супроць дыктатуры пролетарыяту. Не атрымаўшы заслужанага адказу, нацыянал-дэмократы, аднак, добра зразумелі, што іх контррэволюцыйныя выбрыкі падобнага характару не дасягнуць пастаўленай мэты. Вярнейшыя сродкі для гэтага — пакладаць надзеі на старую цётку, белапанскую, фашыстаўскую Польшчу. Адна інтэрвэнцыя можа карміць астываючыя надзеі — значыць, накіроўвай сілы на яе падгатоўку. І контррэлюцыйныя падрыўнікі, пакінуўшы пазадзе веху ў выглядзе Трамповічавага артыкулу, працягалі далей разьвіваць сваю дзейнасьць праз мовазнаўства, праз экскурсіі і досьледы. У гэтым іх нясупынна падбадзёрвае патураньне з боку паасобных адказных партыйцаў. Ва ўнісон нацыянал-дэмократычным тэорэтыкам гучэлі словы і сказы з вуснаў опортуністаў, абгрунтоўваючы адны і тыя-ж

пытаньні амаль аднымі і тымі-ж формулёўкамі. У гэтых формулёўках, як і сьлед, наглядалася падтрыманьне ў лепшым выпадку прымірэнцтва да нацдэмаўскіх установак. Дык чаго-ж сароміцца? І, чытаючы ў артыкуле наркома асьветы Баліцкага адстойваньне самабытнасьці ў наступных сказах: «Беларуская культура, як культура пераважнае большасьці беларускага сялянства і работнікаў, была вызвалена з таго заняпаду, у якім яна знаходзілася на працягу цэлых дзесяткаў гадоў, і атрымала ня толькі права, але фактычную магчымасьць свайго самастойнага існаваньня і далейшага разьвіцьця»,— нацыянал-дэмократы выглядалі ў гэтым компэнсацыю сваіх поглядаў і тэорый кіраўнічай культурным фронтам установай. Яшчэ больш компэтэнтнымі ў гэтым разрэзе былі для іх сьцьверджаньні т. Я. Адамовіча, які ставіў кропку над нацыянал-дэмократычнай канцэпцыяй, кажучы: «Рэволюцыя Кастрычніка ўсклала на Інбелкульт задачу аб'яднаньня ўсіх груп беларускага грамадзянства дзеля таго, каб намеціць шляхі разьвіцьця беларускай культуры, якая жыла і жыве ў шырокіх гушчах сялянства». Тую-ж думку, толькі яшчэ больш конкрэтызавана, падносіла нацыянал-дэмократам і газэта «Савецкая Беларусь», называючы Інбелькульт «Кузьняй беларускай культуры» «як у палітычнай, так і ў культурнай працы,— пісалася у гэтым артыкуле,— калі гэта праца вядзецца ў вялікім абхваце, трэба мець цэнтр, у якім згуртаваны найбольш кваліфікаваныя, найбольш аўторытэтныя, найбольш актыўныя сілы. На Беларусі ў галіне беларускай навукі і культуры гэткім цэнтрам зьяўляецца Інстытут беларускае культуры, які пачаў сваю працу два гады назад у выглядзе невялічкай вузка тэрмінолёгічнай комісіі. Беларускі народ на працягу вякоў ня меў, дый ня мог мець, вышэйшай ляборатрыі навуковай думкі, і зусім зразумела, што цяпер, калі беларускі народ мае сваю дзяржаву і выходзіць, як палітычная і культурная сіла, на міжнародны форум, мы павінны мець свой нацыянальны, адменны і да таго высокааўтарытэтны навукова-культурны асяродак».

Як бачым, аргумэнты і прызнаньні аднакавы, як аднымі вуснамі казаныя. І нацыянал-дэмократы і нацыянал-опортуністы пагоджана сходзяцца на мэсыянскай ролі ў справе будаўніцтва беларускай (!) культуры на Інбелкульце. І тыя, і другія аднакава надаюць Інбелкульту ролю «нацыянальнага асяродку». Нарэшце, і тыя і другія становяць перад Інбелкультам заданьні — аб'яднаць «усе групы беларускага грамадзянства», «найбольш аўторытэтныя, найбольш актыўныя сілы». Аб'яднаньне-ж гэтых сіл мела мэтаю «стварэньне беларускае культуры».

Ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, пры разгорнутым соцыялістычным будаўніцтве, якое вядзецца рабочаю клясай на чале з комуністычнай партыяй, мы ня чуем жаднага заіканьня аб гэтых умовах. Будаўніцтва беларускае культуры ў форме і ў зьмесьце, укладаным нацыянал-дэмократамі, аддаецца апошнім. Гэтыя контррэволюцыянэры атрымоўваюць кваліфікацыю «аўторытэтных сіл, атрымоўваюць давер'е для адказьнейшае працы. І, мяркуючы аб адзіным нацыянальным цэнтры, адначасна вядучы па-замежамі савецкіх рэспублік варожую супроць іх чыннасьць, атрымоўваць гэты цэнтр (Інбелкульт) у свае валоданьне. Абставіны і сюрпрызы наўрад ці чаканыя беларускімі контррэволюцыянэрамі. Пры даных абставінах маглі быць вераемнымі і магчымымі падобныя вылазкі, аднэй з якой быў памянёны артыкул Трамповіча. Расьперазаная белагвардзейская радаўшчына робіць недвухсэнсовыя адкрытыя замахі на кіраўніцтва краінай рабочых, а ёй зычыць наступны адказ з вуснаў Баліцкага і з вуснаў Я. Адамовіча. Першы разглагольствуе: «у зьвязку з тым, што большасць інтэлігенцыі (чытай — нацыянал-дэмократаў — З. Ж.) шчыра і прыхільна пачала працаваць на карысьць савецкае ўлады, погляд на яе з боку рабочых і сялян пачынае мяняцца; калі ў першыя часы савецкага будаўніцтва адносіліся да інтэлінэнцыі з некаторым недавер'ем і апаскай, дык зараз для шырокіх рабоча-сялянскіх гушчаў зьяўляецца зусім зразумелай тая роля інтэлігенцыі, якую інтэлігенцыя павінна сыграць у савецкім будаўніцтве» («Сав. Бел».). Тав. Я. Адамовіч рэвэрансіраваў: «Беларуская інтэлігенцыя ведае абставіны жыцьця сялянства, яна ведае гісторыю Беларусі, географію, мову, быт і г. д. Вось чаму нам важна супольная з намі праца беларускае інтэлігенцыі. І я думаю, што беларуская інтэлігенцыя ведае

нашы адносіны да яе. Беларуская інтэлігенцыя ў сваёй масе выхадцы з сялянства, якое мы вядзем за сабой. А таму гэта інтэлігенцыя павінна разам з комуністычнай партыяй і савецкай уладай адбудоўваць Савецкую Беларусь». Далей т. Я. Адамовіч напамінае, што «ў 1920 годзе, бачыце, зварачалася партыя да беларускіх эсэраў з пропозыцыяй да супрацоўніцтва, але тыя не згадзіліся».

І тон размоў і характар пастаноўкі пытаньня былі далёка ад няспрыяньня да нацыянал-дэмократаў. Мотывы аб «сумесным будаўніцтве», магчыма і не літаральна азначаўшыя тое, што думалі нацыянал-дэмократы, усё-ж не падкрэслівалі належных адносін да зарвалай беларускай радаўшчыны. Апошняя не атрымала ўдару, які-б абагнуў яе абнаглеўшыя галовы і выбіў з іх надменныя намеры. Замест гэтага — гутарка аб «супольнай з намі працы» і дапаміны аб спробах пропозыцый. І контррэволюцыйныя нацыянал-дэмократы надзейна пацiралі рукі, падвострываючы сваё аружжа для працягу барацьбы супроць савецкае ўлады.

Яны адчувалі сябе юбілярамі, яб якіх замілавана гутарацць адпаведныя асобы. Ды ня толькі гутарацць! Справа не абмяжоўвалася адным славесным фліртам. Кіраўніцтва Наркомасьветы, як і кіраўніцтва Інбелкульту, цалкам падзяляла з нацыянал-дэмократамі кіраўнічыя функцыі ўстановамі. Болей таго, заядлыя нацыянал-дэмократы станавіліся на адказныя месцы і задавалі тон у вырашэньні адказных пытаньняў. Інтэрвэнт Некрашэвіч, будучы сябрам колегіі Наркомасьветы, адначасна кіраваў Галоўнавукаю і быў членам прэзыдыуму Інбелкульту. Падбор працаўнікоў для музэяў, назначэньне выкладчыкаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы, комплектаваньне мовазнаўчага аддзелу ў Інбелкульце амаль ня цалкам залежала ад гэтага зацятага ворага савецкае ўлады. У скутку недапусьцімага давер'я і пакладаньня на падобных асоб з боку нацыянал-опортуністычнага кіраўніцтва гэтымі ўстановамі — музэі і катэдры беларусазнаўства апынуліся ў руках нацыянал-дэмократычнае хэўры. Наркомасьветы Баліцкі націскаў на мэтодком і галоўліт для адабрэньня і бясспрэчнага пропуску нацыянал-дэмократычнай пісаніны. Дзяржаўнае выдавецтва, на чале якога стаяў аўтар гэтых радкоў, безразборна друкавала нацыянал-дэмократычную «вытворчасьць». На працягу трохгадовага майго кіраўніцтва выдавецтвам было выдадзена процьма контррэвалюцыйнае мішуры і лічаныя кніжкі марксысцка-ленінскага зьместу. Дзякуючы злачыннай нядбайнасьці і недапусьцімаму папушчэньню нацыянал-дэмократычнім проіскам, кіраўніцтва выдавецтвам (Жылуновіч) дапамагала распаўсюджваньню шкодных думак, давала падпору контррэволюцыйнай чыннасьці нацыянал-дэмократаў. Вялікая колькасць выданьняў варта па сваёй якасьці макулатуры. Недахоп бальшавіцкай пільнасьці ў аўтара гэтых радкоў дазволіў ім, нацыянал-дэмократам, выкарыстаць у сваёй мэце апарат выдавецтва. Такім чынам, улічаючы гэта спрыяльнае для сябе становішча, нацыянал-дэмократы з адкрытым забралам разгортвалі сваю шкодніцкую працу. І «працуючы» не забывалі аб пераклічцы з сваімі агентамі, пакінутымі на ўсякі выпадак ў гасьцях інтэрвэнцкае фашыстаўшчыны буржуазна-капіталістычных краін. Час-ад-часу ў газэце «Савецкая Беларусь» зьяўляюцца артыкулы А. Цьвікевіча, у якіх апошні старшыня радаўскага габінэту міністраў непрыхавана трактуе пытаньні коордынацыі белагвардзейскае чыннасьці. Пад дыплёматычным велюмам спрытна хаваюцца нядвузначныя намёкі і падказы. У лютым месяцы 1926 г. у «Савецкай Беларусі» друкуецца характэрны ў гэтых адносінах артыкул на тэму «Пэрспективы беларускае справы на Захадзе». «Калі Беларусь у гэты час падзелена,— піша Цьвікевіч,— калі паасобныя часткі адзінага народу часова ідуць рознымі шляхамі, і з прычыны гэтага між імі ўсё больш вызначаецца розьніца ў культуры, побыце, экономічнай і соцыяльнай структуры, дык задачай усіх сьвядомых працаўнікоў зьяўляецца супроцьстаўленьне гэтаму пагібельнаму дыфэрэнцуючаму процэсу якога-небудзь сынтэзу, якога-небудзь яднаючага, умацоўваючага пачатку. Гэтым пачаткам пры сучасных умовах можа быць толькі галіна культурнага супрацоўніцтва. Організацыя навуковых таварыстваў, узаемна вывучаючых Савецкую і Заходнюю Беларусь, адшуканьне пэўных шляхоў да наладжаньня чыннага супрацоўніцтва ў галіне экономікі, узварушэньне коопэрацыі і краязнаўчага руху, узаем-

нае вывучэньне і зьбіраньне матэрыялаў адносна транспорту і рынкаў, нарэшце абмен нацыянальнымі дасягненьнямі ў галіне мастацтва, тэатру і г. д.— вось тыя задачы, якія паўстаюць перад беларускімі працоўнымі на Захадзе і ў эміграцыі».

Гэта своеасаблівая сыгналізацыя аб мэтодах супрацоўніцтва раскіданых частак адзінае контррэволюцыйнае банды нацыянал-дэмакратаў не патрабуе комэнтараў. Адкрытая пераклічка нават не старанна завуалявана. Канавод радаўшчыны, дырыгуючы тактыкай, накіроўваў яе па адным шляху — па шляху культурнае працы. Ён бачыў і разумеў досыць добра, што пад гэтай шыльдай лепш за ўсё праводзіць нацыянал-дэмакратам сваю шкодніцкую працу і каардынаваць яе правядзеньне, тым болей, што з боку шэрагу нацыянал-апортуністаў наглядаецца поўнавернае пакладаньне на нацыянал-дэмакратаў.

Карыстаючыся гэтай давернасьцю і пакладаньнем, А. Цьвікевіч узяў на сябе ролю дасьціпнага аглядчыка і комэнтатара «Міжнародных проблем», ёмка накіроўваючы іх вырашэньне водгул заданьняў контррэволюцыйных нацыянал-дэмократаў. Мэтодычна і разьмяркоўна сёньня аб адносінах Савецкае Беларусі да Літвы, заўтра ўспамінамі аб амэрыканскай эміграцыі, няпрызнаны дыплёмат, але дасканалы контррэволюцыянэр А. Цьвікевіч падаваў сыгналы ў Чыкаго і ў Коўну, у Прагу і ў Рыгу. Прынятая перад бэрлінскаю конфэрэнцыяй інструкцыя аб барацьбе за беларускую дзяржаўнасьць, на падставе конгрэсу 1917 году, выпаўнялася акуратна і старанна. У гэтым мог быць упэўнены і Крычэўскі, і Ластоўскі, і Езавітаў, і Варонка. А каб праканацца...го, ёсьць!— Інбелкульт намеціў акадэмічную конфэрэнцыю. На фоне яе падрыхтоўкі, за якую аддана прыняліся Цьвікевіч і Некрашэвіч, артыкулы першага асабліва выпуклялі ўложаныя ў іх контррэволюцыйныя заданьні згуртаванай у Савецкай Беларусі радаўскай белагвардзейшчыны.

Акадэмічная конфэрэнцыя... Канавод радаўшчыны, міністар і дыплёмат А. Цьвікевіч і пасол народнае рэспублікі, сябра француЗскіх інтэрвэнтаў Некрашэвіч з зацягам загаворнікаў хапіліся за яе організацыю. Маючы поўнае давер'е з боку кіраўніцтва Інбелкульту, як сябры прэзыдыуму, абое гэтыя рыцары фашыстаўскае пагоні ня «ўдарылі тварам у гразь».

Конфэрэнцыя, як вядома, сабрала ў сабе багаты букет нацыянал-дэмократычных кветкаў. Не засталіся без сваіх прадстаўнікоў ні праскія, ні рыскія, ні ковенскія гнёзды контррэволюцыйнай белагвардзейшчыны. З адкрытым забралам, у знарок прыгатванай для імяністых гасьцей абстаноўцы, прадэмонстравалі «госьці» перад сваімі з сваімі контррэволюцыйнымі намерамі сябрамі. Адзін за другім выказвалі яны свае нячуваныя да таго ў Савецкай краіне, прасычаныя нацыянал-дэмократызмам, антысавецкія прамовы і думкі. Доўгагадовы актыўны барацьбіт супроць дыктатуры пролетарыяту, старшыня рады і рэдактар контррэволюцыйнага фашыстаўскага часопісу «Крывіч» Ластоўскі прывітаў конфэрэнцыю ад гэтага часопісу і... «ад цэлага раду беларускіх організацый, якія знаходзяцца на эміграцыі».

Сьледам адзін за другім паліліся падобныя «прывітаньні» з вуснаў заядлых ворагаў рабочае клясы ў сьценах асьветленай Кастрычніцкай рэволюцыяй будыніны. За прывітаньнямі разьнялася на цэлы тыдзень контррэволюцыйная дэмонстрацыя сабраных з усіх канцоў нацыянал-дэмократаў. Яна выказалася ў выяўленьні і популярызацыі контррэволюцыйных тэорый і канцэпцый беларускае белагвардзейшчыны ў мовазнаўстве і літаратуры. Яна паказала сябе ў выступленьнях і вылазках у выглядзе патрабаваньня ўводу лацінскага альфабэту. Яна дала аб сабе знаць самаю формаю організацыі, якая сапраўды абярнулася ў зьлёт антысавецкіх сіл.

Разглядаючы конфэрэнцыю іменна ў гэтым аспэкце, Ластоўскі расьперазана адзначыў яе мэты ў наступных словах: «Бачу ўсю важнасьць гэтай конфэрэнцыі для беларускага адраджэньня, для беларускага пісьма, для якіх гэта конфэрэнцыя зьяўляецца ў пэўнай меры паваротным момантам і вялікім этапам у гісторыі нашага адраджэньня». На аўтара гэтага нацыянал-дэмократычнага адраджэньня пасьпяшаліся і тут даць сваю ахвяру нацыянал-апортуністы праз сумесную працу на конфэрэнцыі, праз выступленьні ў абарону лацінскага альфабэту (Жылуновіч), праз падтрыманьне нацыянал-дэмократычных поглядаў на беларускую літаратуру... Гэта ахвяра дапоўнілася праз год ха-

рактэрнай прадмовай да зборніка прац конфэрэнцыі, дзе Ігнатоўскі разам з Некрашэвічам надзялілі яе высокім патэнтам. «І сапраўды на гэтай конфэрэнцыі была прадстаўлена ня толькі Савецкая Беларусь, у асобах лепшых мовазнаўцаў Інбелкульту і ўнівэрсытэту (проф. Бузук, Некрашэвіч, Лёсік, доцэнт Воўк-Левановіч, Багдановіч, Цьвяткоў), а таксама выкладчыкаў беларускае мовы ў пэдтэхнікумах... Таксама прыехалі на акадэмічную конфэрэнцыю прадстаўнікі беларускае нацменшасьці (якое далікатнае званьне для заведамых эмігрантаў-контррэволюцыянэраў!— З. Ж.), Літвы (вядомы дасьледчык па беларускай мове Ластоўскі і грам. Галавінскі), ад Латвіі (грам. Езавітаў і Пігулеўскі) і ад Чэха-Славакіі (пясьняр Жылка)».

Так плянава і абдумана, памеркавана і сыстэматычна вялася беларускімі контррэволюцыйнымі нацыянал-дэмократамі падрыўная дзейнасьць. Дасьціпна і ёмка праводзячы свае манэўры шляхам конфэрэнцый і выступленьняў у друку, праз пісаніну і габінэтную працу, яны ўпарта і настойна працярэблівалі дарогу для інтэрвэнцыі, зрываючы соцыялістычнае будаўніцтва і ставячы перашкоды пераможнаму прадзвіжэньню рабочае клясы, на чале з яе правадыром комуністычнаю партыяй, да соцыялізму.

**АД РЭДАКЦЫІ.** Аўтарам замала адведзена месца крытыцы сваіх памылак, як у мастацкай творчасьці і крытыцы, так і ў публіцыстыцы. Рэдакцыя спадзяецца, што ў далейшым працягу свайго артыкулу т. З. Жылуновіч дасьць разгорнутую крытыку гэтым памылкам, асьвятліць болей сваю літаратурна-мастацкую і публіцыстычную чыннасьць пэрыоду часопісяй «Адраджэньне», «Вольны сьцяг» і інш. і свае тагочасныя адносіны да іх, як да матар'ялаў, што друкаваліся там.

«Маладняк», № 12, 1930 г.

# АПОВЕСЦЬ ПРА ТРЫШЧАНА

*Легенда пра Трышчана і Іжоту (Трыстана і Ізольду), першыя згадкі пра якую датуюцца XI—XIII ст., узнікла, верагодна, сярод пікцкага насельніцтва Шатландыі і стала асноваю мноства апрацовак у еўрапейскіх літаратурах. Беларуская версія «Аповесці пра Трышчана» — гэта пераклад з сербскае мовы, зроблены ў XVI ст. невядомым аўтарам. Сербскі тэкст не захаваўся; мяркуецца, што ён наследаваў італьянскаму. Адзіны захаваны спіс беларускае аповесці змешчаны ў рукапісным зборніку XVI ст., які належаў сям'і наваградскага шляхціца Уняхоўскага і захоўваецца цяпер у Познані. Для свайго перакладу я карыстаўся публікацыяй у кн. «Легенда о Тристане и Изольде», М., 1976. Цалкам ён мае быць апублікаваны ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Беларускі «Трышчан» перакладзены таксама на італьянскую, англійскую і сербскую мовы.*

*Прапанаванаму тут урыўку папярэднічаюць наступныя падзеі. Трышчан з дружынаю прыязджае ў Арлендэю па дачку тамтэйшага караля Ленвіза, Іжоту, якую ён абяцаў прывезці да свайго дзядзькі, карнавальскага караля Марка, які пажадаў з ёю ажаніцца. Спаткаўшы караля Ленвіза, Трышчан згаджаецца заступіць таго ў двубоі з рыцарам Бланорам, які быў несправядліва абвінаваціў Ленвіза, але згаджаецца пад умоваю, каб у выпадку перамогі кароль Ленвіз даў яму тое, чаго ён просіць. Бланора Трышчан перамагае.*

*Перакладчык*

Калі Трышчан вярнуўся на ўзбярэжжа да сваіх шатроў і дружыны, усе выбеглі да яго з вялікаю радасцю і пачалі распытвацца, як яму павялося. Ён адказаў ім: «З Божае ласкі я збавіў караля ад Бланора і ад бедавання». Тут усе ўздалі хвалу Богу і запыталіся ў Трышчана: «Пане, ці не вельмі ты зранены?» Той адказаў: «Я не без ранаў, але тае бяды; мы не абняславіліся, дык радуймася ж, бо цяпер мы здабылі чаго хацелі». Тут пад'ехаў кароль Ленвіз са сваёй дружынаю, саскочыў з каня, кінуўся да Трышчана і расцалаваў яго, кажучы: «Трышчане, ты мяне мечам адбараніў, цяпер і я твой, і ўсё, што я маю, тваё. Але я жадаю ведаць, ці не вельмі ты зранены?» Трышчан адказаў: «Абы добры лекар, то я памерці ад ранаў не баюся». Кароль сказаў: «Пазбыўшыся такое бяды, лекара некага знойдзем», і паклікаў лекараў, якія агледзелі Трышчанавы раны і зрабілі ўсё, што належала.

Трышчан нагадаў: «Каралю, памятаеш нашу ўмову?» Той адказаў: «Вядома ж: маю табе даць, чаго ты захочаш». Трышчан яму вельмі па-

Старонка рукапісу беларускай «Аповесці пра Трышчана» (XVI ст.). Познань. Публічная бібліятэка імя Э. Рачыньскага.

корна падзякаваў і сказаў: «Я прашу твае дачкі Іжоты для майго дзядзькі караля Марка», а пасля запытаў у яго: «Пане, куды мы рушым адгэтуль?» Кароль адказаў: «Я не крануся з месца, пакуль ты акрыяеш, а тады едзьма як найхутчэй у Арлендыю. Але прашу цябе, дзеля твае шляхотнасці: паедзьма са мною разам, а пакуль тое, пажывем тут». Тады паміж арлендыйцамі і карнавальцамі, якія дагэтуль былі ў найвялікшай варажнечы між сабою, усчалася вялікая дружба і весялосць.

Трышчан цэлую тую ноч вачэй не звёў, а кароль паспаў крыху. Назаўтра кароль паклікаў да сябе аднаго мудрага чалавека і пераказаў яму сон, што быў гэтае начы сасніў. Той адказаў: «Пане, я б табе так параіў: не аддавай дачкі Трышчану, бо калі яна выправіцца ў Карнаваль, то зазнае такое вялікае бяды, як ніводная дзяўчына ў цэлым свеце». Кароль адказаў на гэта: «Я так зрабіць не магу: я ж абяцаў яе аддаць і то такому віцязю, як Трышчан. Ён гэтулькі зрабіў для мяне, што каб я цяпер яе не аддаў, то выявіўся б здраднікам, бо ўмовіўся быў з ім, ка-



Першая шлюбная ноч Іжоты. Таблічка са сланоавай косці. Германія (XIV ст.) Санкт-Пецярбург. Эрмітаж.

лі ў вялікай патрэбе прасіў ягонае дапамогі. Дачку я вельмі люблю, але страціць з-за яе гонар мне не выпадае. Хай будзе воля Божая: не магу яе не аддаць».

Пан Трышчан, адпачыўшы, загадаў маракам падрыхтаваць карабель каб плыць у Арлендэю. У каралеўскім двары наладзілася вясёлая бяседа, і досыць віцязяў, паняў і паннаў прыйшлі паглядзець на слаўнага віцязя Трышчана, які збавіў іх ад бяды з Бланорам.

Навесяліўшыся, карнавальцы развіталіся з каралём і з каралеваю і, радасныя, рушылі ў мора дахаты, узяўшы з сабою прыгожую Іжоту і пры ёй шмат добрых паняў і паннаў, каштоўна ўбраных, як належала гэтакай пані. Расчуліўшыся, кароль з каралеваю і ўсе добрыя людзі заплакалі, а каралева, адазваўшы ўбок Гаварнара і Брагіню, сказала ім: «Вазьміце гэтую срэбную флягу з пітвом і схавайце, а як кароль Марка з Іжотаю будуць ужо на пасцелі, то дасцё ім гэтага пітва, перш каралю, а потым Іжоце. А як абое нап'юцца, рэшту выліце далоў. Калі ж іншы хто нап'ецца таго пітва, можа здарыцца вялікая бяда, бо гэта мілоснае пітво. Напіўшыся, яны абое гэтак моцна пакахаюць адно аднаго, што давеку ніхто між імі разладу не ўчыніць». Тыя паабяцалі так і зрабіць.

Развітаўшыся з каралём і каралеваю, карнавальцы напнулі ветразі і рушылі ў дарогу з вялікай радасцю. Іжота была з Трышчанам, і ніводзін з іх не меў на думцы нічога ганебнага, адно добрую і годную павагу.

На трэйці дзень марскога падарожжа Трышчан з Іжотаю гулялі ў шахматы. На Трышчане была ўтканая золатам камізэлька і плашч, а на Іжоце зялёная аксамітная сукня. Стаяла лета, і была вялікая спёка. Трышчан сказаў: «Трэба папіць». Гаварнар пайшоў і прынёс ім мілоснага піт-

ва са срэбнае фляжкі, не дагледзеўшы, бо ў каморы стаяла шмат усялякіх пасудзін, і падаў адзін кубак Трышчану, а другі Іжоце.

Выпіўшы таго пітва, яны, яшчэ не дапіўшы кубкаў, закахаліся адно ў аднога гэтак моцна, што потым ніводзін з іх давеку другога не пакінуў. Яны пачалі пазіраць адно на аднаго і ні пра кога не думалі, адно — Трышчан пра Іжоту, а Іжота пра Трышчана. Яны абое селі, нібы спужаўшыся. Трышчан думаў пра Іжоту, а Іжота пра яго, а на караля Марка абое забыліся. Трышчан сказаў: «Дзіву даюся, адкуль гэта на мяне раптам найшло, калі раней такога са мною не бывала?» Абое імкнуліся думкаю адно да аднаго і казалі сабе: «Жаданне нашае няслушнае»; але пітво іх перамагло. Трышчан сказаў сам сабе: «Калі я кахаю Іжоту, то гэта не дзіва, бо яна наймілейшая на свеце, і лепшае б я нідзе не знайшоў. Я яе павёз, яна аддадзена мне, а каханне нашае льга будзь утоіць». А Іжота думала: «Калі я кахаю Трышчана, гэта не дзіва: ён мне роўня і так сама высокага роду, як і я, а рыцара большага за яго на свеце няма». З гэтых думак яны зразумелі, што кахаюць адно аднога ўсім сэрцам. Іжота ўсцешылася з гэтага і сказала: «Калі мяне кахае найвялікшы віцязь, чаго мне яшчэ трэба?» А Трышчан сказаў: «Мне надта пашчасціла, калі мяне кахае найцуднейшая панна, бо я на тое не заслужыўся».

Гаварнар, агледзеўшыся, што даў ім мілоснага пітва, аслупянеў з перапуду і пачаў сабе смерці жадаць, бо Трышчан з Іжотаю пакахалі адно аднаго, і сказаў Брагіні: «Гэта нашая віна, што мы далі ім гэтага пітва, не ведаючы, што яно такое». Брагіня сказала: «Мы ўзышлі на ліхую дарогу і самі на ёй пагінулі, і Трышчана з Іжотаю загубілі». Гаварнар паказаў на флягу, дзе было пітво, і запытаў: «Ці ведаеш ты, што гэта такое?» Брагіня адказала: «Гэта мілоснае пітво». Ён сказаў: «Кепска ж мы дагледзелі, што нам прыпаручана: далі яго напіцца Трышчану з Іжотаю, от яны і кахаюцца». Брагіня заплакала і сказала: «Мы нарабілі вялікае шкоды, і далей будзе яшчэ горшае ліха. У такой прыкрасці нам трэба быць вельмі абачлівымі». Але свой жаль яны прыхавалі глыбей, каб не дазналіся іншыя.

Трышчану з Іжотаю было няўсцерп. Трышчан сказаў Іжоце: «Я цябе кахаю ўсім сэрцам». Тая вельмі ўзрадавалася і сказала Трышчану: «Нічога на свеце не люблю так, як цябе, і не дай таго Бог, пакуль буду жывая». Трышчан убачыў, што Іжота хоча таго ж, чаго і ён. Болей не марудзячы, яны пашлі ў пакой і споўнілі сваю волю. З тае пары і давеку не змянілася іхнае каханне і прынесла ім шмат цярпенняў. Ніводзін рыцар не знёс гэтулькі дзеля кахання, як Трышчан. Гэта была вялікая шкода, бо ў тыя часы не было большага віцязя за яго; ён быў трэці рыцар у свеце.

Гаварнар сказаў Брагіні: «Як ты мяркуеш? Мне здаецца, Трышчан у Іжоты адабраў дзявоцкасць — я іх бачыў разам». Тая адказала Гаварнару: «Мы загінулі, калі кароль Марка не знойдзе яе ў дзявоцкасці, ён нас усіх пагубіць». Гаварнар сказаў: «Не бойся. Але калі ўжо нам так прывялося за нашыя грахі, то мусім парупіцца, каб ніхто нічога не ўведаў». Брагіня спыталася: «Як гэта магчыма?» Гаварнар сказаў: «Пакінь на мяне, я ўсё зраблю». Яна сказала: «Вось добра было б, каб толькі Бог даў!»

Але Трышчан з Іжотаю ані здагадваліся, што ім усё вядома, бо Трышчан не думаў ні пра што, адно пра Іжоту, а Іжота — адно пра Трышчана. Нічога іншага ў іх на думцы не было, адно што яны былі нібыта ў раі і кахалі адно аднога болей, як сябе. Іхнае каханне ўзрасло настолькі, што яны не маглі ўявіць, як жылі б адно без аднога. А тым часам карабель няўхільна набліжаўся да Карнавалі.

Напаткала іх прыгода. Аднаго дня надвор'е змянілася, мора ўсхвалявалася, узняўся вецер і цэлую ноч гвалтам гнаў іх туды, куды яны не хацелі. Назаўтра яны апынуліся ля вялікага і моцнага горада на востраве пасярод мора. Паблізу было яшчэ шмат вялікіх астравоў. Гэныя астравы поўныя добрых людзей і ўсялякага дабра і завуцца Дольныя астравы. Гэта бацькаўшчына прынца Галіёта, які пануе над імі: бо іншыя землі і краіны ён сам пабраў праз уласную добрацъ. А Анцалот на той час быў у краіне, якая завецца Сарэнлоіс.

Трышчан запытаў: «Ці ведаеце вы, маракі, дзе той Плачны горад?» Тыя адказалі: «Не ведаем, а гэта горад прынца Галіёта». Трышчан сказаў: «Я не хацеў бы там апынуцца па сваёй волі, бо чуў, што там ліхія парадкі». Пакуль яны гаманілі пра гэта, да іх падыйшлі шасцёра ўзброеных людзей. Убачыўшы, што падарожнікі з караблём не могуць нікуды падацца, яны да іх звярнуліся: «Адкуль вы, што без нашага дазволу прысталі да нашае прыстані?» Трышчан адказаў: «Мы з Карнавалі, паслы караля Марка, а ідзем з Арлендэі. Сюды нас загнала ліхая часіна, а вам мы нічога не вінаватыя і нічога не шкодзім». Тыя сказалі: «Адкуль вы б ні былі, паводле нашага закону, вы нашыя вязні. Выходзьце вон, колькі вас тут ні ёсць, хадзем у горад, а там даведаецеся нашага закону».

Трышчан звярнуўся да свае дружыны: «Як мы зробім? Калі іх паслухаем, то апынемся ў іхных руках, і яны здолеюць нарабіць нам бяды». Тыя адказалі: «Мы не ведаем, якія іхныя намеры, дык лепей нам тут бараніцца як мага, хаця каму і загінуць». А іншыя сказалі: «Праз бойку ніякае рады не дамо, бо мы ж у іхных руках, яны могуць нас патапіць разам з караблём, альбо з горада пабіць каменнем; то дамося лепей ім у рукі». Трышчан сказаў: «Панове, будзьма разважнымі, у гэным горадзе такія ліхія парадкі, што калі мы дамося ў іхныя рукі, яны нас пазабіваюць альбо паўкідаюць у вязніцы. За паслугу яны нам удзячныя не будуць, а ласкі іхнае нам не трэба. Я так сказаў бы: давайце бараніцца як мага, лепш загінем, чым пойдзем да іх у ласку, бо з тае ласкі нам карысці не будзе».

Трышчан запытаў у Іжоты: «А ты што пра гэта думаеш?» Тая была ў спалоху і адказала, плачучы: «Трышчане, я не ведаю, што сказаць, я дадзена ў твае рукі і пад тваю апеку, ты мяне вывез з мае краіны, і калі мяне спаткае ганьба або смерць, то адно праз цябе». Трышчан, пачуўшы гэта, пракляў той дзень, калі ён нарадзіўся, і спытаў у яе: «Панна, ці хочаш ты, каб я тут заставаўся ў караблі, пакуль мяне не заб'юць — або хадзем на гару ў замак і дамося ім у рукі?» Яна адказала: «Хай будзе, як ты хочаш». Тады Трышчан сказаў: «Хадзем да іх на гару і знясем цярпліва ўсё, што нам ад іх выпадзе, калі нельга ад іх адбараніцца».

Усе згадзіліся на гэта, павыходзілі з карабля і рушылі на гару ў горад. У замку аказалася досыць добрых людзей, віцязяў, пахолкаў, паннаў і слуг. Падарожнікаў прывялі ў вялікі дом, дзе было шмат каморак, па якіх сядзелі вязні, забраныя ў палон. Двор быў абгароджаны вельмі цвёрдым мурам, каб ніхто з вязняў не ўцёк. Прапусціўшы падарожнікаў усярэдзіну, за імі замкнулі браму, і Трышчан сказаў: «Панове, мы ў вязенні, і гэта канец, бо яны такія вераломныя і такога ліхога закону, што раней, чым памрэм, мы адгэтуль не выйдзем, калі толькі Бог нас не вызваліць». І ўсе пачалі горка плакаць і тужыць, але моўчкі, бо не хацелі, каб чулі астатнія. Тыя дзень і ноч Трышчан з дружынаю праседзелі ў вязніцы, і ніхто да іх не прыходзіў.

Назаўтра прыйшлі да іх шасцёра людзей без зброі і запыталі: «Як вы маецеся?» Трышчан адказаў: «Як у прыгодзе, якую Бог паслаў; але скажыце, калі ласка, панове, памажы вам Божа, ці маем мы застацца



Трышчан і Іжота п'юць любоўны напой. Таблічка са слановай косці. Германія (XIV ст.) Санкт-Пецярбург. Эрмітаж.

ў гэтай вязніцы; растлумачце нам». Адзін віцязь сказаў: «З гэтага палону ніхто ніколі не выходзіць; тыя, каго сюды саджаюць, усе дні праводзяць у слязах і ніколі плакаць не пакінуць. Таму наш горад і завецца Плачным». Трышчан сказаў: «Ох, мой мілы Божа, ці праўда гэта? Няўжо ніхто не выходзіць адсюль жывы?» І той адказаў: «Сапраўды ніводзін чалавек, з тых часоў, як пастаўлены гэты закон. Але калі б знайшоўся віцязь вельмі высокага сэрца і рыцэрства, і пані, прыгажэйшая за нашую пані, і прыехалі абое разам, то зрабіліся б нашымі гаспадарамі, а тыя, каму мы служылі дагэтуль, мусілі б памерці».

Трышчан, пачуўшы гэта, вельмі ўзвесяліўся і падумаў: «Калі б нас судзілі па праўдзе, то мы апынуліся б на волі, бо Іжота цуднейшая за ўсіх на свеце, а рыцар, як Бог дасць». І ён запытаў у віцязя: «Скажы мне, калі ласка: калі б тут знайшоўся рыцар большы за вашага і пані цуднейшая за вашую, ці вызваліліся б мы тады з палону?» Той адказаў: «Яно б вызваліліся, але такога быць не можа, бо наш рыцар — пан высакародны і магутны, і такі рыцар, што другога такога няма на свеце». Трышчан запытаў: «А калі б знайшоўся большы рыцар, большы нават за Анцалота?» — «І такому дабярэм раўні».— «А калі ён адужае вашага рыцара, ці выйдзем мы тады з увязнення?» — Той адказаў: «Выйдзеце, калі з ім разам прыйдзе пані». Трышчан сказаў: «Дык кажу табе: мы свабодныя, калі вы нам крыўды не зробіце. Я і пры двары караля Артыюша скажу, што ні той рыцар, пра якога вы кажаце, не большы за нашага, ні тая пані не цуднейшая за нашую». [Той] рыцар аслупянеў і запытаў: «Дзе той, каго вы гэтак хваліце?» Трышчан адказаў: «Калі з намі абыдуцца па справядлівасці і мы выйдзем на поле,— ці вы споўніце ваш закон па праўдзе? Вывядзіце вашую пані і вашага рыцара, і хай адбудзецца бесстаронны суд: калі нашая пані з нашым віцязем выявяцца лепшымі, то дасцё нам свабоду, а калі не, то няхай мне галаву адсякуць». Рыцар адказаў яму:

«Ты сказаў досыць: я пайду і перакажу, каму трэба». І пайшоў адгэтуль разам са сваімі таварышамі.

Раскажу ж я вам, чаму той горад завецца Плачным. Ён быў збудаваны і абладжаны ліхімі законамі ў тыя гады, калі Іосіф пайшоў па загадзе Госпада нашага Ісуса Хрыста на шырокі свет і абярнуў мноства ў хрысціянскую веру. Калі ж ён пачуў, што тыя Дольныя астравы поўныя людства, то паслаў набожных людзей звяртаць народ да Бога, і яны навярнулі ўсе тыя астравы, апрача аднаго, які завецца Арашы. Там было мала іншых людзей, адно Арашы. Пан іхны быў арашац, меў дванаццаць сыноў, і ўсе былі арашцы. Калі хрысціяне прыйшлі на той востраў, гаспадаром над ім быў Даўлітэс. Ён быў неяк паранены дзікім мядзведзем і адцураўся Іосіфавага хросту.

Віцязь, які наведаў Трышчана, прыйшоў да Брунора з ягонаю пані і кажа: «Пане, мы схапілі маладых людзей, карнавальцаў, і калі паведамілі ім закон нашага горада, то адзін віцязь з іхнае дружыны дакляраваў, што ён лепшы за цябе, а ягоная пані лепшая за нашую. Таму мы і прыйшлі паведаміць вам, бо мы не можам парушаць [нашага] закону, што нам продкі нашыя пакінулі. Таму скажыце, што вы маеце рабіць». Брунор адказаў: «Не я той закон пастанавіў, не мне яго і абмінаць. Клічце суддзяў: каторая пані цуднейшая, тая стане вашай пані, а другая памрэ; і рыхтуйце бітву, а я да яе гатовы». Тыя адказалі: «Іначай быць не можа»,—пайшлі да Трышчана і сказалі яму — «Калі вы маеце такога віцязя, як былі казалі, і спадзеяцеся перамогі, то рыхтуйцеся, бо заўтра будзеце біцца».

На той дзень і ноч карнавальцаў выпусцілі з вязніцы і далі Трышчану ўсяго, чаго трэба. Шмат рыцараў прыходзілі пытацца, як яго завуць, але не маглі нічога даведацца. Пазіраючы на Іжоту, якая хавалася, але не магла ўтоіцца, тыя, хто патрапляў дапасці да яе вокам, гаманілі паміж сабою: «Страцілі мы нашую пані гаспадарыню, бо тая лепшая».

Назаўтра Трышчан убраўся ў латы; калі яму далі [іншы] меч, ён адмовіўся ад яго і запатрабаваў: «Дайце мне мой». І яму далі. Ён сеў на вельмі добрага каня, Гаварнар нёс яму шчыт і дзіду, а Іжота ўбралася ў каштоўны саст і села на інаходніка, а з ёю рушыла Брагіня з іншымі дзеўкамі. Прыехаўшы да шатроў, яны засталі ўжо там суддзяў, а па шатрох поўна добрых людзей, віцязяў і паннаў, якія сышліся паглядзець тае бітвы. Трышчан з дружынаю, прыехаўшы і сышоўшы з коняў, паселі адпачыць, таму што Брунор яшчэ быў не прыехаў. Тут затрубілі ў рог, чый гук разлягаўся далёка, Брунор сеў на добрага каня і выехаў з горада, убраны як мае быць, а з ім некалькі віцязяў і ягоная пані, Галіётава маці. Пад'ехаўшы да шатроў, Брунор спытаўся: «Дзе тая панна, што роўная хараством нашай пані?» Яму паказалі на Іжоту. Ён зірнуў на яе, жахнуўся і сказаў: «За ўвесь мой век я не бачыў лепшае дзяўчыны. Баюся, каб праз яе хараство не страціць таго, што мне даражэй за ўсё на свеце». Калі прыйшла Галіётава маці, пані вялікага хараства, і пазірнула на Іжоту, яна таксама спалохалася, што праз яе хараство загіне, бо Іжота здалася ей найцуднейшаю ў свеце.

Трышчан, пабачыўшы гэную пані, даў знак Іжоце, падышоў да суддзяў і звярнуўся да іх: «Панове і пані, што маеце судзіць прыгажосць гэтых паняў, глядзіце, вось яны стаяць разам; судзіце ж справядліва». Тыя маўчалі, бо відаць было, што Іжота далёка цуднейшая за тую пані. Трышчан зноўку сказаў: «Я вас прашу, судзіце нас паводле вашага закону справядліва». Тыя, засмуціўшыся, адказалі: «Мы і зробім так, але нам вельмі шкада»,— і, звярнуўшыся да Іжоты, сказалі ёй: «Пані, ты лепшая, і тваё хараство збавіла цябе ад смерці. За тваё хараство мы жадаем, каб

ты была нашай гаспадарыняй, але калі прыйдзе якая лепшая за цябе, будзь пэўна, што мусіш памерці, як і тая вунь, што так доўга жыла сярод нас. Мы яе глыбока шанавалі, а цяпер яна засуджана на смерць, і нам яе вельмі шкада, але іначай быць не можа, бо мы прысягалі трымацца нашага закону. Пракляцце таму, хто ўпершыню той закон пастанавіў!» Толькі яны абвясцілі гэта, як усе галасна заплакалі ў вялікім жалі, бо не было там нікога, хто б не засмуціўся.

Трышчан запытаў: «Панове, вяліка ласка, дзе той, з кім я маю біцца?» Яму адказалі: «Вунь той», і паказалі на Брунора, і Трышчан сказаў яму: «Сцеражыся, я адкладваць не хачу». (з Брунорам). Ён узяў шчыт і дзіду і памчаў на Брунора, а той на яго, і яны ўдарылі адзін аднога з такой моцай, што зброя і шчыты ў іх павыпадалі з рук, а самі абодва параніліся, і паспадалі з коняў. Трышчан быў паранены лёгка ў бок, а Брунор у грудзі, вельмі глыбока. Дзіды яны ўжо паламалі, і, выцягнуўшы мечы, пачалі вельмі моцна сячыся. Брунор па ўдарах пазнаў, што Трышчан з добрых віцязяў, і пачаў ужываць сілы. Яны сякліся аберуч, вельмі моцна і вельмі часта, бо абодвум ішлося аб жыцці і смерці. Брунор пазнаў, што Трышчан большы за яго рыцар, і стаў мечам адбівацца, каб утаміць яго, але дарэмна, [гэта было немагчыма]. Ён цэліў ударыць Трышчана ў незакрытае месца, але той на гэтым добра знаўся і ўмеў высцерагацца.

Яны сякліся доўга і ўжо абодва былі параненыя і знясіленыя, так што мусілі адпачыць. Адступіўшыся адзін ад другога, яны пасталі, абапершыся на шчыты і мечы, і доўга стаялі так. Трышчан сказаў: «Пане Брунору, я цябе ўважаю за вельмі добрага і ўмелага рыцара і за гэта прыяю табе і, Бог сведка, не хацеў бы, каб ты загінуў. Калі ласка, калі ты можаш, спыніўшы нашую бітву, прызнаць перамогу за мною і вызваліць маю дружыну, я з радасцю спыню яе таксама, каб ты не загінуў». Брунор адказаў: «Мы ў такім становішчы, што або ты мяне заб'еш, або я цябе, альбо абодва будзем мёртвы, не іначай». Трышчан сказаў на гэта: «Дзе ёсць нянавісць, там любові няма, і калі так, то сцеражыся!» І яны зноў пачалі сячыся, а ўсе дзівіліся, на іх гледзячы. Нарэшце Брунор, не ў змозе трываць далей, выпусціў з рук шчыт і меч і сам паваліўся на зямлю. Трышчан запытаў: «Ці ты болей ужо не можаш?» Брунор адказаў: «Рыцару, дарую табе гэтую бітву, яна твая. Не крыўдуй, што я не зрабіў, як і сам хацеў, бо не магу». Трышчан сказаў яму: «Я цябе палітую: давай мне свой меч і кажы: «Я пабіты». Брунор адказаў: «Кепскі б я быў чалавек, каб уласным языком вымавіў такую прыкрасць. Не дай мне Бог такога да самае смерці, бо яна ўжо блізка мяне!» Трышчан запытаў яго: «Ці выжывеш ты, як адчуваеш?» Брунор адказаў: «Твой меч мне веку не ўдоўжыў, і канец ўжо блізка, а калі не верыш, то зараз сам пабачыш». І, сказаўшы гэта, аддаў Богу душу.

Трышчан, убачыўшы, што ён памёр, зняў яму з галавы шлем і адкінуў далёка прэч, а потым паклікаў тых, што былі прывялі яго, і запытаў у іх: «Панове, ці досыць я зрабіў дзеля таго, каб вызваліць сябе і ўсю дружыну?» Тыя адказалі: «Ты зрабіў досыць, здабыў сабе наш горад і ўвесь востраў, і цяпер ты наш гаспадар, тая панна, якую ты прывёў,— нашая гаспадарыня. Але ты мусіш выканаць яшчэ адну рэч». Трышчан запытаў: «Якую?» Тыя адказалі: «Нашай ранейшай пані, Брунаравічысе, адсячы мечам галаву». Трышчан азірнуўся на яе, а яна горка плача. Яму зрабілася вельмі шкада яе, і ён запярэчыў: «Як гэта я заб'ю жанчыну?» Тыя адказалі: «Іначай быць не можа». Трышчану зрабілася прыкра, ён глыбока задумаўся і сказаў: «Пракляцце таму, хто той закон пастанавіў, і тым, хто яго трымаюцца! Я вымушаны зрабіць такое, што пасля ніколі не бу-

ду вясёлы, як прыгадаю». Адале ён пайшоў, адсек ёй галаву і сказаў ім: «Вы зняславілі мяне, бо кожны добры чалавек, калі ўведае пра гэта, паставіць гэта мне за ганьбу». Тыя адказалі: «Гэта не табе ганьба, а тым, хто ўчыніў такі закон. Хадзем жа на гару ў горад, прысягнеш там трымацца нашага закону, як і твае папярэднікі».

Пан Трышчан не рады быў такому панству, але іначай быць не магло, і ён пайшоў з імі ў замак. Яны сказалі: «Трышчане, прысягай нам тут». Той нехаця, але прысягнуў, бо інакшае рады не было. Яму сказалі пасяліцца з Іжотаю у тых пакоях, дзе жыў пан Брунор са сваёй паняю, і яны жылі там у такой любасці, што Трышчану нічога не было ў галаве, апрача Іжоты, а Іжоце — апрача Трышчана.

Бедная Галіётава сястра, убачыўшы сваіх бацьку і маці нежывых, затужыла, як ніводная дзеўка на свеце. У жалобе яна падрыхтавала адмысловую пасудзіну, уклала ў яе бацькаву і матчыну галовы, прытарочыла да каня і паехала з невялікай дружынаю на Дольныя астравы шукаць Галіёта, і дзе б ні ехала, у кожнага стрэчнага рыцара і юнака пыталася прынца Галіёта, і кожны паказваў ёй праўдзівую дарогу — дзе цяпер пан Галіёт.

Па дарозе яна сустрэла вельмі добрага рыцара высокага рыцэрства, у поўнай зброі і з невялікаю дружынаю. Яна яго прывітала, а ён яе вельмі шляхотна адвітаў, і яна звярнулася да яго: «Рыцару, дазволь спытацца ў цябе, дзеля твайго панства і шляхотнасці,— ці не чуў ты якіх вестак аб прынцы Галіёце?» Тыя адказалі ёй: «Ты сустрэла таго, каго шукала». Яна доўга глядзела на яго, не пазнаючы, бо ён быў у латах, а калі нарэшце пазнала, кінулася яму на шыю, плачучы і не ў змозе гаварыць.

Нарэшце яна загаварыла да яго: «Мне ніколі чуць не даводзілася, каб з такім вялікім, панам, як ты, здарылася такая бяда, якую я, бедная твая сястра, табе зараз адкрыю». Яна адчыніла пасудзіну з касцямі і сказала: «Гэта косці твайго бацькі, а гэта галава тае, што насіла цябе ў чэраве. Іх абаіх уласнаю рукую забіў Трышчан, пляменнік караля Марка карнавальскага, і таму я паехала цябе шукаць, каб ты ведаў, што сталася і што табе рабіць, бо ты чалавек дужы і можаш зрабіць усё, чаго пажадаеш». Галіёт запытаў: «Як гэта адбылося?» Яна апавяла яму ўсё па парадку, і Галіёт зразумеў, што Трышчанавае віны тут няма, і не загневаўся на яго, але заліўся слязьмі ад вялікага жалю і сказаў: «Мілая сястра мая, такая бяда напаткала нас за мае грахі. Каб спадзяваўся поспеху, я б даўно ўжо скасаваў ліхі закон, што на тым востраве. Але цяпер пайду і скасую яго нарэшце, а з Трышчанам абыдуся, як належыць. Унікнуць гэтага не магу, бо каб не адпомсціў, то блага б зрабіў, і мушу помсціць, пакуль жывы. Вернемся зараз у Сарэнлоіс, пахаваем бацькоў у абацтве і там параімся, як адпомсціць». І ўсе паехалі туды ў вялікім жалі, і ніхто не здагадваўся, што гэта едзе Галіёт, бо ён быў з малою дружынаю.

Яны прыехалі ў той горад, дзе знаходзіўся кароль з сотняй віцязяў. Убачыўшы Галіёта, ён вельмі ўзрадаваўся ягонаму прыезду, але заўважыў, што той прыехаў з малою дружынай, і сказаў: «Гэта нездарма». І калі Галіёт зняў латы, кароль падышоў да яго і запытаў: «Пане, як ты маешся? Чаму ты такі невясёлы? Дзеля Бога, скажы мне, што здарылася?» Галіёт адказаў: «Не дзіва, што я невясёлы, бо мяне напаткала вялікае гора і крыўда», і апавеў, як Трышчан забіў ягоных бацьку і маці. Кароль адказаў яму: «Гэта, гаспадару, вялікая бяда; але што ты цяпер рабіцьмеш?» Галіёт адказаў: «Паеду на той востраў з адным яшчэ рыцарам, з двума пахолкамі, з добрым канём і зброяй, каб ніхто мяне не пазнаў: я хачу прыйсці як госць і біцца з Трышчанам. Калі ён мяне заб'е, то майму смутку канец, а калі я яго заб'ю, ніхто мне гэтага не будзе

ўважаць за ганьбу, але за рыцэрства. А табе я кажу, каб сабраў пяцьсот тысяч войска і прыйшоў морам на той востраў, да Плачнага гораду. Я хачу скасаваць той ліхі закон, паводле якога яны ўпляняюць і ўвязняюць гасцей. Пазабівай іх усіх і пазвозь у балота, хай нікога не застанецца, ні мужчыны, ні жанчыны; а каго знойдзеш з гасцей, тых усіх адпусці на волю».

Кароль ста віцязяў адказаў: «Пане, усё, што ты мне кажаш, я выканаю, калі жывы буду. Але як ты маеш біцца з Трышчанам, калі ён найвялікшы рыцар, і нават Анцалот локвенскі не роўны з ім, і на ўсім свеце ніхто з ім не можа зраўнацца рыцэрствам, па ўсіх чатырох старанах, на моры і на сушы? Я табе раю: не пускайся ў такую прыгоду сабе на згубу». І яшчэ сказаў: «Пане, Бог даў табе такую дзяржаву і такую моц, што не выпадае табе ні помсціць, ні гінуць лёгка за такую рэч. Бо калі з табою здарыцца якое ліха, або калі загінеш, то ўся твая дзяржава занепадзе; а калі ён цябе абняславіць, будзеш мець вялікую крыўду. Пане, я цябе заўжды меў за годнага чалавека і цяпер раю: не біся з Трышчанам. Калі ты прыйдзеш да яго з ласкаю, ён, убачыўшы тваю крыўду, возьме помсту на сябе; а калі вы ўдвох выйдзеце на поле і ён цябе не адужае, то сячы мне галаву».

Галіёт адказаў: «Я ведаю, што ты кажаш праўду, і веру табе. Але каб я помсціў яму праз Анцалота або іншых рыцараў, гэта было б горш. Дык ты зрабі, як я табе кажу. Хаця і загіну, але мушу гэта зрабіць, і так зраблю, як наважыўся, бо не знайду супакою, пакуль не пабачу Трышчана». Кароль вельмі баяўся, што Галіёт не ўстоіць супраць Трышчана, і быў таму засмучаны, бо любіў свайго пана Галіёта ўсім сэрцам.

Пасля гэтае гутаркі Галіёт загадаў панесці свайго нябожчыка бацьку і адсечаную матчыну галаву ў кляштар і жалобна пакласці ў каштоўную труну, і з вялікай пашанотаю пакінуў сястру ў горадзе, а сам паехаў да мора з адным рыцарам, з двума служкамі і з надзейным канём, і ўзяў добрую зброю і меч, атрыманы некалі ад Анцалота.

Калі ён прыехаў з дружынай да мора, ніхто яго не пазнаў, бо зазвычай ён з малою дружынаю не ездзіў. За дзень яму падрыхтавалі карабель, надвор'е было добрае, і ён рушыў морам. Адплыўшы ад берагу, ён загадаў маракам: «Кіруйцеся да Плачнага гораду». Тыя адказалі: «Не дай нам Бог там апынуцца, лепей смерць, чым гэта». Галіёт настойваў: «Іначай быць не можа, мусіце плыць туды». Маракі, слухаючы Галіёта, не ведалі, што рабіць, бо туды паплыўшы — пагінуць, а не паплыўшы — «Галіёт вельмі злосны,— думалі яны,— мае дружыну і зброю і нас усіх пазабівае». Тым часам той зноўку паўтарыў: «Хадзіце туды і не пужайцеся: можаце там нічога не баяцца». Тыя адказалі: «Пане, калі іначай быць не можа, то мы ўсе ў тваіх руках, што загадаеш, тое і зробім, толькі не губі нас». Ён сказаў: «Не бойцеся, нічога вам не будзе». І яны паварацілі да вострава, а на другі дзень прыплылі да прыстані пад Плачным горадам.

Людзі з верхняга замку прыйшлі да іх і сказалі: «Вы ў палоне». Галіёт адказаў: «Хоць мы і прысталі да вашае зямлі, але браць нас у палон не выпадае, бо я гатовы споўніць ваш закон». Тыя сказалі: «Тады мусіш біцца з Трышчанам, найвялікшым віцязем на свеце». Галіёт адказаў: «Хоць бы нават і з яшчэ большым. Я дзеля таго й прыйшоў, каб біцца з ім». Тыя загадалі падарожнікам: «Выходзьце вон». Тыя выйшлі, і гаражане павялі маракоў у вязніцу. Галіёт папрасіў: «Адпусціце мне тых двох пахолкаў і віцязя, няхай мяне праводзяць да месца бітвы». Яго запыталі: «Як тваё імя?» Галіёт адказаў: «Майго імя вам покуль ведаць нельга. Пакажыце, дзе нам біцца». Тыя адказалі: «Не дбай пра гэта, бітва

будзе неўзабаве». Пятнаццаць коннікаў селі на коняў, і Галіёт з дружынаю паехаў туды, дзе меўся адбыцца двубой.

Трышчан тым часам весяліўся ў верхнім замку з Іжотаю, Гаварнарам і Брагіняю. Трышчан ні пра што не памятаў, апрача Іжоты, а Іжота — апрача Трышчана. Палон гэты быў ім салодкі, і яны жылі як у Божым раі. Не згадваючы ні пра караля Марка, ні пра Карнаваль, яны пражылі два месяцы ў такой весялосці. Пад канец трэцяга месяца прыйшоў да Трышчана адзін віцязь і кажа: «Пане, сёння можаш весяліцца з Іжотаю, але заўтра маеш двубой з адным рыцарам, які з двара караля Артыюша прыйшоў біцца з табою. Мы яго пакінулі на тым полі, дзе вы біцьмецеся». Трышчан запытаў: «Ці ведаеце вы, як імя таго рыцара?» Той адказаў: «Не ведаем, ён не пажадаў назвацца». Трышчану узышло на думку, ці не Анцалот гэта, і ён сказаў: «Я ведаю, што гэта за віцязь; ці ўсё вы падрыхтавалі для бітвы? Калі ён прыйшоў дзеля яе, то атрымае, чаго хацеў, і хоць ён прыплыў і не з дабром, прывітайце яго ад мяне, бо мне здаецца, што гэта вялікі віцязь». З гэтым рыцар выйшаў ад Трышчана, прыйшоў да Галіёта і сказаў яму: «Біцца будзеце заўтра, а Трышчан цябе вітае». Галіёт адказаў: «Трышчан мяне вітае як ворага, і я яго таксама як ворага прывітаю».

Яны досыць гутарылі між сабою, але хто такі Галіёт, рыцар не дазнаўся. Гаварнар, пачуўшы рыцараву гаворку пра двубой, сказаў: «Гэта пэўна, Анцалот, ён паехаў з двара караля Артыюша шукаць сабе розных суровых прыгодаў». Гаварнар вельмі баяўся яго, і таму, прыйшоўшы да Трышчана, сказаў: «Заўтра маеце біцца». Трышчан запытаў: «Ці ведаеш, з кім?» Той адказаў: «Не ведаю, я мяркую, што гэта Анцалот наўмысля прыехаў біцца з табою, але ж ён найвялікшы рыцар на свеце».— «Я рады з ім падужацца, бо як дойдзе да сечы, і Бог мне спрыяцьме, то калі мы выявімся роўнымі, мне большае славы не трэба, а калі давядзецца загінуць, то лепш хай мяне заб'е ён, чым іншых пяцёра». Гаварнар спалохаўся яшчэ болей і сказаў: «Яно так, але ж тут вялікая рызыка і вялікая небяспека». Трышчан адказаў: «Смерці баяцца не трэба, ты ж сам ведаеш, настаўнік, што мы заўжды на тым стаімо».

Пачуўшы гэта, Іжота заплакала і забедавала, кажучы: «Цяжка мне на сэрцы, бо надышла ліхая прыгода, і ў ліхую часіну я на свет нарадзілася! Яшчэ і трох месяцаў не выйшла майму шчасцю і весялосці, і ўжо надыходзіць пакута і ўкарачэнне веку, і калі б мяне напаткала цяжкая рана або смерць, то мне і лепш і саладзей было б».

Трышчан суцяшаў яе, кажучы: «Я думаю, ён нада мною верху не возьме». Іжота сказала: «Я нічога болей не прашу ад Бога, адно каб ты ў мяне быў здаровы, а не абняславіўся на двубоі, бо я ніводнага рыцара не баюся, апрача Анцалота». Увесь час яны заставаліся ў такім страху, а Галіёт пра гэта нічога не ведаў.

Уначы адзін з узброеных віцязяў, што былі пры Галіёце, прыйшоў і сказаў: «Раскажу вам, прышоў кароль ста віцязяў з войскам, яны прысталі да пристані ў зброі і на конях. Мы загадалі ім выйсці вон, каб споўніць наш закон, але як паменіся іх упляніць, яны пахапалі зброю і пабілі нашых людзей, і пасеклі і пакалолі нямала. Мы не маглі выстаяць і здаліся ім, і цяпер мы ў іхных руках. А яны з Кар'елона, людзі прынца Галіёта». Пачуўшы Галіётава імя, усе пабеглі хто куды, а Галіёт да раніцы заставаўся ў шатры.

На світанні Трышчан убраўся ў моцныя латы, адслухаў імшу і паехаў з горада, а з ім разам Іжота, Гаварнар, Брагіня і чацвёра пахолкаў. Як прыехалі да шатроў, Галіёт быў ужо на кані. Убачыўшы, што Трышчан блізка, ён узяў дзіду і шчыт. Трышчан убачыў, што той ужо гатовы, і ска-

заў Гаварнару: «Едзь да таго віцязя і даведайся, хто ён. Калі гэта Анцалот, я б хацеў мець з ім таварыства». Гаварнар паехаў і прывітаў Галіёта, а той яго адвітаў. Гаварнар сказаў: «Рыцару, той з кім ты маеш біцца,— Трышчан, і ён цябе просіць, дзеля твае шляхотнасці, сказаць, хто ты. Бо ты ўжо ведаеш, з кім ты б'ешся, няхай і ён ведае, з кім ён б'ецца». Галіёт адказаў: «Калі ён Трышчан, то я ягоны смяротны вораг, бо ён ў мяне забіў бацьку і маці, і я прыйшоў адпомсціць за іх усімі сіламі, калі здолею; а імя маё — Галіёт з Дольных астравоў, яно знана далёка». Гаварнар, пачуўшы гэта і ведаючы, што Галіёт найвялікшы гаспадар на свеце, спалохаўся і пайшоў пераказаць гэта Трышчану. Той, уведаўшы гэта, сказаў: «Слава табе, Божа, што найвялікшы пан і найвялікшы рыцар на свеце бярэцца змагацца са мною на полі, бо гэта прыйшоў біцца са мною пан над панамі і цвет дабротаў і храбрасці, які можа выставіць на полі сто тысяч латнікаў з дзідамі».

(Бітва Трышчана з Галіётам). Сказаўшы гэта, яны пусціліся адзін на аднаго, што было сілы коням, і ўдарылі адзін другога так моцна, што ажно дзіды паламаліся, а самі абодва паспадалі з коняў на зямлю і параніліся, падаючы. Але абодва былі рыцары вялікае добраці і адважнага сэрца, і адразу ўскочылі з зямлі, хапіліся за мечы і пачалі сячыся. Трышчан быў ў страху, і абодва яны былі вялікія людзі і біліся так моцна, што кожны, хто гэта бачыў, не мог не ўстрашыцца. Трышчан і Галіёт білі моцна, даводзячы адзін аднаму сваю варожасць. Трышчан пазнаў, што ў яго за праціўнік, а Галіёт сказаў: «Гэта найвялікшы рыцар, які толькі знаны на свеце, і тут мне або смерць прыняць, або выйсці з гонарам». Яны абодва змагаліся, даводзячы адзін аднаму сваё рыцэрства, а Іжота ўсё сачыла за тым, каго кахала больш за сябе. Калі ён прымаў удары, яна палатнела і гатова была аддаць цэлы свет, абы Трышчан быў здаровы і каб нарэшце скончылася тая бітва. Калі Галіёт наносіў удар Трышчану, той ажно ўкленчваў, а Іжота прыймала гэтыя ўдары ў сваё сэрца і палатнела, як папугай, а калі Трышчан біў і цясніў Галіёта, Іжота весялела, і шчокі яе пачыналі гарэць. Яны біліся, а Іжота брала іхныя ўдары да сэрца і была пэўная, што Трышчан мае перавагу ў бітве, бо ён ганяў Галіёта па полі, куда-хацяя. Галіёт быў цяжка паранены і сплываў крывёю, а Трышчан быў паранены няцяжка. Галіёт як мага мацаваўся супраць Трышчана і сказаў: «Пабачым, колькі я здолею вытрымаць процi яго», і ў скрусе сказаў: «Мне не пазбегнуць смерці ад ягонае рукі».

Ажно кароль ста віцязяў выйшаў са збройнымі людзьмі на дапамогу Галіёту. Яны вельмі спяшаліся, бо кароль бачыў, што Трышчан ужо адольвае Галіёта. Галіёт, пазнаўшы сваю харугву, сказаў: «Трышчане, ты ўжо нежывы. Вунё бачыш, гэта мае людзі. Ты мне бацьку і маці забіў, і калі б я табе не адпомсціў, цэлы свет бы мяне ганіў». Трышчан адказаў: «Неверагодна, пане, каб ты мяне стаў людзьмі страшыць. Я ведаю тваю добрацьь, ты не ехаў бы да мяне, каб меўся помсціць праз каго іншага. Я нічога не баюся ані высцерагаюся, апрача цябе, а Бог сведка, што я перад табою не вінаваты ў смерці тваіх бацькоў, і сам ты гэта добра ведаеш. Вось жа, саступаю табе гэтую бітву, а ты мяне з дружынаю адпусці на свабоду. Я блага зрабіў, што выцяг меч супраць цябе, супраць найвялікшага пана і найвялікшага віцязя, і Бог сведка, што я гэта кажу не ад страху перад смерцю». І, падышоўшы да яго, Трышчан аддаў яму меч. Галіёт, узяўшы меч, сказаў: «Ты мне зрабіў такое, што я мусіў бы ненавідзець цябе ўсім сэрцам, але не стану дзеля твае добраці, бо ты найвялікшы рыцар на свеце, і губіць цябе было б не годна. Дакляруюю табе сваю

дружбу». Трышчан укленчыў перад ім і шляхотна падзякаваў яму за ласку. Галіёт узняў яго пад рукі і сказаў: «Не выпадае табе, бо хоць я і вялікі пан, але ты таксама чалавек вялікі і слаўны родам, як і я, а віцязь ты большы за мяне, і на цэлым свеце няма другога такога, як ты».

А тым часам кароль ста віцязяў ужо наблізіўся з дзідамі да Трышчана, і Галіёт штосілы загукаў яму: «Стой, не руш Трышчана, калі табе жыццё міла». Кароль, пачуўшы гэта, супыніўся, завярнуў войска назад, сам адзін паехаў да Галіёта і запытаў яго: «Пане, як ты меўся?» Галіёт адказаў: «Добра, з ласкі Божае, але не вельмі». Кароль сказаў: «Я папярэджваў». Галіёт адказаў: «Добра, што я жывы выйшаў з гэтае бітвы, але мне вельмі хацелася біцца з ім, і я ўсцешаны, што з ім запазнаўся. Калі б гэта было магчыма, я хацеў бы, каб ён быў разам з Анцалотам, бо яны абодва гэтак шляхотныя, як і храбрыя, і поўныя ўсялякае добрацi». Кароль спытаўся: «А што цяпер думаеш?» Галіёт адказаў: «Паедзьма ўсе з Трышчанам да яго дамоў, там я адпачну, пакуль ачуняю». Тут Галіёт з Трышчанам, Іжотаю і ўсёй іхнаю дружынаю ўскочылі на коняў, а як прыехалі на гару ў замак, які завецца Ораш, агледзелі раны ў Галіёта і ў Трышчана. Галіёт меў цяжкія раны і сплываў крывёю. Лекары прыклалі зелле да ранаў і дзівіліся, як ён яшчэ жыве, і цэлы месяц ён не мог варухнуцца. А Трышчан ляжаў пятнаццаць дзён, з ім былі ягоныя таварышы, і ўсе, хто быў у вязніцы, таксама сабраліся да яго. А тыя людзі, што прыйшлі з каралём ста віцязяў, увайшлі ў Плачны горад, вязняў вызвалілі, а горад спалілі, бо гараджане сталі біцца з імі за той Іосіфаў закон, якога яны здаўна трымаліся. Галіёт жа загадаў, каб ніхто не чапаў нікога з Трышчанавых людзей, ані самога Трышчана, і не адпускаў яго ад сябе, пакуль абодва не акрыялі.

Тады Галіёт сказаў Трышчану: «Я прыйшоў быў на гэты востраў, каб забіць цябе і адпомсціць за смерць майго бацькі і мае маці, але я ведаю, што ты забіў іх пад прымусам, дзеля рыцэрства, і дарую табе гэта. Але ты мне сказаў быў, што гэтую панну вязеш да свайго дзядзькі, бо абяцаў. Я цябе з ёю адпускаю, але мне вельмі шкада, што ты не можаш паехаць са мною, бо я не магу ўявіць нічога ладнейшага, як вас разам з панам Анцалотам. Развітайся з дзядзькам ды прыязджай да мяне ў каралеўства сірэлойскае або дзе я на той час буду. Узгадай тую шляхотнасць і літасць, якое зазнаў ад мяне, і прыязджай як найхутчэй. А я табе абяцаю як віцязь — бо я не кароль — тыя мае дзяржавы і землі, што я быў пазабіраў, абяцаю іх Анцалоту і табе. Каб мне таварышаваць з вамі, а вам са мною, то большага багацця я б тады не хацеў». Трышчан адказаў: «Пане, вялікая міласць, ты гэтулькі для мяне зрабіў, што я таго ніякаю службаю не адраблю; але калі мне Бог удоўжыць веку, то я неўзабаве сустрэнуся з табою, дзе б ты ні быў. Кажу табе гэта з сваёю дружынаю».

Мора было ціхае. Галіёт праводзіў яго на бераг і яшчэ раз папрасіў, каб той зрабіў няйначай, як дакляраваў. Але неўзабаве да Трышчана дайшла вестка пра смерць Галіёта, і ён дужа шкадаваў аб ім.

Галіёт жа, разлучыўшыся з Трышчанам, напісаў уласнаю рукою ліста да каралевы Веліверы, паведамляючы ёй, што па смерці ягоных бацькі і маткі скасаваны ліхі закон, і што няма на свеце рыцара большага за двох, сярод якіх невядома, хто большы: ці Анцалот з Локве, ці Трышчан з Эліяноса, пляменнік караля Марка.

Велівера з удзячнасцю прачытала ягоны ліст і сказала: «Добра было б пабачыць панну Іжоту і пана Трышчана ў двары». Пра Анцалота не было праўдзівых вестак, бо тае пары ён быў саступіў з розуму і пражыў

так два гады. Гэта было якраз, калі Міліенец караля Бана і Бэндэмагул прыехалі ў двор караля Артыюша, выкралі каралеву Веліверу з-пад апекі стольніка Кеніша і завезлі ў Лондрэш.

**Са старабеларускае мовы пераклаў**
**Мікола РАМАНОЎСКІ.**

ЗАЎВАГІ

Гаварнар — Трышчанаў настаўнік і слуга.

Брагіня — служанка Іжоты.

Анцалот — адзін з найвялікшых віцязяў Круглага стала, у заходніх версіях Лансэлот.

Сарэнлоіс — Галіёт быў прынцам Сарэнлоісу (у французскім рамане Сорэлуа) і Дольных астравоў.

Кароль Артыюш — або кароль Артур, магутны ўладар найвялікшых віцязяў. Рыцары Круглага стала падпарадкоўваліся яму.

Іосіф — Іосіф Арымафейскі, з імем якога звязвалася пашырэнне хрысціянства ў Брытаніі.

Орашы — у французскім рамане гэта астравы Волатаў.

... адцураўся Іосіфавага хросту.— Французскі раман далей тлумачыць, што кароль Даўлітэс, угневаўшыся, што ягоныя падданыя, у тым ліку яго ўласныя сыны, пачалі прымаць хрысціянства, забівае ўсіх хрысціянаў у сваім краі і загадвае пабудаваць на іхных касцях замак.

Каралеўства сірэлойскае — г. зн. Сарэнлоіс.

Каралева Велівера — у далейшым тэксце Жэнібра, жонка караля Артыюша.

*Да ілюстрацыі на 3-й старонцы вокладкі.*

## Беларуская марка на чужыне

*У беларускай філатэліі практычна не вядомыя маркі, выдадзеныя па даручэнні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1949 г. у Нямеччыне.*

*Маркі ў распараджэнне аўтара гэтых радкоў перадаў цяперашні скарбнік Рады БНР сп. Віталь Кажан. На жаль, прозвішча мастака (мастакоў?) паведаміць ён не змог. Такім чынам, гісторыя гэтых марак застаецца аб'ектам далейшых даследаванняў.*

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ**

**Ад рэдакцыі.** *«Домам БНР» у Менску традыцыйна лічыўся будынак на Пляцы Волі, г. зв. «дом Шменкеля». Адна з марак пераканаўча сведчыць, што Домам Рады БНР усё ж быў вядомы «архірэйскі дом» на Новым Месце. Цяпер у ім — Дом работнікаў мастацтваў.*

# «ЛЕТАПІС ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ»

У год 1430 князь вялікі Вітаўт Кейстутавіч склікаў да сябе караля польскага Уладзіслава [Ягайлу], вялікага князя маскоўскага Васіля Васілевіча, вялікага князя цвярскага Барыса Аляксандравіча, магістра нямецкага і прускага, магістра лівонскага. Вялікія паслы прыходзілі ад Івана, цара царградцкага, і ад рымскага цэсара, і ад дацкага караля, і ад вялікага князя разанскага і ад валашскага ваяводы паслы прыходзілі. Адоеўскія ж князі самі былі. І ад Вялікага Ноўгарада, і ад Пскова, і ад ардынскага цара, і ад іншых князёў і земляў паслы былі. Гэтыя каралі, вялікія князі і паслы былі ў вялікага князя Вітаўта сем тыдняў на яго страве, а на [кожны] дзень ішло аброку па трыста бочак мёду (медавухі — В. Ч.), па трыста ялавіц, бараноў і вепраў [таксама] па трыста.



Свідрыгайла. З хронікі А. Гваньіні.

Князь вялікі Вітаўт хацеў ускласці на сябе карону, але яго непрыяцелі ляхі не прапусцілі яе, і таму ён не ўсклаў на сябе карону. І расхварэўся князь вялікі Вітаўт і адпусціў [дамоў] вялікіх князёў і царскіх паслоў са шматлікімі падарункамі і з пашанаю. Кароль жа польскі Уладзіслаў застаўся ў вялікага князя Вітаўта. І пры ім памёр князь вялікі Вітаўт 23 кастрычніка ў дзень памяці святога апостала Якава, брата Гасподняга.

І сеў [пасля смерці вялікага князя Вітаўта] на вялікае княжанне князь вялікі Свідрыгайла Альгердавіч у Вільні і Троках.

І княжыў вялікі князь Свідрыгайла два гады без двух месяцаў, і пры сваім княжанні паслаў ён смаленскага ўладыку Герасіма ў Царград [для пасвячэння] на мітраполію. І не справіўся [вялікі князь Свідрыгайла] з кіраваннем краіны. І першага верасня (1432 г.) пасадзіла літва на вялікае княжанне, у Вільню і Трокі, вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча. Свідрыгайла ж пайшоў [княжыць] у Полацк і Смаленск, і рускія князі і баяры пасадзілі яго на вялікае княжанне Рускае.

У тую ж восень сабраў князь вялікі Свідрыгайла вялікае войска, і князь вялікі цверскі Барыс Аляксандравіч даў яму [на дапамогу] брата свайго князя Яраслава з усім сваім войскам, і пайшоў [Свідрыгайла] на Літву. Не дайшоўшы да Вільні шэсць міль, ён спыніўся ў Ашмянах і там стаяў тыдзень. І прыйшоў князь вялікі Жыгімонт з літоўскім войскам, і адбылася бітва паміж імі 8 снежня ў дзень памяці святога Патанія, у панядзелак. І дапамог Бог вялікаму князю Жыгімонту, і разбілі князя вялікага Свідрыгайлу, і рускіх князёў пабілі, а іншых узялі ў палон: князя Юрыя Лугвенавіча, князя Васіля Сямёнавіча, князя Федзьку Адзінцэвіча, і паланілі пана Дзедзоголда, ваяводу віленскага, і шмат іншых пабілі і паланілі.

У тую ж зіму князь вялікі Свідрыгайла другі раз сабраў вялікае войска з Русі і пайшоў на Літву, і шмат [яны] паваявалі ў Літоўскай зямлі, і папалілі, і [людзей] у палон павялі.

Летам жа [1433 г. Свідрыгайла зноў] сабраў вялікае войска з Русі, і лівонскі магістар з усім сваім войскам прыйшоў яму на дапамогу, і князь вялікі цверскі прыслаў яму сваё войска. І пайшоў [Свідрыгайла] у Літоўскую зямлю, і начаваў у Рудамені за паўтары мілі ад Вільні, і пайшоў да горада, не даходзячы Трокаў, павярнуў на Старыя Трокі, а пад Трокамі стаяў на Спасаў дзень і, прастаяўшы чатыры дні, пайшоў ад Трокаў шукаць вялікага князя Жыгімонта і літоўскае войска. Прастаяўшы ў Вейкшышках чатыры дні, ён пайшоў на Русь у сваю зямлю. І прыйшоў [Свідрыгайла] да Крэва, стаяў два дні, узяў горад Крэва мураваны і спаліў, людзей жа шмат пасек і ў палон пабраў, паланіў, і пайшоў адтуль да Маладзечна.

[Тут] дайшла да вялікага князя Свідрыгайлы вестка, што ідзе літва пагоняю. І князь вялікі Свідрыгайла паслаў на іх князя Міхаіла, ваяводу кіеўскага, і іншых рускіх князёў, і пабілі [яны] Пятра Мантыгірдавіча і літву, а іншых палавілі ля Капачоў. І адтуль пайшоў [Свідрыгайла] да Заслаўя, узяў горад і ў той жа дзень спаліў яго, а людзей шмат паланіў; і прыйшоў к Менску, узяў горад і спаліў, а людзей шмат, мужчын і жанчын, паланіў; і пайшоў у сваю зямлю, шмат бяды нарабіўшы Літоўскай зямлі. І прыйшоў [Свідрыгайла] к Барысаву. І тут на рацэ Беразіне схапілі князя Міхаіла Іванавіча Гальшанскага і паслалі яго ў горад Віцебск, і загадаў [Свідрыгайла] утапіць яго там у рацэ Дзвіне пад горадам Віцебскам. Злавілі ж яго невінаватага, не даходзячы Лукомля за мілю між азёраў. Магістар [пасля таго] вярнуўся ў сваю зямлю, у Лівонію. Вялікі ж князь Свідрыгайла пайшоў да Лукомля, там распусціў сваё рускае войска, князёў і баяраў, а сам пайшоў да Кіева.

У тую ж восень князь вялікі Жыгімонт сабраў вялікае войска з літвы і ляхаў і прыйшоў на Рускую зямлю, і стаў пад Мсціславам 26 кастрычніка [1433 г.], у дзень памяці святога пакутніка Дзімітрыя, у сераду, і стаяў тры дні і, не здабыўшы горада, пайшоў у сваю зямлю. На [наступнае] лета сабраўся Свідрыгайла з рускімі князямі і баярамі, з усім рускім войскам і пайшоў на Літву, і магістар яму на дапамогу. І сышліся яны са Свідрыгайлам у Браславе. І па волі божай спадзе на зямлю вялікі дождж, і не змаглі яны пайсці ў Літоўскую зямлю. Князь Свідрыгайла вярнуўся ў сваю зямлю, а магістар пайшоў у сваю зямлю. У Полацку [Свідрыгайла] распусціў сваё войска, князёў і баяраў, а сам пайшоў у Кіеў.

На трэці ж год князь вялікі Свідрыгайла спаліў у Віцебску мітрапаліта Герасіма. Сабраў князь вялікі Свідрыгайла ў Віцебску рускіх князёў і рускае войска і пайшоў к Браславу. Там, у Браславе, прыйшоў на дапамогу Свідрыгайлу магістар лівонскі з усім сваім войскам, і пайшлі яны ад Браслава па Завілейскай зямлі, за Вілію да Вількаміра. Князь жа вялікі Жыгімонт сам не пайшоў на Свідрыгайлу. Даў ка-

роль [Ягайла] 800 коней у дапамогу князю вялікаму Жыгімонту. І князь вялікі Жыгімонт паслаў на князя Свідрыгайлу свайго сына, князя Міхайлу. Князь Міхайла прыйшоў са сваім войскам літоўскім і з ляхамі, і адбылася бітва са Свідрыгайлам на Сёмін дзень, на летаправодца [1-га верасня 1435 г.], а біліся за Вількамірам ля ракі. І за тое Бог не дапамог князю Свідрыгайлу, што ён спаліў мітрапаліта Герасіма. І дапамог Бог вялікаму князю Жыгімонту і яго сыну Міхайлу, і разбілі яны князя Свідрыгайлу і ўсё яго войска, і шмат князёў забілі, а іншых рукамі палавілі. [Тады] забілі яго [Свідрыгайлы] пляменніка, князя Жыгімонта Карыбутавіча, князя Яраслава Лугвенавіча, князя Міхаіла Сямёнавіча Балабана, князя Данілу Сямёнавіча Гальшанскага, князя Міхаіла Львовіча Вяземскага і іншых шмат князёў забілі, а паланілі 42 князі, і сярод іх паланілі Івана Уладзімеравіча Кіеўскага і брата яго, князя Фёдара Карыбутавіча. Забілі і лівонскага магістра і ландмаршалка, і шмат комтураў пабілі, і ўсіх лівонцаў перабілі, а іншых жывымі пералавілі, мала хто з іх выратаваўся. [Тады] і шмат іншых гасцей перабілі: рукушан, сілезцаў і чэхаў, а іншых рукамі палавілі.

Пасля той бітвы праз тры дні сабраў князь вялікі Жыгімонт усё сваё войска літоўскае і паслаў свайго сына, князя Міхайлу на Русь. Прыйшоў князь Міхайла і стаў ля Оршы. І сустрэлі яго ля Оршы смаляне, і паддаліся яны князю вялікаму Жыгімонту і яго сыну, князю Міхайлу. І не пайшоў князь Міхайла на Смаленск, а пайшоў ад Оршы к Віцебску. Прыйшоўшы пад Віцебск, князь Міхайла стаяў 6 тыдняў і, не ўзяўшы горада, пайшоў прэч. Пасля таго у тую ж зіму князь вялікі Жыгімонт зноў сабраў усё сваё літоўскае войска і паноў і паслаў да горада Полацка. Прыйшоўшы, прастаялі яны пад Полацкам тыдзень і, не здабыўшы горада, пайшлі прэч. У наступным жа (1436) годзе палачане і віцябляне, не чакаючы ніадкуль дапамогі, паддаліся князю вялікаму Жыгімонту Кейстутавічу. І пачаў княжыць вялікі князь Жыгімонт на вялікім княжанні Літоўскім і Рускім.

## КАМЕНТАРЫІ

Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г. храналагічна завяршаецца апісаннем падзей 1430—1446 гг. Найбольш цікавая і каштоўная ў гэтай частцы летапісу — так званая Смаленская хроніка, якая змешчана вышэй. Гэтая гістарычная аповесць пра грамадзянскую вайну 1432—1435 гг. у Літоўска-Беларускай дзяржаве хутчэй за ўсё напісана ў Смаленску, як і «Пахвала Вітаўту». Найбольш верагодна, што хроніка была складзена ў 1436 г., калі ў барацьбе са сваім супернікам, князем Свідрыгайлам, канчаткова перамог Жыгімонт Кейстутавіч, прыхільнікам якога быў аўтар. Мы далучаем гэты твор да «Летапісу вялікіх князёў літоўскіх», як яго арганічны працяг і як храналагічнае завяршэнне пэўнага этапу палітычнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага, калі гэтай дзяржавай кіравалі Кейстутавічы.

Своеасаблівым уступам да апісання грамадзянскай вайны служыць кароткае паведамленне пра каранацыйны з'езд у Вільні, гісторыя якога даволі падрабязна выкладзена ў «Хроніцы Быхаўца». Яму папярэднічала нарада ў 1429 г. у Луцку, на якой прысутнічалі польскі кароль Ягайла і германскі імператар Сігізмунд і дзе былі абмеркаваны асноўныя пытанні будучай каранацыі вялікага літоўска-беларускага князя, хоць гэтаму супраціўляліся польскія вярхі. У Германіі былі заказаны дзве кароны — для Вітаўта і яго жонкі, рыхтаваўся адпаведны дзяржаўны дакумент, выпрацоўвалася спецыяльная інструкцыя рытуалу. Аднак польскія феадалы, баючыся, што з нададзеннем Літоўска-Беларускай дзяржаве статусу каралеўства яно стане цалкам суверэнным, палітычна незалежным ад Польшчы, зрабілі ўсё магчымае, каб сарваць гэтую гістарычную акцыю.

Грамадзянская вайна, што пачалася амаль адразу пасля смерці Вітаўта, была не проста дынастычнай барацьбой за ўладу розных палітычных груповак. Нацыянальна-рэлігійныя супярэчнасці не далі магчымасці літоўска-беларускаму грамадству з'яднацца на агульнай ідэйна-патрыятычнай і канфесійнай аснове, што вельмі дорага каштавала беларускаму і літоўскаму народу. Гэта моцна аслабля-

ла ваенна-палітычную магутнасць Вялікага княства, і ўрэшце, прывяло да страты дзяржаўнага суверэнітэту.

Свідрыгайла Леў Баляслаў (каля 1370—1452 гг.)— малодшы сын Альгерда ад другой жонкі, Уляны Цверскай. Спачатку валодаў Полацкам, пасля захапіў Віцебск, адкуль у 1393 г. яго выгнаў Вітаўт. Атрымаў Падолле, але прэтэндаваў на большае. У 1408 г. Свідрыгайла ўцёк да маскоўскага князя Васіля, які даў яму Уладзімір і іншыя гарады. Калі ў 1409 г. вярнуўся на радзіму, быў зняволены і 9 гадоў адсядзеў у Крамянецкім замку, адкуль яго вызвалілі прыхільнікі. Уцёк у Венгрыю. Пры падтрымцы імператара Сігізмунда памірыўся з Вітаўтам і Ягайлам і атрымаў Бранск з Ноўгарад-Северскім. Пасля смерці Вітаўта стаў вялікім князем у Вільні. Праводзіў незалежную антыпольскую палітыку, абапіраўся на беларуска-ўкраінскае рыцарства, на Русь. Гэта выклікала незадавальненне польскіх і літоўскіх феадалаў, якія выкарысталі ў барацьбе брата Вітаўта Жыгімонта і скінулі Свідрыгайлу. Пасля паражэння ў 1435 г. уцёк у Малдавію. Вярнуўся на радзіму толькі пасля забойства ў 1440 г. вялікага князя Жыгімонта, адной з галоўных мэт якога было імкненне вярнуць на вялікакняжацкі пасад Свідрыгайлу. Ініцыятарам змовы быў гарачы прыхільнік апошняга Іван Чартарыйскі. У канцы жыцця Свідрыгайла валодаў Валынню і Падоллем.

Жыгімонт Кейстутавіч — дробны старадубскі князь, які пры жыцці Вітаўта не адыгрываў прыкметнай ролі ў палітычным жыцці княства. Узнесены па волі лёсу на вялікакняскі пасад, праводзіў прапольскую палітыку, аддаў Польшчы Падолле. Перамог Свідрыгайлу ў грамадзянскай вайне ў значнай меры дзякуючы кампрамісу з праваслаўнымі русінамі, якіх актамі 1432 і 1434 гг. ураўнаваў у правах з літоўскімі каталікамі і гэтым перацягнуў на свой бок значную частку беларуска-ўкраінскай шляхты. Жорстка ставіўся да сваіх падначаленых. Жыгімонт быў забіты ў Троцкім замку.

Міхаіл, Міхайлушка (каля 1390—1452 гг.)— сын Жыгімонта Кейстутавіча. У 1392—1398 гг. разам з бацькам быў вязнем Ордэна як заложнік Вітаўта. Дапамагаў Жыгімонту ў час грамадзянскай вайны. Пасля перамогі атрымаў Слуцк, Слонім і частку Падляшша і паводзіў сябе як законны пераемнік бацькі ў Літоўска-Беларускай дзяржаве, хоць паводле акту 1432 г. улада ў княстве павінна была перайсці да дынастыі Ягелонаў. Пасля забойства Жыгімонта адна частка літоўска-беларускай шляхты хацела бачыць на вялікакняскім пасадзе ў Вільні яго сына, другая — Свідрыгайлу, аднак вялікім князем стаў сын Ягайлы Казімер. З ім увесь час варагаваў Міхайлушка. Нарэшце, у 1450 г., ён уцёк у Маскву, дзе быў зняволены, а праз два гады атручаны.

Герасім — родам з Масквы, быў спачатку епіскапам ва Уладзімеры Валынскім, пасля, каля 1426 г., пераведзены ў Смаленск. Вельмі верагодна, што менавіта Герасіму і яго акружэнню было даручана ў 1430 г. складанне першага агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапіснага зводу, што часткова збярогся ў Беларуска-літоўскім летапісу 1446 г. Пасля смерці ў жніўні 1431 г. Фоція Свідрыгайла паслаў Герасіма ў Канстанцінопаль да патрыярха для пасвячэння ў мітрапаліты. Адкуль ён вярнуўся ў канцы 1432 г. або ў пачатку 1433 г. ужо мітрапалітам Кіеўскім і ўсяе Русі. Ён выбраў сядзібай сваёй мітраполіі Смаленск. Захаваліся гістарычныя дакументы, якія сведчаць аб сувязях 1434 г. Свідрыгайлы і Герасіма з Рымам, аб іх прыхільным стаўленні да уніі хрысціянскіх цэркваў. Адчуваючы няпэўнасць становішча князя Свідрыгайлы, мітрапаліт у 1435 г. пачаў схіляцца на бок Жыгімонта Кейстутавіча, за што па загадзе першага і быў спалены ў тым жа годзе ў Віцебску.

Дата смерці князя Вітаўта пададзена ў «Летапісу» недакладна, трэба — 27 кастрычніка.

Капачы — вёска каля Маладзечна.

Рукушане, ракушане — венгры.

Як сведчыць тэкст гэтага беларускага летапісу, у XV ст. заходняя частка Беларусі разам з Менскам называлася Літвою, а ўсходняя — Руссю.

Поўны і дакладны пераклад «Летапісу вялікіх князёў літоўскіх» зроблены паводле зводнага тэксту найбольш даўніх беларускіх спісаў — Супрасльскага, Слуцкага і Віленскага, бо ні ў адным з іх гэты твор цалкам не захаваўся.

**Пераклад са старабеларускай і каментарыі Вячаслава ЧАМЯРЫЦКАГА.**

# НОВЫ ЗАПАВЕТ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА ПАВОДЛЕ ЛУКІ СВЯТОЕ ДАБРАВЕСЦЕ

## Раздзел 18

### ПРА НЕСПРАВЯДЛІВАГА СУДДЗЮ І ЎДАВУ

**1 І сказаў Ён ім прыпадабненне пра тое, што ім трэба заўсёды маліцца і не знемагаць,**
Рым. 12, 12; Еф. 6, 18; 1 Фес. 5, 17.
**2 кажучы: «У нейкім горадзе быў адзін суддзя, што Бога не баяўся і людзей не сароме́ўся.**
**3 І была ў тым горадзе ўдава, і прыходзіла яна да яго і казала: «Абарані мяне ад майго праціўніка».**
**4 Ды ён доўга не хацеў. А пасля сказаў сам сабе: «Хоць і Бога я не баюся і людзей не саромеюся,**
**5 але з-за таго, што гэтая ўдава назаляе мне, абараню яе, каб яна ўрэшце не хадзіла і не дакучала мне».**
**6 І сказаў Госпад: «Ці чуеце, што гаворыць несправядлівы суддзя!**
**7 А ці ж Бог не возьме ў абарону Сваіх абраных, што заклікаюць Яго дзень і ноч, і будзе марудзіць ім!**
Пс. 9, 19; Лук. 11, 9; Адк. 6, 10.
**8 Кажу вам, што Ён падасць неўзабаве ім абарону. Толькі Чалавечы Сын, прыйшоўшы, ці знойдзе веру на зямлі!»**

---

Працяг. Пачатак гл.: «Спадчына» 1989, № 2; 1990, №№ 1, 2, 3, 4; 1991, №№ 1, 2, 3, 4.

### МАЛІТВА ФАРЫСЕЯ І МЫТНІКА

**9 Сказаў жа і для некаторых, упэўненых у сабе, што яны праведнікі, а іншых мелі за нішто, такое прыпадабненне:**
**10 два чалавекі ўвайшлі ў святыню памаліцца, адзін — фарысей, а другі — мытнік.**
**11 Фарысей, стаўшы, маліўся сам сабе так: «Божа, дзякую Табе, што я не як астатнія людзі: рабаўнікі, несправядліўцы, перaлюбцы ці нават як гэты мытнік;**
Іс. 58, 3; Адк. 3, 17.
**12 я пашчу два разы на тыдзень, даю дзесяціну з усяго, што прыдбаю».**
**13 Мытнік жа, стоячы здалёку, не важыўся і вачэй падняць да неба, а біў сябе ў грудзі, кажучы: «Божа, будзь літасцівы да мяне, грэшніка».**
**14 Кажу вам: гэты пайшоў у свой дом апраўданым, а не той; бо кожны, хто ўзвышае сябе, будзе паніжаны, хто ж паніжае сябе, будзе ўзвышаны.**
Іоў. 22, 29; Прып. 29, 23; Мацв. 23, 12; Лук. 14, 11.

### ПРЫЙМІЦЕ БОЖАЕ ЦАРСТВА, ЯК ДЗІЦЯ

**15 Прыносілі ж да Яго і немаўлят, каб да іх дакрануўся; а вучні, убачыўшы, дакаралі іх.**
Мацв. 19, 13; Мар. 10, 13.

16 Ісус жа паклікаў дзяцей, ка-
жучы: «Пусціце дзяцей прыходзіць
да Мяне і не забараняйце ім; бо
такіх ёсць Божае Царства.

Мацв. 18, 3; 19, 14; І Пят. 2, 2.

17 Папраўдзе кажу вам, хто не
прыйме Божага Царства, як дзіця,
той не ўвойдзе ў яго».

## ЯК УВАЙСЦІ Ў ВЕЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

18 І спытаўся ў Яго адзін з на-
чальнікаў, кажучы: «Дасканалы На-
стаўніку, што рабіць мне, каб атры-
маць у спадчыну вечнае жыццё?»

Мацв. 19, 16; Мар. 10, 17.

19 Ісус жа сказаў яму: «Што ты
Мяне называеш дасканалым? Ніхто
не дасканалы,— толькі адзін Бог.
20 Ты ведаеш запаведзі: «Не чы-
ні пералюбу, не забі, не ўкрадзі,
не сведчы фальшыва, шануй свай-
го бацьку і маці».

Зых. 20, 12-16; Друг. 5, 17.

21 Ён жа сказаў: «Усё гэта я вы-
конваў з маладосці».
22 Пачуўшы ж, Ісус сказаў яму:
«Яшчэ аднаго табе не стае: усё,
што маеш, прадай і раздай убогім,
і будзеш мець скарб у нябёсах,
і прыходзь сюды, і ідзі ўслед за
Мною».

І Цім. 6, 18-19.

23 Пачуўшы ж гэта, ён зажурыў-
ся, бо быў надта багаты.
24 Убачыўшы, што той зажурыў-
ся, Ісус сказаў: «Як цяжка тым,
што маюць багацце, увайсці ў Бо-
жае Царства.

Прып. 11, 28; Мацв. 19, 23;
Мар. 10, 23; 1 Цім. 6, 9-10.

25 Бо лягчэй вярблюду прайсці
праз іголънае вушка, чым багатаму
ўвайсці ў Божае Царства».
26 І сказалі тыя, што чулі: «Хто ж
можа ўратавацца?»
27 Ён жа сказаў: «Немажлівае
людзям — мажліва Богу».

## ХТО АТРЫМАЕ ВЕЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

28 І сказаў Пятро: «Вось, мы,
пакінуўшы тое, што мелі, пайшлі
ўслед за Табою».

Мацв. 19, 27; Мар. 10, 28.

29 Ён жа сказаў ім: «Папраўдзе
кажу вам: няма нікога, хто, пакі-
нуўшы дом, ці жонку, ці братоў,
ці бацькоў, ці дзяцей дзеля Божа-
га Царства,
30 не атрымаў бы ў шмат разоў
больш у гэты час, а ў наступным
веку — вечнае жыццё».

## ІСУС ТРЭЦІ РАЗ ГАВОРЫЦЬ ПРА СВАЮ СМЕРЦЬ І ЎВАСКРЭСЕННЕ

31 І, узяўшы Дванаццаць, Ён ска-
заў ім: «Вось, мы ўзыходзім у
Ерусалім, і збудзецца ўсё напіса-
нае праз Прарокаў пра Чалавечага
Сына:

Пс. 21, 7; Мацв. 20, 18;
Мар. 10, 33.

32 бо Ён будзе выдадзены языч-
нікам, і будзе асмяяны, і зня-
слаўлены, і апляваны,

Іс. 53, 7.

33 і, збічаваўшы, заб'юць Яго,
але трэцяга дня Ён уваскрэсне!»
34 Ды яны нічога з гэтага не зра-
зумелі, і гэтае слова было схова-
на ад іх, і сказанага яны не разу-
мелі.

## ВЫЛЕЧВАННЕ СЛЯПОГА

35 І было: калі Ён набліжаўся
да Ерыхона, адзін сляпы сядзеў
пры дарозе жабруючы.

Мацв. 20, 29; Мар. 10, 46.

36 А пачуўшы, што праходзіць
натоўп, ён пытаўся: «Што гэта та-
кое?»
37 Яму ж адказалі, што прахо-
дзіць Ісус Назаранін.
38 І ён закрычаў, кажучы: «Ісу-
се, Сыне Давідаў, злітуйся нада
мною!»
39 І тыя, што ішлі спераду, да-
каралі яго, каб замоўк, ён жа яшчэ
больш крычаў: «Сыне Давідаў, злі-
туйся нада мною!»
40 І спыніўся Ісус, і казаў пры-
весці яго да Сябе. Калі ж той на-

**блізіўся, Ён спытаўся ў яго:**
**41 «Што ты хочаш, каб Я зрабіў табе!» А той сказаў: «Госпадзе, каб стаў я відушчы».**
**42 І Ісус сказаў яму: «Стань відушчы! Твая вера ўратавала цябе».**
**43 І ён зараз жа стаў відушчы і пайшоў услед за Ім, праслаўляючы Бога. І ўвесь народ, бачачы, аддаў хвалу Богу.**

Раздзел 19

## ВЫРАТАВАННЕ МЫТНІКА ЗАКХЕЯ

**1 І, увайшоўшы, Ён праходзіў праз Ерыхон.**
**2 І вось чалавек, якога звалі імем Закхей, а быў ён галоўны мытнік і быў багаты;**
**3 і стараўся ўбачыць Ісуса, хто Ён, і не мог з-за натоўпу, таму што быў ростам малы.**
**4 І, забегшы наперад, узлез на сікамору, каб убачыць Яго, бо там Ён меўся праходзіць.**
**5 І як толькі прыйшоў на гэтае месца, Ісус паглядзеў угару і сказаў яму: «Закхею, хутчэй злазь, бо сёння мне трэба астацца ў тваім доме».**
**6 І той спешна злез і прыняў Яго з радасцю.**
**7 І, убачыўшы, усе пачалі наракаць, кажучы: «Ён увайшоў да грэшніка шукаць прыстанішча».**
**8 А Закхей, устаўшы, сказаў Госпаду: «Вось, палавіну таго, што маю, Госпадзе, дам убогім, і калі ў каго, што няпраўдаю вымаг, аддам у чатыры разы больш».**
Зых. 22, 1.
**9 Ісус жа сказаў яму: «Сёння прыйшло збавенне гэтаму дому, бо і ён сын Аўраамаў;**
**10 бо Чалавечы Сын прыйшоў шукаць і ўратаваць загінулае».**
Мацв. 18, 11.

## ПРЫПАДАБНЕННЕ АБ ДЗЕСЯЦІ МІНАХ

**11 Калі ж яны слухалі гэта, сказаў Ён яшчэ прыпадабненне, бо Ён быў блізка ад Ерусаліма, і ім здавалася, што цяпер павінна з'явіцца Божае Царства.**
**12 Дык Ён сказаў: «Адзін чалавек знатнага роду выпраўляўся ў далёкую краіну, каб прыняць сабе царства і вярнуцца.**
Мацв. 25, 14.
**13 І, паклікаўшы дзесяць сваіх слуг, ён даў ім дзесяць мін[1] і сказаў ім: «Пускайце ў абаротак, пакуль я не прыйду».**
**14 Але яго грамадзяне ненавідзелі яго і паслалі ўслед за ім пасольства, кажучы: «Мы не хочам, каб гэты цараваў над намі».**
**15 І было: калі ён вярнуўся, прыняўшы царства, сказаў паклікаць да яго тых слуг, якім даў серабра, каб даведацца, хто што прыдбаў.**
**16 І прыйшоў першы, кажучы: «Гаспадару, твая міна прыспорыла дзесяць мін».**
**17 І ён сказаў яму: «Выдатна, добры слуга; за тое, што ў самым малым ты быў верны, май уладу над дзесяццю гарадамі».**
Лук. 16, 10.
**18 І прыйшоў другі, кажучы: «Твая міна, гаспадару, зрабіла пяць мін».**
**19 Сказаў жа і гэтаму: «І ты будзь над пяццю гарадамі».**
**20 І астатні прыйшоў, кажучы: «Гаспадару, вось твая міна, якую я хаваў у хустцы;**
**21 таму што я баяўся цябе, бо ты чалавек суровы: бярэш, чаго не клаў, і жнеш, чаго не сеяў».**
**22 Той кажа яму: «Тваімі вуснамі суджу цябе, нягодны слуга. Ты ведаў, што я чалавек суровы: бяру, што не клаў, і жну, чаго не сеяў!**
Іоў. 15, 6; Мацв. 12, 37.
**23 Чаму ж не даў ты майго серабра ў банк! І я, прыйшоўшы, спагнаў бы іх з ростам».**
**24 І тым, што тут стаялі, сказаў: «Вазьміце ад яго міну і дайце таму, хто дзесяць мін мае».**
**25 І сказалі яму: «Гаспадару, ён мае дзесяць мін».**
**26 «Кажу вам, што кожнаму, хто**

[1] Міна — сярэбраная манета вагою каля 570 г., 100 драхмаў.

**мае, будзе дадзена, а ў таго, хто не мае, і тое, што мае, адымецца.**

Мацв. 13, 12; 25, 29; Мар. 4, 25; Лук. 8, 18.

**27 А ворагаў маіх, гэтых, што не хацелі, каб я цараваў над імі, прывядзіце сюды і забіце іх перада мною».**

Мацв. 22, 7.

**28 І, сказаўшы гэта, Ён пайшоў далей, узыходзячы ў Ерусалім.**

## УРАЧЫСТЫ ЎЕЗД ІСУСА Ў ЕРУСАЛІМ

**29 І было: калі Ён наблізіўся да Віфагіі і Віфаніі, да гары, што завецца Аліўнаю, паслаў Ён двух вучняў,**

Мацв. 21, 1; Мар. 11, 1.

**30 кажучы: «Ідзіце ў сяло насупроць, пры ўваходзе ў яго знойдзеце прывязанае асляня, на якое ніколі ніхто з людзей не садзіўся, і, адвязаўшы яго, прывядзіце.**

**31 І, калі хто спытаецца ў вас: «Навошта адвязваеце!», скажыце так: «Госпад яго патрабуе».**

**32 Пасланыя ж пайшлі і знайшлі, як Ён сказаў ім.**

**33 А калі яны адвязвалі асляня, яго гаспадары сказалі ім: «Што вы адвязваеце асляня!»**

**34 Яны ж сказалі: «Госпад яго патрабуе».**

**35 І прывялі яго да Ісуса; і, накінуўшы сваё адзенне на асляня, пасадзілі Ісуса.**

Мацв. 21, 7; Мар. 11, 7; Іаан, 12, 14.

**36 І, калі Ён ехаў, яны падсцілалі сваё адзенне па дарозе.**

**37 А калі Ён набліжаўся ўжо да спуску з Аліўнай гары, усё мноства вучняў, радуючыся, пачало моцным голасам хваліць Бога за ўсе цуды, што яны бачылі,**

**38 кажучы: «Дабраславёны Цар, што ідзе ў імя Гасподняе! На небе спакой і слава ў вышынях!»**

Пс. 117, 26; Лук. 2, 14; Еф. 2, 14.

**39 І некаторыя з фарысеяў з натоўпу сказалі Яму: «Настаўніку, забарані Сваім вучням!»**

**40 І Ён у адказ сказаў: «Кажу вам, калі яны замоўкнуць, камяні будуць крычаць».**

Авв. 2, 11.

## ІСУСАЎ ПЛАЧ ПА ЕРУСАЛІМЕ

**41 І, калі Ён наблізіўся, то, убачыўшы горад, заплакаў па ім,**

**42 кажучы: «О, калі б і ты хоць у гэты дзень пазнаў, што служыць для міру твайго, ды цяпер гэта схавана ад тваіх вачэй.**

**43 Бо прыйдуць на цябе дні, і твае ворагі аточаць цябе валам, і абложаць цябе, і сціснуць цябе адусюль,**

Іс. 29, 3; Іер. 6,6; Іез. 21, 22; Мацв. 22, 7; Лук. 21, 6.

**44 і зраўняюць цябе з зямлёю і паб'юць тваіх дзяцей у табе, і не пакінуць каменя на камені за тое, што ты не пазнаў часу тваіх адведзін».**

## АЧЫШЧЭННЕ СВЯТЫНІ

**45 І, увайшоўшы ў святыню, пачаў выганяць прадаўцоў,**

Мацв. 21, 12; Мар. 11, 15; Іаан. 2, 15.

**46 кажучы ім: «Напісана: «І будзе Мой дом домам малітвы», вы ж яго зрабілі пячорай разбойнікаў».**

3 Цар. 8, 29; Іс. 56, 7; Іер. 7, 11.

**47 І Ён кожны дзень навучаў у святыні. А першасвятары, і кніжнікі, і начальнікі народу шукалі Яго загубіць,**

**48 ды не знаходзілі, што зрабіць, бо ўвесь народ неадступна слухаў Яго.**

### Раздзел 20

## ЯКОЮ ЎЛАДАЮ ДЗЕЙНІЧАЕ ІСУС

**1 І было: аднаго дня, калі Ён навучаў народ у святыні і дабравес-**

**ціў, падышлі першасвятары і кніжнікі са старэйшынамі**

Мацв. 21, 23; Мар. 11, 27.

**2 І мовілі, кажучы Яму: «Скажы нам, якою ўладаю Ты гэта робіш ці хто Ён, што даў Табе гэтую ўладу?»**

**3 У адказ жа Ён сказаў ім: «Спытаюся і я ў вас адно, і скажыце Мне:**

**4 Іаанава хрышчэнне з неба было ці ад людзей?»**

**5 Яны ж разважалі між сабою, кажучы: «Калі скажам: «З неба», Ён скажа: «Чаму ж вы не паверылі яму?»**

**6 Калі ж скажам: «Ад людзей», увесь народ каменнем паб'е нас, бо ён упэўнены, што Іаан — прарок».**

Мацв. 14, 5.

**7 І яны адказалі, што не ведаюць, адкуль.**

**8 І Ісус сказаў ім: «І Я не скажу вам, якою ўладаю гэта раблю».**

**9 І пачаў Ён казаць народу гэтае прыпадабненне: «[Адзін] чалавек насадзіў вінаграднік і здаў яго вінаградарам і ад'ехаў на доўгі час.**

Іс. 5, 1; Іер. 2, 21;
Мацв. 21, 33; Мар. 12, 1.

**10 І ў пэўны час паслаў да тых вінаградараў раба, каб далі яму ад пладоў вінаградніка. А вінаградары, пабіўшы яго, адаслалі ні з чым.**

**11 І яшчэ раз паслаў ён другога раба, ды яны і таго, пабіўшы і зняважыўшы, адаслалі ні з чым.**

**12 І яшчэ раз паслаў трэцяга, ды і гэтага, параніўшы, выкінулі.**

**13 І сказаў гаспадар вінаградніка: «Што мне рабіць? Пашлю свайго ўлюбёнага сына, можа, яго пасаромеюцца».**

**14 Але, ўбачыўшы яго, вінаградары разважалі між сабою, кажучы: «Гэта спадкаемец; заб'ём яго, каб спадчына зрабілася нашаю».**

Яўр. 1, 2.

**15 І, выкінуўшы яго вон з вінаградніка, забілі. «Што ж зробіць з імі гаспадар вінаградніка?**

Яўр. 13, 12.

**16 Прыйдзе і вынішчыць гэтых вінаградараў і аддасць вінаграднік іншым».**

**Слухачы ж сказалі: «Няхай не здарыцца».**

**17 Ён жа, паглядзеўшы на іх, сказаў: «Што ж значыць гэтае напісанае: «Камень, які адкінулі будаўнікі, зрабіўся галавою вугла?»**

Пс. 117, 22; Іс, 28, 16; Мацв. 21. 42;
Мар. 12, 10; Дзеян. 4, 11;
1 Пят. 2, 6; Рым. 9, 33.

**18 Кожны, хто ўпадзе на той камень, разаб'ецца, а на каго ён упадзе, расцісне яго».**

**19 А кніжнікі і першасвятары стараліся у тую ж гадзіну накласці рукі на Яго, але пабаяліся народу,— бо зразумелі, што пра іх Ён сказаў гэтае прыпадабненне.**

## АДДАВАЙЦЕ КЕСАРАВА КЕСАРУ, А БОЖАЕ БОГУ

**20 І, высочваючы, яны падаслалі сваіх нанятых, якія ўдавалі сябе за справядлівых, каб прылавіць Яго на слове і выдаць Яго начальству і ўладзе намесніка.**

Мацв. 22, 15; Мар. 12, 13.

**21 І яны спыталіся ў Яго, кажучы: «Настаўніку, мы ведаем, што Ты правільна кажаш, і навучаеш, і не зважаеш на асобы, але праўдзіва Божай дарозе вучыш;**

**22 ці выпадае нам плаціць падатак кесару, ці не?»**

**23 Ён жа, зразумеўшы іх падступнасць, сказаў ім: [Што вы Мяне выпрабоўваеце?]**

**24 Пакажыце Мне дынарый: чыя на ім выява і надпіс?» Яны ж сказалі: «Кесарава».**

**25 І Ён сказаў ім: «Значыць, аддавайце кесарава кесару, а Божае — Богу».**

Мацв. 17, 27; 22, 21; Рым. 13, 7.

**26 І не змаглі яны прылавіць Яго на слове перад народам і, здзівіўшыся Яго адказу, змоўклі.**

## У БОГА ЎСЕ ЖЫВЫЯ

**27 І падышлі некаторыя з саддукеяў, што сцвярджаюць, нібыта**

**няма ўваскрэсення, і спыталіся ў яго,**

Мацв. 22, 23; Мар. 12, 18; Дзеян. 23, 8.

**28 кажучы: «Настаўніку, Майсей напісаў нам: «Калі ў каго памрэ брат, што мае жонку, і сам ён бяздзетны, хай возьме яго брат жонку і ўзновіць патомства свайму брату».**

Друг. 25, 5.

**29 Дык было сем братоў; і першы, узяўшы жонку, памёр бяздзетны;**

**30 і другі,**

**31 і трэці ўзяў яе, гэтак жа і ўсе сямёра не пакінулі дзяцей і памерлі.**

**32 Урэшце памерла і жонка.**

**33 Дык пры ўваскрэсенні каторага з іх будзе яна жонкаю? Бо сямёра мелі яе за жонку».**

**34 І сказаў ім Ісус: «Дзеці гэтага веку жэняцца і выходзяць замуж,**

**35 а тыя, што будуць ушанаваныя, дасягнуць таго веку і ўваскрашэння з мёртвых, не жэняцца і замуж не выходзяць;**

**36 бо і памерці ўжо не могуць: бо яны роўныя анёлам і Божыя дзеці яны, будучы дзецьмі ўваскрашэння.**

**37 А што мёртвыя ўстаюць, і Майсей паказаў — пры кусце,— калі ён называе Госпада Богам Аўраамавым і Богам Ісакавым і Богам Якавым.**

Зых. 3, 6, 16; Мацв. 22, 32; Мар. 12, 26.

**38 Ён жа Бог не мёртвых, а жывых, бо ўсе ў Яго жывыя».**

**39 Некаторыя ж з кніжнікаў у адказ сказалі: «Настаўніку, Ты добра сказаў».**

**40 Бо яны ўжо не важыліся пытацца ў Яго ні пра што.**

Мацв. 22, 42; Мар. 12, 35.

## ЧЫЙ СЫН ХРЫСТОС

**41 І сказаў Ён ім: «Як жа называюць Месію Давідавым сынам?**

**42 Бо сам Давід кажа ў кнізе Псалмаў: «Сказаў Госпад Госпаду майму: сядзь праваруч Мяне,**

Пс. 109, 1; Мацв. 22, 44.

**43 пакуль Я не пакладу Тваіх ворагаў у падножжа Тваіх ног».**

**44 Значыць, Давід называе Яго Госпадам, дык як жа Ён яго сын?»**

**45 А калі слухаў ўвесь народ, Ён сказаў [Сваім] вучням:**

**46 «Сцеражыцеся кніжнікаў, што любяць хадзіць у доўгай вопратцы і якім падабаюцца прывітанні на рынках і першыя лаўкі ў сінагогах, і першыя месцы на банкетах,**

Мацв. 23, 6; Мар. 12, 38-39;, Лук. 11, 43.

**47 што ўдовіны дамы праядаюць, і напаказ доўга моляцца; яны больш суровы прысуд атрымаюць».**

Раздзел 21

## ДЗВЕ ЛЕПТЫ ЎДАВЫ

**1 І, ўзняўшы вочы Свае, Ён убачыў багатых, што кідалі свае дары ў скарбніцу.**

Мар. 12, 41.

**2 І ўбачыў Ён адну бедную ўдаву, якая ўкінула туды дзве лепты,**

**3 і сказаў: «Сапраўды кажу вам: гэтая бедная ўдава ўкінула больш за ўсіх;**

2 Кар. 8, 12.

**4 бо ўсе яны ад свайго збытку кідалі ў ахвяру [Богу], гэтая ж са свайго ўбоства ўкінула ўвесь пражытак, што мела.**

## ДОЛЯ ЕРУСАЛІМСКАЙ СВЯТЫНІ І ЗНАКІ АПОШНЯГА ЧАСУ

**5 І калі некаторыя казалі пра святыню, што яна аздоблена прыгожым каменнем і ахвярамі, Ён сказаў:**

Мацв. 24, 1; Мар. 13, 1.

**6 «Прыйдуць дні, калі з таго, што бачыце, не астанецца каменя на камені, які не зруйнуецца».**

3 Цар. 9, 7; Лук. 19, 44.

**7 І спыталіся ў Яго, кажучы: «Настаўніку, калі ж гэта будзе і што будзе за знак, калі гэта павінна адбыцца?»**

**8 Ён жа сказаў: «Глядзіце, каб не звялі вас: бо шмат прыйдуць пад Маім імем, кажучы: «Гэта Я» і «Час наблізіўся». Не ідзіце за імі.**

Мацв. 24, 4; Мар. 13, 5; 1 Іаан. 4, 1; Еф. 5, 6; 2 Фес. 2, 3.

**9 Калі ж пачуеце пра войны і хваляванні, не жахайцеся: бо гэта павінна спярша адбыцца, але не зараз жа канец».**

**10 Тады сказаў ім: «Паўстане народ на народ і царства на царства,**

Зых. 19, 2.

**11 і будуць вялікія землятрусы і месцамі голад і мор, будуць і страхі, і вялікія знакі з неба.**

**12 Але перад усім гэтым будуць накладаць на вас свае рукі і гнаць, выдаючы ў сінагогі і цямніцы, адводзячы да цароў і валадароў за Маё імя;**

Мацв. 10, 17; 24, 9; Мар. 13, 9; Іаан. 15, 20.

**13 гэта будзе вам на сведчанне.**

**14 Дык пакладзіце ў свае сэрцы — не абдумваць загадзя, як абараняцца,**

Лук. 12, 11.

**15 бо Я дам вам вусны і мудрасць, якой не змогуць ні супроцьстаяць, ні аспрэчыць усе вашы праціўнікі.**

Зых. 4, 12; Дзеян. 6, 10.

**16 І будзеце выдадзены і бацькамі, і братамі, і сваякамі, і сябрамі, а некаторых з вас заб'юць,**

Міх. 7, 6.

**17 і будуць вас усе ненавідзець за Маё імя.**

**18 Ды воласа з вашай галавы не прападзе.**

**19 Вашай цярплівасцю вы здабудзеце вашы душы.**

Мацв. 10, 22.

**20 Калі ж убачыце Ерусалім, акружаны войскамі, тады ведайце, што наблізілася яго спустошанне.**

Дан. 9, 27; Мацв. 24, 15; Мар. 13, 14.

**21 Тады тыя, што ў Іудзеі, няхай уцякаюць у горы; а хто ў ваколіцах — хай не ўваходзяць у яго,**

**22 бо гэта дні адплаты, каб спраўдзілася ўсё напісанае.**

Зах. 14, 1.

**23 Бяда тым, што маюць у лоне, і тым, што кормяць грудзьмі, у тыя дні; бо будзе вялікая галеча на зямлі і гнеў на гэты народ;**

**24 і ўпадуць ад вуснаў мяча і будуць адведзены ў палон ва ўсе народы, і Ерусалім будуць таптаць язычнікі, дакуль не скончацца часы язычнікаў.**

**25 І будуць знакі на сонцы, і месяцы, і зорках, і трывога народаў на зямлі і разгубленасць ад шуму мора і хваляў,**

Іс. 13, 10; Іез. 32, 7; Іаіл. 2, 31; 3, 15; Ам. 5, 20; 8, 9; Саф. 1, 15; Мацв. 24, 29; Мар. 13, 24.

**26 калі людзі будуць непрытомнець ад страху і чакання таго, што насоўваецца на ўвесь свет, бо захістаюцца нябесныя сілы.**

**27 І тады ўбачаць Чалавечага Сына, што будзе ісці ў воблаку з сілаю і вялікай славаю.**

Дан. 7, 10; Мар. 13, 26.

**28 Калі ж гэта пачне збывацца, перадыхніце і ўзніміце вашы галовы, таму што набліжаецца ваша збавенне».**

Рым. 8, 23.

**29 І сказаў Ён ім прыпадабненне: «Паглядзіце на фігавае дрэва і ўсе дрэвы:**

**30 калі яны ўжо распускаюцца, то, бачачы гэта, вы самі ведаеце, што ўжо блізка лета.**

**31 Гэтак і вы, калі ўбачыце, што гэта збываецца, ведайце, што блізка Божае Царства.**

**32 Папраўдзе кажу вам: не мінецца гэты род, як усё гэта збудзецца.**

**33 Неба і зямля мінуцца, а Мае словы не мінуцца.**

Пс. 101, 27; Іс. 51, 6; Мацв. 24, 35.

**34 Зважайце на сябе, каб вашы сэрцы не абцяжарваліся ненажэрствам, і п'янствам, і жыццёвымі турботамі і каб не заспеў вас неспадзявана той дзень,**

1 Пят. 4, 7; Рым. 13, 13; 1 Фес. 5, 6.

**35 як сетка; бо ён прыйдзе на ўсіх, што жывуць на аблічы ўсёй зямлі.**

Іс. 24, 17.

**36 Будзьце ж чуйныя, увесь час
малячыся, каб вы змаглі ўнікнуць
усяго гэтага, што мае адбыцца, і
стаць перад Чалавечым Сынам».**
Мацв. 24, 42; 25, 13; Мар. 13, 33.
**37 Удзень жа Ён навучаў у святы-
ні, а ночы, выходзячы, праводзіў
на гары, што завецца Аліўная;**
Іаан. 8, 2.
**38 І ўвесь народ з раніцы пры-
ходзіў да Яго ў святыню слухаць
Яго.**

Раздзел 22

## ЮДАВА ЗМОВА СА СВЯТАРАМІ

**1 Набліжалася ж свята Праснакоў,
што называюць Пасхаю.**
Мацв. 26, 2; Мар. 14, 1.
**2 І шукалі першасвятары і кніжні-
кі, як бы забіць Яго, бо яны баяліся
народу.**
**3 Сатана ж увайшоў у Юду, зва-
нага Іскарыёт, аднаго з ліку Два-
наццаці;**
Мацв. 26, 14.
**4 і ён, пайшоўшы, дамовіўся з
першасвятарамі і начальнікамі, як
ён ім выдасць Яго.**
**5 І яны абрадаваліся і згадзіліся
даць яму срэбранікаў.**
**6 І ён абяцаў і шукаў зручнага
часу, каб выдаць Яго не пры на-
родзе.**

## ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА

**7 Надышоў жа дзень Праснакоў,
калі належала прыносіць у ахвяру
пасху;**
Друг. 16, 1; Мацв. 26, 17;
Мар. 14, 12.
**8 і Ён паслаў Пятра і Іаана, ска-
заўшы: «Пайдзіце, падрыхтуйце нам
пасху, каб нам спажыць яе».**
**9 Яны ж сказалі Яму: «Дзе Ты хо-
чаш, каб мы падрыхтавалі?»**
**10 А Ён сказаў ім: «Вось, калі бу-
дзеце ўваходзіць у горад, сустрэ-
нецца вам чалавек са збанам вады;
ідзіце ўслед за ім у дом, куды ён
увойдзе;**
**11 і скажыце гаспадару дома:
«Кажа табе Настаўнік: дзе пакой,
у якім бы Я спажыў пасху з Маімі
вучнямі?»**
**12 І ён вам пакажа вялікую свят-
ліцу, высланую: там падрыхтуйце».**
**13 І, пайшоўшы, яны знайшлі, як
Ён казаў ім, і падрыхтавалі пасху.**
**14 І калі надышоў час, Ён узлёг,
і апосталы з Ім.**
Мацв. 26, 20; Мар. 14, 18;
Іаан. 13, 12.
**15 І Ён сказаў ім: «Горача хацеў
Я спажыць гэтую пасху з вамі, перш
чым мукі прыму:**
**16 бо кажу вам: не буду спажы-
ваць яе пакуль не спраўдзіцца яна
ў Божым Царстве».**
Дзеян. 10, 41.
**17 І, узяўшы чару, уздзякаваў-
шы, сказаў: «Вазьміце яе і падзя-
ліце між сабою;**
**18 бо кажу вам, [што] не буду
піць Я з гэтага часу ад плоду пазы
вінаграднай аж пакуль не прыйдзе
Божае Царства».**
**19 І, узяўшы хлеб, уздзякаваўшы,
пераламаў яго і падаў ім, кажучы:
«Гэта цела Маё, што за вас аддаецца.
Рабіце гэта на ўспамін пра Мяне».**
Мацв. 26, 26; Мар. 14, 22;
1 Кар. 11, 24.
**20 Гэтак жа — і чару пасля вячэ-
ры, кажучы: «Гэтая чара — Новы За-
павет у Маёй крыві, што за вас пра-
ліваецца.**
**21 Ды вось рука прадажніка Май-
го са Мною за сталом,**
Пс. 40, 10; Мацв. 26, 22-23.
**22 бо Чалавечы Сын ідзе, як вы-
значана, але бяда таму чалавеку,
праз якога Ён выдаецца».**
Дзеян. 2, 23; 4, 28.
**23 І яны пачалі пытацца адзін у
аднаго: «Хто ж з іх меўся б зрабіць
гэта?»**

## ХТО ХОЧА БЫЦЬ ПЕРШЫМ, НЯХАЙ БУДЗЕ ВАМ СЛУГОЮ

**24 І ўсчалася і спрэчка між імі,
хто з іх павінен лічыцца большым.**
**25 Ён жа сказаў ім: «Цары наро-
даў пануюць над імі, а тыя, што імі
валодаюць, называюцца «дабрачын-
цамі».**

**26 Але вы не так: і хто большы між вас, няхай будзе як меншы, а начальнік — як слуга.**
**27 Бо хто большы: ці той, хто ўзлягае, ці той, хто слугуе? Ці не той, хто ўзлягае? А Я сярод вас — як Той, Хто слугуе.**

Філ. 2, 7.

**28 Вы ж тыя, што ператрывалі са Мною ў Маіх выпрабаваннях;**
**29 і Я прызначаю вам, як прызначыў Мне Мой Бацька, Царства,**
**30 каб вы елі і пілі за Маім сталом у Маім Царстве, і сядзеце вы на пасадах і будзеце судзіць дванаццаць каленаў Ізраілевых».**

Мацв. 19, 28; 1 Кар. 6, 2;
Адкр. 3, 21; 20, 4.

## ІСУС ПАПЯРЭДЖВАЕ ВУЧНЯЎ ПРА СПАКУСЫ

**31 [І сказаў Госпад:] «Сімане, Сімане, вось сатана дамогся таго, каб прасеяць вас, як пшаніцу;**

1 Пят. 5, 8.

**32 Я ж маліўся за цябе, каб не паслабела твая вера; і ты некалі, навярнуўшыся, умацуй сваіх братоў».**

Мацв. 16, 18; Іаан. 17, 15.

**33 А той сказаў Яму: «Госпадзе, з Табою гатовы я і ў цямніцу і на смерць ісці».**
**34 Ён жа сказаў: «Кажу Табе, Пятро: не прапяе сёння певень, як ты тройчы адрачэшся, што не ведаеш Мяне».**

Мацв. 26, 34; Мар. 14, 30;
Іаан. 13, 38.

**35 І Ён сказаў ім: «Калі Я вас пасылаў без кашалька, і торбы, і сандаляў, ці вам не ставала чаго?» Яны ж сказалі: «Нічога».**

Мацв. 10, 9-10; Мар. 6, 8;
Лук. 9, 3; 10, 4.

**36 І Ён сказаў ім: «Але цяпер хто мае кашалёк, хай возьме, таксама і торбу, а хто не мае, хай прадасць сваё адзенне і купіць меч.**
**37 Бо кажу вам: трэба, каб на Мне збылося гэтае напісанае: «І да беззаконных залічаны», бо і тое, што пра Мяне, падыходзіць да канца».**

Іс. 53, 12; Мар. 15, 28.

**38 Яны ж сказалі: «Госпадзе, вось тут два мячы». А Ён сказаў ім: «Даволі».**

## МАЛІТВА Ў ГЕФСІМАНІІ

**39 І, выйшаўшы, Ён пайшоў, як звычайна, на Аліўную гару, а ўслед за Ім пайшлі і вучні.**

Мацв. 26, 36; Мар. 14, 32;
Іаан. 18, 1.

**40 А прыйшоўшы на месца, Ён сказаў ім: «Маліцеся, каб не ўпасці ў спакусу».**

Мацв. 26, 41; Мар. 14, 38.

**41 А Сам Ён адышоў ад іх, як дакінуць каменем, і, прыпаўшы на калені, маліўся,**
**42 кажучы: «Татухна, калі хочаш, аднясі гэтую чашу ад Мяне; аднак не Мая воля, але Твая хай будзе».**
**43 І паказаўся Яму анёл з неба, умацоўваючы Яго.**
**44 І, будучы ў смяротнай трывозе, шчырэй маліўся; і зрабіўся Яго пот, як кроплі крыві, што спадаюць на зямлю.**
**45 І, устаўшы ад малітвы, прыйшоўшы да вучняў, знайшоў іх у сне ад гора,**
**46 і сказаў ім: «Што вы спіце? Уставайце і маліцеся, каб не ўпасці вам у спакусу».**

## УЗЯЦЦЕ ХРЫСТА

**47 Калі Ён яшчэ гаварыў, вось натоўп і той, каго звалі Юда, адзін з Дванаццаці, ішоў наперадзе іх. І ён наблізіўся да Ісуса, каб пацалаваць Яго, [бо такі знак ён даў ім: каго я пацалую, той і ёсць].**

Мацв. 26, 47; Мар. 14, 43;
Іаан. 18, 3.

**48 Ісус жа сказаў яму: «Юда, пацалункам выдаеш Чалавечага Сына?»**
**49 Тыя ж, якія былі з Ім, убачыўшы, што будзе, сказалі: «Госпадзе, ці не ўдарыць нам мячом?»**
**50 І адзін з іх ударыў першасвятаровага раба і адцяў яму правае вуха.**
**51 У адказ жа Ісус сказаў: «Па-**

**кіньце, даволі». І, дакрануўшыся
вуха, загаіў яго.**
**52 І сказаў Ісус першасвятарам,
і начальнікам аховы святыні, і ста-
рэйшынам, што сабраліся супроць
Яго: «Як на разбойніка выйшлі вы
з мячамі і каламі!**
**53 Калі штодня бываў Я з вамі ў
святыні, вы не паднялі рук на Мя-
не, але гэта — ваша гадзіна, і ўла-
да цемры».**
**51 І, схапіўшы Яго, павялі і пры-
вялі ў дом першасвятара; Пятро ж
ішоў зводдаль следам.**
Мацв. 26, 57; Мар. 14, 53;
Іаан. 18, 24.

## ПЯТРО АДРАКАЕЦЦА АД ХРЫСТА

**55 Калі ж расклалі агонь сярод
двара і селі разам, сядзеў і Пятро
між імі.**
**56 І адна служанка, убачыўшы,
што ён сядзіць пры агні, і, прыгле-
дзеўшыся да яго, сказала: «І гэты
быў з Ім».**
**57 Ён жа адрокся, кажучы: «Не
ведаю Яго, жанчына».**
**58 І неўзабаве другі, убачыўшы
яго, сказаў: «І ты з іх». Але Пятро
сказаў: «Не, чалавеча».**
**59 І праз нейкую гадзіну хтосьці
іншы настойваў, кажучы: «Сапраў-
ды, і гэты быў з Ім; бо і ён галі-
леянін».**
**60 А Пятро сказаў: «Чалавеча, я
не ведаю, што ты кажаш». І зараз
жа, пакуль ён яшчэ гаварыў, пра-
пяяў певень.**
**61 І, абярнуўшыся, Госпад пагля-
дзеў на Пятра. І ўспомніў Пятро
Гасподняе слова, як Ён казаў яму:
«Перш чым прапяе сёння певень,
ты тройчы адрачэшся ад Мяне».**
Мацв. 26, 34; Мар. 14, 30, 72;
Іаан. 13, 38.
**62 І, выйшаўшы адтуль, ён горка
заплакаў.**

## ІСУС ПЕРАД СІНЕДРЫЁНАМ

**63 А людзі, што разам трымалі
Яго, насміхаліся з Яго, б'ючы;**
Мацв. 26, 67; Мар. 14, 65.
**64 і, закрыўшы Яго, пыталіся, ка-
жучы: «Прароч, хто ўдарыў Цябе!»**
**65 І шмат іншых блюзнерстваў ка-
залі яны на Яго.**
**66 І калі надышоў дзень, сабра-
лася рада старэйшын народа: пер-
шасвятары і кніжнікі — і прывялі
Яго ў свой сінедрыён,**
Пс. 2, 2; Мацв. 27, 2;
Мар. 15, 1; Іаан. 18, 28.
**67 кажучы: «Калі ты Месія, ска-
жы нам». Ён жа сказаў ім: «Калі Я
вам скажу, вы не паверыце;**
**68 а калі спытаюся, не адкажаце.**
**69 З гэтага часу ж Чалавечы Сын
будзе сядзець праваруч Божай
сілы».**
Пс. 109, 1; Дан. 7, 13; Мацв. 26, 64;
Мар. 14, 62; Іаан. 6, 62.
**70 І сказалі ўсе: «Дык Ты Божы
Сын?» Ён жа сказаў ім: «Вы кажа-
це, што Я».**
**71 Яны ж сказалі: «Якая яшчэ нам
патрэба ў сведчаннях! Бо мы самі
чулі з Яго вуснаў».**

## Раздзел 23

## ІСУС ПЕРАД ПІЛАТАМ

**1 І ўстала ўсё мноства іх і павялі
Яго да Пілата.**
Мацв. 27, 2; Мар. 15, 1;
Іаан. 18, 28.
**2 І пачалі абвінавачваць Яго, ка-
жучы: «Мы знайшлі, што Гэты зво-
дзіць наш народ і забараняе пада-
так даваць кесару і называе Сябе
Хрыстом Царом».**
Мацв. 22, 21.
**3 І Пілат спытаўся ў Яго, кажучы:
«Ці Ты Іудзейскі Цар?» Ён жа ў ад-
каз сказаў яму: «Ты кажаш».**
Мацв. 27, 11; Мар. 15, 2; Іаан. 18, 33;
1 Цім. 6, 13; Адк. 1, 5.
**4 І Пілат сказаў першасвятарам і
народу: «Я не знаходжу ніякай ві-
ны ў Гэтым Чалавеку».**
**5 Але яны настойвалі, кажучы:
«Ён бунтуе народ, навучаючы па
ўсёй Іудзеі, пачаўшы з Галілеі аж
дасюль».**
**6 Пілат жа, пачуўшы, спытаўся:
«Ці Гэты Чалавек Галілеянін?»**

**7 І, даведаўшыся, што Ён з Ірада-
вах падданых, паслаў Яго да Ірада,
які і сам быў у Ерусаліме ў гэтыя
дні.**
**8 Ірад жа, убачыўшы Ісуса, вельмі
ўзрадаваўся, бо ён з даўняга часу
хацеў убачыць Яго, таму што чуў
пра Яго і спадзяваўся ўбачыць ад
Яго нейкі знак.**

Лук. 9, 9.

**9 І задаваў Яму шмат пытанняў,
ды Ён нічога не адказаў яму.**
**10 І стаялі першасвятары і кніж-
нікі, заўзята абвінавачваючы Яго.**
**11 Ірад жа са сваімі воінамі, па-
гарджаючы Ім і здзекуючыся, убраў
Яго ў бліскучыя шаты і адаслаў Яго
Пілату.**

Іс. 53, 3.

**12 І зрабіліся сябрамі між сабою
Ірад і Пілат з таго дня, бо раней яны
былі ў варажнечы адзін з адным.**

## ІУДЗЕІ ПАТРАБУЮЦЬ УКРЫЖАВАЦЬ ІСУСА

**13 Пілат жа, склікаўшы першасвя-
тароў, і начальнікаў, і народ,**
**14 сказаў ім: «Вы прывялі да мя-
не Гэтага Чалавека, нібы Ён бунтуе
народ, і вось я, педад вамі, дапы-
таўшы, не знайшоў за Гэтым Чала-
векам ніякай віны, што вы выстаў-
ляеце супроць Яго.**

Мацв. 27, 23; Мар. 15, 14;
Іаан. 18, 38; 19, 4.

**15 І Ірад таксама, бо адаслаў Яго
да нас, і вось нічога, вартага смерці,
Ён не зрабіў;**
**16 дык, пакараўшы Яго, адпу-
шчу».**
**17 [А яму трэба было адпусціць
ім на Свята аднаго].**
**18 Яны ж закрычалі ўсім натоў-
пам: «Забі Яго, адпусці ж нам Ва-
раву!»**

Мацв. 27, 20; Мар. 15, 11;
Іаан. 18, 40; Дзеян. 3, 14.

**19 Той быў за нейкае паўстанне,
што адбылося ў горадзе, і забойст-
ва кінуты ў цямніцу.**
**20 І зноў Пілат заклікаў іх, хочу-
чы адпусціць Ісуса.**
**21 Яны ж крычалі: «Укрыжуй,
укрыжуй Яго!»**
**22 А ён трэці раз сказаў ім: «Якое
ж зло учыніў Гэты! Ніякай смярот-
най віны я не знайшоў у Ім; дык,
пакараўшы Яго, адпушчу».**
**23 Яны ж моцнымі крыкамі нас-
тойвалі, дамагаючыся, каб Яго ўкры-
жаваць, і адолелі крыкі іх [і пер-
шасвятароў].**
**24 І Пілат прысудзіў, каб было,
як дамагаліся яны:**
**25 адпусціў кінутага ў цямніцу
за паўстанне і забойства,— таго, што
прасілі яны, Ісуса ж аддаў на іх
волю.**

## ДАРОГА НА ГАЛГОФУ

**26 І калі яны павялі Яго, то, сха-
піўшы нейкага Сімача Кірынеяні-
на, што ішоў з поля, усклалі на яго
крыж, каб ён нёс за Ісусам.**
**27 А ўслед за Ім ішло вялікае
мноства народу і жанчыны, якія пла-
калі і галасілі па Ім.**
**28 І, абярнуўшыся да іх Ісус ска-
заў: «Дочкі Ерусалімскія, не плач-
це па Мне; але па сабе плачце і ва-
шых дзецях,**
**29 бо вось надыходзяць дні, калі
скажуць: «Шчаслівыя няплодныя і
тыя лоны, якія не раджалі, і грудзі,
якія не кармілі!»**
**30 Тады пачнуць казаць гарам:
«Упадзіце на нас!» і ўзгоркам: «Па-
крыйце нас!»**

Іс. 2, 19; Ос. 10, 8;
Адкр. 6, 16; 9, 6.

**31 «Бо калі гэта з сакаўным дрэ-
вам робяць, то з сухім што будзе!»**
**32 Вялі ж і двух іншых ліхадзееў
з Ім, каб забіць.**

## ІСУС НА КРЫЖЫ, ПАКАЯННЕ РАЗБОЙНІКА

**33 І, калі прыйшлі на месца, зва-
нае Лобным, там укрыжавалі Яго
і ліхадзееў: аднаго справа, друго-
га ж злева.**

Мацв. 27, 33; Мар. 15, 22;
Іаан. 19, 17.

**34 [Ісус жа казаў: «Татухна, ад-**

**пусці ім, бо не ведаюць, што чыняць»] І, дзелячы між сабой Яго адзенне, кідалі жэрабя.**

Пс. 21, 19; Мацв. 5, 44; 27, 35; Мар. 15, 24; Іаан. 19, 23.

**35 І стаяў народ, углядаючыся. Насміхаліся ж і начальнікі, кажучы: «Ён іншых ратаваў, няхай выратуе Сам Сябе, калі Ён Месія, Божы абраннік».**

**36 І здзекаваліся з Яго і воіны, падыходзячы і падносячы Яму воцат**

**37 і кажучы: «Калі Ты Іудзейскі Цар, выбаў Самога Сябе».**

**38 Быў жа і надпіс на Ім [напісаны грэцкімі, і рымскімі, і яўрэйскімі літарамі]: «Гэта — Іудзейскі Цар».**

**39 А адзін з павешаных ліхадзеяў зневажаў Яго, кажучы: «Хіба Ты не Месія? Выбаў Самога Сябе і нас».**

**40 У адказ жа другі, дакараючы яго, сказаў: «Ці ж не баішся ты Бога, бо на тое самае засуджаны.**

**41 Але мы — справядліва, бо атрымліваем плату за зробленае, Гэты ж нічога благога не зрабіў».**

**42 І казаў ён Ісусу: «Успомні мяне, Госпадзе, калі Ты прыйдзеш у Царства Сваё».**

Мацв. 16, 28.

**43 І Ён сказаў яму: «Папраўдзе табе кажу, сёння са Мною будзеш у раі».**

**44 І было ўжо каля шостай гадзіны, і зрабілася цемра на ўсёй зямлі аж да дзевятай гадзіны,**

Ам. 8, 9.

**45 сонца зацьмілася, а заслона ў храме разадралася пасярэдзіне.**

**46 І, усклікнуўшы моцным голасам, Ісус сказаў: «Татухна, у Твае рукі аддаю Свой дух!» І, сказаўшы гэта, выпусціў дух.**

Пс. 30, 6.

**47 Убачыўшы ж, што адбылося, сотнік услаўляў Бога, кажучы: «Сапраўды Гэты Чалавек быў справядлівы».**

**48 І ўсе натоўпы, якія зышліся на гэтае відовішча, убачыўшы, што адбылося, вярталіся, б'ючы сябе ў грудзі.**

**49 Усе ж Яго знаёмыя і жанчыны, што прыйшлі з Ім з Галілеі, стаялі здалёку, глядзелі на гэта.**

## ПАХАВАННЕ ІСУСА

**50 І вось муж, на імя Іосіф, член рады, муж добры і справядлівы —**

Мацв. 27, 57; Мар. 15, 43; Іаан. 19, 38.

**51 гэты не згадзіўся ні з прысудам, ні з учынкамі іх,— з Арымафеі, Іудзейскага горада, сам спадзяваўся Божага Царства,**

**52 гэты, прыйшоўшы да Пілата, папрасіў Ісусава цела**

**53 і, зняўшы Яго, абгарнуў плашчаніцаю і паклаў Яго ў магіле, высечанай у скале, дзе яшчэ ніколі ніхто не ляжаў.**

**54 А быў дзень Рыхтавання [1], і настаў шабас [2].**

**55 І, пайшоўшы следам, жанчыны, што прыйшлі з Ім з Галілеі, бачылі магілу і як было пакладзена Яго цела,**

**56 дык, вярнуўшыся, нарыхтавалі духмянасцяў і міра. Аднак у суботу, паводле запаведзі, адпачывалі.**

## Раздзел 24

## АНЁЛЫ АБВЯШЧАЮЦЬ ЖАНЧЫНАМ ПРА ХРЫСТОВА ЎВАСКРЭСЕННЕ

**1 А ў першы дзень тыдня вельмі рана прыйшлі яны да магілы, несучы падрыхтаваныя духмянасці.**

Мацв. 28, 1; Мар. 16, 1; Іаан. 20, 1.

**2 Але знайшлі, што камень адвалены ад магілы**

**3 і, увайшоўшы, не знайшлі цела Госпада Ісуса.**

**4 І было: калі яны не ведалі, што пра гэта думаць, вось паўсталі пры іх два мужы ў зіхатлівых шатах.**

**5 Калі ж яны спалохаліся і схілялі твары да зямлі, тыя сказалі ім: «Што вы шукаеце жывога сярод мёртвых?**

---

**[1] Л. зн. пятніца.**
**[2] Г. зн. субота.**

**6 Яго няма, але Ён устаў. Успомніце, як Ён гаварыў вам, калі яшчэ быў у Галілеі,**

Мацв. 17, 22.

**7 кажучы пра Чалавечага Сына: «Трэба Яму быць выдадзеным у рукі грэшных людзей і быць укрыжаваным і трэцяга дня ўваскрэснуць».**

Мар. 9, 31; Лук. 9, 22.

**8 І яны ўспомнілі Яго словы.**

**9 І, вярнуўшыся ад магілы, абвясцілі ўсё гэта Адзінаццаці і ўсім астатнім.**

**10 А былі: Магдалена Марыя, і Іаанна, і Марыя Якаўлева (маці) і астатнія з імі. Яны расказалі гэта апосталам,**

**11 і паказаліся ім трызненнем гэтыя словы, і не паверылі ім.**

**12 Але Пятро, устаўшы, пабег да магілы і, нахіліўшыся, бачыць адны кужэльныя палосы; і ён пайшоў да сябе, дзівячыся, што адбылося.**

Іаан. 20, 6.

## У ДАРОЗЕ ДА ЭМАУСА

**13 І вось двое з іх у гэты ж дзень ішлі ў сяло, што ляжала шэсцьдзесят стадыяў ад Ерусаліма, назва яму Эмаўс.**

Мар. 16, 12.

**14 І яны размаўлялі між сабою пра ўсе гэтыя падзеі.**

**15 І было: калі яны размаўлялі і абмяркоўвалі, сам Ісус, наблізіўшыся, пайшоў з імі,**

**16 вочы ж іх былі стрыманы, так што яны не пазналі Яго.**

**17 І Ён сказаў ім: «Пра што гэта вы гутарыце між сабою ў дарозе?» І яны спыніліся сумныя.**

**18 У адказ жа адзін, на імя Кляопа, сказаў Яму: «Ты хіба адзін прышлы ў Ерусаліме не ведаеш, што адбылося ў ім у гэтыя дні?»**

**19 І сказаў ім: «Што ж такое?» Яны ж сказалі Яму: «Пра Ісуса Назараніна, Які быў прарок, магутны ў справе і ў слове перад Богам і ўсім народам;**

Мацв. 21, 11; Лук. 7, 16;
Іаан. 3, 2; 6, 14; Дзеян. 2, 22.

**20 і як выдалі Яго першасвятары і нашы начальнікі на смяротны прысуд і ўкрыжавалі Яго.**

**21 А мы спадзяваліся, што Ён Той, Які павінен выбавіць Ізраіля. А да ўсяго гэтага ідзе трэці дзень з таго часу, як гэта адбылося.**

Лук. 2, 25; Дзеян. 26, 6.

**22 Але і некаторыя з нашых жанчын здзівілі нас: прыйшоўшы рана да магілы**

**23 і не знайшоўшы Яго цела, яны прыйшлі, кажучы, што бачылі і з'яўленне анёлаў, якія кажуць, што Ён жывы.**

**24 І пайшлі некаторыя з нашых да магілы і знайшлі так, як і жанчыны сказалі; Яго ж не бачылі».**

**25 І Ён сказаў ім: «О безразважныя і лянівыя сэрцам, каб верыць ва ўсё, што сказалі Прарокі!**

Быц. 3, 15; 22, 18; 49, 10-11;
Лік. 21, 9; Пс. 21, 7; 68, 10; 21, 26;
Іс. 50, 6; 53, 3.

**26 Ці не гэта трэба было пацярпець Хрысту і ўвайсці ў Сваю славу?»**

Пс. 15, 8-10; Іс. 40, 10;
Іер. 23, 5; 33, 15; Іез. 34, 23; 37, 24;
Дан. 9, 24; Міх. 7, 20.

**27 І, пачаўшы ад Майсея і ад усіх Пракокаў, тлумачыў ім ва ўсіх Пісаннях, што было пра Яго.**

**28 І наблізіліся яны да сяла, куды ішлі, і Ён зрабіў выгляд, што ідзе далей.**

**29 Але яны затрымлівалі Яго, кажучы: «Застанься з намі, бо надвечар і дзень ужо схіліўся. І Ён увайшоў, каб застацца з імі.**

**30 І было: калі Ён узлёг з імі, то ўзяўшы хлеб, дабраславіў, і ламаючы, падаваў ім.**

**31 І ім адкрыліся вочы, і пазналі Яго, але Ён стаў ім нябачны.**

**32 І сказалі яны адзін аднаму: «Ці не палала наша сэрца [ў нас], калі Ён казаў нам у дарозе, калі Ён раскрываў нам Пісанні?»**

**33 І, устаўшы ў тую ж гадзіну, вярнуліся яны у Ерусалім і знайшлі ў зборы Адзінаццаць і тых, што з імі,**

**34 якія казалі, што Госпад сапраўды ўваскрос і паказаўся Сіману.**

**35 А яны расказалі, што было ў дарозе, і як пазналі Яго ў ламанні хлеба.**

## З'ЯЎЛЕННЕ ІСУСА ВУЧНЯМ У ЕРУСАЛІМЕ

**36 А калі яны гаварылі пра гэта, ён Сам стаў сярод іх і кажа ім: «Мір вам!»**

Мар. 16, 14; Іаан. 20, 19; Дзеян. 13, 31; 1 Кар. 15, 5.

**37 Яны ж, зжахнуўшыся і перапалохаўшыся, думалі, што бачаць духа.**

**38 І Ён сказаў ім: «Чаго вы збянтэжыліся і чаму сумненні ўваходзяць у вашы сэрцы?**

**39 Паглядзіце на Мае рукі і на Мае ногі: гэта Я Сам: памацайце Мяне і паглядзіце: дух цела і касцей не мае, Я ж, як бачыце, маю».**

**40 І, гэта сказаўшы, Ён паказаў ім рукі і ногі.**

**41 Калі ж яны ад радасці яшчэ не верылі і здзіўляліся, Ён сказаў ім: «Ці ёсць у вас тут якая ежа?»**

**42 І яны падалі Яму кавалак печанай рыбы; [і мёду ў сотах]**

**43 І, узяўшы, Ён перад імі з'еў.**

**44 І сказаў ім: «Гэта Мае словы, што Я казаў вам, калі яшчэ быў з вамі: трэба, каб спраўдзілася ўсё, што напісана ў Майсеевым законе, і ў Прароках, і Псалмах пра Мяне».**

Мацв. 16, 21.

**45 Тады Ён адкрыў ім розум для зразумення Пісанняў.**

Іаан. 5, 39.

**46 І сказаў ім: «Так напісана, каб цярпець Хрысту і ўваскрэснуць з мёртвых трэцяга дня,**

Іс. 53, 4; Лук. 24, 27.

**47 і каб было абвешчана ў Яго імя пакаянне дзеля адпушчэння грахоў ва ўсіх народах, пачынаючы з Ерусаліма.**

**48 Вы сведкі гэтаму.**

**49 І [вось] Я пасылаю абяцанае Маім Бацькам на вас; вы ж заставайцеся ў горадзе аж пакуль не апранецеся сілаю з вышыні».**

Іаан. 14, 16; 15, 26; Дзеян. 1, 4, 8.

## УЗНЯСЕННЕ

**50 І Ён вывеў іх з горада да Віфаніі і, падняўшы рукі Свае, дабраславіў іх.**

**51 І было: калі дабраславіў іх, Ён аддзяліўся ад іх і ўзнёсся ў неба.**

Мар. 16, 19; Дзеян. 1, 9.

**52 І яны, пакланіўшыся Яму, вярнуліся ў Ерусалім з вялікаю радасцю,**

**53 і былі ўвесь час у святыні, дабраславячы Бога. [Амін].**

**Працяг будзе**

18, 1-8. Г. зн., калі нават несправядлівы суддзя не ўстояў перад настойлівымі просьбамі ўдавы, то што ўжо казаць пра міласэрнага Бога, які дбае, рупіцца пра вернікаў.

8, 12. Поснымі днямі фарысеяў былі чацвер і панядзелак у памяць таго, што ў чацвер Майсей падняўся на Сіёнскую гару, а ў панядзелак спусціўся.

18, 25. Ёсць два тлумачэнні паходжання выслоўя пра вярблюда і ігольнае вушка.

Першае: у Ерусаліме побач з вялікаю гарадскою брамаю, праз якую ішоў асноўны рух, былі і маленькія веснічкі (званыя «ігольныя вушы»), праз якія мог прайсці чалавек, але надзвычай цяжка вярблюд.

Другое: па-грэцку вярблюд (ка́мэлос) і тоўстая вяроўка, канат (ка́мілос) гучаць падобна. Таму магчымы сэнс выслоўя быў: лягчэй канат пройдзе праз ігольнае вушка, чым багацей — у Божае Царства.

19, 8. Паводле закона нават злодзей, калі ён сам прызнаваўся, павінен быў вярнуць украдзенае і яшчэ адну пятую гэтага. Учынак Закхея, які вырашыў аддаць палавіну свайго багацця ўбогім, а іншым людзям адплаціць за зробленае зло ў чатыры разы больш, сведчыць, што ён цяпер стаў сапраўды зусім іншым чалавекам.

19, 44. Гэта адбылося ў 70-м годзе н. э., калі Ерусалім быў разбураны рымлянамі. (Іосіф Флавій падае, што тады загінула 1 млн. 100 тысяч яўрэяў, 97 тысяч было забрана ў палон).

20, 1-8. Першасвятары, кніжнікі і старэйшыны складалі сінедрыён — найвышэйшую раду і кіраўнічы орган іудзеяў. Такім чынам Ісус як бы адказваў перад сінедрыёнам.

Ісусава пытанне пра Іаанава хрышчэнне адразу давала адказ. Бо калі Іаанава ўлада ад неба, то тады вядома, хто Ісус: Іаан лічыў сябе Прадцечаю і сведчыў пра Ісуса, што Ён Месія.

21, 25. Г. зн. падчас землятрусаў мора выйдзе з берагоў і гэты шум выкліча страх у людзей.

21, 37. Уехаўшы ў Ерусалім, Ісус першую і другую ночы правёў у Віфаніі, а ночы з аўторка на сераду і з серады на чацвер на Аліўнай гары. Тут і быў выдадзены Юдам уначы з чацвярга на пятніцу.

22, 24. Апосталам уяўлялася Хрыстова Царства зямным, таму яны, і вельмі практычна, спрачаліся, хто з іх большы.

22, 31. Вобраз прасеянай пшаніцы мае на ўвазе тут выпрабаванні праз розныя спакусы.

22, 55. Згадка пра раскладзены агонь не выпадковая: у пачатку красавіка, калі ўсё гэта адбывалася, ночы ў Ерусаліме выдараюцца халодныя.

23, 1-7. У сінедрыёне Ісуса абвінавацілі ў богазнявазе. Але каб дамагчыся ад Пілата смяротнага прысуду, а смяротны прысуд мог вынесці толькі рымскі губернатар і выконваўся ён рымскімі ўладамі, іудзеі ідуць на адкрытую фальсіфікацыю. Яны выстаўляюць ужо не рэлігійныя (што Пілату да іудзейскіх рэлігійных спрэчак!), а страшныя палітычныя абвінавачванні (падбухторванне да паўстання, да адмовы плаціць падатак, прысваенне царскага тытулу), а да ўсяго падкрэсліваюць, што Ісус паходзіць з Галілеі (Галілея тады якраз лічылася «калыскаю паўстанцаў»).

23, 13-25. Пілат бачыў беспадстаўнасць абвінавачванняў супроць Ісуса і ніяк не хацеў выносіць смяротны прысуд, а тым самым парушаць прынцып аб'ектыўнага, незацікаўленага судоўніцтва, якім так славіўся Рым. Аднак ранейшыя Пілатавы памылкі ў кіраванні, боязь, што яны стануць падставаю даносаў на яго імператару, схіляюць Пілата на злачынны прысуд,— памылковае мінулае зрабіла з яго палахліўца.

23, 26. Злачынец, асуджаны на ўкрыжаванне, нёс на месца пакарання крыж на сваіх плячах. У форме чатырохкутніка вакол яго ішлі чатыры воіны. Наперадзе быў яшчэ адзін, пяты воін з плакатам аб злачынстве. Ісус, несучы крыж, пасля ўпаў пад яго цяжарам, і рымляне вымушаны былі запыніць сустрэчнага.

23, 34. Воіны, якія ўзялі злачынцу на месца пакарання, пасля дзялілі яго адзенне, якое, як у кожнага іудзея, складалася з пяці частак — ніжняй тунікі, хітона, пояса, сандаляў і турбана. Кожны воін браў адну частку, а хітон, які ткаўся з аднаго кавалка, без адзінага шва і не мог быць падзелены, браў той, каму выпадала жэрабя (лёсаванне). І вось воіны дзеляць адзенне, не зважаючы, як у страшэнных муках канае Ісус на крыжы.

24, 13. 60 стадыяў — гэта каля 11 кіламетраў.

**Пераклад і каментарыі Анатоля КЛЫШКІ.**

# ЛЯ ВЫТОКАЎ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Ермаловіч М. І. **Старажытная Беларусь.** Полацкі і новагародскі перыяды. Мінск. «Мастацкая літаратура». 1990.

Пилипенко М. Ф. **Возникновение Белоруссии: новая концепция.** Минск. «Беларусь». 1991.

Так здарылася, што амаль адначасова ў выдавецтвах «Мастацкая літаратура» і «Беларусь» выйшлі з друку два даследаванні на адну і тую ж тэму — «Старажытная Беларусь» М. Ермаловіча і «Возникновение Белоруссии» М. Ф. Піліпенкі. Аўтары ішлі да раскрыцця тэмы рознымі шляхамі. Калі М. І. Ермаловіч больш увагі надае палітычнай гісторыі сучасных беларускіх зямель у так званыя «полацкі і новагародскі перыяды», то М. Ф. Піліпенка аналізуе не столькі канкрэтныя падзеі, колькі тыя гістарычныя, эканамічныя, этнічныя, палітычныя фактары і прычыны, якія ў сукупнасці абумовілі ўзнікненне Беларусі і беларусаў. Мікола Ермаловіч як быццам і не вызначае прама той канкрэтны час, з якога пачынае адлічвацца беларуская гісторыя. Але ж яго жывое, месцамі эмацыянальна-ўзвышанае апавяданне з найцікавейшымі падрабязнасцямі, якіх не сустрэнеш больш ні ў адной кніжцы, недвухсэнсава сведчыць: айчынная гісторыя не менш даўняя і славутая, чым мінуўшчына суседніх дзяржаў і народаў. Разважанні Міхаіла Піліпенкі адрозніваюцца меншай эмацыянальнасцю, што ўвогуле характэрна для акадэмічных навукоўцаў, і большай пунктуальнасцю ў плане вызначэння часу паходжання Беларусі і беларусаў. Ён, у адрозненне ад М. Ермаловіча, не проста адмаўляецца ад папярэдніх гіпотэз і версій (напрыклад, ад «балцкай» тэорыі, згодна з якой узнікненне беларусаў адбылося ў выніку змяшання славян і балтаў), а падрабязна аналізуе, як яму здаецца, іх памылковасць і прыходзіць да высновы, што фармаванне беларускай народнасці завяршылася толькі ў XV—XVI стагоддзях. Мікола Ермаловіч развівае думку, выказаную яшчэ ў канцы 60-х гадоў М. Я. Грынблатам у працы «Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории» (М., 1968), згодна з якой усходнеславянскія групоўкі крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў з'яўляюцца старажытнай асновай беларусаў. М. Ф. Піліпенка ж абгрунтоўвае зусім іншы тэзіс: паміж крывічамі, дрыгавічамі і радзімічамі, з аднаго боку, і беларусамі, з іншага боку, непасрэднай пераемнасці няма. На яго думку, нагаданыя летапісныя групоўкі зніклі да сярэдзіны XII стагоддзя, а вось агульнабеларускі комплекс мовы і культуры з'явіўся толькі праз тры стагоддзі.

Як бачым, канцэпцыі М. І. Ермаловіча і М. Ф. Піліпенкі сапраўды процілеглыя. Версію аўтара кнігі «Возникновение Белоруссии» мы б назвалі традыцыйнай, хоць сам М. Ф. Піліпенка і пазначыў у падзагалоўку да свайго даследавання — «Новая концепция». Сапраўды новага ў канцэптуальным плане тут не вельмі шмат, за выключэннем некаторых прыватных думак, напрыклад, аб паходжанні назвы **крывічы**; аб ролі так званай дыфузіі ў этнічных працэсах; аб змешванні, спалучэнні, пераплятанні паўночных (днепра-дзвінскіх) і паўднёвых (папрыпяцкіх) элементаў мовы і культуры, што прывяло да ўтварэння беларускай мовы і беларускай народнасці.

Канцэпцыя Міколы Ермаловіча адрозніваецца арыгінальнасцю, смеласцю і нават патрыятычнасцю, калі ўлічыць асаблівасці нашага часу — часу адраджэння нацыянальнай самасвядомасці народа, вялікай цікавасці і цягі да сваіх гістарычных каранёў.

Тым не менш, мы б параілі чытачам не рабіць паспешлівых вывадаў наконт арыгінальнасці і традыцыйнасці, не выбіраць безумоўна першую і адмаўляцца ад апошняй. Не ўсё проста вырашаецца ў навуцы, асабліва тое, што мае дачыненне да далёкай мінуўшчыны. Менавіта таму кнігі М. Ермаловіча і М. Піліпенкі лепш за ўсё чытаць разам. Мы ў гэтым упэўнены і паспрабуем пераканаць чытачоў на прыкладзе аналізу аднаго з ключавых пытанняў, па якім думкі абодвух аўтараў як быццам дыяметральна разышліся,— хто такія палачане старажытных летапісаў, якая іх роля ў даўняй гісторыі Бацькаўшчыны? Той ці іншы адказ на гэтае пытанне пралівае святло і на паходжанне беларускай дзяржаўнасці.

Для М. Ермаловіча відавочна, што палачане — гэта этнічнае ўтварэнне, «першая па часе мадэль беларусаў», Полацк жа — гэта дзяржаўны цэнтр Беларусі да сярэдзіны XIII стагоддзя. У разуменні М. Піліпенкі значэнне тэрміна **палачане** не выходзіла за рамкі тэрытарыяльна-палітычнага абазначэння і этнічным не з'ўлялася. Самі палачане — гэта тэрытарыяльная група агульнаўсходнеславянскага, ці старажытнарускага этнасу, а Полацкае княства — адзін з многіх княжацкіх удзелаў у складзе Старажытнай Русі.

Адказы — розныя. Хто мае рацыю? Ці магчымы іншы падыход да раскрыцця сутнасці палачан?

Упершыню тэрмін **палачане** сустракаецца ў недатаванай частцы «Аповесці мі-

нулых часоў» у апавяданні пра рассяленне славян: «Тако же и ти словене пришедше и седоша по Днепру и нарекошася поляне, а друзии древляне, зане седоша в лесах; а друзии седоша межю Припетью и Двиною и нарекошася дреговичи; инии седоша на Двине и нарекошася полочане, речьки ради, яже втечеть въ Двину, имянемъ Полота, от сея прозвашася полочане». Другая згадка палачан у летапісе таксама не пазначана датай: «И по сихъ братьи (маюцца на ўвазе кіеўскія валадары Кій, Шчэк, Харыў і сястра іх Лыбедзь — А. Р.) держати почаша родъ ихъ княженье в поляхъ, а в деревляхъ свое, а дреговичи свое, а словени свое в Новегороде, а другое на Полоте, иже полочане. Отн нихъ же кривичи, иже седять на верхъ Волги, и на верхъ Двины и на верхъ Днепра, их же градъ есть Смоленск; туде бо седять кривичи...»

Нагаданая інфармацыя аб палачанах змешчана ў самай старажытнай пісьмовай крыніцы, якая дайшла да нашага часу. Але ж «Аповесць мінулых часоў» не з'яўляецца першакрыніцай, яе склаў Нестар, манах Кіева-Пячэрскага манастыра, каля 1113 года на аснове папярэдніх летапісных зводаў, якія не захаваліся. Але (і гэта галоўнае) Нестар не столькі перапісаў папярэднія тэксты, добра вядомыя яму, колькі перапрацаваў, «асучасніў» у адпаведнасці з тымі ідэямі і поглядамі, якія ён падзяляў. Нездарма некаторыя даследчыкі лічаць, што згадка аб палачанах у своеасаблівым уступе да «Аповесці мінулых часоў» з'яўляецца бясспрэчнай устаўкай, якую зрабіў Нестар ці хто-небудзь з яго паслядоўнікаў. Аднак можна меркаваць і зусім інакш: найменні **крывічы** і **палачане** змешваліся, узаемазамяняліся, з'яўляліся варыянтнымі яшчэ ў самых старажытных летапісных зводах, якія не дайшлі да нашага часу.

Сапраўды, як разумець фразу: «От нихъ же (палачан — **А. Р.**) кривичи, иже седять на верхъ Волги, и на верхъ Двины и на верхъ Днепра...»? Яе зусім не абавязкова лічыць сапсаванай перапісчыкамі (як быццам павінна быць «палачане ад крывічоў», а не наадварот), як і не абавязкова разумець літаральна, гэта значыць, што крывічы паходзяць ад палачан. На наш погляд, летапісец меў на ўвазе перш за ўсё геаграфічнае размяшчэнне, звычайныя каардынаты смаленскіх крывічоў, якія, у адрозненне ад палачан (полацкіх крывічоў), «сядзелі» ў вярхоўях, а не на сярэднім цячэнні Дзвіны. У тэксце гэта відавочна: «ад іх жа» (палачан) у вярхоўях згаданых рэк сядзяць крывічы з цэнтрам у Смаленску, далей ад крывічоў жывуць севяране («тажe северъ от нихъ»). Цікава, што ў летапісным адрэзку захаваўся выраз «туде бо седять кривичи», гэта значыць — «вось дакуль, да якіх межаў сядзяць крывічы», што сведчыць аб тым, што летапісец лічыў крывічамі і жыхароў ваколіц Полацка, і смаленскае насельніцтва, толькі ў дачыненні да першых ён ужываў найменне **палачане**, бо былі важкія падставы.

Такім чынам, тэрміны **крывічы** і **палачане** ўжываліся ўжо ў тых летапісных зводах, якія папярэднічалі Нестаравай «Аповесці мінулых часоў», магчыма, яшчэ ў IX—X стагоддзях. Цяпер паспрабуем адказаць на пытанне — на чым грунтуюцца гэтыя разлікі?

У датаванай частцы летапісу крывічы ўпершыню ўпамінаюцца ў запісу пад 859 годам: «Имаху дань варязи изъ заморья на чюди и на словенехъ, на мери и на свехъ кривичехъ». Далей ідзе вядомае апавяданне пра выгнанне варагаў і наступны зварот да апошніх з просьбай прыслаць князёў. На зварот славен, крывічоў, чудзі, меры і весі адгукнуліся тры браты — Рурык, Сінявус і Трувар, якія прыйшлі «з радамі сваімі» і пачалі княжыць («володети») у Ноўгарадзе, Ізбарску і на Белавозеры.

На нашу думку, у гэтым летапісным паведамленні адлюстраваліся дзве рэальныя падзеі, два факты. Першая падзея — гэта міграцыйны рух заходнеславянскага («паморскага») насельніцтва на ўсход, у межы сучаснай Беларусі (аб гэтым сведчыць наяўнасць на беларускіх землях назваў населеных пунктаў тыпу Кашубінцы ў Гродзенскім раёне, Паморшчына і Памораўшчына ў Валожынскім і Мядзельскім раёнах, Вагараўшчына Лёзненскага раёна, Ліпяні ў Мінскім раёне і іншых; параўн. этнонімы паморскіх славян: кашубы, памаране, ліпянеліпляне, вагры). Другі факт— гэта існаванне ў канцы 50-х— пачатку 60-х гадоў IX стагоддзя паўночнаўсходнеславянскай «протадзяржавы» (карыстаемся ў гэтым выпадку тэрміналогіяй М. Ф. Піліпенкі), тэрытарыяльна-палітычнага саюзу наўгародскіх славен, крывічоў (славянскія групоўкі) і меры, чудзі, весі (заходнефінскія групоўкі). Гэты палітычны саюз быў нетрывалы, яго разладжвалі ўнутраныя супярэчнасці («...въста родъ на родъ, и быша в них усобице, и воевати почаша сами на ся»), праціборства некалькіх цэнтраў, якія прэтэндавалі на першынство, на лідэрства. Галоўныя з гэтых цэнтраў — Ноўгарад і Полацк — і надалей, у X—XII стагоддзях працягвалі суперніцтва.

У сярэдзіне IX стагоддзя насельніцтва Ноўгарада і Полацка, а таксама бліжэйшых да гэтых гарадоў ваколіц ужо называлася адпаведна наўгародцамі і палачанамі. Значэнне гэтых тэрмінаў было не этнічнае, а выключна тэрытарыяльнае, пазней жа, у пачатку X стагоддзя — і тэрытарыяльна - палітычнае. Асноўным насельніцтвам Ноўгарада былі **славене**, а Полацка — **крывічы** (аб гэтым красамоўна сведчыць «Аповесць мінулых часоў» у паведамленні аб раздачы Рурыкам гарадоў «мужемъ своимъ»). Адсюль, як нам здаецца, і «блытаніна» тэрмінаў **палачане** і **крывічы** (ды і **наўгародцы** і **славене**)

у пачатковым летапісе. Нездарма, калі кіеўскія князі Аскольд і Дзір у 865 (ці 867) годзе захапілі Полацк, то ў адной рэдакцыі летапісу было адзначана, што валадары Кіева «ваявалі» палачан, у іншай рэдакцыі — крывічоў (паведамленне М. Ермаловіча).

У пачатку 80-х гадоў IX стагоддзя Полацк вызваліўся з-пад улады Кіева, у залежнасць ад якога ён трапіў у 865 ці 867 годзе (у той час ішла самая сапраўдная вайна «паўночнай» дзяржавы Рурыка і «паўднёвай» дзяржавы Аскольда і Дзіра; у гэтай вайне загінулі браты Рурыка — Сінявус і Трувар). Новы валадар паўночнаўсходнеславянскай дзяржавы Алег здолеў зноў аб'яднаць Ноўгарад, Ладагу, Полацк, Растоў, Мурам, іншыя цэнтры пад сваёй уладай. У гэты час падуладныя яму землі аб'ядноўваліся агульнай назвай **Русь**. У 882 годзе князь Алег з велізарнай арміяй, у складзе якой былі і крывічы (гэта і з'яўляецца доказам таго, што Полацк ужо не належаў Аскольду і Дзіру), зрабіў паўднёвы паход, захапіў Смаленск і Любеч, узяў уладу ў Кіеве і перанёс у гэты горад сваю сталіцу.

Такім чынам, процістаянне двух цэнтраў — паўночнага і паўднёвага, якое абвастрылася ў канцы IX стагоддзя, было ліквідавана амаль унікальным спосабам — шляхам аб'яднання паўночнай і паўднёвай частак Усходняй Славіі. Зразумела, што гэтаму аб'яднанню папярэднічала перамога паўночнага цэнтра, але гэтая перамога была хутчэй палітычная, чым ваенная, бо летапіс не кажа пра крывавыя сутыкненні ў час паўднёвага паходу князя Алега ў 882 годзе.

Ці не дзіўна гаварыць пра «палітычнае аб'яднанне» велізарнай тэрыторыі з рознымі цэнтрамі-ўдзеламі, якая да таго ж зусім не ўяўляла сабой этнічнага і моўнага «маналіту», бо на ёй жылі славянскія, балцкія, фінаўгорскія, цюркскія і, магчыма, іранскія групоўкі? Мы, аднак, улічваем вельмі істотную акалічнасць. На тэрыторыі Усходняй Славіі асноўным і самым вялікім у колькасных адносінах быў славянскі этнічны і моўны кампанент. Менавіта славянскае насельніцтва выступала ў розных частках вялікага рэгіёна ў якасці кансалідатара ўсіх астатніх, неславянскіх плямёнаў і народаў. Ва ўмовах іншаэтнічнага, іншамоўнага акружэння славянскае насельніцтва на поўначы і на поўдні добра адчувала, асэнсоўвала сваю агульную аснову, агульнае паходжанне, роднасць. Гэтую акалічнасць трэба лічыць галоўнай прычынай адсутнасці абсалютнага палітычнага размежавання паміж племяннымі саюзамі і тэрытарыяльнымі групоўкамі. Менавіта ў IX стагоддзі з'яўляюцца агульныя рысы, прыкметы адноснага адзінства ці той асновы, на якой пад уздзеяннем «славянскага фактару» трохі пазней, у X—XI стагоддзях, хуткімі тэмпамі будзе адбывацца фармаванне ўсходнеславянскай ці старажытнарускай народнасці.

Гэты працэс не быў завершаны, бо, дасягнуўшы вяршыні ў X—XI стагоддзях, ён яўна замарудзіўся ў XII стагоддзі і зусім прыпыніўся ў далейшым. Працэсу кансалідацыі Усходняй Славіі на ўсіх этапах спадарожнічаў процілеглы працэс — зараджэнне і павольнае развіццё рэгіянальных асаблівасцей у культуры і мове на ўсёй вялікай тэрыторыі. Два гэтыя працэсы — кансалідацыя і дыферэнцыяцыя — зусім не супярэчылі адзін аднаму, наадварот, яны спалучаліся, перапляталіся, узаемна абумоўліваліся.

Дыферэнцыйныя працэсы яшчэ ў IX ст. паскараліся тым, што Алегава дзяржава ўяўляла сабой федэрацыю з моцна развітай аўтаноміяй. Так, у Полацку княжыла мясцовая дынастыя, якая падпарадкоўвалася Кіеву толькі фармальна, напрыклад, пасылала па патрабаванні вярхоўнага князя дружыну для ўдзелу ў агульных паходах. Заўважым, што полацкіх валадароў такая «залежнасць» задавальняла, бо за гэта яны атрымлівалі вялікую даніну.

Пасля смерці Алега ў 913 годзе наступіў перыяд паступовага росквіту фактычна самастойнай Полацкай дзяржавы. Гэты перыяд быў нядоўгі — усяго каля 70 гадоў, да 980 года, але менавіта за гэты час пачало рэалізоўвацца тое, што паволі зараджалася ў папярэднія часы, на працягу ўсяго IX стагоддзя,— хуткімі тэмпамі пайшло фармаванне супольнасці на аснове карэннага крывіцкага насельніцтва і складванне наддыялектнага кайнэ. Менавіта ў X ст. найменне **палачане** пачало выкарыстоўвацца ў якасці абазначэння ўсяго насельніцтва Полацкай дзяржавы, яно мела несумненнае тэрытарыяльна-палітычнае значэнне, аб чым сведчаць дзве геаграфічныя назвы **Палачаны** і **Палачанка** (вёскі сучасных Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў), якія фіксуюцца на старой этнічнай крывіцкай мяжы IX—XIII стагоддзяў. Важна адзначыць, што як гэтыя назвы, так і асноўная колькасць тапонімаў, якія ўтвораны ад этноніма **крывічы** (Крывічы, Крывічаны і г. д.), размешчаны ўздоўж мяжы паміж паўночна-ўсходнім і паўднёва-заходнім дыялектамі беларускай мовы, у арэале пераходных, сярэднебеларускіх гаворак (вакол Ашмян, Валожына, Маладзечна, Барысава, Рагачова, Буда-Кашалёва). Калі ўлічыць, што геаграфічныя назвы, утвораныя ад этнонімаў, узнікаюць на этнічным і моўным паграніччы, то можна зрабіць вывад: фармаванне рысаў паўночна-ўсходняга беларускага дыялекта адбывалася якраз у перыяд існавання Полацкага княства, у межах яго асноўнай тэрыторыі (старая этнічная тэрыторыя крывічоў).

Поўнага зліцця паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў, рубеж паміж якімі намеціўся яшчэ ў IX—X стст., не адбылося, а гэта з'яўляецца галоўным аргументам супраць думкі М. І. Ермаловіча аб фарма-

ванні палачан, гэтага асобнага, як лічыць аўтар «Старажытнай Беларусі», этнічнага ўтварэння, шляхам мяшання, зліцця крывічоў і дрыгавічоў. Захаванне крывіцкадрыгавіцкага дыялектнага рубяжа, перш за ўсё, было абумоўлена палітычнымі прычынамі: полацкія князі змаглі ўключыць у свае ўладанні гістарычныя землі дрыгавічоў на вельмі малы тэрмін. Здарылася гэта, як можна меркаваць, толькі ў сярэдзіне X стагоддзя, у час праўлення Рагвалода. Мікола Ермаловіч, на жаль, не надаў належнага значэння думцы археолага Л. Аляксеева, які ўказваў на адсутнасць фактаў (па археалагічных матэрыялах) мяшання крывічоў і дрыгавічоў у цэнтральнай частцы Беларусі. Тут, на наш погляд, сапраўды існавала выразная мяжа, прынамсі, на працягу IX стагоддзя, а магчыма, яшчэ і ў першую палову X стагоддзя. Верагодна, у дрыгавічоў таксама існавала свая «протадзяржава», якая з'яўлялася пэўнай перашкодай на шляху Полацка да ўлады над землямі ад Дзвіны да Прыпяці. У гэтым плане вельмі цікавымі ўяўляюцца назіранні М. Ф. Піліпенкі аб існаванні паўночнай і паўднёвай этнаграфічных і моўных зон якраз на тэрыторыі паміж Дзвіной і Прыпяццю ў XI—XIII стагоддзях. Думаецца, што даследчык мае рацыю, і зоны, якія ён выяўляе, у нагаданы час размяжоўваліся менавіта па ўмоўнай лініі Ашмяны — Мінск — Бабруйск — Гомель (зона сённяшніх пераходных беларускіх гаворак). А ў IX стагоддзі тут праходзіла крывіцка-дрыгавіцкая мяжа.

Як бачым, ёсць важкія падставы, каб гаварыць не столькі аб зліцці крывічоў і дрыгавічоў, колькі аб іх процістаянні і нават проціборстве. Гэтая акалічнасць, безумоўна, не магла спыніць поўнасцю кантакты і ўзаемадзеянне крывіцкага і дрыгавіцкага насельніцтва, а потым і нашчадкаў дзвюх старажытных груповак славян, што і прывяло да ўзнікнення ў XV стагоддзі пераходных, сярэднебеларускіх гаворак, якія ў XIX — пачатку XX стагоддзяў ляглі ў аснову нацыянальнай беларускай літаратурнай мовы. Нарэшце, узаемадзеянне ці нават магчымае змешванне крывічоў і дрыгавічоў не маглі даць іншых колькі-небудзь заўважальных вынікаў акрамя тых, што далі (утварэнне гаворак цэнтра), па той прычыне, што этнічная і моўная аснова гэтых груповак была блізкароднаснай, амаль аднолькавай.

Такім чынам, палачане з'ўляліся насельніцтвам толькі Полацкай зямлі, само гэта найменне — **палачане** — мела спачатку тэрытарыяльнае, а потым — тэрытарыяльна - палітычнае значэнне. Палачане — гэта сапраўды «прынцыпова новая гістарычная з'ява» (М. Ермаловіч), гэта тая тэрытарыяльна-палітычная супольнасць, фармаванне і развіццё якой ішло ў напрамку да ўтварэння новай народнасці (жыхары Полацкай зямлі карысталіся, напрыклад, наддыялектным кайнэ). Але ж асобнай народнасцю палачане не сталі, яны з'явіліся толькі мадэллю, праобразам магчымай народнасці. У гэтым Мікола Ермаловіч безумоўна мае рацыю.

М. Ф. Піліпенка яўна паспяшаўся аб'явіць няправільнымі вывады М. Я. Грынблата аб тым, што арэалы гаворак крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў пакінулі свае сляды ў сучасных дыялектах беларускай мовы. М. Ф. Піліпенка лічыць, што дыялектныя адрозненні мовы ўсходнеславянскага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ў эпоху феадалізму змяніліся двойчы: першы раз у перыяд утварэння і развіцця агульнаўсходнеславянскай, ці старажытнарускай, супольнасці, другі раз — у перыяд фармавання беларускага этнасу. Гэтае палажэнне патрабуе карэкцыі.

Ранні старажытнарускі перыяд (IX—XI стагоддзі), на працягу якога разам з умацаваннем Русі як адзінай федэратыўнай дзяржавы адбывалася фармаванне славянамоўнай старажытнарускай народнасці, у гісторыка-лінгвістычным плане можа быць ахарактарызаваны як перыяд уніфікацыі неаднародных («паўднёвых» і «заходніх», гл. вышэй) славянскіх гаворак, якія ўвайшлі ў сацыяльную сістэму мовы старажытнарускай (агульнаўсходнеславянскай) народнасці. Яшчэ ў VII—VIII, а потым і ў IX—XI стагоддзях ішоў працэс інтэграцыі ўсходнеславянскіх гаворак, вынікам якога з'явілася распаўсюджанне агульных усходнеславянскіх моўных рысаў, што так выразна адрозніваюць усходнеславянскія гаворкі і мовы ад заходне- і паўднёваславянскіх. Суіснаванне, узаемадзеянне, перапляценне двух, на першы погляд процілеглых працэсаў — кансалідацыі і дыферэнцыяцыі — было магчыма толькі ва ўмовах наяўнасці агульнай, роднаснай этнамоўнай асновы, якою выступалі шматлікія славянскія групоўкі, а таксама ва ўмовах поліэтнічнасці, «стракатасці» ўсходняй Славіі, адсутнасці шчыльных эканамічных сувязей паміж рознымі землямі, што абумоўлівала дэцэнтралізацыю краіны. Вось чаму мы падтрымліваем думку М. Я. Грынблата, а таксама Я. Ф. Карскага і У. І. Пічэты, што этнічная тэрыторыя беларусаў складвалася на аснове этнічнай і моўнай тэрыторыі крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ**

Ад рэдакцыі. *Не ва ўсім падзяляючы думку рэцэнзента, мяркуем, што існуюць розныя погляды на даследаванні М. Піліпенкі і М. Ермаловіча.*



«НАСЛЕДИЕ»
(на белорусском языке)

Цана 1 руб.

Індэкс 74988



**І. Хруцкі.** Гародніна, грыбы і рыба. 1839 г.